**КАНВЕЕР**

Non solum bene laboramus,
sed etiam bene vivĭmus.

Мы не толькі добра працуем,
але і добра жывём. (лац.).

1

Хто ты? Адкуль ты? Навошта ты? Калі ты чуеш мяне, значыць цябе абралі. У цёмных скляпеннях тваёй падсвядомасці нараджаецца новы плён сапраўднай асобы, твайго ўласнага "Я", тваёй сутнасці…

На віктарыянскіх могілках холадна. Холад пранізвае да самага мозгу…

Палічы да дзесяці…

Табе не хочацца прачнуцца…

Белыя, белыя слупы…

Бяжыш па доўгім калідоры, шукаеш выйсця, а ўсе дзверы зачыненыя. Ратуешся ад нябачнай небяспекі, але ў глыбіні душы разумееш, што трэба бегчы як мага хутчэй. Аднак ногі ватныя, зацягваюць у вязкую падлогу і ты тонеш, цябе засмоктвае бетон. Апошні ўздых…

Святло…

Лёгкае казытанне…

Ты чуеш мяне? Запомні, пакуль яшчэ б'ецца тваё сэрца, запомні на ўсё жыццё – ты мой…

Толькі мой!!!

- Прачынайся, - прашаптала Іра на вуха Дзянісу.

Ён ляжаў на спіне, скрыжаваўшы пад грудзьмі рукі, і, крыху прыадчыніўшы рот, нагадваючы ў такім стане егіпецкую мумію. Голас Іры прагучаў у яго сонным розуме скажоным воклічам, глухім рэхам з фамільнага склепа якога-небудзь старажытнага роду, невыразным гукам з гнілой пашчы зомбі, ці яшчэ ў выглядзе якогасьці бязглуздага трызнення.

- Ну прачынайся ўжо, - сказала яна і пацалавала Дзяніса ў няголеную шчаку.

Адчуўшы пяшчотны дотык, Дзяніс абудзіўся, імгненна пралупіў вочы і ўбачыў перад сабой, абвеянае сонечнымі прамянямі, светлае аблічча дзяўчыны.

- Хопіць спаць, ужо дванаццаць гадзін, - прагучаў знаёмы голас і Дзяніс усміхнуўся.

"Значыць мерцвякі, што вылазілі з могілак і ўся астатняя набрыдзь – усяго толькі страшны сон?" - падумаў ён і ўрэшце гугнява вымавіў:

- Іра, гэта ты?

- А хто яшчэ тут павінен быць? – здзіўлена спытала яна.

Замест адказу Дзяніс прыпадняўся, каб пацалаваць яе.

- О, толькі не ўздумай гэтага рабіць, у цябе з рота благі подых.

- А ў самой?

- Няпраўда, я даўно паднялася і пачысціла зубы.

- Як звычайна, няўдачнік сярод нас выключна адзін…

Яна млява засмяялася, паклала яму на грудзі галаву, і доўгія пасмы яе натуральных рыжых валасоў прыемна рассыпаліся па яго целе.

- Сняданак у мікрахвалеўцы. Мыйся, еш і вымятайся адсюль прэч.

- Ага, зноў пачынаецца? Добра.

Ён паспрабаваў падняцца, аднак Іра моцна ўчапілася за яго рукамі.

- Які нахабнік! Ты сапраўды разлічваў вось так проста ад мяне пазбавіцца? - гулліва сказала яна і спрытна асядлала Дзяніса.

- Ого! – пацёршыся аб яго, адзначыла Іра. – Так хутка?

- У мяне з раніцы заўжды гэтая грэбаная эрэкцыя.

- А што ж тады ноччу яе трэба ўручную выклікаць?

Дзяніс чмыхнуў носам.

- Я цэлы дзень працаваў на заводзе.

- Ну, вядома, - пачала крыўляцца Іра.

- Паспрабуй сама восем гадзін пастаяць на адным месцы, а потым...

- Дзесьці, я гэта ўжо чула.

- Што ты ад мяне хочаш? – сур'ёзна спытаў ён.

Іра закаціла вочы, нібы ўвайшла ў экстаз і, выдыхнуўшы, сказала:

- Давай яшчэ адзін разок.

- Так бы адразу.

...Праз некаторы час расчырванелая Іра лягла побач з Дзянісам, і ён моцна прыціснуў яе да сябе. У такія імгненні яму асабліва падабалася браць яе за грудзі і лашчыць узбуджаныя ружовыя саскі; Дзяніс цалаваў яе малочную скуру, шыю і плечы, густа абсыпаныя вяснушкамі. Іра салодка ўздыхала, а яго эрэкцыя ніяк не хацела праходзіць, знаходзячыся на піку сваёй актыўнасці, і тады Дзяніс па-сапраўднаму адчуваў сябе жарабцом.

- Зараз бы цыгарэтку, - першае, што сказаў ён пасля ранішняга сэксу – бадай, самага пазітыўнага занятку, які змог прыдумаць чалавек.

- Смешна чуць падобнае ад людзей, якія не паляць, - усміхнулася Іра.

- Ведаю, аднак у гэтым штосьці ёсць.

- Ты маеш рацыю...

Потым яны яшчэ хвілін пятнаццаць цалавалі адзін аднаго, уяўлялі вакол сябе бясконцы Сусвет, у якім былі толькі яна і ён, адчувалі метафізіку сваіх узаемаадносін і з галавы да ног купаліся ў гэтых цудоўных пачуццях. Але трэба было падымацца і Дзяніс нечалавечымі намаганнямі, у барацьбе з уласнай лянотай, урэшце зрабіў гэта. Падняўшыся і, пачухаўшы мяккае месца, ён, перш за ўсё, пільным поглядам акінуў невялікі пакой, у якім разгортваліся падзеі, з неадкладнай мэтай знайсці свае рэчы.

- Іра, ты не памятаеш, куды я мог кінуць трусы? – задаў ён звычайнае ў такім выпадку пытанне.

Яна сядзела да яго спінай і зашпіляла ліфчык.

- Не-а… Ведаю толькі, што твае брудныя шкарпэткі ў ванне. Паспрабуй паглядзець пад канапай.

Ён зірнуў туды і, нічога там не знайшоўшы, адчайна пачаў насіцца па пакоі. Калі адказная місія не скончылася аніякім поспехам, разгублены Дзяніс сеў на канапу, і паспрабаваў у думках храналагічна спарадкаваць рэшткі ўчорашняй прэлюдыі, але так і не ўспомніў, дзе падзеў трусы.

- А пад падушкай глядзеў?

- Чаго ім там рабіць?! - абурыўся ён і адначасова засунуў руку пад падушку.

Так і ёсць – трусы аказаліся менавіта там. Адчуўшы на сваёй патыліцы дакорлівы позірк, Дзяніс зрабіў непрадузяты выгляд і безуважна нацягнуў на сябе сямейнікі. Іра пачала засцілаць канапу.

Такім чынам яны праводзілі час, калі кватэра вызвалялася ад прысутнасці яе бацькоў. Яна тэлефанавала Дзянісу – ён прыходзіў. Потым яны елі што-небудзь смачнае, глядзелі па кампутары які-небудзь цікавы фільм (на ўсё гэта адводзілася не больш двух гадзін) ну а далей – па поўнай праграме: сюррэалістычны сэкс з усімі акалічнасцямі.

Быў сонечны жнівень, пачатак тыдня, калі канкрэтна – аўторак, які выразна прадвесціў, што праз дзесяць-пятнаццаць хвілін Дзяніс будзе стаяць на прыпынку. Таму, апрануўшы на сябе ўсё астатняе, ён зайшоў на кухню. Зірнуў у авальнае люстра, што вісела за лядоўняй – твар быў крыху прыпухлы, а галава з кароткімі валасамі нагадвала пляскаты шарык для настольнага тэнісу. У мікрахвалеўцы ён адшукаў порцыю макарон з даволі апетытнай сасіскай і, праглынуўшы свой сняданак ледзьве не за адзін засед, перайшоў у ванны пакой, нават не дапіўшы гарбаты. У ваннай ён здзейсніў абрад мыцця, начапіў на сябе ўчорашнія шкарпэткі і, як звычайна, выкарыстаў парфуму Ірынага бацькі, хаця загадзя ведаў, што яна не будзе ад гэтага ў захапленні. Урэшце гатовы, Дзяніс выйшаў у калідор.

Іра стаяла каля люстэрка і расчэсвала свае ці то медныя, ці то залатыя валасы. Малінавы сарафан так вабна абцягваў яе цела, што ён проста не змог утрымацца, каб не падысці да яе ззаду і, пажадліва да сябе прытуліўшы, шчыра ёй прызнацца:

- Божа, якая ты прыгожая.

- І без цябе ведаю, - заклапочаная прыхарошваннем, фанабэрыста вымавіла яна. – Лепш абувайся і глядзі, не ўздумай пакінуць навідавоку якую-небудзь брутальную рэч.

- Ты яшчэ доўга будзеш папракаць мяне гэтым?

- Кожны раз, бо толькі ты мог дадумацца пакласці на тумбачку з тэлефонам пачак скарыстаных прэзерватываў.

- Я хацеў яго забраць...

- ...і забраць, вядома, забыўся, - закончыла яна за Дзяніса. – Бачыў бы ты потым твары маіх бацькоў…

Дзяніс вінавата пацікнуў плячыма і хутка абуў красоўкі. Калі ўсё было гатова да адпраўлення, яны паглядзеліся ў люстэрка, усміхнуліся адзін аднаму і выйшлі за дзверы.

На вуліцы было спякотна, здавалася, што на целе сядзела адразу некалькі пластоў скуры.

- Дай жуванкі, - сказаў ён Іры на прыпынку.

- Я чакала гэтага… Ведаеш, у мяне часам складаецца ўражанне, як быццам кожны раз, калі я з табой сустракаюся, са мной адбываецца адна і тая ж гісторыя – dēja vu, ці нешта падобнае на фільм “Дзень сурка”.

- Усё нашмат прасцей – проста ў цябе ёсць грошы, а ў мяне іх няма.

Іра дастала з сумачкі дзве мятныя падушачкі і паклала яму на далонь. У гэты момант да прыпынку пад’ехала маршрутка.

- Ну, я паляцела, да сустрэчы, - сказала Іра і ў яе празрыста-сініх вачах можна было прачытаць, што яна цалкам здаволеная праведзенай з ім ноччу (а таксама раніцай) і што яна нясцерпна будзе чакаць новага спаткання, і, пажадана, як мага хутчэй. – Тэлефануй.

- Пакуль.

Яна пацалавала Дзяніса ў вусны і яны развіталіся.

Гэтае лета было складаным для іх абодвух. Першы раз у жыцці Дзяніс знайшоў сабе часовую працу, хаця традыцыйна ў гэты перыяд года ніколі не працаваў. Іра папулярна растлумачыла яму, што ў яго ўзросце ўжо даўно неабходна дзесьці працаваць. І, магчыма, яе заўвага засталася б толькі яе заўвагай, калі б у Дзяніса не з’явіўся стымул. Цяпер яны працавалі абодва: яна – афіцыянткай ў рэстаране знаёмых, ён – слесарам механіка-зборачных прац на Мінскім заводзе лядоўняў, больш вядомым, як “Тытан”. Безумоўна, гэта была непрыемная падзея ў яго бесклапотнай біяграфіі, але жыццё, тым не менш, працягвалася далей.

Як толькі маршрутка панесла Іру прочкі, ён засунуў у вушы слухаўкі і пад вясёлыя песні NOFX(1), прыняўся чакаць транспарта да мятро.

Дзень быў чэрствым. Сонца ў небе нагадвала спешна ўзбіты на патэльню жаўток яйка і ўсё навокал толькі раздражняла. Аднак Дзяніс паспеў прызвычаіцца. Супакойваў той факт, што праца на заводзе праходзіла ў тры змены. На гэтым тыдні Дзяніс працаваў у другую, прынамсі, можна было добра адаспацца, але разам з тым, увесь дзень быў страчаны, дамоў ён вяртаўся апоўначы.

Прыярытэтам жа першай змены з'яўляўся адносна свабодны час пасля чатырох гадзін, аднак на працягу ўсяго дня жудасна хацелася спаць, улічваючы пад'ём у пяць гадзін раніцы. І ўрэшце начная змена – мара, бадай, любога абібока: шэсць гадзін працы, пасля чаго дастаткова часу, каб адаспацца і цэлы дзень рабіць усё, што заўгодна. У прынцыпе, такі расклад яго ўладкоўваў.

На прыпынак, між тым, пачынаў сыходзіцца мясцовы пралетарыят. За тыдзень у Дзяніса паспела ўзнікнуць прыхаваная нянавісць да гэтага класа, хаця яго бацькі з'яўляліся яскравымі прадстаўнікамі працоўных мас. Не гледзячы на такі аспект, Дзяніс з усёй упэўненасцю мог сказаць, што працоўныя – гэта быдла, пачынаючы са звычайнай гігіены і скончваючы яго светапоглядам. Дзяніс трываць не мог, уваходзячы ў гардэроб, гэты кіслы пах поту, які заўжды лунаў па ўсім памяшканні і ніякім ветраннем яго немагчыма было знішчыць. За некаторымі стаханаўцамі ён заўважыў даволі нездаровую тэндэнцыю абы-як скідваць у свае шафкі брудную робу разам з смярдзючымі шкарпэткамі. Можна ўявіць, які смурод стаяў у гардэробе! Божа літасцівы, яму ванітаваць хацелася. А іх размовы. Пра што яны? Футбол – гэта істэрыя вар'яцтва. Дзяніс, будучы сярэднестатыстычным маладым чалавекам, ніколі не падзяляў асаблівай цягі да гэтага віду спорту і наогул не выяўляў сімпатый да спорту ў цэлым. Адзінае, што магло апраўдаць футбол, гэта п'яныя дэбошы фанатаў пасля перамогі пэўнай каманды і ўрачыстыя папойкі з гэтай нагоды. Удзельнічаць у апошнім мерапрыемстве Дзяніс бы і сам не адмовіўся, падзяляючы радасць з ачмурэлымі храпамі. Усё выходзіла ў даволі простую формулу: нажэрціся дзеля таго, каб нажэрціся.

Знаходзячыся ў пралетарскім асяроддзі, ён пайшоў яшчэ далей, умоўна разгалінаваўшы яго на дзве групы: да першай Дзяніс аднёс працоўных-няўдачнікаў, якім нічога іншага акрамя заводу ў гэтым жыцці і блізка не свяціла, гэтакіх запраграмаваных на кожны дзень гамункулусаў(2); да другой – людзей, якія ўладкаваліся выключна на кароткачасовы тэрмін, каб падзарабіць грошай. Сябе Дзяніс адносіў да другой катэгорыі і кожны раз цешыўся думкай, што хутка ўсё скончыцца і ён ізноў удыхне вольным паветрам. Яшчэ больш яго ўлагоджвала канчатковая мэта, той самы стымул – электрычная гітара. О, колькі сэнсу ён укладаў у гэты музычны інструмент. Мара ўсяго дзяцінства вельмі хутка павінна была трапіць да яго ў рукі. Больш таго, уладанне такой гітарай аўтаматычна рабіла Дзяніса паўнапраўным удзельнікам безназоўнага, пакуль, гурта, які ён разам з сябрамі-аднакурснікамі стварыў, прыблізна, год таму і які, дарэчы, зусім не прагрэсаваў. Уся справа заключалася ў адсутнасці інструмента, што ў выніку і прымусіла, гультая, па сутнасці, Дзяніса, пайсці на завод.

І вось чарговы дзень, чарговы васьмігадзінны гвалт над яго целам, загадкава прытаіўшыся ў цені, чакаў наперадзе.

Пад'ехаў 86 аўтобус. Дзяніс зайшоў у яго і стаў у самым канцы кабіны. Людзі мітусіліся, каб знайсці зручнейшае месца, піхаліся, чапляючы адзін аднаго плячыма і локцямі, наступалі на ногі, не просячы пры гэтым элементарнага выбачэння. Адна тлустая карова наступіла сваім капытом якраз на мезенец Дзяніса і нават не паглядзела ў яго бок. Можа яна штосьці і сказала, ён не чуў – слухаць каліфарнійскі панк было значна прыемней.

Дабірацца да заводу з Ангарскай Дзянісу прыйшлося яшчэ каля сарака хвілін і таму, каб прабавіць гэты час, ён пад песні NOFX пачаў падбіраць у галаве невялікія зарыфмоўкі і менавіта па-беларуску. Гурт, у якім удзельнічаў Дзяніс, засяроджваўся пераважна на беларускамоўных тэкстах, не без яго асабістай падачы.

Едучы ў мятро, Дзяніс уяўляў сябе з хлапцамі на невялікай сцэне якога-небудзь запляванага клуба, уяўляў, як яны крута будуць адтуль глядзецца, і ўсе прысутныя без выключэння, з захапленнем будуць слэміцца пад неразборлівую музыку новаспечанага рок-бэнду.

"Мы – робім свой першы крок !
Мы – граем old school панк-рок!"

Гэтыя радкі ўзніклі ў яго галаве спантана, як узнікае, напэўна, усё геніяльнае.

"А што, зусім ня дрэнна", - падумаў ён.

2

Дзяніс выйшаў з аўтобуса акурат каля Мінскага заводу лядоўняў. Шэры гмах савецкай забудовы паказаўся ў яго полі зроку яшчэ здалёк. Вялікія белыя літары, узгрувашчаныя на дах дванаццаціпавярховага інжынернага корпуса, вылучалі голаснае слова "Тытан". Ён паглядзеў на бясхмарнае неба, якое мірна распасціралася над заводам і падумаў аб неспадзяваным выбуху. Паднімаючыся па прыступках да прахадной, Дзяніс усміхнуўся ад думкі, што было б нядрэнна, калі б гэты завод нечакана праваліўся ў нябыт, як змрочны дом Ашэраў, ці, на крайні выпадак, на яго б скінулі бомбу. Аднак завод па-ранейшаму стаяў на сваім месцы і вітаў суровы пралетар, які падбіраўся да яго з розных бакоў, як мурашы да мурашніка. Прахадная, у сваю чаргу, шырока расчыніўшы зяпу, апантана глытала людзей, набіваючы каменнае чэрава чарговымі ахвярамі. Усё, чымсьці, нагадвала эпізод з нямога фільма Фрыца Ланга "Метраполіс".

Мінуўшы дошку гонару, на якой фігуравалі аднолькавыя твары з пустымі вачыма і дурацкімі ўхмылкамі, прахадная ўрэшце праглынула і Дзяніса. Ён увайшоў у фае. Людзі даставалі пропускі, датыкаліся імі да турнікета і паспяхова пераходзілі на іншы бок – менавіта адтуль пачыналася ўсё самае ненавіснае і абрыдлае Дзянісу за апошні тыдзень.

Ён падышоў да кабіны, у якой сядзела вахцёрка даволі прыемнай знешнасці з дробненькім рабаціннем на шчоках і кірпатым носе, і працягнуў ёй свой часовы пропуск. Яна ўсміхнулася Дзянісу беласнежнымі зубамі і спытала, прачытаўшы яго імя:

- Дзяніс Аляксандравіч?

- О так... – адказаў ёй Дзяніс і пакуль пазітыўна настроеная вахцёрка ўводзіла яго асабісты нумар у кампутарную базу дадзеных, прагна прыняўся паглынаць яе шыкоўныя акружнасці, што так спакушальна вымалёўваліся цераз карункавую блузку.

- Ну, што, ёсць там у вас такія? – спытаў ён.

Яна націснула клавішу Enter і аддала яму пропуск.

- Праходзьце.

- Дзякуй, - Дзяніс узяў пропуск і далікатна дакрануўся да яе цёплых пальцаў.

Чырвань акрапіла шчокі вахцёркі і яна збянтэжана адвяла позірк.

“Кабель!” – сказаў Дзянісу ўнутраны голас і ў яго з’явіўся настрой.

Падняўшыся па лесвіцы на другі паверх, ён трапіў у гардэроб. У нос адразу ўрэзала затхлым пахам мужчынскага поту ўперамешку са смуродам завадскіх хімікатаў, якімі наскрозь была прасякнутая ўся рабочая вопратка. Гардэроб быў вельмі доўгім і чалавек, які б аказаўся тут упершыню, папросту змог бы заблудзіцца, як у лабірынце, сярод сініх шафікаў, якія стаялі ў два рады і цягнуліся ў самы канец гардэроба.

Шафік Дзяніса, пад нумарам 59, знаходзілася непадалёк ад уваходу. Ён хутка адшукаў яго і грузна сеў на доўгі ўслон. Часу ў яго яшчэ хапала (Дзяніс заўсёды прыязджаў за пятнаццаць-дваццаць хвілін да пачатку працы) таму па звычцы дастаў тэлефон і пачаў рэзацца ў гульні. Працуючы на канвееры, Дзяніс заўважыў за сваім арганізмам, як толькі перасякаў межы заводу, паталагічную схільнасць да млявасці, якая паступова перарастала ў санлівасць. Часам, у такія імгненні Дзяніса пачынала дакучаць меланхолія і паранаідальныя думкі аб незайздроснай долі рабацягі. Усё цячэ, але нічога не змяняецца. Аднастайная праца дрэнна на ім адбівалася. Аднак гамана рабочых разбаўляла яго песімістычныя роздумы.

Пераапранацца ён пачынаў, звычайна, за пяць хвілін да пачатку змены, каб наўмысна спазніцца і брыгадзіру прыйшлося выконваць аперацыю за яго. Дзяніс ведаў, што ў абавязкі Мішы, так звалі брыгадзіра, уваходзіла працаваць за рабочага, калі той не выйшаў, ці спазняецца. Таму прыходзіць на пяць-дзесяць хвілін пазней для Дзяніса стала нормай. Аднойчы ён нават засядзеўся: ніяк не мог прайсці адзін узровень гульні і спазніўся на цэлых пятнаццаць хвілін. Брыгадзір тады не вытрымаў і абурана заявіў:

- У наступны раз глядзі на гадзіннік!

А потым рэзка змоўк, паглядзеўшы на пануры твар Дзяніса і, намагаючыся яшчэ штосьці сказаць, незадаволена пайшоў на сваё месца, злосна раздзімаючы шырокія ноздры.

Калі надышоў час, Дзяніс апрануў на сябе робу цёмна-сіняга колеру з нашыўкай “Тытан”, абуў кеды і павольна пайшоў у трэці цэх. Гэты цэх спецыялізаваўся на зборцы лядоўняў. Першы тыдзень Дзяніса і блізка не дапускалі да нечага, што магло быць звязана са зборкай. Яго абмяжоўвалі простымі аперацыямі: спярша ён адляпляў ізастужку з вуглоў будучай лядоўні, выразаў адтуліны ў дзвярах, а на дадзены момант зразаў нажом застылую пену з лядоўнага агрэгату. Аперацыю трэба было выконваць седзячы на крэсле з колцамі, якое было замацавана за мініяцюрныя рэйкі – такім чынам Дзянісу даводзілася катацца з боку ў бок па ўчастку трох-чатырох метраў. Заданне было нескладаным, але ад яго моцна збіваліся згіны пальцаў, якія на наступны дзень моцна свярбелі. З гэтым яму прыйшлося змірыцца.

Дзяніс выйшаў з гардэроба, спусціўся ўніз па лесвіцы і перайшоў цераз вуліцу ў першы цэх, дзе кругласутачна стаяла абрыдлае гудзенне маставых кранаў. Працоўныя з іншай змены ішлі адусюль; сонныя, змораныя, злыя, безуважныя да ўсяго, што адбывалася навокал, яны праходзілі міма Дзяніса, як прывіды з гатычных апавяданняў. Дзяніс глядзеў на іх і ў глыбіні сваёй душы зайздросціў ім, таму што для яго пакуты толькі пачыналіся.

У другім цэху смярдзела пластмасай і Дзяніс, хутка мінаючы гэтае доўгае памяшканне, у самым яго канцы звярнуў на лева і апынуўся ў родным трэцім цэху. Канвеер стаяў. Новая партыя свежых працоўных паступова збіралася каля працоўных месцаў, прыводзіла іх у належны стан, раскладвала вакол сябе спадручны інвентар і без толку гаманіла. Участак Дзяніса знаходзіўся ў самым канцы цэха на “лініі Краўса”, якая атрымала назву ў гонар аднайменнай нямецкай фірмы. На “лініі” лядоўні залівалі нямецкім кампанентам А і В, з якога ў выніку атрымлівалася вадкая пена. Там было крыху цішэй, але, разам з тым, непрыемна смярдзела гэтым самым кампанентам і выраблenай пенай у цэлым.

Каля дыспетчарскай кабіны, у якой сядзеў начальнік змены і іншая навалач, Дзяніс сустрэў і павітаўся з майстрам Максімам Прошынам. Яму было гадоў пад трыццаць і сярод астатніх яго вылучаў занадта рахманы характар. Майстар быў высокага росту, хваравіта-хударлявай знешнасці з лысінкай і светлымі валасамі па баках галавы. Прошын карыстаўся асаблівай павагай сярод працоўных, ніколі не ўзмацняў на іх голас, крый Божа, каб ён калі-небудзь фанабэрыўся перад імі сваім прывілеяваным становішчам. Усе называлі яго проста Максім, без усялякіх там бацькавічаў. Так было лягчэй працаваць з калектывам, а зладжаны калектыў – самы галоўны сегмент, без якога праца на заводзе не была б той працай, якой яна з’яўлялася пад непасрэдным кіраўніцтвам майстра Прошына.

Урэшце Дзяніс прыйшоў на сваё гаротнае працоўнае месца, вымушана павітаўся з бліжэйшымі да яго мужыкамі і сеў на крэсла. Што тычыцца мужыкоў, якія працавалі побач з ім, то яны, у пэўнай ступені, заслугоўвалі ўвагі. Побач з Дзянісам працаваў хлопец прыкладна яго ж узросту, толькі значна худзей і саладжавей з выгляду. Ён любіў калупацца ў носе і пакідаць на лядоўнях свае казлякі, маўляў, падводзячы апошнія рыскі. Хлопец гэты выразаў у дзвярах адтуліны, тое, чым на мінулым тыдні займаўся Дзяніс. Адразу за ім, замацоўваючы пнеўмаадвёрткай заднія сценкі лядоўняў, працаваў досыць паскудны мужык у акулярах з тоўстымі лінзамі. Ён заўжды па-ідыёцку ўсміхаўся і нёс суцэльную лухту, таму Дзяніс ніколі не прыслухоўваўся да яго слоў. А наогул, сустрэўшы такога тыпа ў цёмнай падваротні, можна было напалохацца новым увасабленнем маньяка а-ля Андрэй Чыкаціла. За Чыкацілам працаваў каржакаваты мужычок, якога ўсе называлі Рыжы. Рыжы вельмі зычна крычаў, калі заўважаў брак і яго крык чуўся аж на другім канцы цэха.

- Чатырнаццатая! – нечакана пракрычаў ён.

Кожная лядоўня была пранумаравана, але брак, чамусьці, заўжды тычыўся нумароў чатырнаццаць, трынаццаць і дзевяць.

Так праходзіў дзень за днём – цяжка, але хутка. За працай гадзіны праляталі, як імгненні.

Неяк Дзяніс пачаў усведамляць, што паступова развучваецца размаўляць: калі спрабуеш за ўсім паспець, часу на размовы не хапае, ды і аб чым яму было гаварыць з працоўнымі? Дзяніс стаў негаваркім. Утыкаў у вушы слухаўкі, уключаў NOFX і пляваць на ўсё і ўсіх. Праўда, здаралася з ім спрабавалі загаварыць, але часцей усяго гаворка канчалася абменам фраз тыпу “так” і “не”, пасля чаго большасць працоўных зусім перастала да яго звяртацца, а калі і звярталася, то толькі па неабходнасці, некаторыя нават перасталі з

ім вітацца. Гэта не згуляла для Дзяніса істотнага надвор'я. Аднак сярод гэтага непаразумення існавала невялікае выключэнне: той прыдуркаваты мужык у акулярах, што быў падобны на маньяка. Ён даймаў Дзяніса любой дробяззю: то, бач, Дзяніс не да канца абрэзаў пену, то падрапаў нажом металічную абіўку лядоўні, ці яшчэ Бог ведае што. Дзяніс разумеў, што ён спецыяльна да яго прыдзіраецца, каб падкрэсліць сваю вопытнасць у механіка-зборачнай галіне і яшчэ для таго, каб паказаць, што Дзяніс салага. “Пайшоў ты ў дупу, пляшывы хмыр”, - у думках казаў яму Дзяніс. – “Грэбаны чыпушыла!” Чыпушыла?! На твары ў Дзяніса з'явілася ўсмешка і ён падумаў, што мянушка “Чыпушыла” выдатна падыходзіла пад вобраз гэтага напышлівага пеўня.

Неўзабаве Дзяніс вырашыў чым заняць свае думкі. Калі ён не ведае, як завуць большасць гэтых працоўных, ён проста будзе прыдумляць для іх немудрагелістыя “паганялы”, абапіраючыся на асацыяцыі аб гэтых людзях.

У той працоўны дзень ён прыдумаў яшчэ два. Першае дасталася ўжо ўзгаданаму хлопцу, які выразаў у дзвярах адтуліны і пакідаў на лядоўнях свае экафакты. Хлопец той быў з чорным кучаравым чубам, за якім поўнасцю хавалася яго правае вока і Дзяніс, спярша, падумаў, што ён эма-бой у брудных кедах, але, перакінуўшыся з ім некалькімі словамі, зразумеў, што хлапчук гэты звычайны гопнік, які нічога цікавага з сябе не ўяўляе і тым больш па заканчэнні сваёй практыкі працуе на канвееры апошнія дні. Крыху паразважаўшы, Дзяніс назваў яго Баранчыкам – першае, што можа прыйсці ў галаву, калі бачыш перад сабой кучаравага смаркача. Другую мянушку атрымаў Рыжы. Не гледзячы на тое, што ён ужо меў адну і ў працоўным асяроддзі яна даволі чэпка за ім замацавалася, Дзяніс прагнуў істотных змен і Рыжы адразу быў пераназваны ў Рупара. Ня праўда, што так лепш?

Цяпер Дзяніс мог спакойна і без лішніх слоў размаўляць з імі на сваёй унутранай мове, не баючыся аддаваць перавагу грубым формам зваротаў. Напрыклад: “Гэй, Чыпушыла, ты – мудак”, ці “Баранчык, пацалуй мяне ў дупу”, а вось гэта ён лічыў шэдэўрам – “Рупар, калі ты яшчэ раз адчыніш сваю паганую пашчу, я прымушу цябе адціскацца”. Пасля адпаведных размоў Дзяніс супакойваўся і праца ішла сама па сабе. Такую рэлаксацыю ён умоўна назваў разумовай тэрапіяй.

Але вось з гэтай абрыдлівай пенай такія нумары не праходзілі. Пена па-ранейшаму заставалася пенай, яе можна было называць па-рознаму, пачынаючы ад “сопляў лядоўні” і заканчваючы яе “семявывяржэннем”. Лягчэй ад гэтага не рабілася.

Дзяніс зразаў яе нажом з кутоў лядоўнага агрэгату, з-пад розных адтулін, пластмасавых трубак, у чарговы раз збіваючы згіны пальцаў, а лядоўні ўсё ішлі і ішлі, як зачараваныя.

“Хто прыдумаў канвеер? Вядома хто – амерыканцы. У 1913 годзе чортаў Генры Форд запусціў свой першы канвеер па зборцы машын”.

Дзяніс шчыра пажадаў, каб ён зараз жа апынуўся на яго месцы і адчуў увесь смак такой працы.

“Захацеў бы ты потым патэнтаваць сваё наватарства, недалужаны янкі?!”

Між тым, першыя дзве гадзіны прайшлі, як і гаварылася, хутка, а дзесяць хвілін адпачынку здаліся Дзянісу райскім кутком у Эдэмскім садзе. Як толькі Чыпушыла пакінуў сваё працоўнае месца і за ім пасунуліся астатнія, Дзяніс паклаў абрэзачны нож.

Канвеер спыніўся.

Дзяніс падняўся з крэсла, пацягнуўся, размяў шыю і пайшоў справіць патрэбу. Шлях да завадской прыбіральні складаў каля хвіліны. У прыбіральні ён мачыўся ў запаганены ўнітаз (відаць, большасць рабочых ужо прызвычаілася мачыцца на яго накрыўку, ці наогул на падлогу) і мыў рукі. Звычайна, на гэтыя працэдуры гублялася пяць хвілін. Астатняя палова перапынку вызначалася рытуальным шэсцем у другі цэх, дзе знаходзіўся апарат з бясплатнай газіраванай вадой. Гэты апарат Дзянісу паказаў Баранчык яшчэ ў першы дзень працы, з таго самага дня ён заўжды хадзіў піць дармавую газіроўку, падсвядома разумеючы, што халявай трэба карыстацца ў любой яе праяве. Выпіўшы халоднай газіроўкі, Дзяніс павольна вяртаўся на рабочае месца, тым самым расцягваючы дзесяціхвілінны перапынак яшчэ на пару хвілін.

Праца пачыналася нечакана цяжка, зрок, здавалася, паспяваў адпачыць і аднавіцца ад бясконцасці аднастайнай пены і вось зноў паглыбляўся ў кібернетычна-паслядоўны стан. Дзяніс нават не здзівіўся, калі яму ўвачавідкі пачалі трызніцца зорачкі, успыхваючы перад ім то з правага, то з левага боку.

На яго плячо лягла цяжкая далонь. Дзяніс рэзка азірнуўся і ўбачыў Чыпушылу. Усмешка, гэтая гідкая ўсмешка, як у Чэшырскага ката, распаўзлася па яго круглым твары. Дзяніс дастаў з вушэй слухаўкі.

- Ты прапусціў адну лядоўню.

“Чыпушылішча!”

- Зараз даробліваю, - сказаў Дзяніс.

Чыпушыла ўвесь час сачыў за ім і, у прынцыпе, рабіў яму добрую паслугу: лядоўня магла пайсці далей і за Дзянісам бы запісалі брак. Але з іншага боку гэта найграна-няшчырая клапатлівасць насцярожвала і раздражняла яго.

“Можа, Чыпушыла стары гомік?”

Дзяніс ня быў гамафобам, але ў выпадку дамаганняў да сябе на сэксуальнай глебе, збіў бы ў горкі яблык самага бяскрыўднага педэраста.

Ён абрэзаў пену з прапушчанай лядоўні і сканцэнтраваўся на астатніх. “Лінія Краўса” у чарговы раз паглынула Дзяніса ў агульны вір завадской працы. Над ім праходзілі падвесныя канвееры, спераду працавала яшчэ тры сеткі канвеераў, шумела, грымела; майстар і брыгадзір мітусіліся з боку ў бок, часам, праходзілі барадатыя і лысыя начальнікі ў цывільных касцюмах – усё рухалася ў неўтаймоўным рытме адведзенага плану. Гэты маленькі свет варушыўся ў коле агульнага жыцця і Дзяніс адчуваў сябе яго складовай часткай, яго ніцікам, яго шрубкай. Такая асацыяцыя яму не падабалася. Найперш ён жадаў бачыць у сабе асобу.

- Шостая! - як заўжды голасна крыкнуў Рупар.

Дзяніс здрыгануўся.

“Каб табе заняло!”

А Рупар стаяў на сваім рабочым месцы і задаволена ўхмыляўся, праціраючы ад пылу сценкі лядоўняў.

Праз некаторы час да Рупара падышоў майстар Прошын разам з невялікім чорнавусым мужычком.

- Што ты свішчаш, Рыжы, шостая шафа без браку! - абурана сказаў мужычок.

- Свішчуць твае дзеці, калі цыгарэты страляюць, а я кажу – у шостай задняя абіўка падрапаная.

Майстар збянтэжыўся і злёгку пачырванеў.

- Паслухай, я асабіста правяраў кожную пядзю – усё чыста, - не згаджаўся мужычок.

Рупар манерна прыцмокнуў і адвярнуўся ад яго.

- Сяргей, чорт з ім, на кантролі яшчэ раз правераць, - сказаў мужычку Прошын.

- Ды не можа быць, што шосты... – пачухаў патыліцу чорнавусы.

Калі яны адышлі, Рупар урачыста абвясціў:

- Усё можа, калі з перапою рожа, - і выскаліў шчарбатыя зубы.

Працаваць рабілася ўсё цяжэй і цяжэй. Дзяніс мімаволі ўспомніў аб першых фабрыках – там, як сведчаць крыніцы, людзі працавалі па дванаццаць гадзін у суткі. Адкуль у іх браліся сілы можна было толькі здзіўляцца. Аднак такія роздумы нагняталі абставіны. Яму зусім не хацелася працаваць і каб адасобіцца ад усяго негатыву, які зыходзіў ад завадскога асяроддзя, Дзяніс пачынаў думаць аб Іры. Успамінаючы пра яе, час паскараўся ўдвая.

Дарэчы, з Ірай ён пазнаёміўся даволі іранічна. Гэта адбылося год таму. Неяк, прагульваючы пары разам з аднакурснікамі ў студэнцкім скверыку, Дзяніс сядзеў на лаўцы і піў піва. На суседняй лаўцы сядзелі тры дзяўчыны мадэльнай знешнасці і хлопцы бессаромна тарашчыліся на іх ножкі, і гучна размаўлялі на інтымныя тэмы.

- Мне падабаецца вунь тая рыжая, - прызнаўся сябрам Дзяніс.

- Дык ідзі і пазнаёмся з ёй, - сказаў хтосьці з іх.

- Не... – ён адразу пашкадаваў, што паведаміў аб сваіх пачуццях у слых.

- Што, кішка тонкая?..

Дзяніс вагаўся, адначасова пільна ацэньваючы дзявочую кампанію. Кожная з дзяўчын была такой прыгожай і недасягальнай, што ён ужо паспеў змірыцца з пройгрышным варыянтам у магчымай спробе пазнаёміцца.

“У мяне нічога не атрымаецца. Паглядзі на іх!” - запэўніў яго пераканаўчы ўнутраны голас.

“Ты слабак? Чаго ты баішся? Проста падыдзі да яе і загавары з ёй, трэба, каб яна цябе заўважыла!” – узнік другі голас, якога ён найбольш асцерагаўся.

“Ты потым толькі шкадаваць будзеш!”

Сябры ўжо паспелі забыць аб мімалётным захапленні Дзяніса, як ён нечакана падняўся з лаўкі, сабраўся з думкамі і падышоў да прыгажунь.

- Э-э-э... тыпа, крошкі, у вас не будзе запаліць, - нахабна вымавіў ён.

Дзяўчыны здзіўлена паглядзелі на ўсмешлівага хлопца і ўсе разам засмяяліся, а потым рыжая, тая, якую Дзяніс упадабаў іншым, дастала з сумачкі пачак дамскіх цыгарэт і працягнула яму. Дзяніс узяў тонкую цыгарэту і папрасіў запальніцу. Яе сяброўка, прывабная брунэтка, манерна ўсміхнулася і працягнула яму Zipo. Дзяніс фанабэрыста ўставіў цыгарэту ў зубы, з першага разу падпаліў яе і зрабіў, напэўна, адну з першых зацяжак у жыцці, а потым яго накрыла і ён зайшоўся гучным кашлем. Дзяўчыны захіхікалі і трэцяя, русавалосая красуня, штосьці прашаптала на вуха сваім сяброўкам. Адкашляўшыся, Дзяніс вырашыў перайсці да справы і звярнуўся да рыжай:

- А ты мне падабаешся, я хачу, каб ты стала маёй дзяўчынай.

Дзяўчыны, як адна, збянтэжыліся, але першая сабой авалодала рыжая.

- Слухай, хлопчык, схадзі ды праветрыся трохі, не тое мама дома адчытае, - пагардліва вымавіла яна.

Са сказанага Дзяніс зрабіў пэўныя вынікі: па-першае, яе ўсё ж не прывяло ў захапленне яго ўпэўненае нахабства, па-другое, у яе, магчыма, ёсць кавалер і па-трэцяе, яна старэй за яго – выдавала з’едлівае слова “хлопчык”. У той раз Дзяніс быў вымушаны адступіць, аднак падмурак, у прынцыпе, быў зроблены.

Праз тыдзень ён убачыў дзяўчыну ў родным БДПУ і што найбольш яго ўзрадавала – на сваім гістарычным факультэце. Ён даведаўся, што яна вучыцца на чацвёртым курсе і старэй яго на два-тры гады. Далей Дзяніс высвятліў яе дадзеныя цераз “кантакт” і пазнаёміўся з ёй больш грунтоўна. Неўзабаве, Іра знайшла Дзяніса пацешным хлопцам і іх зносіны сталі больш інтэнсіўнымі. Іра называла Дзяніса “хлопчыкам”, а праз месяц стала яго дзяўчынай.

І вось доўгачаканы абед. Чыпушыла за пяць хвілін пакінуў працоўнае месца і ў Дзяніса аж у нутры адклала. Сакральныя паўгадзіны! Дзеля іх ён бы адправіў культ, пакланяючыся ім і прыносячы дарункі.

Калі прыйшоў час, Дзяніс скінуў з сябе пальчаткі, разагнуў спіну і хуценька пайшоў у прыбіральню. Для таго, каб патрапіць у сталовую, хапала трох хвілін і на тое, каб там паесці яшчэ каля пятнаццаці. У выніку заставалася дзесяць хвілін адпачынку, на працягу якіх ён сядзеў разам з астатнімі працоўнымі на лавачцы каля цэха і слухаў іх аднастайныя размовы. Рабіць што-небудзь іншае ў гэты адрэзак часу, было недарэчна, тым больш, некаторыя мужыкі самі запрашалі яго далучыцца да свайго хаўруса.

У сталовай Дзяніс заказаў першае, другое і кампот з булачкай. Сеў, зазвычай, асобна ад усіх у самым куце за апошнім столікам. Ежу нельга было назваць смачнай, але для запаўнення страўніка яна падыходзіла. Пюрэ з катлетай і гарохавым супам пасля напружанай працы з’яўлялася сапраўднай боскай стравай, у выніку чаго Дзяніса часцяком пучыла.

Добра пад’еўшы, ён выйшаў на вуліцу. Цеплыня. Зараз бы на прыроду разам з Ірай і адпачываць. Але замест прывідных мар яго воку адчыняўся шэры асфальт з грузнымі сценамі заводу, жоўтыя пагрузчыкі, працоўныя ў сініх робах і гуд канвеераў. Ён прысеў на край лаўкі каля мужыкоў з “лініі Краўса”, сярод якіх ведаў аднаго Рупара.

- Студэнт? – адразу спытаў у Дзяніса мужык з лысінай.

Ён кіўнуў.

- Студэнты ўсе лайдакі, - сказаў Рупар (як жа Дзянісу хацелася даць яму выспятка), – алкашы і хмыры тыповыя. У мяне, вунь, сын у ПТВ на другім курсе, дык і тое менш п’е, а хіба вы там вучыце што, толькі і ведаеце, як дзевак за цыцкі мацаць і прафесараў старых выводзіць.

Дзяніс трохі збянтэжыўся.

- Што ты хочаш, такая зараз у краіне адукацыя, бяруць каго заўгодна, - разважліва прамовіў мужык у акулярах, які нагадваў былога інтэлігента. – У Еўропе ўсё зусім па-іншаму.

- Зноў ты са сваёй Еўропай пачынаеш, халуй апазіцыйны, - гыркнуў на яго мужык з іншага канца лавы.

- Пайшоў ты...

- Сам ідзі...

У гэты час да працоўнага хаўруса далучыўся прышчаваты хлопец гадоў дваццаці пяці, брыдкай знешнасці і прысеў на кукішкі. Пакручваючы ў пальцах цыгарэту, ён гамзата спытаў:

- Слухай, Сямёныч, а як там учора “Зеніт” згуляў?

Дзяніса аж перасмыкнула.

- Два-нуль, - адказаў “апазіцыйны халуй”.

- А хто забіў?

- На дваццатай хвіліне – Аршавін, а на шасцідзесятай – Паграбняк, - абвясціў за “халуя” Рупар.

Хлопец суха зарагатаў, а потым звярнуўся да мужыка з другога канца лавы.

- А ты, Пятро, відаць, на “Спартак” ставіў?

- “Спартак” – гэта гаўняк, ногі ў іх не з таго месца растуць, - азваўся той.

- А ўвогуле трэба за “Дынама-Мінск” балець, - сказаў прышчаваты хлопец. – Адсмакчы ў бела-сініх, гэй-гэй-гэй!

Усе зарагаталі.

Дзяніс адвярнуўся ў другі бок і згадзіўся б, напэўна, застрэліцца, з’явіся ў яго руках пісталет. Хаця, перш за ўсё, ён бы перастраляў гэтых футбольных аматараў.

Рупар затушыў недапалак аб абцас сваіх чаравік і, моцна ляпнуўшы сябе далонямі па абодвух нагах, зухавата вымавіў:

- Час, хадзем у цэх!

Засталося яшчэ нейкіх чатыры гадзіны, але вось менавіта яны і з’яўляліся самымі цяжкімі і пакутліва доўгімі. Канечне, добра падсілкаваўшыся ў сталовай, Дзяніс адчуў на пэўны час зарад бадзёрасці і энергіі, аднак яны вельмі хутка пачалі саступаць месца млявасці і неверагоднай ляноце. Хвала Усявышняму, ён пакуль не прызвычаіўся працаваць на правах робату і аднастайнасць аперацыі ўсё яшчэ збівала яго з панталыку. У сваю чаргу Чыпушыла, гэтая гідкая жаба, працягваў кпіць над нязграбнасцю яго рухаў: Дзяніс то не да канца абразаў пену, то забываў працерці вільготнай анучай вуглы ахаладжальніка.

“Можа, сказаць майстру, што моцна збіў пальцы і мне нязручна выконваць гэтую трыклятую аперацыя?” - падумаў ён.

Майстар Прошын прайшоў як раз за яго спінай, трымаючы ў руках штангенцыркуль. Ён спыніў на спецыяльным пульце канвеер і падышоў да Чыпушылы. Чыпушыла здзіўлена саступіў месца майстру, пільна назіраючы за тым, як Прошын прыняўся вымяраць памеры лядоўні па яго шырыні і вышыні.

- Не адпавядае норме, - вымавіў майстар і адразу пачырванеў, пачырванела нават яго лысіна.

Чыпушыла вышчарыў зубы.

- Скажы хмырам на “лініі Краўса”, што яны там лынды б’юць.

Твар Прошына сказіла незадаволеная грымаса.

- І што гэта за лухта, пасылаюць да нас усялякіх недарэк, - Дзяніс здагадаўся пра каго так абурана засляваў Чыпушыла. – Нам такія працаўнікі не патрэбныя, наш цэх перадавы, а ўсялякія смаркачы сваёй дзейнасцю цягнуць яго назад, - апошнія словы ён вымавіў асабліва гучна, інтанацыйна падкрэсліваючы слова “смаркачы”.

За спінай Чыпушылы неспадзявана з’явіўся Рупар і, сціснуўшы кулак, пачаў махаць ім над яго круглай галавой, выклікаючы візуальны эфект сапраўднага ўдара па яго макаўцы.

- Я тут пры чым! - урэшце не вытрымаў Прошын. – Ідзі да Коўшына і яму скардзься, я гэтымі пытаннямі не займаюся!

Чыпушыла вінавата ўсміхнуўся і яго тхарыныя вочы забегалі пад акулярамі, як сонечныя зайчыкі па сцэнцы. Майстар яшчэ раз вымераў лядоўню, штосьці запісаў сабе ў нататнік і зноў прайшоў паўз Дзяніса. Ён было памкнуўся звярнуцца да майстра, але своечасова стрымаўся, вырашыўшы не турбаваць Прошына. Відаць, Чыпушыла раздражняў тут не толькі яго аднаго. Ад гэтага Дзянісу стала лягчэй.

Засталося дзве гадзіны. Дзяніс прапусціў гэтую інфармацыю праз свой розум і адчуў, як у яго адкрылася другое дыханне, заахвочанае хваляй унутранай радасці і выразным усведамленнем таго, што ён зусім хутка выйдзе з гэтага цэху і гадзін пятнаццаць яшчэ не будзе бачыць абрыдлых працоўных храп. Разам з тым, другое дыханне значна ўдасканаліла яго працу. Цяпер пена вылятала з-пад яго нажа, як габлюшка з-пад гэбліка добрага майстра. Дзяніс набіў сабе рукі. Адразаць пену ён быў гатовы хоць з заплюшчанымі вачыма. Чыпушыла збольшага маўчаў, але калі Дзяніс кідаў на яго мімавольны позірк, ён у чарговы раз сутыкаўся з яго ідыёцкай усмешкай.

“Сапраўды на маньяка падобны”.

За паўгадзіны да канца змены, Дзяніс пачаў падмятаць за сабой працоўнае месца ад смецця і пены, якая вылятаючы, забівалася ў самыя цяжкадасягальныя куты канвеера. І тут не абышлося без заўваг Чыпушылы.

- Вось там яшчэ падмяці, - здзекліва казаў ён. – Ага, малайчына, і вунь там...

“Сука, толькі сустрэнься мне на вуліцы”, - ледзь стрымліваў сябе Дзяніс.

Урэшце ў самым канцы змены на “лініі Краўса” з’явіўся ўжо пераапрануты майстар Прошын, што, па сутнасці, сімвалізавала заканчэнне працоўнага дня.

І вось Дзяніс ішоў зваротна ў гардэроб. Не ішоў, а бег. Па шляху яму сустракаліся рабочыя, якія спяшаліся на трэцюю змену.

“Няўдачнікі”, - радасна падумаў ён.

У гардэробе Дзяніс з палёгкай скінуў з сябе абрыдлую робу і, узяўшы мыла з ручнікам, пайшоў у душ. Змыўшы з сябе пласт зменнага поту, ён вярнуўся да шафіка, хутка выцерся і пераапрануўся. Са здзіўленнем для сябе прыйшлося адзначыць, што за гэтыя дзесяць-пятнаццаць хвілін прысутнасці ў гардэробе, ён зусім не звярнуў увагі на з’едлівы смурод, які панаваў у яго засценках. І толькі мужык, які пераапранаўся побач, зняўшы свае чаравікі і сцягнуўшы мокрыя шкарпэткі, прымусіў Дзяніса ўзгадаць аб заганнасці гэтага месца. Дзяніс паглядзеў на яго ногі – пазногці на іх былі ўстойлівага жоўтага колеру, а скура пальцаў хваравіта пажухлай.

Аднак Дзяніс здолеў сабой авалодаць і куляй выляцеў з гардэроба. Спусціўся ўніз па лесвіцы. Дастаў пропуск і падышоў да кабіны вахцёра. Мужык з крывым носам, які, нагадваў рэцыдывіста, праверыў яго асабісты нумар у базе дадзеных і прапусціў за прахадную.

Як толькі Дзяніс выйшаў на вуліцу і яго твар абвеяла подыхам начной прахалоды, а над галавой заблішчалі яскравыя зоркі, ён, урэшце, адчуў сябе чалавекам.

3

Раніцай яго пабудзіў тэлефонны званок, але ўнутраны голас падказваў заставацца ў канапе і бесклапотна дрыхнуць далей. Такой методыцы Дзяніс прытрымліваўся заўсёды, аднак на гэты раз яго, незнарок, збянтэжыў адзін, здавалася б, зусім малазначны факт: канапа, зразумела, акрамя сваёй непамернай утульнасці, прадвесціла яму абмежаванасць дня строгімі рэгламентавальнымі рамкамі. Увачавідкі Дзяніс уявіў агульны для ўсіх працоўных графік працы на сённяшні дзень, які быццам павесілі на прахадной і, адразу адшукаўшы на ім, пад уласным прозвішчам, план на змену, жахнуўся. План канстатаваў: пад’ём, васьмігадзінны працоўны дзень, адбой. Безумоўна, такі расклад ні ў якім разе не мог уладкоўваць Дзяніса. І сапраўды, даволі аднатыпная панарама летняга жыцця магла разгортвацца перад ім, калі ісці на повадзе ранейшых стэрэатыпаў. Патрэбна была відавочная альтэрнатыва. Таму ўсе свае надзеі Дзяніс маментальна ўсклаў на гэты неспадзяваны званок. Спрытна выскачыўшы з-пад коўдры і, чапляючы нагамі на лёце хатнія тапачкі і іншыя прычындалы, бязладна раскіданыя па пакоі, ён выбег у калідор, і па-драпежнаму схапіў тэлефонную трубку. На зваротным канцы лініі пачуўся разгублены голас яго сябра Міхі. З сказаных ім слоў, Дзяніс узгадаў аб рэпетыцыі, якую яны дамовіліся правесці менавіта ў той дзень. Ён роспачна паглядзеў на гадзіннік і зразумеў, што спазняецца. Падзякаваўшы Міху за своечасовы напамін, Дзяніс пачаў збірацца.

Праз паўгадзіны ён ужо выходзіў са станцыі мятро “Няміга”. На выхадзе стаяла бабуля аскетычнага выгляду і, ледзь не ўкленчыўшы, працягвала прахожым дрыготкую руку. Узняўшыся па лесвіцы на ўзгорак, з якога добра было відаць Траецкае прадмесце, пакручастая брудная Свіслач, Палац спорту, гасцініца “Беларусь” і саўковыя забудовы наўкол, ён азірнуўся, каб паглядзець адсюль на гарадскі краявід. Надвор’е проста спявала. Такой спёкі Дзяніс не назіраў ужо, як два гады. Ён мінуў Кафедральны Сабор. Людзі ішлі насустрач; вясёлыя, гаманкія, ахопленыя эйфарыяй абывацельскага жыцця і шчыра ўпэўненыя, што менавіта так усё і павінна адбывацца, а дакладней, як раз ткі нічога адбывацца і не павінна. Жыць дзеля таго, каб жыць. На фоне такой гармоніі Дзяніса наведала думка, што ўсе гэтыя людзі – лайдакі, што сядзяць на чыёйсьці шыі, як і ён, прынамсі, тыдзень таму.

“Ідзіце працаваць на завод, чаго без патрэбы па горадзе бадзяцца!?”

Дурацкая ўхмылка разпаўзлася па яго самазадаволенай фізіяноміі. Урэшце, за Мінскай ратушай ён зліўся са стракатым людскім натоўпам і паскорыў крок. Сонца смаліла няшчадна. Перайшоўшы “Праспект Пераможцаў”, Дзяніс выйшаў на вузкую Інтэрнацыянальную вуліцу. Яна па-асабліваму падабалася яму сваёй сціпласцю. Мабыць ад таго, што ад яе веяла пачаткам дваццатага стагоддзя. Вуліца гэтая, у нейкай ступені, і была рэшткамі дарэвалюцыйнага Менску. Кожны яе завулак нібы сцвярджаў, што некалі тут без упынку гаманілі скнарыя габрэі, па крывым бруку на брычках праязджалі флегматычныя паненкі, бравыя афіцэры карысталіся паслугамі танных прастытутак і проста жылі звычайныя мяшчане.

Да кінатэатра “Перамога” Дзяніс прыйшоў першым. Каля яго на прыступках сядзела купка мясцовых гаўна-панкаў. Яны пілі піва і пляваліся на нагрэты асфальт. Праз некаторы час падышоў Ілля з гітарай за плячыма і, як заўжды, з цыгарэтай у зубах. Гэта быў хлапчук невялікага росту і каб не яго шчацінне, яго папросту можна было б палічыць школьнікам.

- Ну, як працуецца? – першае, што ён спытаў, павітаўшыся з Дзянісам.

- Так сабе – працоўныя-быдланы і благое паветра. Хутчэй бы атрымаць свае грошы.

Ілля ўсміхнуўся.

- Дваццпць пятага да нас прыязджае выдатны old school гурт з Германіі, - сказаў ён.

- Праўда? Крута! Трэба будзе абавязкова схадзіць, у мяне як раз у гэтых лічбах аванс.

- А на гэтых выходных у “Step”(3), як заўсёды рэтра. Пойдзеш?

- А ты?

- Такое проста нельга прапускаць! Рок-н-рол, выпіўка і цёлкі! – яго юрлівасці, здавалася, не было краю.

- І колькі ўваход каштуе?

- Пятнаццаць тысяч, калі ў рэтра-касцюме – дзесяць, - дасведчана вымавіў Ілля.

- Мабыць, толькі з Ірай…

Ілля глыбока зацягнуўся і паківаў галавой.

- Так, ведаю – павязаны па руках і нагах, але, прынамсі, з дзяўчынай яшчэ лепей адрывацца. Прыходзьце, будзе весяла!

Міха з Кірылам спазніліся на дзесяць хвілін. Прыйшлося чакаць пакуль яны дапаляць, а потым усе разам пайшлі за кінатэатр. Абліцаваныя дамы абапал Інтэрнацыянальнай адразу разгарнулі перад вачыма хлопцаў сваё сапраўднае аблічча. Абшарпаныя, брудныя з невідушча-цьмянымі вокнамі, тут, з другога боку, яны нагадвалі раён, які знаходзіцца ў рэзервацы. Выгляд асфальта наводзіў уражанне, што па ім праехаў бульдозер. Кантэйнер са смеццем быў распісаны свастыкамі розных памераў, якія аздаблялі

лічбы “88”, а побач, на цаглянай сцяне электрападстанцыі, чырвоным – выведзена альфа заключанае ў амега. Такі кантраст выклікаў шчырую ўсмешку. Але раз з тым, здавалася, быццам, патрапіў у Англію канца сямідзесятых, Sex Pistols, Анархія і поўны дыстрой. За электрападстанцыяй, пад разгалістым клёнам, перад хлопцамі паўстала аблезлая будка, якая збольшага нагадвала вясковы клазет – гэта месца і з’яўлялася “рэпетыцыйнай кропкай”. Яны падышлі бліжэй. З боку каля металічнай дзверы знаходзіўся дамафон. Дзяніс націснуў на кнопачку, услед за чым пачуўся ўласцівы ціхі званок – дзверы пстрыкнулі. Дзяніс пасунуў іх ад сябе на сябе і яны лёгка расчыніліся. За дзвярыма аказалася доўгая (метраў пяць) лесвіца, прыступкі якой вялі ўглыб гэтакага падзямелля-бамбасховішча. Хлопцы, адзін за адным, асцярожна пачалі спускацца ўніз. У памяшканні было змрачнавата і ў паветры адчуваўся выразны прысмак вільгаці. Яны спусціліся, завярнулі за вугал і апынуліся ў цесным пакойчыку. На сценах віселі электра і бас-гітары, талеркі для барабанаў, а таксама апраўленыя фотаздымкі з выявамі знакамітых беларускіх гуртоў. Дзяніс прыкмеціў “N.R.M.”, “Ляпіс Трубяцкой”, “Neuro Dubel” і інш. Большую частку пакойчыка займаў стол з кампутарам. За ім сядзеў адміністратар дадзенай багадзельні: худы хлопец з русымі дрэдамі. У цьмянасці святла можна было разглядзець яго чырвоныя вочы. Ён сядзеў нерухома і па-дзіўнаму ўсміхаўся.

- Мы запісваліся на дванаццаць гадзін, - сказаў Міха і хлопец, быццам абудзіўшыся з глыбокага одуму, падазрона паглядзеў на смаркачоў, якія з’явіліся перад ім, як змрочныя здані, і ліхаманкава залыпаў чырвонымі вачыма.

- Зараз праверым, - праз некаторае імгненне глуха прамовіў ён.

Прыйшлося пачакаць, пакуль падабенства Боба Марлі адшукае іх у электронным спісе зарэгістраваных.

- Да-м-б-ро-ў-скі, – расцягнуў ён прозвішча Міхі, нібы яму прыйшлося прачытаць яго наадварот.

- Так.

- У вас другі пакой.

- Мы ў курсе.

Хлопец падняўся з мяккага крэсла і ў яго руцэ абнадзейліва зазвінелі ключы. Ён кульгаючы прайшоў паміж Дзянісам і Міхай і яны, абмяняўшыся збянтэжанымі ўхмылкамі, пасунуліся за ім. З цеснага пакойчыка хлопцы перайшлі ў такі ж няўтульны калідор. У калідоры было дзве дзверы. Адамкнуў першую, таўшчынёй каля дзесяці сантыметраў і абабітай тоўстым пластам лямца, чырванавокі адміністратар ганарліва стаў у парозе.

- Значыць так, вулічны абутак пакідаем тут, калі ёсць зменны – абуваем, гэта не забаронена, у прынцыпе, можна карыстацца нашымі шлёпанцамі.

- Мы ведаем, - дасведчана сказаў Дзяніс.

Яны знялі абутак і па адным зайшлі ў пакой. Барабаны, узмацняльнікі з калонкамі і два мікрафоны з належным да іх мікшарным пультам – усё гэта чакала іх унутры. Як толькі яны зайшлі ў пакой, хлопец адразу пачаў уключаць апаратуру. Гэта не заняло і хвіліны. Упэўніўшыся, што ўсё гатова, ён выйшаў з пакоя і зачыніў за сабой дзверы.

- Нішцяк, - буркнуў Кірыл і сеў за барабаны.

У тую ж хвіліну ён распачаў адбіваць просты біт. Дзяніс праверыў мікрафон стандартным “раз-два-тры”, а потым пачаў выдаваць з горла псіхадэлічныя гукі. На фоне гэтай какафоніі, Міха спрабаваў наладзіць бас-гітару пад гітару Іллі. З боку хлопцы выглядалі хаатычным квартэтам, які пакуль яшчэ не ведаў, чым дакладна тут трэба займацца.

- Ну што, з чаго пачнём? – спытаў у Дзяніса, чамусьці, пачырванеўшы Міха. Дзяніс паглядзеў на астатніх, нібы, чакаючы ад іх пэўнай рэакцыі, якой не адбылося, і сказаў:

- А давайце зробім што-небудзь новае, я тут надоечы некалькі радкоў прыдумаў.

- Let’s go! - узрадаваўся Ілля.

Кірыл у знак згоды моўчкі паківаў галавой і закруціў у пальцах барабанныя палачкі. У тое ж імгненне хлопцы пачалі імправізаваць. Міха маментальна прыдумаў трох нотны басавы малюнак, Кірыл задаў панк-біт, спрытна адбіваючы па хай-хэту і, паступова далучаючы кароткія ўдары то па сольніку, то па бас-бочцы, а Ілля проста пачаў паўтараць за Міхай трох нотную камбінацыю, перавёўшы яе ў квінтавы варыянт. Атрымаўся звычайны old school панк-рок. Дзянісу заставалася толькі знайсці месца, адкуль можна было б уступіць. Ён успомніў прыдуманыя ў аўтобусе радкі і, счакаўшы момант, выкрыкнуў:

Мы – робім свой першы крок!
Мы – граем old school панк-рок!

Міха ўсміхнуўся. Амаль заўжды абыякавы выраз твару басіста ў рэдкіх выпадках мог выявіць эмоцыі падчас стварэння музыкі. Таму гэта ўжо аб нечым казала. І сапраўды, словы трапілі ў самую кропку, музыка спалучылася з імі ў адно цэлае.

Кірыл паскорыў біт, надаючы мелодыі кроплю хардкору і да яго ў рытме адразу далучыліся Міха з Іллёй. У гэты момант у галаву Дзяніса прыйшоў працяг, і ён праспяваў:

Гэтую музыку могуць граць усе,
І мы навучыліся ёй пакрысе!

Хлопцы джэмавалі яшчэ хвілін пяць, на працягу чаго Дзяніс выкідваў каскад рыфмаваных словазлучэнняў, сыпаў адборным мацюком, адрыгаўся ў мікрафон і проста казаў усялякую бязглуздзіцу – гэта быў сапраўдны хаос, псіхадэлічнае ўспрыманне музыкі і сваіх магчымасцяў у прыватнасці.

Потым усё рэзка скончылася.

- Карацей, - сказаў Міха, - пачатак суперскі, а ўсё астатняе – поўны адстой, таму я прапаноўваю выконваць гэтую кампазіцыю ў выглядзе Intro. Яе можна будзе задзейнічаць на разагрэве, хвіліну-дзве, не больш.

- О’кэй, - пагадзіўся Ілля.

- Валяй, - сказаў Дзяніс.

Міха абвёў гурт ухвальным поглядам.

- Тады паўторым старыя песні, - з энтузіязмам сказаў ён.

- Ага, толькі нагадай мне акорды, - адразу ж збянтэжыўся Ілля.

Кірыл з Дзянісам зарагаталі, а твар Міхі набыў уласцівы выраз незадаволенасці.

- Колькі ўжо можна забываць гэтыя грэбаныя акорды! – прабурчаў ён.

- Не-не, я іх памятаю, ты проста скажы, з якога лада трэба пачынаць…

Дзяніс падышоў да Іллі і пальцам паказаў яму лады, на якіх трэба было заціскаць квінты. Ілля ўсміхнуўся і вымавіў:

- А-а, усё, успомніў!

Міха дакорліва прыцмокнуў і зычна адлічыў “one, two, three”. І зноў па пакойчыку грымнулі бунтарскія дэцыбелы.

Кірыл з Міхам гралі збольшага роўна, а вось Ілля часта збіваўся, забываючы паслядоўнасць акордаў і нібы па ланцужной рэакцыі, Дзяніс забываў словы і часта губляў рытм.

- Спачатку, - казаў Міха і яны гралі песню зноўку, пакуль не дасягалі, у большай ступені, элементарнай згулянасці.

За гэты час Дзяніс паспеў сарваць голас і ў некаторых выпадках яму было цяжка яго кантраляваць: ён то безнадзейна трымцеў, то пераходзіў у брыдкае сіпенне. Таму невялікі time out быў вельмі дарэчы.

Усе парадкам прытаміліся.

Кірыл з Іллёй пайшлі паліць. Міха ўсеўся на падлогу, апатычна тузаючы тоўстыя струны. Дзяніс сеў за барабаны і паспрабаваў адбіць немудрагелісты біт.

Пяць хвілін бяздзейнасці нічога істотнага не прынеслі. Пасля перапынку хлопцы паспрабавалі адыграць яшчэ адну песню, але яна ў іх зусім не атрымлівалася. Усе збіваліся з рытму і паўсюль адчувалася дрэннае гучанне. Ілля вінаваціў у гэтым апаратуру, Дзяніс спасылаўся на голас, Кірыл проста маўчаў. Міха быў рацыяналістам.

– Вы ні халеры не ўмееце граць. Што, так цяжка даюцца тры нікчэмных акорда?

Роўна ў чатырнаццаць нуль-нуль хлопец з дрэдамі адчыніў дзверы і нагадаў, што іх час падышоў да канца і ім трэба адсюль вымятацца. Дзяніс прыкмеціў на яго бледным твары з’едлівую ўхмылку – ранейшая абыякавасць выляцела ў трубу, і толькі вар’яцкі бляск у вачах нагадваў аб ірацыянальным стане адміністратара. Дзяніс, першым чынам, падумаў, што яму спадабалася іх музыка, але вось Міхе, як ён прызнаўся пазней, стала сорамна ад адчування, што нават гэты абколаты растаман палічыў іх няздарамі.

Яны сабралі свой інструмент і выйшлі ў калідорчык. Там ужо стаяла банда малалетніх смаркачоў з прышчаватымі тварыкамі, якія мусілі хутчэй патрапіць ў пакой і зайграць улюбёны эма-кор.

На самым выхадзе Міху затрымаў адміністратар і працягнуў яму флаерок з рэкламай “кропкі”, яе коштам і іншай лухтой.

- Прыходзьце яшчэ, - з ухмылкай сказаў ён.

Хлопцы падняліся на вуліцу. З нязвычкі ў вушах Дзяніса стаяў лёгкі гуд, а горла, здавалася, апякло варам. Яны выйшлі на Інтэрнацыянальную. Кожны думаў аб сваім. Летні ветрык авяваў іх расчырванелыя твары, пасяляючы ў разгарачаных сэрцах неабходную прахалоду.

На скрыжаванні Інтэрнацыянальнай і Праспекта Пераможцаў вынаходлівы Ілля падкінуў, магчыма, лепшую ідэю дня.

- Ну што, па піву?!

Дзяніс з Кірылам яго падтрымалі, Міха толькі безуважна кіўнуў галавой.

Піва вырашылі купіць ва ўніверсаме “Цэнтральны”. Там, як заўжды, была чарга і Ілля сустрэў сваіх знаёмых.

Узялі па бляшанцы кожнаму і накіраваліся ў сквер непадалёк. У скверы было ўтульна. Лёгкая засень ад разгалістых каштанаў і гук машын, якія праязджалі па праспекту, расслаблялі і наводзілі пачуццё бязмежнай лагоды. Сеўшыся на свабоднай лаўцы, хлопцы адкаркавалі свае бляшанкі, для прыліку чокнуліся і, зрабіўшы прагныя глыткі, прыняліся абмяркоўваць рэпетыцыю.

- У прынцыпе, не блага, - сказаў заўжды пазітыўны Ілля. – Вядома, нам яшчэ трэба практыкавацца, але для пачатку, я лічу, нават выдатна.

Кірыл з ім пагадзіўся.

- А я абавязкова прыдумаю новы тэкст, на гэтым пякельным заводзе такія сацыяльныя рэчы ў галаву лезуць, што мне проста неабходна сабраць іх у аднародную думку і тады абавязкова атрымаецца пацешная песня, магчыма хіт, - сказаў Дзяніс.

Міха ўважліва выслухаў меркаванні сяброў.

- На самай справе, наш гурт – гаўно, прычым гаўно выключнае, і сённяшняя рэпа гэта выразна пацвердзіла, - скрозь зубы працадзіў ён.

Яны пілі піва, гучна спрачаліся, пакуль не перасварыліся і вырашылі разыйсціся. Дзянісу самы час было выпраўляцца на працу – канвеер чакаў, таму яны ўзнялі свае азадкі з лавы і злёгку ап’янелыя, папляліся ў бок станцыі мятро “Купалаўска”.

На ўваходзе спыніліся папаліць.

- Калі наступная рэпа? – звярнуўся да ўсіх Дзяніс.

- Не ведаю, магчыма, толькі восенню, у мяне цяпер няма грошай, ды і часу асабліва не выпадае, - сказаў Міха.

На гэтым і разыйшліся. Міха з Кірылам пайшлі на аўтобусны прыпынак, а Дзяніс з Іллёй спусціліся ў мятро. У вагоне Ілля ненаўмысна прыціснуў да дзвярэй грыфам гітары згорбленую бабулю і яна, падняўшы вэрхал, пачала пхаць яго ў спіну. Дзяніс ледзь стрымаўся, каб не зарагатаць ад пакрыўджанай міны старой: яе быццам распранулі ва ўсіх навідавоку.

- Як там Іра пажывае? – пацікавіўся Ілля, ігнаруючы заўвагі барадатага мужыка, абуранага яго паводзінамі ў дачыненні да пажылога чалавека.

- Цудоўна, - не шматзначна адказаў Дзяніс.

У гэтым плане ён быў негаваркі. Яму адразу ж захацелася перавесці размову ў іншае рэчышча.

- А ўсё ж Міха меў рацыю, мы насамрэч - гаўно, - сказаў Дзяніс.

Ілля ўсміхнуўся.

- Наша музыка гаўно, а мы – крутыя.

І з гэтымі неістотнымі, з аднаго боку, згрызотамі, Дзяніс выйшаў на станцыі “Няміга”, каб сесці на 69 аўтобус. Да змены заставалася каля паўгадзіны.

4

Уся праблема першай змены заключалася ў працэсе абуджэння. А прачынацца ў першую змену было складана. Верагодна, тое ж самае адчувала і спячая прыгажуня пасля працяглага і салодкага сну, які сваім слінявым пацалункам парушыў якісьці саладжавы прынц. Аднак замест пацалунку вушы Дзяніса прарэзаў агідны званок будзільніка. Гадзіннік паказваў пяць дваццаць раніцы. Першае, што прыйшло ў галаву Дзяніса, было ўсведамленне непазбежнасці руціннай працы, якая чакала наперадзе. КАНВЕЕР!

“Як толькі пераджыць грэбаную змену?”

На кухні ўжо завіхалася яго мама Вера Сцяпанаўна і сімвалічны пах, які зыходзіў адтуль, пракраўшыся яму ў пакой, сведчыў аб прыгатаваным сняданку.

Дзянісу спатрэбілася пяць хвілін, каб працерці вочы і спакваля падняцца з канапы. Выканаўшы гігіенічныя працэдуры, Дзяніс зайшоў на кухню, дзе на стале яго чакала талерка з апетытным амлетам.

- Добрай раніцы, - прагугнявіў ён маці.

- Добрай раніцы і прыемнага апетыту, – сказала Вера Сцяпанаўна.

- Ага, дзякуй…

- Ну, як работа? – спытала яна, сеўшы насупраць сына.

- Ніштавата, - неахвотна пераджоўваючы ежу, адказаў Дзяніс. – Вытрымаю.

- І я так думаю. Табе ж яшчэ палова месяца засталася?

- Так, зусім нічога.

Хаця сам ён выдатна разумеў, што два наступных тыдні далёка не абмяжоўваліся фрывольным выразам “зусім нічога”, а два наступных тыдні - гэта восемдзесят трыклятых гадзін, гэта мурло Чыпушылы і іншых пралетарскіх суб’ектаў, у дадатак смуроднае паветра і, бадай, самае агіднае: адчуванне фізічнага прыгнёту, прычым добраахвотнага.

Пачысціўшы пасля сняданку зубы і, прывёўшы сябе ў парадак, Дзяніс выйшаў на вуліцу. З раніцы было халаднавата і паддувала ў плечы, ад чаго скура рабілася гусінай і хацелася перасмыкнуцца ўсім целам. Ён уключыў на флэшцы Prodigy і пайшоў на прыпынак.

У аўтобусе на Дзяніса найшла дрымота. Ад яго дома да "Тытана" язды, прыблізна, з паўгадзіны і таму яму не заставалася нічога іншага, акрамя як прытуліцца да бліжэйшага поручня, і бесклапотна заплюшчыць вочы. Паглыбіўшыся ў дрымоту, яго свядомасць адразу ж запаволілася разам з фразамі Кейта Флінта. Гэта было падобна на прыступ ліхаманкі. Потым у галаве замітусілася адна назойлівая думка: цяпер Дзяніс не мог сабе ўявіць, як зможа вытрымаць восем гадзін. Стоп! Канвеер - вось глеба для разважання. Хіба ёсць яшчэ нешта? Ты павінен адпрацаваць сваё. Пена, якую ты абразаеш, прагне гэтага. Ты ачысціш лядоўню ад бруду і зробіш яму вялікую карысць. Канвеер! Канвеер! Канвеер! Я твой гаспадар! А цяпер уважліва паглядзі на корпус халадзільніка - ён белы, як самы дасканалы, самы ідэальны колер. Пазбаўся ад сваіх стэрэатыпаў і ілюзій! Чуеш? Я ведаю: ты не гультай, ты здольны працавацьі ты будзеш працаваць, таму што я цябе прымушу. Ты - мая частка, ты – мой сродак, мой раб. А я – твой уладар. Бо няма нічога складанага ў выкананні вызначанай аперацыі, у падпарадкаванні мне, прынамсі, гэта ўсё, што ад цябе патрабуецца. Магчыма, ты ўжо адчуў міжвольную лёгкасць і млявасць уласнага цела? Так? Адчуў? Значыць першая стадыя ў тваім адваротным перакананні пройдзена. Далей я навучу цябе кантраляваць свой розум, я навучу цябе разумець мае пасланні і іх прыхаваны сэнс. Запомні: няма ляноты, няма стомленасці, ёсць толькі імкненне наперад, хуткасць працы, жаданне зрабіць нашмат больш і што самае галоўнае – якасней. Дакажы мне, што ты адзін з выбраных, адзін з вартых. Канвеер! Канвеер! Канвеер! Ты разумееш? Твой крок, твой рашучы крок у мой бок, запэўніць цябе ў гэтым. Таму праца – толькі праца, твая змена – толькі твая змена. Зразумей, мы з табой адно цэлае. Я - твой розум, ты – мае дзеянні. Мы адзін механізм, памятай! Канвеер! Канвеер! Канвеер!

Гэта быў не сон і Дзяніс разумеў дзіўную фантасмагорыю. Потым перад ім з’явіўся канвеер, шырокі, у колькі дзесяткаў метраў і бясконца доўгі. Замест канвеернай стужкі ляжаў чырвоны язык, пакрыты гідкімі пухірамі і сліззю. На ім стаялі скрываўленыя лядоўні. Усе яны рухаліся ў бясконцую далеч жахлівага канвеера. Раптам язык заварушыўся, як вуж на патэльні, і лядоўні адна за адной пачалі падаць на кафляную падлогу. Разбіваючыся аб яе, быццам крыштальныя келіхі, разбітыя лядоўні пакідалі калюжы барвовай вадкасці, якая імгненна закіпала і бясследна растваралася ў прасторы. Калі растварылася апошняя лядоўня, язык напружыўся, хутка скруціўся і знік. Аднекуль здалёк пачулася моцная адрыжка, нібы адрыгнуўся Паліфем(3) і ў гэты момант Дзяніс расплюшчыў вочы. Аўтобус пад’язджаў да “Тытана”. Дзяніс убачыў пафасныя літары на даху інжынернага корпуса, прахадную і па яго целу прабегла дрыготка.

Высыпаўшы з народам на прыпынку, ён марудна ўзняўся па прыступках да галоўнага ўваходу. У галаве стаяў тлум ад убачанага трызнення, але яно ніякім чынам яго не здзівіла. Дзяніс палічыў такія праявы свайго розуму звычайным плёнам падсвядомай фантазій.

На прахадной у кабіне сядзела ўсё тая ж прывабная вахцёрка, але на гэты раз у Дзяніса не было асаблівага настрою заляцацца з ёй. Ён панура прасунуў у вакенца свой тэрміновы пропуск і яго прапусцілі далей.

Да гардэробу ён падышоў без уласцівага яму адчування пагарды. Да ўсяго і навакольнае паветра аказалася не такім смуродным, як здавалася раней.

“Можа, напярэдадні памяшканне добра праветрылі, ці я ўжо паспеў звыкнуцца з гэтымі таксічнымі пахамі?” - падумаў Дзяніс.

Адчыніўшы шафік, ён з прыхаваным сумам скінуў з сябе паўсядзённую вопратку. Потная роба налезла на яго, як чыясьці іншая скура. Даўно б не замінала яе памыць. Майка смярдзела, а ад кедаў патыхала ўчорашнімі шкарпэткамі. Аднак Дзяніс паспрабаваў не звяртаць на гэта ўвагі. Вялікіх намаганняў яму не спатрэбілася. Зачыніўшы шафік, ён не спяшаючыся спусціўся ўніз. Выйшаў на вуліцу, зайшоў у першы цэх, мінуў маставыя краны, прайшоў ліцейку і трапіў у трэці цэх. Як і раней, як і кожны такі раз.

Каля дыспетчарскай яго сустрэў майстар Прошын. Бледны твар майстра выяўляў рысы пэўнай незадаволенасці і кожнае сваё наступнае слова ён вымавіў досыць выразна:

- На "лінію Краўса" з адпачынку выйшаў працоўны. Пастой тут, я зараз знайду табе новую працу.

Дзяніс збянтэжыўся і спярша не ведаў, як яму рэагаваць на такую навіну, хацеў было памкнуцца спытаць, але Прошын ужо знік за дзвярыма дыспетчарскай.

З аднаго боку навіна ўзрадавала Дзяніса: не прыйдзецца больш збіваць згіны пальцаў аб лядоўны агрэгат, не прыйдзецца бачыць Чыпушылу. З другога боку Дзяніс добра разумеў, што налаўчыўшыся абразаць пену, яму зноў прыйдзецца асвойваць новую аперацыю. І абавязкова на новым месцы знойдзецца яшчэ адзін Чыпушыла, які будзе павучаць яго, як правільна працаваць, часам, кпіць над яго нязграбнымі рухамі і ўвесь час ён будзе адчуваць на шыі незадаволены позірк. Апошняе больш за ўсё выводзіла Дзяніса з раўнавагі. Магчыма, з-за таго, што ён, у некаторай ступені, быў параноікам.

Чакаць Прошына прыйшлося ня доўга. Дзверы дыспетчарскай адчыніліся і адтуль выйшаў невысокі мужчына сярэдніх гадоў у цывільным, а за ім расчырванелы майстар. Мужчына быў даволі кідкага неславянскага паходжання: асмуглы і з вірлавокімі вачыма.

"Армянін ці азербайджанец? Ды яшчэ начальнік!", - падумаў Дзяніс.

- Гэта ты яго збіраешся на маразільнікі паставіць? – спытаў у Прошына на чыста рускай мове вірлавокі.

Майстар кіўнуў галавой.

- На заводзе першы раз працуеш? – пацікавіўся ён у Дзяніса.

- Так.

Мужчына недаверліва паглядзеў на Прошына.

- Глядзі мне, Максім, пад сваю адказнасць яго бярэш, я потым асабіста прыйду паглядзець, як твой архаравец працуе.

Прошын пачырванеў яшчэ больш і, нічога не адказаўшы, пайшоў у бок першай веткі канвеера. За ім накіраваўся і Дзяніс.

Толькі цяпер ён зразумеў, што канвеер "лініі Краўса" быў нікчэмным падабенствам сапраўднага канвеера, які спецыялізаваўся на зборцы лядоўняў. Трэці цэх умяшчаў пяць доўгіх канвеерных ветак, кожная з якіх выконвала сваю функцыю. Прошын павеў Дзяніса ўздоўж першай і другой. На пешай ветцы збіралі каркасы лядоўняў, другая канцэнтравалася на далучэнні асобных дэталяў да вырабленай канструкцыі. Яны падышлі да самага пачатку першай веткі і майстар адразу замацаваў за Дзянісам вакантнае месца. Яму выдзялілі ліпкую ізастужку, пару баваўняных пальчатак і "гаспадарчае мыла". Яго новай задачай заключалася заляпляць стыкі ў злучаных сценках лядоўняў. Майстар прыставіў да Дзяніса хлопца, ад якога брыдка смярдзела потам, каб той растлумачыў яму, як менавіта трэба заляпляць стыкі. Хлопец паказаў Дзянісу асноўныя дзеянні (па яго сцэнару аперацыя была лёгкай: раз-два – наступная лядоўня, тры-чатыры і так далей) і перадаў ізастужку Дзянісу. З гэтага ўсё і пачалося. Стыкі выходзілі на столькі ўбогімі і крывымі, што хлопцу прыходзілася перарабляць усё зноўку. Пры тым амаль кожны раз ліпкі бок ізастужкі загінаўся, яна часта вылятала з рук, з-за чаго прыходзілася спыняць канвеер. Некаторыя працоўныя ўжо скоса пачалі паглядаць на Дзяніса.

- Тут няма нічога складанага, - без інтанацыі казаў хлопец. – Глядзі, бэрэш адзін канец ізастужкі, адцягваеш яе на памер стыку, праводзіш па ёй рукой – гатова.

У яго выкананні гэта выглядала бездакорна.

- Слухай, Грыша, навошта тут не вылузвацца?! - сказаў хлопец, што стаяў непадалёк ад Дзяніса і займаўся непасрэднай стыкоўкай сценак лядоўняў. Хлопец быў гадоў трыццаці, ужо з піўным брухам і нахабнай храпай. Яго правую шчаку аздабляла радзімка сантыметровай акружнасці. Дзяніс схіліўся да асацыяцыі, што ён быў, хутчэй за ўсё, з ліку тых персанажаў, хто любіць пасля працы выпіць піва, добра нажэрціся ў выходныя і трахнуць танную шлюху, альбо дзяўчыну, недалёкую норавам ад блудніцы. Гэта можна было прачытаць па яго ўсмешлівым твары. Хлопец падышоў бліжэй і пераняў ізастужку ў Грышы.

- Лепей рабі так, сябрук, - звярнуўся ён да Дзяніса. – Бярэш ізастужку, лепіш канец, а потым проста цягнеш яе ўздоўж па стыку. Справа скончаная.

Дзяніс узяў ізастужку і вырашыў спалучыць на практыцы абодва спосабы. Эклектыка заўжды яго прываблівала. У выніку ў Дзяніса пачало атрымлівацца, стыкі атрымліваліся збольшага роўнымі цераз адну лядоўню. Неабходна было толькі сканцэнтравацца.

У адрозненні ад абрэзачнай пены заляпляць стыкі аказалася ў шмат разоў прасцей, прынамсі, яшчэ на колькі гадзін. Лядоўні ішлі не ўпрытык, а на метровай адлегласці адна ад адной, таму Дзянісу хапала часу, каб выканаць аперацыю і трохі перадыхнуць.

Асаблівасцю гэтай веткі было тое, што працоўныя стаялі, ці сядзелі абапал канвеера. Дзяніс паспеў пазнаёміцца, дакладней перакінуцца дробяззю слоў амаль з усімі бліжэйшымі да яго працаўнікамі, у сваю чаргу, кожны з іх даваў яму слушную параду, дзе і дапамагаў.

Але не гледзячы на добразычлівасць працоўных, яму ўсё ж карцела паздзекавацца. А як яшчэ кампенсаваць ранішнюю раздражнёнасць і нежаданне працаваць? На ветцы ён тут жа вылучыў для сябе асобы, якіх можна было падвергнуць разумовай тэрапіі. У яго галаве зайграла старая пласцінка аб раздачы чарговых мянушак. Першым такой пашаны спадабніўся ўжо ўзгаданы хлопец з радзімкай на шчацэ. Дзяніс хацеў, каб мянушка не вылучалася асаблівай банальнасцю і адпавядала яго ўсмешлівай фізіяноміі. На розум прыйшло толькі адно – Ласун. Ух, Ласун! Бадай, у трэцім цэху ён быў самым пазітыўным працоўным, які часта па-штукарску выскаляў жоўтыя зубы і суправаджаў свае, безумоўна, красамоўныя рэплікі адборным мацюком.

Наступным, на кім Дзяніс спыніў сваю ўвагу, быў напарнік Ласуна, што стаяў насупраць яго і ўкладваў унутр змацаваных сценак лядоўняў кардонныя лісты. Прыблізна, аднагодак Ласуна – падцягнуты бландын з яскрава-блакітнымі вачыма – у адрозненні ад эксцэнтрычнага напарніка паводзіў сябе больш стрымана, толькі кожных паўгадзіны бегаў паліць на склад непадалёк

ад першай веткі. І яшчэ яго прычоска, менавіта з-за яе ён і атрымаў сваю мянушку, быўшы падстрыжаным пад гаршчок, як класічны немецкі Ганс. Яго авальны твар і плоскі доліхакефальны(4) чэрап падкрэслівалі ў ім відавочнае арыйскае паходжанне. Дзяніс уявіў Ганса ў нацысцкай форме і ўсё стала на сваё месца. Гестапа!

Трэцім тыпам аказаўся хлопец, які працаваў у пары з Дзянісам. Ён выразаў адтуліны ў кардонных лістах, устаўляў у іх пластмасавыя закаркоўкі і, усоўваў у куты лядоўняў паралон. З выгляду хлопец здаваўся несамавітым малым гадоў дваццаці пяці і, не гледзячы на ўжо чвэрць векавы ўзрост, твар яго быў спрэс абсыпаны прышчамі. Дапатопныя акуляры і яшчэ гэтая бародка: рэдкая, як у дзячка з вясковай цэркаўкі. Яго звалі Грыша. З такім імем і мянушкі не трэба мець. Да ўсяго пералічанага над ім часта кпілі, бессаромна абражалі, ці па-простаму чмырылі. Дзяніса асабліва ўразіў адзін момант. Брыгадзір Холадаў, здаровая двух метровая шафа, кожны тыдзень раздаваў усім рабочым пальчаткі, а таксама “гаспадарчае мыла”. Усіх ён абслугоўваў з належнай клапатлівасцю, нават Дзяніса, якога бачыў упершыню. Раздаўшы ўсім, акрамя Грышы, пальчаткі з мылам, Холадаў адышоў ад канвеера на патрэбную дыстанцыю і, скруціўшы апошнюю пару пальчатак з апошнім кавалкам мыла ў нейкае падабенства шара, выгукнуў:

- Лаві! – і з прафесіяналізмам спрытнага бейсбаліста, шпурнуў скручанае ў Грышу.

Той, вядома, не паспеў злавіць неспадзяваную падачу з-за адсутнасці хуткай рэакцыі і пальчаткі з мылам паляцелі на падлогу. Холадаў зарагатаў і з’едліва вымавіў:

- Што ж ты, Грыша, такі няўважлівы, а яшчэ на канвееры працуеш.

Ласун з Гестапа душыліся ад смеху і толькі аднаму Дзянісу стала ніякавата. Ён ніколі не любіў назіраць, калі падобным чынам выяўлялі нікчэмную сутнасць чалавека, які не можа за сябе пастаяць. Гэта вельмі выразна кампраметавала асобу.

Між тым Грыша, акінуўшы брыгадзіра варожым поглядам, прабурчаў няўцямнае “пайшоў ты” і прыняўся збіраць з падлогі раскіданыя рэчы.

- Пабурчы мне яшчэ там, у наступны раз у галаву кіну, - найграна раззлаваўся Холадаў і пайшоў па сваіх справах.

І апошні, каго Дзяніс адзначыў сваёй увагай, быў мужык, які працаваў амаль на самым куце першай веткі і прыкручваў у прасвідраваныя адтуліны ножкі лядоўняў. Ён, адносна, нічым не вылучаўся, хіба што толькі быў дужа падобны да Зянона Пазняка.

“Часам, ён не яго сваяк?”

Мянушка сталася заканамернай.

Усе астатнія былі звычайнымі працоўнымі, якія не мелі якіх б там ні было істотных асацыятыўных прыкмет.

Дзве гадзіны Дзяніс карпатліва заляпляў стыкі, так што пот цуркам ішоў. Усё здавалася яму простым і нескладаным, як раз да дзесяці хвіліннага перапынку. Ён разагнуўся на ўвесь рост і імгненна адчуў ныючы боль у паясніцы. Гэта была нармальная рэакцыя на частыя згінанні і разгінанні. Спіна ўсё ж не жалезная. Ён прысеў на адзін з сінтэтычных мяшкоў, у якіх змяшчаліся абрэзкі паралона, каб заслужана адпачыць. Як толькі цела паслабілася, Дзянісу адразу перахацелася кудысьці ісці. У такім стане ён і адчуў усеагульную стомленасць сваіх цягліц. Ступні ногі наліліся свінцом, рукі спруцянелі, а паясніцу быццам прасвідравалі ўсім цэхам.

Калі перапынак скончыўся і канвеер пайшоў сваім ходам, Дзяніс ледзь падняўся. Спіну было не разагнуць. Ён паспрабаваў нагнуцца, каб заляпіць стык і ў яго пацямнела ў вачох.

Праз пяць хвілін спіну злёгку адпусціла. Аднак як працаваць далей яшчэ шэсць гадзін, ён і прадставіць сабе не мог.

Дыстанцыі паміж лядоўнямі, якія Дзяніс выкарыстоўваў у карыслівых мэтах, ужо не прыносілі эфекту лёгкага дзесяці секунднага адпачынку і толькі раздражнялі змораны арганізм. Праца ішла марудней, але стыкі, з кожным разам, выходзілі ўсё лепш і лепш, набліжаючыся да ўзроўню, які яму дэманстравалі Грыша з Ласуном. Неўзабаве Дзяніс заўважыў, што сваю аперацыю ён здольны выконваць хутчэй і спрытней за Грышу. Колькі секунд і Дзяніс ужо пераходзіў з адной лядоўні на другую, тым часам як Грыша яшчэ выразаў адтуліны ў папярэдняй. Выйграваючы сабе больш часу, Дзяніс сядаў на мяшок і без усякай цікавасці сачыў за працай Грышы. Ён і не ведаў, што Грышу найбольш раздражняла, калі за ім назіраюць, тым больш навенькі.

У адзін з такіх момантаў Грыша паглядзеў на Дзяніса і раздражнёна сказаў:

- Чаго ўсеўся, ты не правільна лепіш стыкі?!

Дзяніс збянтэжыўся і недаверліва падышоў да працоўнага месца. Штосьці ў тоне Грышы нагадала яму брыдкага Чыпушылу.

- А як трэба? – спытаў ён.

Грыша пераняў ізастужку і з напышлівасцю паспрабаваў паказальна заляпіць адну з лядоўняў. Але ў яго нязграбных руках слізкая ізастужка перакруцілася і ў выніку стыкі выйшлі крывымі. Дзянісу прыйшлося забраць у недарэкі ізастужку і пераляпіць усё зноўку.

- Не спяшайся! – пачуў ён за спінай злосную заўвагу.

На жаль, працаваць з Грышай у адным рытме Дзяніс не мог. Паясніца давала аб сабе ведаць кожную хвіліну. Праз паўгадзіны ў ёй аднавілася боль, робячыся з кожным нагінаннем усё востра-невыноснай.

Апрацаваўшы запар дзесяць лядоўняў, так, каб у запасе засталося каля хвіліны, Дзяніс лёг на мяккі мяшок і заплюшчыў вочы. Трываць боль было ўжо проста немагчыма.

- Нельга ляжаць пад час працы, - сказаў яму жаночы голас.

- А што будзе?

- Калі ўбачыць начальства, можа даць вымову.

Дзяніс нехаця сеў, а потым азірнуўся.

За ім, каля працоўнага стала, што размяшчаўся побач з першай веткай канвеера, стаяла дзяўчына гадоў дваццаці пяці, і выкладвала на ім доўгія металічныя пласцінкі. Яна была ў цёмна-сінім халаце з пафарбаванымі таннай фарбай саламянымі валасамі, сабранымі ў пучок на патыліцы. Абрысы яе непрыгожага твару нагадалі яму выявы засмучаных жанчын з пажоўклых гатычных гравюр. Яе тонкія і непрыемна сціснутыя вусны, а таксама падведзеныя бэзавым ценем вейкі – усё, што адразу адштурхвала Дзяніса аб падобных асоб жаночага полу.

“Курва”, - першае, што прыйшло яму ў галаву. – “Менавіта”.

Вось на такіх як раз і спецыялізаваўся Ласун. Мянушка ўзнікла міжвольна і патрапіла ў самую кропку. У гэтае імгненне Курва паглядзела на Дзяніса і лагодна ўсміхнулася. Яму хацелася сплюнуць.

“Няўжо толькі такія кракадзілы працуюць на канвееры? - падумаў ён. – Хаця, мусіць, так і ёсць, якая нармальная дзяўчына зараз пойдзе на завод? Часы сацыялізму прайшлі. Нават цяжка ўявіць на гэтым месцы Іру”.

Ён неахвотна падняўся з мяшка і працягнуў працу, прычым у паскораным рэжыме. Смешна было глядзець на Грышу, які незадаволена соп і час ад часу скавытаў:

- Апяць дваццаць пяць!

“Ёлуп ты, а я яшчэ шкадаваў цябе”, - непрыязна падумаў Дзяніс.

А калі Ласун пажартаваў над Грышынай бародкай: “У, барада, два вуха!” Дзяніс зарагатаў разам з усімі.

На паўгадзінным перапынку ён добра паабедаў у сталоўцы і астатнія пятнаццаць хвілін вырашыў пасядзець у цяньку асобна ад усіх на самай крайняй лаўцы. Яму не хацелася ўлівацца ў кампанію новых працоўных.

Паясніца за паўгадзіны трохі адпачыла, але пры любым нагінанні, яе пранізваў колкі боль. Дзяніс задумаўся аб змене аперацыі. Ён узгадаў словы вірлавокага начальніка, які згадзіўся паставіць яго на маразільнікі.

“І дзе ж яны?”

Заходзячы ў цэх з вуліцы, ён цвёрда вырашыў, што як толькі ўбачыць Прошына, абавязкова скажа яму аб болі ў паясніцы і магчымай новай аперацыі. Яго ўжо не турбаваў той факт, што майстар кепска аб ім падумае. Спіна была даражэй.

І як не дзіўна доўга чакаць майстра не прыйшлося. Ён з’явіўся на ўчастку праз хвілін дзесяць. Дзяніс інтуітыўна азірнуўся і ўбачыў Прошына, які ўжо ішоў у яго бок. Падрыхтаваўшыся распавесці яму гіпербалізаваную гісторыю аб небывалай дагэтуль стомленасці, ён толькі расчыніў рот, але яго апярэдзілі.

- Пайшлі за мной, - сказаў Прошын і Дзяніс гатовы быў расцалаваць майстра.

“Навошта мітусіцца, калі ўсё прыносяць на сподку?!”

Дзяніс выкінуў у мяшок з паралонам рэшткі ізастужкі і бадзёра пайшоў за Прошыным. Яны накіраваліся ў самы пачатак першай веткі. Там Дзяніс убачыў чаргу цележак, на якіх змяшчаліся металічныя лісты, з якіх Ласун і Гестапа выраблялі каркасы лядоўняў. За цележкамі ўзніклі  дзве “калоны” з полепрапеленавых блокаў, якія нагадвалі разбураную рымскую арку, праз якую пад час трыўмфу праязджалі імператары. Прайшоўшы “арку”, Дзяніс апынуўся ля невялікага канвеера, прыблізна, трох метраў у даўжыню, які разлічваўся на мінімальную колькасць аперацый і працоўных – усяго чатыры чалавекі. З аднаго яго боку стаяла дзяўчына гадоў дваццаці пяці. Рысы яе твару не адрозніваліся асаблівай прыгажосцю, але для сябе Дзяніс адзначыў, што яна была, бадай, самай прывабнай асобінай жаночага полу, якую яму давялося пабачыць на заводзе, ну, магчыма, акрамя вахцёркі. Але, безумоўна, яны абедзве не каштавалі нават пазногця Іры. Яна была непараўнальнай.

У адзначанай дзяўчыны таксама як і ў Курвы былі жоўтыя валасы, аднак пад вобраз прастытуткі яна зусім не падыходзіла. Пільным вокам Дзяніс прыкмеціў, што ў яе ненатуральна блішчалі шчокі, нібы іх адпаліравалі, аддаючы хваравіта-бледным бляскам, як у парцалянавай лялькі. І яшчэ яна па-вульгарнаму чвякала жуванкай, пры гэтым пафасна надзімаючы вялікія пузыры. Да пералічанага можна было дадаць яе зграбны стан і васільковыя вочы.

Насупраць дзяўчыны, з другога боку канвеера, працавалі яшчэ дзве жанчыны. Адна была больш мажная з доўгімі кучаравымі валасамі і тлустымі лыткамі, а другая ніжэй ростам і падстрыжаная пад хлопчыка – звычайныя завадскія бабы.

Утраіх, на спецыяльных падстаўках, яны выраблялі маразільныя камеры, пасля чаго ставілі іх на канвеерную стужку. Адтуль камеры здымаў высокі мужчына і адпраўляў на прэс.

- Толік! – паклікаў яго Прошын і мужык сутаргавата азірнуўся.

Абрысы яго твару выразна суадносіліся з абрысамі вядомага галівудскага акцёра васьмідзесятых.

“Як жа яго звалі?”

Перад Дзянісам адразу ўстала задача асацыяцыі.

Мужык павітаўся з майстрам, а потым працягнуў руку Дзянісу, які ў тую ж хвіліну адчуў моц поціску працоўнай рукі.

- Прывёў табе вучня. Пакажы яму, як трэба прэсаваць маразілкі, і прымацоўваць папярочку, - сказаў Прошын.

Мужык пакорліва кіўнуў, а майстар падышоў да жанчын, для прыліку пацікавіўся іх настроем і хутка знік у невядомым напрамку, развіваючы ў паветры крысы халата, у дакладнасці, як Бэтмэн.

- Студэнт? – прыглядаючыся да Дзяніса, спытаў мужык.

- Так.

- Зразумела. Добра, а цяпер глядзі сюды. Твая задача заключаецца ў наступным…

Далей ён паказаў Дзянісу паслядоўнасць выканання аперацыі. У яго абавязак цяпер уваходзіла: здымаць з канвеера зробленыя маразільныя камеры, ставіць на прэс, які прэсаваў іх з чатырох бакоў, а ў прыватнасці ізастужку, якой абляплялі каркас і змеявік кожнага маразільніка. Наступным крокам патрабавалася зняць з прэса камеру і паставіць яе на стол непадалёк. Ужо на стале да камеры трэба было прымацаваць папярочку, а потым павесіць яе за кручок на цележку, якая змяшчала дванаццаць такіх жа маразільных камераў.

- У гэтай справе галоўнае правільна паставіць на прэс маразілку, - гэта значыць роўна, таму што ў горшым выпадку пагнуцца сценкі і мне прыйдзецца ўсё перарабляць. Яшчэ праблемы могуць узнікнуць з папярочкай – памятай, яе неабходна прымацоўваць роўна; спярша будуць балець далоні, але гэта дробязі і ты паступова прывыкнеш, - сказаў мужык.

Запамінаючы паслядоўнасць дзеянняў, Дзяніс раптам усвядоміў, што гэта была першая сур’ёзная і адносна складаная аперацыя непасрэдна звязаная з лядоўнямі. Ужо можна ганарыцца. Праца на карысць Айчыны. Патрыятызм так і разбіраў Дзяніса. Паралельна з гэтым ён на асацыятыўным узроўні спрабаваў узгадаць, на каго ж быў падобны гэты мужык? Дзяніс выпусціў з памяці, якім імем

яго назваў Прошын і таму адразу вырашыў надзяліць мужыка мянушкай. Асабліва гэтае жаданне з'яўлялася, калі той прымацоўваў да маразільніка папярочку, твар яго рабіўся напружаным і ён пераканаўча нагадваў амерыканскага акцёра.

“Акцёра, які здымаўся ў баявіках, дзе граў крутога героя, які біў храпы благім хлопцам, начыняючы іх на працягу кінастужкі кулямі, і абавязкова займаўся сэксам з прыгожай жанчынай. А самы вядомы яго фільм…як жа гэта… “Снайпер”. У самую кропку. А як жа яго звалі? Бэдар… Брэмер… не … Бэры… Бэрынджэр. Усё!”

Мужык быў падобны на Тома Бэрынджэра(5), як дзве кроплі вады.

“Буду называць яго Снайперам”, - вырашыў Дзяніс.

У гэты момант мужык, нібы прачытаўшы яго думкі, паглядзеў на Дзяніса, усміхнуўся і сказаў:

- Цяпер давай сам спрабуй.

Дзяніс падышоў да канвеера і ўзяў у рукі маразільную камеру. Асцярожна паставіў на прэс.

- Смялей, - падбадзёрыў Снайпер і Дзяніс націснуў на кнопку “Пуск”.

Прэс выдаў уласцівы яму гук гудзення, і сплюшчыў сценкі маразільніка спярша з аднаго, а потым з другога боку. Не прайшло і хвіліны, як пачатковы этап аперацыі быў паспяхова завершаны. Дзяніс адразу ж зняў з прэса маразільнік і паставіў яго на стол. Узяў папярочку і паспрабаваў прымацаваць. Аднак яна выслізнула з рук і яму спатрэбілася дапамога Снайпера. Першая маразілка была гатовая.

Зрабіўшы з горам напалову дванаццаць маразільных камераў, Снайпер сказаў:

- А цяпер цележку трэба завесці да Віці. Пайшлі за мной, я пакажу куды.

Яны адышлі ад канвеера, мінулі першую ветку, завярнулі на лева і выйшлі да другой. Падышоўшы да невысокага шчуплага мужычка з вострым носам, Снайпер уладна паклікаў яго:

- Віця!

Той, як па загаду схамянуўся і хуценька падышоў да іх.

- Вось сюды будзеш прывозіць цележку, - сказаў Дзянісу Снайпер.

“Дзяцел”, - падумаў Дзяніс, гледзячы на востры нос мужычка.

- Што, гэт-сам, памочніка далі? – спытаў у Снайпера Дзяцел.

Снайпер абыякава махнуў рукой і, доўга там не затрымаўшыся, вярнуўся з Дзянісам зваротна да працоўнага месца.

- Можаш прыступаць да справы, - урэшце сказаў ён, - калі ўзнікнуць якія-небудзь складанасці, кліч мяне, я буду непадалёк.

І пайшоў у самы канец участка. Там ён згінаў лісты абечайкі, надаючы ім квадратную форму, з якіх потым жанчыны і выраблялі маразільныя камеры, аздабляючы іх заднімі сценкамі, змеявікамі і белай ліпкай ізастужкай.

Як толькі Снайпер адышоў, Дзяніс адчуў сябе, у поўнай ступені, адзінокім чалавекам, кінутым сам насам з адказнай аперацыяй. Круціся, як хочаш. На яго ўсклалі працоўны абавязак, паставілі задачу, зацвердзіўшы, тым самым, новае звяно ў агульным ланцугу канвеернага механізму. Таму прыйшлося хутка ўлівацца ў адну працоўную плыню і Дзяніс паступова, сам таго не заўважаючы, пачаў набываць здольнасці робата, якога запраграмавалі для пэўнай мэты.

Бяры камеру, стаў на прэс, націскай на пульт, чакай… здымай з прэса, стаў на стол, прымацоўвай папярочку, падвешвай на цележку. Паўтарай дзеянне зноў.

…………………………………………………………………………………………………………

Нічога складанага. Я здольны і мне не цяжка. Я нават адчуваю гармонію, якая далучае мяне да ўсеагульнага працэсу і робіць неад'емнай часткай сістэмы. Канвеер! Канвеер! Канвеер! Дзіўна, я зусім не адчуваю болю ў руках, якім мяне запэўніваў Снайпер. Гэта ілюзія. Чым я адрозніваюся ад астатніх працоўных? Але не, адрозніваюся. Я – лепшы, я – выбраны.

…………………………………………………………………………………………………………

Мігатлівы свет. Белы пакой. Пасярэдзіне дрэваапрацоўчы станок. Каля станка чалавек у белым зашмальцаваным халаце. Рукі чалавека скрываўленыя. Ён угрызаецца вострымі зубамі ў адрэзаную чалавечую руку, быццам у сакавіты гарбуз, а потым замацоўвае яе ў станок. Скрыгаючы зубамі, ён цісне на кнопку "Пуск" і рука набірае абарачэнні. Дастаўшы з кішэні долата, чалавек датыкаецца ім да рукі і з яе пачынае злазіць скурана-мясная габлюшка. Апрацаваўшы руку да косткі, ён здымае атрыманую дэталь са станка і шпурляе яе ў кут пакоя. Потым выцягвае з іржавай начоўкі тлустую лытку. Угрызаецца зубамі. Кроў пырскае ў розныя бакі і залівае станок, сцены і кафляную падлогу яскрава-пунсовым колерам. Нечакана чалавек рэзка спыняецца і хапаецца за жывот. Твар яго скажае жывёльная грымаса і ён пачынае ванітаваць. З перакошанага рота выліваецца тэхнічнае масла і высыпаюцца разнастайныя шрубкі - усё гэта запаўняе пакой брыдкай каламутнай жыжкай. Жыжка затапляе пакой і не застаецца больш нічога. Канвеер! Канвеер! Канвеер!

шумавое рэха...

бясформенная маса…

выбух…

зараджэнне гамункулуса...

матэрыялізацыя…

Канвеер!

Канвеер!

КАНВЕЕР!

У галаву лезла Бог ведае якая лухта. Дзяніс і сам не мог растлумачыць адкуль браўся гэты бессэнсоўны трэш, і як ён яшчэ на працягу гэтага ўмудраўся выконваць аперацыю. Самнамбулізм якісьці. Разам з тым яго рухі зрабіліся дасканала аднастайнымі. А потым ён вынайшаў зручную тэхніку, з дапамогай якой на аперацыю патрабавалася роўна адна хвіліна. Ён нават вызначыў, як лепей стаяць каля маразільнай камеры, каб папярочка прымацоўвалася двума націскамі рукі. Таксама Дзяніс разлічыў часовы інтэрвал паміж працай і адпачынкам (трыццаць секунд), што дазваляла яму аднавіць сілы і ён смела сядаў на стол. Пад час

адпачынку Дзяніс з цікавасцю вывучаў працоўнае асяроддзе. Трэці цэх быў прасторным, болей, чым ён здаваўся яму раней. Вышыня ад падлогі да шклянога даху складала каля дваццаці метраў. Праз бруднае шкло даху Дзяніс бачыў сіняе неба з бязладна раскіданымі па ім аблокамі – шматок свабоды, якая пранікала сюды з гарадскога свету. Дарэчы, па небу можна было арыентавацца, асабліва ў другую змену, зоркі і сонца ў такой рэзервацыі шмат аб чым казалі. Але найбольш увагу Дзяніса прыкавала завадская вентыляцыя, прадстаўленая ў выглядзе тоўстых алюмініевых трубаў, якія пачыналіся ад падвесных канвеераў і цягнуліся да самага даху.

“Зусім як у амерыканскіх фільмах, - падумаў ён, - калі які-небудзь Джэймс Бонд, хаваючыся ад ворагаў, асцярожна пралазіць па такой жа вентыляцыі і тут нечакана струмень вады змывае яго ў сцёкавую канаву”.

Разглядаючы цэх, Дзяніс, адначасова, усведамляў, што яму падабаецца працаваць на гэтым месцы.

“А што, ёсць пастаянная праца, адна не зусім складаная аперацыя, добры заробак, чаго яшчэ трэба звычайнаму мужыку? Тым больш час на новым месцы праходзіў удвая хутчэй, чым на “Лініі Краўса” і першай канвеернай ветцы”.

Яго галаву напаўнялі розныя думкі, прыемныя ўспаміны, наіўныя ідэі, у якіх гадзіны проста раствараліся ў небыцці.

За дваццаць хвілін ён дарабляў дванаццаць маразільных камераў і адразу адвозіў цележку да Дзятла. Дзяцел жа, выконваючы ролю своеасаблівага арбітражу ў дачыненні Дзяніса, карыстаўся выключна лаканічнымі жэстамі і свісткамі: паказваючы куды неабходна ставіць цележку – тыцкаў сваім пальцам-алоўкам у патрэбным накірунку; звяртаючыся да Дзяніса – свістаў і кожны раз штосьці невыразна спрабаваў яму растлумачыць.

“Цікава, хто-небудзь акрамя Снайпера разумеў яго гаворку? Свістун ты, Дзяцел”, - думаў Дзяніс, забіраў парожнюю цележку і вяртаўся назад.

Неяк раз, адвозячы чарговую цележку, ён звярнуў увагу на мужчыну, які працаваў побач з Дзятлам. Гэта быў ужо сталы каржакаваты тып, які з твару дзіўным вобразам нагадваў італьянскага кінарэжысёра П’ера Паала Пазаліні(7). У мужчыны былі такія ж цёмныя валасы, такія ж сіцылійскія карыя вочы і такая ж сентыментальная ўсмешка. Яму дапамагалі два падлетка, падаючы ўнутраныя пластмасавыя “шафы”, якія ён змацоўваў з корпусам лядоўняў. Адзін з падлеткаў быў натуральным бландынам, а другі – аблавухі, як малпа. Дзяніс нават усміхнуўся, калі ўбачыў іх утрох, улічваючы той факт, што Пазаліні пры жыцці быў гомасэксуалістам, выпрабоўваючы слабасць да такіх жа юнакоў. Абодва падлетка сваім целаскладам папросту маглі сыйсці на вязняў Асвенцыма, а бландынчык сваёй зефірнай галоўкай яшчэ і на саладжавага херувіма. У тую ж хвіліну Дзяніс пераканаўся, што гэтая кампанія сапраўды заслугоўвала мянушкі. І пакуль ён зваротна адвозіў цележку, натхнёны разумовай тэрапіяй, яму ў галаву прыйшлі новыя імёны. Мужык, з пашанаю, атрымаў Пазаліні, бландынчык стаў Підарам, ужо занадта дзявочымі былі рысы яго твару, а аблавухі – Свістуляй, хаця спачатку Дзяніс хацеў назваць яго Дрышчом. Так, безумоўна, яму прасцей было да іх звяртацца. Вы толькі паслухайце – Пазаліні, Підар і Свістуля. Грэбаныя працаўнікі. У Дзяніса аж настрой падняўся.

Ён працягваў вырабляць камеры, завозіць цележкі і нечакана для сябе заключыў, што можна закінуць вучобу і ўладкавацца на “Тытан”. Больш таго, дзесьці, падсвядома, у глыбіні сэрца, ён разумеў, што канвеер робіць з яго дарослага чалавека, які больш-менш адказна ставіцца да сваёй працы і супрацоўнікаў. Ад падобнага доваду Дзянісу стала нязручна знаходзіцца ў межах свайго цела, яму захацелася залезці пад халодны душ і пазногцямі здзерці з сябе скуру. Ён вельмі не хацеў сталець. Гэта было кепска. Хіба можна здрадзіць уласным фокусам і не вылузвацца, каб навакольнае грамадства не круціла пальцам каля скроні, хіба можна перастаць выскаляцца перад сябрамі ці бацькамі, якія не будуць пытаць: “Калі ж ты ўрэшце станеш дарослым?”

“У дупу, - думаў тады Дзяніс, - я такі, які я ёсць”.

Але гэта было раней. А цяпер? Цяпер ён вагаўся і, мабыць, змог бы здрадзіць сабе, закрыць на ўсё вочы і стаць канфармістам.

На дзесяці хвілінным перапынку да яго падышла адна з жанчын, тая, што была з хлапечай прычоскай.

- Цяжка, бачу, табе, паставілі на адказную аперацыю. А ты, мусіць, першы раз на канвееры працуеш? – спытала яна здушаным голасам, як быццам яе шыю сціснулі рукамі і прымусілі гаварыць.

Дзяніс кіўнуў галавой.

- Ну нічога, спачатку заўжды цяжка – прывыкнеш.

Яна, відавочна, хацела распачаць з ім гутарку, аднак Дзяніс гэтага зусім не жадаў. Ён кіўнуў у чарговы раз і падумаў: “Чаго табе ад мяне трэба, карова, адчапіся?!”. І жанчына, нібы пачуўшы гэта ўслых, адразу адышла да свайго працоўнага месца.

На перапынку да дзяўчыны з адпаліраваным тварам падышла Курва. Яны аказаліся сяброўкамі. Курва лузгала семачкі і прыглушана аб чымсьці распавядала. Дзяніс асабліва не прыслухоўваўся, але заўважыў, што калі дзяўчыны смяяліся, іх нахабныя позіркі адсылаліся ў яго бок.

“Дурніцы”.

Між тым яму заставалася працаваць яшчэ дзве гадзіны. Лёгка. Ён нават быў гатовы адрабіць і трэцюю змену, аб гэтым сведчылі сілы, якія заставаліся ў яго целе і зарад дагэтуль небывалага энтузіязму. Тым больш боль у паясніцы знікла і хацелася стаханаўскіх рэкордаў.

Памятай! Праца – найвышэй усяго!

Чакаючы, пакуль прэс сцісне маразільную камеру, Дзяніс агледзеў сваё працоўнае месца і да яго дайшло, што яго разумовая тэрапія не кранула гэтых трох баб. Хоць яны і не цікавілі яго, як вартыя гэтай працэдуры персанажы, аднак усё ж з імі прыходзілася працаваць і неяк да іх звяртацца. Перад Дзянісам паўстала ежа для разважання на апошнія гадзіны працы.

Першай, каму ён вырашыў даць чарговае "паганяла", стала дзяўчына з адпаліраваным тварам. Дзяніс пачаў прыглядацца да яе твару.

“Што, калі пацалаваць яе? Хутчэй за ўсё на вуснах адчуецца прысмак бліноў з маслам”.

Яму было дастаткова ключавога слова і можна выносіць канчатковы вердыкт. Так і адбылося. Масла! Нічога больш ідыёцкага не здолеў бы прыдумаць ніхто. Але на гэта Дзяніс і быў тым Дзянісам, якім яго ведала пераважная большасць знаёмых.

Наступнай ахвярай стала жанчына, у якой быў непрыемны здушаны голас. Асацыяцыя прыйшла мімаволі.

“Нібы адчайнае мяўканне ката, якому дзвярамі прыціснула яйкі. Толькі яна жанчына! Значыць котка. Але ў коткі няма яйкаў! Халера з ёй. Буду называць яе Мявутам. “Гэй, Мявут, закрый рот, ці скажы выразней”.

Дзяніс стрымліваў сябе, каб не зарагатаць.

На трэцюю жанчыну, праўду кажучы, ён бы ніколі не звярнуў увагі. Ну акрамя, як на яе тлустыя  лыткі з варыкознымі венамі, што ставала гідка.

"Баба, тупая працоўная баба. Баба Зіна! Вось цікава, калі ў яе і імя адпавядае мянушцы”.

На гэтым і вырашыў.

Апошнія гадзіны паступова вычэрпваліся, а канвеер, з кожным імгненнем, здаваўся Дзянісу ідэальным месцам для працы, бадай, лепш, чым выкладаць у школе, што свяціла яму па дыпломе.

Пад канец змены да яго падышоў Снайпер  і працягнуў руку.

- Да заўтра, - сказаў ён, усміхнуўшыся.

Снайпер быў адзін з першых, хто падышоў да яго і на развітанне паціснуў яму руку.

“А гэты Снайпер не благі мужык”, - падумаў Дзяніс.

На гэтым працоўны дзень быў скончаны.

5

Субота. Тыдзень прайшоў незвычайна хутка, як звышхуткасны цягнік па рэйках. Дзяніс пераканаўся, што хапала яму толькі пераваліць мяжу серады, і тыдзень знікаў. Галоўнае, ператрываць панядзелак з аўторкам. І так паўсюль.

Наступныя будні праходзілі пад эгідай трэцяй змены, таму можна было расслабіцца.

Прачнуўшыся каля дванаццаці гадзін, Дзяніс адчуў боль у далонях, а калі паспрабаваў сціснуць кулак, боль праслізнула па ўсёй кісці. Вось і першыя прыкметы карпатлівай працы. Снайпер усё ж меў рацыю. Выходзіць, што канвеер, як болесуцішальны механізм – калі працуеш, стомленасць не адчуваецца, а калі выходзіш за прахадную, цела ные, нібы яго збілі палкамі. Канвеер выціскаў свае сокі. З такімі думкамі Дзяніс падняўся з канапы.

Дома нікога не было. Бацькі, хутчэй за ўсё, паехалі на кірмаш. На кухонным стале ён знайшоў цыдулку, у якой былі пазначаныя каардынаты сняданку. Дамашняя лядоўня прыўносіла сапраўднае замілаванне.

Прыняўшы душ, Дзяніс сеў за кампутар і зайшоў “у кантакт”. На яго старонцы было тры паведамленні. Першае ад Іры і два ад сяброў па ўніверсітэце. Іра напісала, што з’язджае з мамай на лецішча. Гэта істотна сапсавала Дзянісу настрой. Паведамленне не выратавалі нават смайлікі ў выглядзе пацалункаў. Аднак две наступныя навіны адразу ўзбудзілі ў ім хвалю энтузіязму. Гэтыя два паведамленні па-змоўніцку прывабілі яго думкі, яны бясспрэчна валодалі тэлепатычнай сувяззю, таму што змест іх дзіўным вобразам пераплятаўся.

Субота!

Ну як жа?

Надышоў час трэш-чаду.

У першым паведамленні Ілля ўрачыста абвясціў: “Сёння дзень сабутэльніка”. У другім Міха пазначыў: “Збор у семнаццаць нуль-нуль каля ўнівера”.

Дзяніс пачухаў патыліцу.

Ён як ніхто іншы ведаў, што калі збіраліся яго сябры – абавязкова будзе п’яны чад. Пазбегнуць які было немагчыма. Проста не рэальна. Гэта была своеасаблівая заканамернасць. Прынамсі, яна вынікала з апошніх групавых сабантуяў.

Яшчэ была жывая памяць аб разбітых галовах з мінулага дня студэнта, калі на плошчы Незалежнасці, каля помніка Леніну, схвоснуліся дзве варожыя групоўкі гістфака і матфака. Спачатку пілі разам. Потым хтосьці прапанаваў падужацца на руках. У выніку матфак прайграў. З’явілася крыўда. Далей па храналогіі Дзяніс убачыў перад носам нагу раз’юшанага матфакаўца і пачуў за сабой гук прамой падачы ў сківіцу. У тую ж хвіліну яму ж перапала па вуху, у вачах з’явіліся зорачкі, яго на некаторы час адключыла, а потым у стане афекту, Дзяніс пачаў махаць кулакамі. Як вынік: разбітае брыво і ранка на шчацэ.

У п’яным чадзе яны валтузіліся і паміж сабой. На першым курсе, распіваючы гарэлку непадалёк ад набярэжнай Свіслачы, Нікіта Ашукевіч схапіў “вавёрачку” і каб яго супакоіць, вынаходліваму Колю Зубайла прыйшлося выкінуць яго ў рэчку, каб той трохі астыў. Радасны Нікіта пераплыў на другі бок, дзе яго ўжо чакаў патруль тутэйшых мянтоў.

Ва ўніверсітэце гэтую кампанію спрабавалі абмінаць і лічылі пякельнымі гопнікамі.

А цяпер Дзяніс стаяў перад фактам і думаў: ісці ці не?

Адным з “залатых правілаў” кампаніі было – ніякіх дзяўчын.

Другім: калі ты прыйшоў - будзь добры нажэрціся.

“Іра з’ехала на лецішча”, - прыкінуў Дзяніс.

Што ж, гэта была субота і гэта павінен быў быць трэш-чад.

Дзяніс крутнуўся на крэсле і пракрычаў на ўвесь пакой:

- Я хачу, чорт пабірай, нажэрціся!

…Субота выдалася па-летняму спякотнай і асабліва ў цэнтры горада. Яшчэ здалёк, выходзячы са станцыі мятро “Плошча Леніна”, Дзяніс заўважыў каля галоўнага ўваходу ў БДПУ падазроную хеўру хлопцаў. Сэрца хвалююча закалола.

“Толькі без інцыдэнтаў”, - супакойваў сябе Дзяніс.

Ён ужо ўяўляў феерычную заслону ў канцы апошняга дзеяння п’янкі, разумеў і тое, што наступствы могуць прывесці да датэрміновага выключэння з шэрагаў працоўных мас, і тады не відаць Дзянісу яго гітары, таму каб, у лепшым выпадку, не патрапіць “на суткі”, неабходна было трымаць дыстанцыю.

“Толькі без інцыдэнтаў, добра?”

Падыходзячы бліжэй, ён разглядзеў хаўрус. Гэта былі: Коля Зубайла – дзікі гопнік з Маліна ўкі, Лысы – традыцыйны скінхэд і Жорык – псеўда-металіст. Яны, як прыкмеціў Дзяніс, былі ўжо нападпітку.

- О, Дзёня, прыйшоў, - загарлапаніў Коля, убачыўшы Дзяніса.

Дзяніс, падышоўшы, павітаўся з усімі і адразу спытаў:

- Яшчэ хто будзе?

- Я тэліў Андрэю, ён абяцаў сабраць усю банду.

Стаялі.

- Ну дык вось, - распачаў Коля, відавочна, перапыненую гутарку, - стаю я ля крамы, карашоў сваіх чакаю. Падыходзіць! З выгляду, звычайны мужык, чымсьці, падобны… ну на выкладчыка нашага па Гісторыі Беларусі… Пралецкага, во! А я, тыпа, ні пры справах, стаю і цыгарэту папальваю. Падыходзіць да мяне і пытае: “Малады чалавек, не дасцё прыкурыць?” Ну я што, дастаў запальніцу, працягнуў яму, ён узяў. Прыкурыў значыць, запальніцу вярнуў і стаіць побач, не адыходзіць. Я ад яго адвярнуўся, а ён мне і гаворыць: “Слухай, хочаш грошай зарабіць?” Хто ж не хоча, вядома я захацеў! Ну мы адышлі падалей. І гэты хрэн куртаты на вуха мне і кажа: “Давай я ў цябе адсмакчу”. Вось гандон пляшывы! Я рэзка ад яго адхіліўся і ўжо прыгатаваўся размажджэрыць яму лыч, а гэты афэлак гліст стаіць і ўсміхаецца мне. “Не пашкадуеш, - енчыць, - добра заплачу”. У мяне ўжо з рота амаль зрываецца сказаць: “Ды пайшоў ты, підар, на…”. Як у маім мозгу ўзнікае думка.

- Даць яму адсмактаць?! – перабіў Колю Лысы і ўсе зарагаталі.

- Га-га, ёлупы, далей слухайце… Карацей, я як быццам бы згадзіўся.

Хлопцы душыліся ад смеху.

- Мы зайшлі за краму, да кантэйнераў са смеццем і ён адразу ж на кукішкі сядае, і вусны свае паганыя аблізвае. Ведалі б вы, якая мяне тады агіда разабрала, усведамляючы, што перада мной сапраўдны закончаны гомік. Я і кажу: “Пачакай, мы не дамовіліся на конт грошай”. Ён увішна дастаў з кішэні кашалёк, зашамацеў у пальцах стодаляравай купюрай і паклаў зваротна. “Грошы ёсць”, - сказаў, - komm zu mir, мой хлопчык”. Тады я падышоў бліжэй, а той ужо і рукі да шырынкі маёй цягне…

Коля вытрымаў невялікую паўзу, паглядзеўшы, як хлопцы, паадчыняўшы раты, чакалі працягу гісторыі і выгукнуў:

- І як дам яму з калена па зубах, што аж іскры пасыпаліся, сур’ёзна! Ён, канечне, зваліўся на глебу і заскавытаў, як шчаня. Я маментальна абмацаў яго па кішэнях, знайшоў спачатку вадзіцельскае пасведчанне, потым дастаў і кашалёк, а ў ім, каб вы ведалі – пяць сотняў “грыноў”.

- Шкада, - цмокнуў Лысы, - я думаў ты ўсё ж дасі яму адсмактаць.

- Ды пайшоў ты, прыдурак! - гыркнуў Коля і піхнуў Лысага ў грудзі. Дзяніс з Жорыкам адразу перахапілі абодвух.

- Скажы мне яшчэ што-небудзь, крэтын! - крыкнуў з-за спіны Дзяніса Коля. У адказ Лысы, за спінай Жорыка, паказаў непрыстойны жэст языком за шчакой.

Праз некаторы час яны супакоіліся, але засталіся стаяць на адлегласці паміж хлапцамі.

- А што ты зрабіў з грашыма? – для разрадкі канфлікту спытаў Дзяніс.

- Сотню ў той жа вечар прапілі, а астатнія чатыры сабе пакінуў.

Потым падышоў Міха, следам за ім і Ілля з бутэлькай піва. Хлопцы павіталіся. Яны таксама былі падшафэ.

- Што нахмураныя такія, яшчэ не паспелі ўляпіць? – звярнуўся да ўсіх вясёлы Міха.

- Зараз я камусьці паміж вачэй уляплю! – чырванеючы, прашыпеў Коля.

- Стоп-стоп, - пачаў суцішаць яго Дзяніс, разумеючы, што зараз можа адбыцца выбух небывалай агрэсіі.

- А ты што вякаеш, талапень, табе таксама захацелася?! – Коля быў не на жарт раззлаваны.

- Калян, супакойся!

- Не выводзь мяне, Дзёня!

Дзяніс сумеўся і ўсе астатнія адчулі сябе прыгнечанымі. Аднак у ролі арбітражу выступіў усё той жа Дзяніс, хутка змяніўшы тэму.

- А Кірыл дзе? – спытаў ён у Міхі.

- Кірыла не будзе, ён паехаў у свае Дрысвяты, - адказаў, спахмурнеўшы Міха.

- Як заўжды, наш барабаншчык толькі на рэпы да нас ходзіць. З ім не пагаварыць і не выпіць…

- Галоўнае, каб у бас-бочку грукаў, - сказаў Ілля.

Адбылася кароткатэрміновая паўза.

- Ну і як ваш гурт? – пацікавіўся Лысы.

- Выдатна, толькі музыканты граць ня ўмеюць, - падагульніў Міха.

- Ой, слухай, хто б казаў! – абурыўся Дзяніс.

- Ды годзе вам ужо, усе мы іграць ня ўмеем, - заўсміхаўся Ілля.

- Добры, я бачу, у вас гурт, - прасіпеў Жорык.

- Панкі галімыя, - буркнуў Коля, - шансон трэба слухаць, вось у мяне на мабіле класная тэма ёсць.

Коля дастаў з кішэні мабільнік і ўключыў Круга. Усе зрабілі выгляд, што слухаюць, каб, не дай Божа, пакрыўдзіць Яго Вялікасць гопніка з Малінаўкі.

Праз колькі часу да ўніверсітэту падышлі Андрэй з Сяргеем, Юрась, Косця і Лёня (у побыце празваны Кіслотнікам). Дарэчы, гэтую мянушку ён атрымаў ад Андрэя. Справа ў тым, што ў юначыя гады Лёня практыкаваў на сабе ўжыванне разнастайных галюцынагенаў, асаблівую ўвагу надаючы фенабарбіталу.

Банда з адзінаццаці чалавек была ў зборы і рушыла ў найбліжэйшую краму, якая знаходзілася ў гандлёвым цэнтры “Сталіца”. Узялі мінімальна: сем бутэлек гарэлкі, напою “Сняжок” і батон з маянэзам; Дзяніс купіў пачак чыпсаў. Потым на выхадзе вырашалі

куды пайсці. Аднагалосна пагадзіліся накіравацца да ўніверсітэцкага стадыёну. Дзень быў цудоўны і гэта было, бадай, найлепшым месцам для распівання алкаголю. Вакол стадыёна раслі каржакаватыя клёны, а каля сцяжынак, якія праходзілі паміж імі, меліся старыя, аблезлыя лаўкі.

Да стадыёну ішлі па купках, кожны ў сваёй міні-кампаніі, якая знайшла агульную тэму для гутаркі. У пакетах бразгаталі бутэлькі і прахожыя міма людзі разумелі, што хлопцам сёння будзе весела.

Горад патанаў у салодкай млявасці, а ў паветры адчуваўся водар ліпы ўперамешку з машынным палівам і людскім потам. Але не зважаючы на такі экстравагантны сінтэз, паветра гэтае хацелася прагна ўдыхаць. У Дзяніса аж апетыт з’явіўся.

На стадыёне аказалася амаль бязлюдна, не ўлічваючы пары смаркачоў, якія ганялі мяч па полі, уздымаючы на ім клубы пылу. Далей, непасрэдна, куды імкнуліся хлопцы, па сцяжынках кляновага масіва, праходзілі людзі: хтосьці выгульваў сабаку, а хтосьці проста шлындаўся без справы. Знайшоўшы прыдатную лаўку ў засені пад галінамі старога клёну, хлопцы разбілі свой лагер. Адтуль адчыняўся добры від на стадыён і на ПТВ, якое размяшчалася побач. Часам, хлопцам выпадала гуляць у футбол з тутэйшымі пэтэвушнікамі. Пэтэвушнікі, часцей, прайгравалі, матывуючы гэта тым, што самыя лепшыя гульцы не прыйшлі і таму… Смешна было слухаць, калі прадставіць, што ў футбол гуляў Дзяніс і астатнія персанажы тыпу Міхі і Іллі.

Разліваў па традыцыі Андрэй, як самы старэйшы, яму той вясной споўніўся дваццаць адзін год. Усе пабралі пластыкавыя шкляначкі і, атрымаўшы першыя пяцьдзесят грам, без асаблівага тоста ўжылі гарэлку. Па нутры расцяклася пякучая вадкасць, паступова развязваючы хлапцам языкі.

- Прыкіньце, майго братана на зоне ў актывісты выбілі. Я ў поўным шоку. Каб ён ды пад мусарамі хадзіў!.. Газетку нам надоечы прыслаў, а там яго фэйс задаволены. Чаго ён радуецца?! Спярша быў у поўнай адмове, а цяпер… Я падзяліўся навінай з адным знаёмым дзецюком, дык ён мне заявіў, што калі Толік адкінецца, адразу начэша яму храпу. Мы з маці напісалі брацельніку ліст, ну вядома, старая там соплі свае гаротныя размазала, а я ўжо ў самым канцы прыпісаў, каб ён ачухаўся і выбіў гэтую дурнату з галавы, - сказаў Андрэй.

- Я чуў, што актывісты там не ў пашане, - як звычайна з’едліва прамовіў Сяргей.

- Актывісты – казлы, няма чаго з адміністрацыяй супрацоўнічаць, - дадаў разгублены Андрэй.

Выпілі яшчэ пяцьдзесят. Праз колькі хвілін аказалася, што ў партфелі Юрася ляжаў не дапіты ім двух літровы слоік піва. Андрэй, Дзяніс, Юрась і Кіслотнік адразу адмовіліся запіваць гарэлку “Сняжком”. Што тычылася Дзяніса, то ён на дух не пераносіў гэты напой – пасля яго ў роце заўжды заставаўся горкі прысмак таннай гарэлкі. Для пэўнасці праверылі яшчэ і партфель Дзяніса, спадзяючыся, што і ён мог хаваць там што-небудзь карыснае. Аднак акрамя кніжак і залікоўкі нічога вартага не знайшлі.

- Тады на халеру ты яго з сабой цягаеш? – спытаў Коля.

- Звычка, - усміхнуўся Дзяніс, - проста мне патрэбна адчуванне вагі.

- Я таксама не магу без свайго заплечніка, асабліва, калі па кірмашы ходзіш, сціброеш пару яблыкаў у чорнадупых і пайшоў сваёй дарогай, - сказаў Кіслотнік.

- Слухай, Дзёня, пакладзі ў яго мае ключы, а то сёння ўсякае можа быць, вываляцца яшчэ з кішэні, - сказаў Коля. – Ён у цябе хоць не дзіравы?

- Крыўдзіш, кладзі – усё, як у камеры захоўвання.

- За адно і мае ўкінь, - звярнуўся да Дзяніса Кіслотнік, - а то ў мяне кішэні дзіравыя.

Гэта нікога не здзівіла.

Выпілі зноў і Дзяніс адчуў, як яго розум спакваля пачынаў паглынаць хмельны тлум. З часам знікла абаянне, навакольная рэчаіснасць і непасрэдна часовы арыенцір. Уся ўвага была сканцэнтравана на падобным сабе.

- А я сёння ва ўніверы Рагуліна бачыў, калі адліць забягаў, - сказаў Жорык. – Ашываўся там каля раскладу з нейкай выдрай.

- Такое адчуванне, быццам усе прэподы на студэнтках памяшаныя, - сыкнуў Андрэй.

- Добра, што не на студэнтах, - засмяяўся Юрась.

- Курвіносы! - ашчэрыўся Косця.

- Хаця, ёсць некаторыя асобы. Успомнім, да прыкладу, першы курс, - сказаў Дзяніс і выкінуў наперад руку, як багемны паэт, які збіраецца дэкламаваць свае вершы. – Шаноўнае спадарства, калі ласка, паглядзіце на гэты малюнак. На ім юны Апалон. Звярніце ўвагу, як ён грацыёзна стаіць на двух нагах, прасачыце, як скульптар удала ўвасобіў у гэтым барэльефе боскую моц: кожны мускул напружаны, позірк рашучы. Ах, якая вытанчанасць, ах, якая мастацкая дасканаласць, ах, я зараз вывергну сабе ў порткі…

Усе зарагаталі.

- Малініцкі! – буркнуў Коля. – Той яшчэ стары підар.

І пакуль хлопцы прыняліся абмяркоўваць выкладчыка па гісторыі старажытнай Грэцыі і Рыму, Дзяніс пабег пад дрэва. Да яго далучыўся Міха. Яны знайшлі самы вялікі клён, расшпілілі шырынкі і заняліся бессаромны ўгнаеннем глебы. Дзяніса ўжо добра хістала, але на нагах ён пакуль яшчэ трымаўся.

- Слухай, Дэн, у цябе бывала калі-небудзь такое адчуванне, што ты разумеў: табе трэба дзейнічаць, браць усе ў свае рукі, пад свой кантроль, але смеласці асабліва не хапала? - спытаў яго Міха, упіраючыся адной рукой у тоўсты камель і, пагойдваючыся на месцы.

- Заўсёды, - адказаў Дзяніс, разумеючы куды хіліць Міха і, трохі падумаўшы, дадаў: - Часцей у прысутнасці Іры. Я ведаю яе не так ужо і даўно, але за гэты час паспеў яе добра вывучыць. Аднак, бывае, глядзіш ёй у вочы, а ў яе яшчэ позірк такі незвычайны, ну гэта бачыць трэба, як у Аліса з краіны цудаў, якая сутыкнулася са звышнатуральным, і разумееш: ні чорта ты яе не ведаеш і страшна нават робіцца. Такое адчуванне, нібы памяншаешся ў памеры на яе вачах, ператвараешся ў бездапаможную істоту. Гэта зусім не з-за розніцы ўзросту. Проста, часам, здаецца, што мы зусім розныя, а потым праходзіць імгненне і я ўжо не бачу больш ідэальнай пары на гэтым свеце. Ці, можа, я блага разбіраюся ў жанчынах?..

Вярталіся назад моўчкі, гаварыць не хацелася адначасова абодвум. Тым часам каля лаўкі адбывалася наступнае відовішча: Коля, а гэта ўжо было пачаткам п'янага чаду, адціскаўся на кулаках, Андрэй з Сяргеем, Лысым і Жорык, відавочна, здавалі крос, бегаючы вакол стадыёну, а астатнія вялі гучную спрэчку. Дзяніс і Міха падышлі да апошніх.

- Косця, ну адкажы мне, навошта ты з намі заўжды па-беларуску размаўляеш, - амаль не навісаў над ім расчырванелы Юрась. – Мне вось, напрыклад, брыдка чуць гэты нязграбны дыялект рускага прыслоўя ўсходне-заходняга краю.

- Па-першае, - абурыўся Косця, - гэта мова вялікалітоўская, а не нейкі там дыялект рускай, і тым больш выдуманай беларуская мовы, як, у прыватнасці, і назва гэтай краіны, дарэчы, прыдуманая рускімі ў XVI стагоддзі.

- Гэта я і без цябе ведаю.

- Па-другое – яна славянская, шчыльна звязаная з традыцыямі старажытных ліцвінаў і іх моўнымі асаблівасцямі, возьмем хаця б “дзеканне” і “цеканне”. У параўнанні з рускай мовай, што мае ў сваім фразеалагізме сумесь татарскіх і фіна-вугорскіх запазычанняў, нашая мова можа з пашанаю насіць званне самай крыштальна чыстай старажытнай мовы сярод усходніх славян. На вялікалітоўскай мове вялося справаводства ВКЛ – носьбіта нашай сапраўднай нацыянальнай дзяржаўнасці, якую цягам часу спрабуюць адправіць у нябыт.

- Ужо адправілі: спярша Польшча, а потым Вялікая Руская Імперыя.

- Руская імперыя – турма народаў! - вякнуў Кіслотнік.

- Па-трэцяе, - не звяртаючы ўвагі на заўвагі, рашуча наступаў Косця, - ад вас, Юрый, цягне маскальскім шавінізмам, які не мае пад сабой больш-менш аргументаваных падстаў.

- Гэта не шавінізм – гэта ісціна. Няма ніякіх беларусаў і ўкраінцаў – ёсць агульная вялікаруская нацыя.

- Як можа нацыя складацца з расава непаўнавартасных? І ўвогуле, што ты маеш на ўвазе пад тэрмінам “рускія”, сучасныя рускія, вядома; таму што, не сакрэт, справядліва будзе называць рускімі ці русічамі сучасных украінцаў.

- А вас маскавітамі! – закончыў за Косцю Кіслотнік.

- Што ты вярзеш, што за эпічнае, што нават за былiннае глупства лунае ў тваёй галаве, што за вар'яцкія думкі… - твар Юрася набыў чырвонае адценне. – Такога ніколі не будзе, чуеш!

- Паглядзім, - рашуча сказаў Косця. - Створым канцэнтрацыйныя лагеры для ўсіх непаўнавартасных славян!

Юрась адышоў і нервова запаліў. Дзеля пабрацімства налілі яшчэ па пяцьдзесят, Косцю налілі ўсе сто і горача выпілі.

Сваю порцыю Дзяніс не закусваў. Гэта значна падсякло яго свядомасць. Неўзабаве яму пачало здавацца, што яго голас робіцца непадуладны яго розуму, і выдае на экзістэнцыяльным узроўні невядомыя рэчы, больш таго, Дзяніс не пазнаваў свайго голасу – ён быў чужым, як быццам набожны бас манаха, які чытае верш сілаба-танічнага складання. На імгненне Дзяніс адключыўся. У памяці з'явіліся дзіркі. Збольшага ён памятаў, як да іх падышлі стомленыя бягуны. Потым Коля, адціснуўшыся пяцьдзесят раз, прапанаваў усім падужацца.

“Ну вось, пачалося!”

- Падыходзь па адным, - закрычаў асілак з Малінаўкі, - будзем здаваць на крапавы бярэт!

Жаданне пазмагацца выявілі Дзяніс, Міха, Андрэй, Лысы, Жорык і Сяргей. Разумнейшыя адышлі падалей. Першым, як не дзіўна, наляцеў Коля, абраўшы ахвярай нізкарослага Сяргея. Аднак Сяргей аказаўся ўстойлівым хлопцам і Коля, каб не страціць аўтарытэту заўзятага вулічнага байца, пачаў ужываць кропкавыя ўдары нагамі і завяршыў паядынак дакладным хукам у сківіцу суперніка, які ў тое ж імгненне быў абезрухомлены. Андрэй спужаўшыся, закрычаў:

- Калян, стапэ!

На Колю адразу ж наваліўся Лысы, і пачаў прэсаваць яго мясістыя плечы абцасамі сцёртых камілотаў, за Лысым на Колю рынуліся Жора, Дзяніс і Міха. Андрэй паспрабаваў спыніць бойку, адцягваючы ўсіх за рукі, але незаслужана атрымаў сіняк пад вока. Дзяніс таксама быў абяззброены, прачуўшы ўдар у вобласць сонечнага спляцення і, адышоўшы ад кучы на колькі крокаў, паваліўся ніц… Усё. Далей ён, роўным рахункам, нічога не памятаў, як скрозь зямлю праваліўся.

Прыйшоў у сябе Дзяніс, адчуваючы, што ванітуе, седзячы на лаўцы. Зладзіўшы вынітавыя пазывы, ён паглядзеў па баках і ўбачыў, што на другім канцы лаўкі ляжаў непрытомны Андрэй, а пад ім утварылася гадкая лужына, якая нагадвала карціну мастака-імпрэсіяніста, ад чаго ванітавыя пазывы ў Дзяніса ўзнавіліся з новай сілай. Праз колькі часу яму стала лягчэй і ўзнікла пачуццё цвярозасці. Неяк падняўшыся з лаўкі, Дзяніс зразумеў, што ўсё яшчэ знаходзіцца каля стадыёна. Трохі воддаль стаялі Коля, Сяргей, Міха, Ілля і Лысы з Жорыкам. Палілі.

- А дзе астатнія? – спытаў Дзяніс.

- Разыйшліся, сказалі, што піць з намі болей не будуць. Мы – гопнікі і быдла, - сказаў Міха.

Цяжка было з імі не пагадзіцца. Дзяніс паглядзеў на незадаволены твар Колі, разбіты лоб Сяргея і сіняк пад вокам у Лысага.

- Што ж… трэба выпіць, - прапанаваў Дзяніс.

- Было б што, - сказаў Ілля.

- Тады трэба ісці ў краму , - настойваў Дзяніс.

- Хопіць на сёння, - сказаў Коля, злаcліва гледзячы на Лысага.

Дзяніс адышоў, зноў сеў на лаўку і запаліў. Алкагалічная анестэзія, якая здаралася з ім ня часта, але калі яна ўсё ж такі здаралася, звычайна, на раніцу, Дзяніс размаўляў з унітазам, паглынула яго свядомасць сівой імгой. Ачухаўся ён, калі ўся кампанія падыходзіла да Кастрычніцкай плошчы. Горад ужо засмоктвала ў вячэрні прыцемак. Паўсюль гарэлі яскравыя агні і туды-сюды снаўдалася чырвонапысая моладзь. У Дзяніса ўзнікла адчуванне лёгкай эйфарыі – ён прачнуўся і свята толькі пачыналася. Падыходзячы да плошчы з боку Дома Афіцэраў, хлопцы заўважылі людскі гармідар каля рэкламнага экрана, па якім транслявалі футбол. Людзі пілі, закусвалі і напружана назіралі за відовішчам, якое разгортвалася на зялёным полі. Падышоўшы бліжэй, Дзяніс заўважыў, што ўвесь натоўп быў разгалінаваны на дзве часткі: бліжэйшыя да экрана, а гэтая частка складала пераважную

большасць, трымалі ў руках расейскія сцягі, а ўжо за імі, над астатнімі, не больш пяцідзесяці чалавек – развіваўся гішпанскі сцяг. Усё мацней чулася: “Ра-се-я!” І, дзесьці, у самым хвасце: “Оле-оле-оле-оле, Гішпанія, давай!”

- Ну, што, пайшлі бліжэй да экрану, - прапанаваў Андрэй.

- Не, я пайду да гішпанцаў, - сказаў Міха.

- Што так? – не зразумеў яго Сяргей.

- Я хачу быць у меншасці, а за Расею скандуе большасць.

- Ну і здраднік, мы з Расеяй адзін брацкі народ, - сказаў Коля.

- А спрачаемся, што вашая Расея прадзьме, - умяшаўся Ілля. – Я ў футболе не разбіраюся, аднак што такое Расея ў параўнанні з Гішпаніяй.

- Ведаеш, Гітлер таксама шмат чаго думаў, - сказаў Андрэй і звярнуўся да Дзяніса: - Ну а ты?

- Пляваў я наогул і на Расею, і на Гішпанію, футбол мяне ніколі не цікавіў, аднак пры такім падыходзе я згодзен з Міхай – “расейцаў” больш, я падтрымаю меншасць.

Яны разыйшліся ў розныя бакі.

Падыходзіць да гішпанскіх балельшчыкаў прыходзілася праз рускіх. Хлопцы пераступалі цераз не дапітыя бутэлькі з гарэлкай, міналі ачмурэлых гопнікаў, якія крычалі невыразныя клічы, пырскаючы слінай у твар, скінуўшы майкі і, выставіўшы на агляд свае піўныя пуза. Урэшце, яны дабраліся да сваёй мэты. Гішпанскія балельшчыкі пілі піва; размалявалі твары ў гішпанскі нацыянальны колер, а барадаты мужык у шлеме канкістадора трымаў у руках яскравы гішпанскі сцяг. Хлопцы падышлі бліжэй і далучыліся да балельшчыкаў. Праз колькі часу яны ўжо заўзята скакалі разам з імі і выкрыквалі: “Гішпанія, давай! Верым у перамогу!” За найбольш актыўнае гарлапанства, хлопцаў нават пачаставалі дармавым півам. Дзяніса па-сапраўднаму каўбасіла, Ілля пазнаёміўся з п’янай малалеткай, Міха размаўляў з барадатым мужыком аб трагічнай гісторыі ВКЛ. Усё выглядала даволі міралюбна, пакуль Расеі не ўкацілі першы гол. Дзяніс заўважыў, як натоўп наперадзе рэзка замер і па плошчы пракаціўся гуд расчаравання. У тую ж хвіліну “гішпанцы” радасна закрычалі, і Дзяніс убачыў, як з боку русейскіх фанатаў да іх паляцелі шкляныя бутэлькі. “Гішпанцы” адказалі тым жа. Зусім недарэчы Дзянісу захацелася схадзіць па патрэбе. Выйдучы з шэрагаў балельшчыкаў, ён адчуў, што прыціснула яго вельмі моцна, а бегчы ў задворак было занадта позна. Позіркам ён знайшоў, недалёка ад Палацу Рэспублікі, кветнік з featured рознакаляровых сцяжкоў, сярод якіх перавага была аддадзена чырвоным, зялёным і белым. Аднак Дзяніса гэта не збянтэжыла. Ён рашуча пабег у той бок. Аснову кветніка складалі кардонныя транспаранты, на якіх было напісана: “Квітней Беларусь”. Дзяніс не знайшоў часу, каб агледзецца і шпарка пералез праз кветнік. Слухаючы прыемнае рыпенне сцяжкоў пад павевам лёгкага ветрыку, Дзяніс расшпіліў шырынку і на працягу некалькіх хвілін атрымліваў неймаверную асалоду. З плошчы пачуліся крыкі, відаць, пачалася бойка.

“Зараз-зараз, яшчэ крыху, вось я скончу…”

Пералазячы зваротна, Дзяніс па іроніі зачапіўся нагой за цвік у транспаранце і павіс на версе кветніка.

- Табе дапамагчы?! - пачуў ён кплівы голас знізу. Прыгледзеўся – мянты.

Зарад адрэналіну дазволіў яму адразу вызваліцца з пасткі і саскочыць на зямлю. Перад Дзянісам узнікла два міліцыянера: старшына і малодшы сяржант. Старшына нагадваў друзлага цюленя з мулявінскімі вусамі, а малады сяржант лыпаў вачыма і нервова азіраўся па баках.

- Ну і што ты там рабіў, сябрук? – спытаў старшына.

- Мачыўся…

- Цікава. А што іншых месцаў няма, акрамя, як каля Палацу Рэспублікі?

Дзяніс паціснуў плячамі.

- Вось што, малады чалавек, - сур’ёзна вымавіў старшына, - калі б гэта было якое-небудзь завуголле, мы б цябе не чапалі, але, прабач мяне – тут, і яшчэ на сімвал нашай суверэннай рэспублікі!

Дзянісу раптам захацелася смяяцца.

“А што, крута, я, як самы радыкальны панк абмачыў дзяржаўную сімволіку”.

На яго твары ўзнікла ледзь прыкметная ўхмылка.

- Што будзем рабіць з гэтым парушальнікам? – спытаў старшына ў сяржанта.

Той спярша асалапеў, а потым стрымана прамовіў.

- Як звычайна.

- Грошай у мяне няма! - умяшаўся Дзяніс.

- Ты толькі паглядзі на яго, - абурыўся мент. – Мы сумленныя санітары гэтых вуліцаў, хабары не бяром, але для такіх як ты ў нас маецца асобнае пакаранне. Сяржант!

Сяржант узяў Дзяніса пад руку і ўтрох яны пайшлі за Палац Рэспублікі. На працягу шляху Дзяніс чуў, як з рацыі старшыны бесперапынна бразгаў мужчынскі голас: “Першы, першы, я – трэці, каля Дома Афіцэраў п’яная бойка, паўтараю…” Аднак мянты маўчалі.

- Добра, - сказаў старшына ўжо за палацам, - цяпер павярніся.

Дзяніс разгубіўся.

- Што вы збіраецеся… - роспачна запярэчыў ён.

- Не хвалюйся, колькі ўдараў дубінкай табе не перашкодзяць, паварочвайся, - буркнуў сяржант. – Ці ты жадаеш у апорку, а адтуль дакумент па месцы працы, ці вучобы.

Дзяніс пакорліва павярнуўся і знерухомеў у чаканні, бы перад растрэлам.

- Ну, хто першы? – пачуўся за яго спінай голас сяржанта.

- Давай ты, - сказаў старшына.

У наступнае імгненне Дзяніс прачуў на сваёй спіне такі моцны ўдар, што злёгку пахіснуўся, але раўнавагу не згубіў.

- Стаяць, смоўж, яшчэ за мною слова! - гыркнуў старшына.

Дзяніс дакрануўся да спіны - яна гарэла, нібы яе аблілі варам.

- Гатовы?!

Дзяніс заплюшчыў вочы.

- На-а-а!!!

Другі ўдар быў мацнейшым і прыйшоўся па нырках. Дзяніс сціснуў зубы, каб не ўскрыкнуць і рэзка прысеў на кукішкі. Яму хацелася ванітаваць.

- Усё, хлопец, бывай. Мы цябе не бачылі і ты нас таксама, - засмяяліся мянты.

Калі супрацоўнікі міліцыі зніклі, Дзяніс зваліўся на калены і, амаль не цалуючы глебу, званітаваў, ужо ў другі раз за гэты вечар. У спіне пякло, а ў нырках было адчуванне вакууму. Хацелася заплакаць, але ён стрымаў сябе і сеў на азадак. Толькі цяпер Дзяніс заўважыў, што непадалёк ад яго, на лаўцы, сядзела парачка размалёваных эма.

- Ты ў парадку? – спытаў ці то хлопец, ці то дзяўчына. – Мы ўсё бачылі і можам даць паказанні супраць пярэваратняў у пагонах.

Дзяніс падняў руку ўверх – сусветны знак “усё о’кэй” і паціху ўстаў. Трэба было выносіць адтуль ногі, каб у эма ад убачанага, незнарок, не здарылася сардэчнага прыступу.

Вяртаўся назад ён, як марафонскі бягун: хуткасна і з нясцерпнай прагай помсты. Помсціць хацелася ўсім, а ў першую чаргу таму, хто думаў па-іншаму. На плошчы, тым часам, разгарнулася наступнае відовішча: “амапаўцы” урэзаліся клінам паміж русейскімі і гішпанскімі балельшчыкамі, пры чым тварамі яны стаялі да “гішпанцаў”, і незаўважна пачалі адціскаць іх у бок мятро.

На экране высвяціўся агульны лік: 2-0 у карысць Гішпаніі.

“Ах, вунь яно што!”

Дзяніс адразу далучыўся да “гішпанцаў” і пачаў прасоўвацца наперад. Там ён адшукаў Міху з Іллёй, якія ў п’яным чадзе разам з мускулістымі мужыкамі крычалі аб відавочнай перамозе і выкідвалі “русейцам” факі. Дзяніс быў салідарны і за адну хвіліну, нецэнзурна выказваючы сваю незадаволенасць, сарваў сабе голас. З боку “расейцаў” фанатаў узмацнілася хваля абуранасці.

- Фу, адстойнікі, здраднікі!!! – крычалі яны і размахвалі расейскімі сцягамі.

Вочы Дзяніса наліліся крывёй.

- Маскалі! – крыкнуў ён у адказ і выставіў у іх бок кулак.

Гэта, як потым высвятлілася, не спадабалася “расейцам”.

- Стойце спакойна і не правакуйце іх, - сказаў адзін з “амапаўцаў”.

- Мы на сваёй тэрыторыі, - адгукнуўся Дзяніс.

- Я сказаў спакойна стой! На сваёй ён тэрыторыі… - прамыкаў двухметровы шланг і ў нос Дзянісу стрэльнула дробам смуроду.

Спакваля “амапаўцы” адціскалі гішпанскіх балельшчыкаў усё бліжэй да мятро, атачыўшы іх паўколам, у некаторых выпадках нахабна штурхаючы людзей у плечы. Магчыма, “расейцы” прачыталі ў гэтых дзеяннях сваю перавагу, і ў гэты ж момант пачалі закідваць “гішпанцаў” чарговым шквалам пустых бутэлек. Дзяніс разам з астатнімі балельшчыкамі паспрабаваў прарваць шэраг “амапаўцаў” і распачаць бойку, але іх высілкі маментальна спынілі балючыя і досыць тактычныя ўдары дубінак. Усіх, як тупы статак жывёлін, уціснулі ў пераход мятро і пастроілі ў два рады, паставілі з заду і з пераду міліцыянераў, і некаторы час пратрымалі ў стане поўнай разгубленасці. Дзяніс разумеў, што гэта рабілася выключна дзеля іх бяспекі, міліцыянеры чакалі пакуль “амапаўцы” разгоняць расейскіх балельшчыкаў у супрацьлеглы бок, каб пазбегнуць сур’ёзных сутыкненняў.

Ужо ў пераходзе Дзяніс успомніў, што пакінуў на плошчы свой партфель, а Міха з Іллёй, хутчэй за ўсё, не паспелі яго падабраць. І гэта было б паў бяды, - у партфелі засталіся ключы Колі і Кіслотніка, а таксама залікоўка і карысныя кнігі.

Стаяць прыйшлося яшчэ хвілін дзесяць, пакуль “амапаўцы” не далі распараджэння рухацца наперад. Дзяніс падбег да аднаго мянта з рацыяй і сказаў, што забыў на плошчы свае рэчы. Яго пусцілі. Выйдучы з пераходу, ён убачыў бязлюдную і ўшчэнт забруджаную смеццем плошчу. Падбегшы да месца, дзе стаялі зусім нядаўна гішпанскія балельшчыкі, Дзяніс, акрамя парожніх бутэлек і ваніт, нічога не знайшоў. Ні там, ні далей.

- Што здарылася?! – прагучаў голас Іллі і Дзяніс азірнуўся.

Пагойдваючыся, як дзве таполі на Плюшчысе, за ім стаялі Ілля з Міхай.

- Мы ўбачылі, што цябе пусцілі на плошчу і пайшлі следам, - бы апраўдваючыся, сказаў Міха.

- А вы партфель мой не бачылі?

- Не, - сказаў Міха.

…Вярталіся дадому ўдваіх: Дзяніс і Ілля. Выйшлі з мятро на станцыі “Кунцаўшчына” і пайшлі пешшу.

- У партфелі засталіся ключы Колі і Кіслотніка, - разважаў Дзяніс.

- Коля, відаць, моцна раззлуецца, - невыразна вымавіў Ілля.

- Пляваць, там была мая залікоўка, гэта ж прыйдзецца зноў бегаць па ўсіх прэподах…

Яны ішлі ўздоўж па вуліцы, яшчэ не працверазеўшы і таму крычалі: “Гішпанія перамагла, выкусіце, маскавіты!”

Не гледзячы на непрыемны зыход суботняй гулянкі, Дзянісу хацелася працягу, ён пакуль не ўсведамляў маштабу праблемы, у якую трапіў, таму вырашыў адкласці ўсё на раніцу. Разам з Іллёй яны спыніліся папаліць на школьным стадыёне і іх асабістая размова расцягнулася яшчэ на працяглы час. Дзяніс прыйшоў дамоў у тры гадзіны ночы, выпіў з-пад крана вады і паваліўся на канапу, заснуўшы сном немаўля.

Назаўтра яму трэба было выходзіць у ноч. Пачыналася трэцяя змена.

6

Ён паглядзеў на шкляны дах – у ім бачыўся кавалак базальтавага неба, на якім дрыжучы, мігацелі самотныя зоркі. Гадзіннік паказваў дваццаць тры сорак пяць. Трэцяя змена. Трэці цэх і больш нікога. Завод здаваўся пустым і толькі з трэцяга цэху даносілася рэха працы. Працавалі першыя дзве веткі канвеера і "лінія Краўса" агульнай колькасцю пяцьдзесят чалавек. Усе былі на сваіх месцах і кожны выконваў сваю аперацыю.

Пасля дзённага адпачынку рукі Дзяніса адразу адчулі боль і першыя паўгадзіны яму прыйшлося не салодка, прымацоўваючы да маразільных камер пляскатую папярочку, узнаўляць свае ўменні па ўласна выпрацаванай методыцы. Справа ішла марудна. За сваёй спінай Дзяніс, час ад часу, чуў бязглуздую размову паміж Мявутам і Маслам на фоне дурнаватага смеху Зіны. Снайпер згінаў металічныя лісты і пераважна маўчаў. Відаць, часаць языкамі з гэтымі каровамі яму было не цікава. Дарэчы, і з астатнімі працоўнымі такой ахвотай ён асабліва не вылучаўся. У чымсьці Дзяніс пазнаваў у Снайперы і сябе, - такім ён мог стаць у сталасці, канечне, калі застацца на заводзе.

Перад Дзянісам, як на далоні ляжалі дзве канвеерныя веткі; ён бачыў і Ласуна, і Гестапа, Грышу і брыгадзіра Холадава, Пазняка і Курву, а таксама змрочнага Пазаліні, Свістулю, Підара і Дзятла. Часам у яго полі зроку мільгала постаць майстра Прошыны. Усе астатнія працоўныя складалі масоўку – візуальны задні фон. Такім чынам канвеер падтрымліваў сваё існаванне ноччу.

Першую цележку Дзяніс запоўніў за паўгадзіны, што было адносна нізкім тэмпам. Усталяваная планка дваццаці хвілін была няшчадна парушаная. Ён адвёз цележку да Дзятла і ўзяў парожнюю. Вяртаючыся назад, Дзяніс неспадзявана зачапіў ёй унутраныя "шафы", якія на пры канцы другой веткі выстаўляў дзелавіты Свістуля і абярнуў колькі з іх на падлогу. Свістуля незадаволена ўзяўся падымаць "шафы".

- Прабач, - сказаў Дзяніс.

- У наступны раз глядзі куды едзеш, - зласліва сыкнуў Свістуля.

"А ён не добразычлівы хлопец".

Підар праводзіў Дзяніса сарамяжлівым позіркам і на апошнім імгненні, калі Дзяніс ужо збіраўся адводзіць вочы, усміхнуўся яму куткамі вуснаў. Усмешка атрымалася з'едлівай. З такой усмешкаю, напэўна, забойцы наносяць сваім ахвярам смяротны ўдар.

Такой была трэцяя змена.

Дзяніс вярнуўся на працоўнае месца і з імпэтам узяўся за справу. Яшчэ адчуваўся галаўны боль пасля ўчорашняга трэш-чаду. Ён прачнуўся ў тры гадзіны дня і амаль да вечара праляжаў у канапе. Цела ныла разам з сумленнем. К чорту канвеер!

Ты не можаш!!! Доля слабакоў кідаць адказную працу на самым пачатку. Ты не слабак! Насупраць – ты адзін з нас.

………………………………………………………………………………………………………………

Дзяніс бег па доўгім калідоры. Ён здаваўся бясконцым і Дзяніс адчуваў, нібы знаходзіцца на бегавой дарожцы. Хтосьці ўключыў яе і яму прыйдзецца бегчы, пакуль яна не спыніцца.

"Вось, што чакае цябе наперадзе, - казаў тагасветны голас. – Нявызначаная будучыня. Ты вечна бяжыш, не ведаючы ад каго і не ведаючы куды. І хіба гэта тваё прызначэнне? Я адкажу за цябе – НЕ! Ты варты большага.

Усе людзі імкнуцца вызначыць сэнс свайго нікчэмнага жыцця. Дурныя, яны не разумеюць, што МЫ даўно за іх ужо ўсё вырашылі. Некаторыя з вас яшчэ горача вераць у тое, што чалавек здзейсніў мадэрнізацыю і індустрыялізацыю. Лухта! Гэтыя працэсы звыш чалавека і не маюць да яго ніякага дачынення. Вы ўсяго толькі марыянеткі ў руках вышэйшага розуму. Аднак тыя, хто падсвядома дапамагаюць гэтаму працэсу, аўтаматычна робяцца яго цэлым, яго целам і крывёй. СІСТЭМА! Канвеер!!! Канвеер!!! Канвеер!!!"

Ён бег па канвеернай стужцы.

"Я – частка аднаго цэлага", - паўтараў Дзяніс.

Паступова рух яго запавольваўся, ногі цяжэлі і ўрэшце ён спыніўся.

- Гэй… ты чуеш, што я кажу, гэй?! – перад Дзянісам стаяў майстар Прошын, а побач з ім вірлавокі мужык у цвідавым пінжаку.

Дзяніс залыпаў вачыма і адразу ж прыйшоў у сябе.

- Як праца? – відавочна, у другі раз спытаў Прошын.

- Усё о'кэй, лепш і быць не можа, - заявіў Дзяніс.

- Нейкі ён стомлены, - пагардліва гледзячы на яго, сказаў Прошыну вірлавокі. Прошын, як заўжды, пачырванеў.

- З табой усё ў парадку? – спытаў майстар.

- Норма, - Дзяніс паспрабаваў надаць голасу як мага больш сур'ёзнасці.

Майстар пацінуў плячыма і пайшоў далей, вірлавокі ж падазрона ўтаропіўся на Дзяніса, які прымацоўваў папярочку. І ўсё ішло, як па маслу; за гэтых колькі дзён ён навучыўся амаль дасканала выконваць сваю аперацыю, што пры выпадку змог бы працаваць з завязанымі вачыма. А вірлавокі, увесь гэты час, здавалася, чакаў, калі Дзяніс зробіць памылку. Урэшце, зразумеўшы, што ён ведае сваю справу, падышоў да яго бліжэй і ціха сказаў:

- Ты мне не падабаешся. Ведай, што я сачу за табой. Ты мяне зразумеў?!

Дзяніс вымушана кіўнуў.

Як толькі вірлавокі выдаліўся, да Дзяніса падышоў Снайпер.

- Што ён табе сказаў? – спытаў ён.

- Ды на конт маёй фізіяноміі і тое, што я яму не падабаюся.

Снайпер усміхнуўся.

- О, гэта ён казаў усім у гэтым цэху. Яму тут акрамя свайго чорнага азадка ніхто не падабаецца.

Яны засмяяліся.

- А, дарэчы, хто гэта?

- Фарух Ібрагімавіч – начальнік змены. На дадзены момант ён у цэху самы галоўны. Аднак ты не хвалюйся, Ібрагімавіч зараз разам з Максімам  пройдзецца па ўсіх участках, а потым, пойдзе спаць у дыспетчарскую.

- Слізкі тып, - заўважыў Дзяніс.

- Яго тут ніхто трываць не можа.

Снайпер абнадзейліва патузаў Дзяніса за плячо і вярнуўся на працоўнае месца. У чарговы раз Дзяніс пераканаўся, што Снайпер, бадай, адзіны працоўны на заводзе, з кім можна пагаварыць, і ў яго адчынілася другое дыханне. Ён працаваў бездакорна аж да самага абеду, які пачынаўся ў тры гадзіны ночы.

У абед Дзяніс выйшаў з цэха на вуліцу, узяў зсабойку і сеў на самую далёкую лаўку, адасобячыся ад астатніх працоўных.

Паветра было халодным і Дзяніс задрыжаў, асабліва пасля выпітага соку. У траве трашчалі конікі і гэта было так незвычайна на агульным фоне цьмяных абрыс завадскіх будынкаў і агароджы, якая адлучала яго ад гораду.

А горад спаў, трызніў у сне, няўцямна шаптаў і толькі здалёк праспекту даносіўся шум машын. Дзяніс адчуў гармонію. Ён любіў цішыню, а калі яна зыходзіла з таго месца, дзе яе, па сутнасці, не магло існаваць, гэта прыводзіла яго ў сапраўднае замілаванне.

Аднак паўгадзіны праляцела незаўважна. У глыбіні завода зарыпеў яго механізм, як звер у цёмным гушчары, учуўшы паблізу ворага. Канвеер прагнуў працы.

Заставалася дзве гадзіны.

Дзяніс вырашыў патраціць іх на сваю карысць. Трэцяя змена ідэальна для гэтага падыходзіла. І ён пачаў свядома халтурыць, не да канца прымацоўваючы папярочку на маразільніках. Дарэчы, так у цэху працаваў не толькі адзін ён. Усе заводы-гіганты Беларусі выкарыстоўваюць экстэнсіўны шлях вытворчасці. Дзяніс толькі дапамагаў гэтаму працэсу. Яго не цікавіла, што такая прадукцыя не будзе карыстацца попытам, як не цікавіла гэта, у прынцыпе, і ўсіх астатніх працоўных. Дзяніс марыў, каб адна з такіх лядоўняў трапіў якому-небудзь беларускаму абывацелю і ў хуткім часе зламалася. Невядома, якія сілы ўздзейнічалі на яго, выклікаючы ў ім столькі негатыву, нянавісці да звычайных людзей. Відаць, Дзяніс, як і ўсе працоўныя паспеў падхапіць сіндром, які вызваліў яго ад адказнасці перад краінай, перад грамадствам, урэшце перад самім сабой. Гэты сіндром быў незразумелай анамаліяй. Тут, у межах заводу слова “якасць” разумелася зусім па-іншаму, калі ўвогуле разумелася. Спытайце аб ёй у працоўнага са стажам. Дзяніс назіраў за працай жанчын, назіраў за працай Снайпера – нідзе не было праявы дасканаласці, паўсюль віднелася хібнасць, на якую ўсе зачынялі вочы. А навошта?!

Цележка няякасных маразільнікаў была загружаная і Дзяніс павёз яе да Дзятла. Адлегласць паміж веткамі канвеераў была, прыкладна, чатыры метра. Цележка амаль заўжды пасяхова праязджала паміж імі, за выключэннем тых момантаў, калі Дзяніс выпадкова чапляўся яе верхам за падвесны канвеер. На гэты раз праезд быў перагароджаны шэрагам лядоўных "шафаў", якімі займаўся Свістуля. Ён стаяў да Дзяніса спінай, а Підар з’едліва яму ўсміхаўся.

“Яны задумалі пацягацца са мной, забаўнікі недаробленыя”, - падумаў Дзяніс і пайшоў напрасткі да іх.

- Слухай, хлопец, гэта твае "шафы"? – звярнуўся ён да Свістулі.

Свістуля азірнуўся, выканаўшы грымасу неразумення і пакруціў галавой.

- А чые?

Ён пацiснуў плячыма.

- Але ты з імі працуеш, будзь добры, адстаў іх у бок, я не магу праехаць.

- Лёха, памажы мне, - паклікаў Свістулю Пазаліні і той пакорліва пайшоў да яго.

“Вось яно што”.

Підар па-ранейшаму ўсміхаўся і Дзяніс, прапалены яго підарскай усмешкай, прыняўся самастойна разбіраць утвораны затор.

Дзяцел, як заўжды прасвістаў сабе пад нос і жэстам рукі паказаў, куды трэба паставіць цележку. У гэты момант Дзянісу захацелася разбіць яму носапырку, каб пунсовая кроў запэцкала яго сінюю робу і бетонную падлогу цэха.

Настрой быў сапсаваны, чаго Дзянісу зусім не хацелася пасярэдзіне глыбокай ночы на ненавісным заводзе. Яшчэ яму не хацелася і таго, каб над ім пачалі кпіць завадскія смаркачы, фанабэрыста абводзячы яго вакол пальцаў. Ён адчуваў, што сваімі дзеяннямі яны нібы павучалі яго.

Недзе глыбока ўнутры сваёй сутнасці Дзяніс разумеў сваю маладушнасць і кволасць перад грамадствам. Іншы раз ён усялякім чынам спрабаваў перадужыць гэтую негатыўную якасць свайго характару, але ў самыя адказныя моманты ў яго гэта не атрымлівалася і ўсё страхі выпаўзалі вонкі. Дзяніс нагадваў крохкую саломінку, якая ламалася пад уздзеяннем пэўных абставінаў і недарэчных учынкаў. Ужо потым ён па колькі разоў абдумваў свае дзеянні, чырванеючы пры гэтым, і не разумеў, чаму зрабіў менавіта так. Дзяніс нават даваў сабе жалезны зарок, што промаху больш не паўторыцца і ён ніколі не дазволіць іншым кепска з сабой абыходзіцца. Але, як следства – кожны раз ён даваў слабіну.

Вярнуўшыся з парожняй цележкай да працоўнага месца, Дзяніс убачыў майстра Прошына. Вакол яго стаялі Мявут, Масла і Зіна; Снайпер безуважна назіраў за іх гамонкай здалёк.

- Што за вечная навала з гэтым бракам, калі ў нас з’яўляюцца новенькія! - здушаным голасам абуралася Мявут. – Я дзесяць гадоў вырабляю гэтыя маразільнікі, а цяпер вы гаворыце брак!

Прошын залыпаў чырвонымі вачыма, відаць, яго пабудзіў брыгадзір Холадаў, паведаміўшы, што бабы пусцілі ў вытворчасць брак і стрымана сказаў:

- Так і ёсць.

Жанчыны на імгненне замаўчалі.

- Максім, чаму вы да нас так чапляецеся? – гулліва ўшчуваючы майстра, спытала Масла. – Мы жанчыны такія крохкія стварэнні, хіба вы не ведаеце, што да нас патрэбен іншы падыход.

Яна прыціснулася да майстра, абняла яго за стан і пачала “ставіць яму вочкі”. Такую практыку Масла, хутчэй за ўсё, пераняла ў Курвы. Прошын, здзіўлены такім абыходжаннем, пачырванеў, як бурак, нібы да яго ніколі ў жыцці не датыкаліся жанчыны і, хутка вызваліўшыся з яе пут, з ноткай далікатнасці, прамовіў:

- Я вас папярэдзіў. І яшчэ, у гэтым месяцы ўсім будзе зніжана прэмія…

Тут зноў не вытрымала Мявут.

- Ну што гэта такое?!. Што за завод такі?!. Гармідар адным словам!!! Цьху…

Дзяніс, вядомая справа, разумеў, што ўся прэмія Мявута і астатніх жанчын, не выключаючы Снайпера, пойдзе ў яго заробак. У нашай краіне летняя праца студэнтаў на розных прадпрыемствах і будоўлях толькі заахвочваецца. Гэта вельмі радавала Дзяніса і яму захацелася нахабна засмяяцца Мявуту ў твар.

Калі Прошын сышоў, жанчыны яшчэ доўга размаўлялі наконт відавочнай несправядлівасці, пасылаючы ў спіну Дзяніса незадаволеныя позіркі, а потым разышліся па працоўных месцах. Дзяніс адчуў, як яго сапсаваны настрой ураз адыграўся на ўсеагульнай абуранасці жанчын і ён на некаторы час забыў аб Світулі, якога, дарэчы, пасля змены намерваўся адправіць у накдаўн.

Вырабіўшы чарговую партыю маразільнікаў, Дзяніс рашуча павёз цележку да Дзятла. Ён ужо разлічваў на любыя праявы самадзейнасці, але не да такой ступені. У гэты раз шлях яму перагарадзілі дзве цележкі, на якіх віселі ўнутраныя камеры для "шафаў". Стаялі яны як раз каля пачатку другой канвеернай веткі, дзе працавалі Пазаліні, Світуля і Підар. Дзяніс зразумеў, што такім чынам цудоўная тройца хацела намацаць яго слабое месца, трапіць у Ахілесаву пяту. Спачатку, як гэта звычайна здаралася, ён разгубіўся, пачырванеў і не мог сканцэнтраваць думкі, каб вывесці іх у адну формулу далейшых дзеянняў. Але раптам вочы яго напоўніліся крывёй, твар затросься і ён ужо больш не аддаваў справаздачы сваім дзеянням. З боку ўсё выглядала, як быццам бы раз’юшаны бык пусціўся бадаць людзей па вузенькіх вулачках Мадрыду. Дзяніс разагнаў сваю цележку і ўрэзаўся ёй у барыкады на сваім праездзе. Ад моцнага сутыкнення дзве цележкі павольна раз’ехаліся ў розныя бакі і Дзяніс спакойна праехаў далей. Уся тройца моўчкі ўтаропілася на яго, зусім не чакаючы такога разгортвання падзей. Але аслупяненне працягвалася нядоўга. Як самы старэйшы загаманіў Пазаліні:

- Ты што робіш, вар’ят? – і голас яго гучаў няўпэўнена.

Дзянісу было дастаткова кінуць на Пазаліні свой ваўчыны позірк, каб ён разгубіўся і сцяў зубы. Бачачы такі зыход, Світуля прабурчаў сабе пад нос невыразны мацюк і хутка адвярнуўся.

- Што ты сказаў? – дзёрзка звярнуўся да яго Дзяніс.

Світуля зрабіў выгляд, што не пачуў.

- Я, здаецца, у цябе пытаю! Ты, дрышч, у сіняй майцы!

На гэты раз Світуля азірнуўся. Яго вочы былі перапоўненыя лютым шаленствам, вусны па-эпілептычнаму затрэсліся і ён раз’юшана гаркнуў:

- Пайшоў ты, мудак! Ты ўжо дагаварыўся, табе гамон, сука! Можаш тут болей не паказвацца! Я ведаю на якім ты раёне жывеш, ведаю вашага старэйшага! Сіплы, табе не аб чым не гаворыць?! Не?! Ты ў поўнай дупе, асёл!!!

Такім чынам Світуля ва ўсёй красе выказаў перад Дзянісам усю сваю гоп-сутнасць. Хаця, першапачаткова, Дзяніс у гэтым зусім не сумняваўся.

- А што, самастойна разабрацца не можаш?

- Хлопцы-хлопцы, цішэй, усе разборкі пасля працы, - умяшаўся Пазаліні, а потым сказаў Дзянісу: - Дзяцюк, я не ведаю, як цябе завуць, але ты не маеш рацыю. Хіба нельга было папытаць нас, каб мы адставілі гэтыя цележкі?

Дзяніс, паглынуты злосцю, нічога яму не адказаў і завёз цележку да Дзятла. Той, убачыўшы непрыемны інцыдэнт і, магчыма, ужо пабойваючыся Дзяніса, не тое, што не прасвістаў, нават не адважыўся паглядзець у яго бок. Дзяніс паставіў цележку ў свабодным месцы, узяў парожнюю і вярнуўся назад.

Больш да сямі раніцы яму ніхто не перашкаджаў. Ён спакойна праязджаў каля незадаволенага Світулі, бачыў Підара, які, як быццам бы, папярхнуўся сваёй тупой усмешкай і каля вонкава спакойнага Пазаліні. У глыбіні душы Дзяніса радавала, што ён усё ж такі выцер ім насы. Але, вядома, у яго ўзнікла і невялікае адчуванне згрызоты сумлення за сваю дзёрзкасць, у тую ж чаргу ён разумеў, што калі людзей своечасова не ставіць на месца, яны абавязкова сядуць на шыю. У гэты раз ён канчаткова вырашыў ніколі і не перад кім не прагінацца, і для гэтага, у прынцыпе, быў не благі пачатак.

Змена скончылася невялікім здарэннем. Мявуту стала блага і яна страціла прытомнасць. Жанчыны адразу падбеглі да яе, пасадзілі на зэдлік, на якім яна, звычайна, праводзіла перапынкі і паклалі на лоб мокрую анучку. Усе спасаліся на ціск, які мог узнікнуць ад працоўнай нагрузкі і стомленасці. Але Дзяніс скеміў, што Мявут, хутчэй за ўсё, знервавала скарачэнне прэміі. Майстар Прошын вінавата паглядзеў на яе стан і параіў схадзіць да лекара, каб ёй выпісалі заслужаны бальнічны.

Тады ніхто не ведаў, як ёй пашанцавала.

Пасля працы Дзяніс сеў у амаль пусты 29 аўтобус. Ніякай разборкі са Світуляй, як апынулася, не адбылося. Той неяк хутка збег, а шукаць яго па гардэробу не ўяўлялася патрэбнай неабходнасцю. У салоне аўтобуса было цёпла і Дзяніс засынаў. Сонца бліскала ў вочы. Ногі нылі ад стомы. У той момант шлях да дому здаваўся такім доўгачаканым, што хацелася расчулена расплакацца. Яшчэ нідзе пакуль Дзяніс не адчуваў сябе такім адзінокім, як на заводзе. У кожнага чалавека ёсць месца, куды б яму ніколі не хацелася вяртацца. У Дзяніса такім месцам стаў канвеер. Праз дрымоту ён думаў аб гэтым і згаджаўся, але не на ўсе сто адсоткаў, прыблізна на палову; другая частка яго розуму абураючыся, папярэджвала: не смей! Канвеер!!! Канвеер!!! Канвеер!!!

## 7

Па лесвіцы на дванаццаты паверх трэба было падымацца асцярожна, каб не запэцкацца ў пабел і не быць пачутымі суседзямі. Акустыка ў гэтых цагляных сценах была вельмі добрай. Іра трымала Дзяніса за руку і яны, стрымліваючы смех, падымаліся ўверх па

прыступках. На дванаццатым паверсе стаяла рашотка, дзверы ад якой былі расчынены, а на сцяне побач тлустым шрыфтам выведзенае рускае слова з трох літар. Яны зайшлі за рашотку, ступаючы па разбітым шклу, якое прыемна хрумсцела пад нагамі, надаючы іх вандраванню эстэтыку андэграўнду. Іра спрытна ўзабралася на жалезную лесвіцу, што выходзіла на дах і, штурхнуўшы рукамі люк, адчыніла шлях наверх. Сіняе неба так і ўпілося ў вочы, нават усмактала іх сваім яркім святлом. Дзяніс адчуў пах руберойда. Іра паднялася вышэй па прыступках, высунуўшыся на дах па пояс, потым развяла рукі ў бок, салодка пацягнулася і сказала:

- Цудоўная панарама.

Дзяніс падышоў да лесвіцы і, схапіўшы Іру за ногі, пачаў яе скалынаць.

- Давай лезь далей, мне адсюль нічога не відаць.

- Паглядзі пакуль на маю попу, - гулліва прамовіла яна.

- Попа, што трэба, але зараз я хачу ўбачыць, што дзеецца там наверсе.

- Вось так заўсёды. Ты эгаіст, Дзяніс...

Яна вылезла на дах. Дзяніс вылез следам. Сонца стаяла ў самым зеніце, было спякотна і паўсюль лунала цяжкае паветра. Пах руберойда адчуваўся яшчэ мацней. Дзяніс акуратна зачыніў за сабой люк, а Іра кінулася да краю даха.

- Асцярожна, рыжая, у мяне ногі падсякае, калі ты так носішся! – сказаў Дзяніс.

- Гэта ўсяго толькі дванаццаты паверх, - усміхаючыся, пралепятала Іра.

- Можна лічыць, што трынаццаты.

- Не мае значэння. Паглядзі адсюль на горад, як дзівосна!..

Дзяніс асцярожна пачаў да яе набліжацца.

- Ды не бойся, дурнік, смялей, - засмяялася яна.

- Трэба паступова, не спяшайся...

Іра працягнула яму руку і ён, узяўшыся за яе, моцна сціснуў ёй далонь. Яна падвяла Дзяніса да краю.

- Глядзі...

Ён нерашуча паглядзеў уніз. З гэтага, можна лічыць, самага высокага будынка на вуліцы Ілімская і, бадай, ва ўсім раёне, было відаць усё. Быў відаць дом, у якім жыла Іра, яе школа, узятая ў кольца шэрых несамавітых дзевяціпавярховікаў. Жылыя дамы апярэзвала дарога, якая цягнулася далей у горад, віднеўся ўніверсам “Рублёўскі”, рэкламны шчыт, на якім было напісана "За Беларусь". Быў відаць нават сектар драўляных хат з усходняга пасёлка, а ў Дзяніса за спінай адчыняўся выгляд на цёмна-зялёны яловы лес. У навакольным краявідзе адчувалася эклектыка ідыліі і індустрыялізму ў суровым спалучэнні вёскі і горада. Хаця Мінск гэта і ёсць вялікая вёска. Яшчэ не хапала каровы, якая б клыпала па асфальце з бомай на шыі і басаногай бабкай побач, імкнучыся хоць дзе-небудзь перайсці дарогу, паганяла яе пугай. Дзяніс набраў поўны рот сліны і з усяе моцы плюнуў уніз. Сліна, нібы па спіралі, паляцела ўніз і растварылася дзесьці ля шостага і пятага паверхаў.

- Свіння, - сказала Іра.

Дзяніс не звярнуў увагі на заўвагу, паглядзеў у далеч, а потым сеў на гарачую паверхню даху, абапёршыся спінай аб парэнчы.

- Ангарская – самы адстойны раён у Мінску, нават Зялёны Луг не такі адстойны, як здаецца з першага погляду.

- Што ты маеш супраць майго раёна? - імітуючы мужчынскі голас, сказала Іра, потым ацэньвальна паглядзела на яго, і села побач у паставе лотаса.

- Глядзі не запэцкайся.

- Адчапіся.

Некаторае імгненне яны маўчалі.

- А вось на Кунцаўшчыне на шмат лепш, - каб працягнуць спрэчку, сказаў Дзяніс. – Там, прынамсі, цывілізацыя адчуваецца.

- Вядома ж, ёсць мятро і рынак, - засмяялася Іра і прытулілася да яго пляча.

- Еўропа.

- Ага.

- Дарэчы, калі правесці паралель і падзяліць Мінск на дзве часткі: заходнюю і ўсходнюю, адразу можна звярнуць увагу на істотныя адрозненні. Так, захад - чысты і новы, а ўсход – твая Ангарская, “савок” адным словам.

- Выключэнне мае Уручча, там зараз такія дамы адбудоўваюцца, не горш вашых, што ўжо казаць аб Нацыянальнай Бібліятэцы.

Дзяніс мацней прыціснуў да сябе Іру.

- Аднак “Алмаз” пабудавалі на балоце, а гэта ўжо з ліку брутальнай архітэктурнай задумы. Тое самае, калі такая прыгожая дзяўчына, як ты, гучна сапсуе паветра, скажам, у вучэбнай аўдыторыі.

- Дурак, - сказала Іра і злёгку пхнула яго ў грудзі. – Толькі не забывай, што і Кунцаўшчына была вёскай на балоце.

Дзяніс усміхнуўся.

- Чаго варта яшчэ адна назва – хутар Серабранка...

- Эх, Менск, Менск - уздыхнула Іра.

- Эўропа, - перадражніў яе Дзяніс.

А потым яны, па нейкай падсвядомай інэрцыі, разам заключылі:

- Жыве Беларусь!

Гэтыя два словы на непрацяглае імгненне павіслі ў паветры, а потым растварыліся ў вышыні.

- Ведаеш, - задуменна распачаў Дзяніс, - калі я адшукаў цябе ў кантакце і ўбачыў фотку, дзе ты стаіш на фоне бела-чырвона-белага сцяга, доўга смяяўся.

- Чаму?! – здзівілася Іра.

- У цябе там такі выраз...

- Што з ім не так?!.

- Ты нагадала мне еўрапейскую турыстку, якая прыехала ў Мінск, уся такая гламурная girl, убачыла апазіцыйны мітынг і вырашыла сфатаграфавацца, як каля гістарычнага помніка. – Дзяніс трохі счакаў, а потым іранічна дадаў: - Каб потым сведчыць у падтрымку руху незадаволеных у краіне. Гэтакі шпег у спадніцы.

- Не праўда. Мы з Настай ішлі пасля параў, вось яна мяне і сфоткала.

- Гэта ты потым будзеш на следстве распавядаць.

Іра цмокнула языком і фанабэрыста сказала:

- У такім разе, мяне будзе вельмі цяжка раскусіць. Ты толькі паглядзі ў мае вочы.

І яны ўтаропіліся адзін у аднаго: яна - у яго чорнае мора бяздонных карых вачэй, ён - у яе крыштальна чыстае возера бліскучай сіні. Першым позірку не вытрымаў Дзяніс і адвёў вочы. Гэта было яго невялікай слабасцю. Наогул, калі хто-небудзь знаходзіўся з ім у кантакце, то мог заўважыць, як бегаў позірк Дзяніса, доўга не затрымліваючыся на суразмоўцы. Складвалася такое ўражанне, што Дзяніс саромеецца.

- Затое я ведаю цябе наскрозь, - зразумеўшы, што прайграў дуэль позіркаў, сказаў Дзяніс.

- Наскрозь? - абурылася Іра і Дзянісу не спадабаўся такі тон. – Ты, мой хлопчык, глыбока памыляешся, калі робіш такія гучныя высновы. Наскрозь, - пагардліва паўтарыла яна.

- Так, наскрозь, - не збіраючыся здавацца, заявіў ён.

Дзянісу захацелася падражніць Іру, паказытаць яе слабыя месцы.

- Я ведаю кожную радзімую плямку на тваім целе, ведаю твой пах, тваю хаду, міміку, твой голас, смех, нават твой нумар тэлефона... І гэта яшчэ не ўсё... Працягваць далей?

Іра расчаравана ўздыхнула.

- Так я і думала: на твар менавіта ўсе знешнія фактары. І гэты чалавек сцвярджае, што ведае мяне наскрозь?

Дзяніс ніколі не любіў, калі ў размове з ім пытанне ставілася да ўмоўнай трэцяй асобы. Але Дзяніс ніякім чынам не хацеў сварыцца і асабліва ў такі дзень.

А дзень быў шыкоўны, як і сотні іншых, праведзеных ім разам з Ірай. Таму Дзяніс згадзіўся, калі яна прапанавала яму залезці на дах гэтага дома. Бліжэй да абеду Іра патэлефанавала яму, сказала, што ёй непамерна адзінока, і надта хочацца выйсці на вуліцу пагуляць. Яна, вядома, разумела, што, магчыма, абцяжарвае яму адпачынак пасля працы, але калі ёй быў патрэбен кантакт, ён цалкам разумеў яе і гатовы быў сарвацца да яе хоць з іншага кантынента.

Іра дастала з пачка цыгарэту і запаліла. Яна запаліла з першага курсу, яшчэ тады, калі Дзяніс вучыўся ў школе. Ён не пытаў яе, па якой прычыне яна падсела на гэты лёгкі наркотык. Яго гэта проста не турбавала. Хаця сам ён не паліў і таму ў нашым постсавецкім грамадстве дзіўна было бачыць дзяўчыну, якая паліць побач з хлопцам абыякавым да цыгарэт. Дзяніса ніякім чынам не бянтэжыў гэты факт, наадварот – з цыгарэтай у руцэ, Іра здавалася яму яшчэ сэксуальней і ўзбуджала ў яго галаве фрывольныя фантазіі. Аднак бацькі Дзяніса, прытрымліваючыся кансерватыўных нораваў, не падзялялі яго запалу да Іры. Дзяўчына, якая паліла, выключалася з складу нармальных. Уся яе прывабнасць і абаяльнасць адразу ж перакрэсліваліся знакам забароны. Дзяніс, быўшы прыстойным палюбоўнікам, далёка пляваў на гэтае табуяванне і бацькоўскія забабоны.

Яна запаліла і яе твар набыў рысы задумення. Сур’ёзнай Іра выглядала, як дама высакароднага прозвішча. Ёй вельмі пасавала гэтая маска. Да ўсяго яна была досыць фотагенічнай. З любых ракурсаў яе твар выглядаў захапляльна прывабным.

- На той фатаграфіі ў цябе быў зморшчаны лоб, - сказаў Дзяніс.

Іра скірпаціла нос і лагодна вымавіла:

- Сонца свяціла мне прама ў вочы.

- І ўсё ткі на тым фотаздымку ты падобная не на турыстку, - не зважаючы на яе словы, працягнуў ён.

- А на каго ж?

- На чалавека, які не ведае, што яму рабіць далей…

- Я скажу болей, - ажывілася яна, - я нагадваю матылька, які лунае ў паветры, памятаеш яго рухі, - яны такія імпэтныя. Вось і я. Магчыма, мне вядома, што рабіць далей, але я яшчэ пакуль не вырашылася для далёкага палёту.

- Матылёк, звычайна, цягнецца да святла.

- Ты не падумай, я зусім не хачу апраўдваць апазіцыю, а калі б і жадала, то ўжо нейкім іншым чынам. Тым больш апазіцыя ўжо не тая, якой была да 1997 года.

- Кучка купленых блазнаў, - падсумаваў Дзяніс.

- Але яна хаця б неяк супрацьстаіць гэтаму рэжыму.

- А мне, шчыра кажучы, пляваць, што на адных, што на другіх, я заўжды буду супраць усіх гэтых выскачак, палітыка – гэта поўная лажа.

- І гэта, дарэчы, тыповая беларуская ментальнасць.

- Памыляешся, гэта зусім не мае дачынення да беларуская ментальнасці. Гэта, хутчэй, мая пазіцыя, я бліжэй да ментальнасці анархічнай, калі так можна выказацца, чым да беларускай. У іх, як бачна, ёсць падабенства, але ў адрозненне ад першай, анархічная ментальнасць схільная да формаў пратэсту: “Ненавіджу дзяржаву і ўсё такое”. Беларуская ментальнасць заключаецца ў больш маральных асновах, якія падрывалі на працягу шматлікіх стагоддзяў і асабліва ў трыццатыя гады.

- Проста так склалася гістарычна, што нашая краіна апынулася паміж двума светамі: еўрапейскім і азіяцкім. І гэтыя абставіны пакінулі адметныя сляды лавіравання паміж абодвума. Мы цалкам не належым да аднаго з іх. Адсюль паходзіць сепаратызм думак, і як следства – у нас няма адзінай рухаючай сілы, якая б здолела аб’яднаць народ. Таму для такіх краін уласцівы дэспатызм.

- Эх ты, апазіцыянерка, - гарэзліва вымавіў Дзяніс. – Дэспатызм ёй не падабаецца, на гэтым дэспатызме сучасная Беларусь і трымаецца.

Іра пагардліва затушыла недапалак аб нагрэты руберойд.

- Скажы мне, а чаму ты тады ў сваім гурце па-беларуску спяваеш?

Пытанне збянтэжыла Дзяніса і ён злёгку пачырванеў.

- Што, не маеш адказу?

- Гэта проста адна з формаў пратэсту…

- Каму?

- Шэраму, аднолькаваму грамадству, у сваёй большасці трасянкавобразнаму і русіфікаванаму.

- А ты кажаш "апазіцыянерка". Тваё нутро, па сутнасці, сепаратыўнага ладу. Дысідэнт, так бы мовіць, - сказала Іра, а потым дадала: – Дык як жа ты можаш судзіць аб чалавеку, калі сябе толкам не ведаеш?

Дзяніс падняўся на ногі і абапёрся азадкам аб парэнчы, так што яго постаць стала прыкметнай, калі б хто-небудзь паглядзеў на дах з нізу.

- Праўда я зачапіў цябе сваім нахабствам, сцвярджаючы, што ведаю цябе наскрозь? - спытаў ён.

- Ні кропелькі, - адказала Іра.

- Кінь, зачапіў жа?..

- Хутчэй, ты паказаў сваю недасведчанасць у гэтай досыць асабістай прасторы.

- Ты хочаш сказаць, што за восем месяцаў свайго партнёра нельга вывучыць?

- Безумоўна. Таму што гэта немагчыма. Немагчыма нават на працягу ўсяго жыцця.

- Лухта, - сказаў Дзяніс.

- Я сур'ёзна. Людзі жывуць, пражываюць жыццё і большасць з іх ня ведае навошта, навошта гэта патрэбна? Яны жывуць, скажам, дзеля працягу роду, меншасць з іх па ўзаемным каханні, і зусім невялікі адсотак проста, таму што адчувае ў гэтым патрэбу. Гэта як тое, што ты не можаш сказаць аб чым я зараз думаю.

- Што я дурань?!

Іра ўсміхнулася.

- Ты, я бачу, мой хлопчык, вельмі высокага аб сабе меркавання.

- Добра, аб чым жа?

- Аб апельсіне.

- Чаму аб апельсіне?

- Проста так, мне захацелася апельсіна і ў гутарцы з табой я падумала, як цудоўна было б зараз з'есці сакаўную дольку.

Вецер авеяў спіну Дзяніса прахалодай. Разам з тым у яго горле з'явіўся камяк і яму патрэбен быў некаторы час, каб праглынуць яго. Горла апякло чымсьці горкім.

- О'кэй, - вытрымаўшы кароткатэрміновую паўзу, сказаў Дзяніс. – Паслухай мяне ўважліва. Калі я ўпершыню цябе ўбачыў, там у студэнцкім скверыку, ну ты памятаеш, з табой яшчэ Насця са Светай былі. Дык вось, менавіта тады я зразумеў, што ты будзеш маёй. Па вачах. Я быў трохі нападпітку, але гэта толькі падбадзёрвала мяне. Потым я колькі разоў бачыў цябе ва ўніверсітэце, ты не звяртала на мяне ўвагі, непрыступная дзіва, так бы мовіць. І гэта, шчыра кажучы, працяглы час збівала мяне з панталыку. Я не мог адважыцца. Тым больш ты старэй мяне на два гады. Дапамог "кантакт". Я, вядома, не ў захапленні ад гэтых віртуальных прастораў, але рэч гэта сапраўды карысная. У "кантакце" я цябе і адшукаў, і першае, што кінулася мне ў вочы, гэта твае інтарэсы: тыя кнігі і фільмы, якія ты пазначыла сваімі ўлюбёнымі: Джордж Оруэл(8), Кундэра(9), Картасар(10), Кустурыца(11), Паланскі(12), Дэвід Лінч (13), Фасбіндэр(14). І ведаеш, я адчыніў цябе ў новым свеце. Адразу ж знікла ўражанне аб легкадумнай ванільнай похве з пранізлівымі сінімі вачыма. Перада мной паўстала дапытлівая дзяўчына з не затлумленай усялякім смеццем цвярозай свядомасцю, дзяўчына з вытанчаным густам, у маім разуменні, правільнай эстэтычнай накіраванасцю і светлымі поглядамі на жыццё. Я знайшоў свой ідэал.

Іра шчыра ўсміхнулася, а пасля паднялася на ногі. Падышла да Дзяніса, ласкава ўзяла яго загрудкі.

- Скажы, што падлізваешся?

Ён схаваў ад яе свой позірк, а яна, у сваю чаргу, не спускала з яго вачэй.

- Ну давай, скажы гэта...

- Я проста цябе кахаю… вось і ўсё…

Іра выпусціла яго з сваіх рук і падышла да краю даху. Горад перад ёй застыг у невядомым чаканні, а вецер растрапаў яе рыжыя, і асабліва пад сонцам, яскрава-рыжыя пасмы доўгіх валасоў, пакінуўшы на іх таямнічае пасланне. Яна выцягнула вусны ў трубачку і павольна выпусціла з роту сліну. Сліна расцягнулася і марудна паляцела ўніз, зачапіўшыся пасярэдзіне свайго шляху на адным з падваконнікаў. Потым яна выцерла далонню вільгаць на вуснах і спакойна загаварыла:

- А я ўбачыла цябе ўпершыню ў тым пераходзе каля ўваходу ў гандлёвы дом "Сталіца". Ты стаяў там са сваімі сябрамі. Божа, якія ж яны гідкія. Ты істотна сярод іх вылучаўся хаця б сваім знешнім выглядам. Я, дарэчы, і цяпер не разумею, чаму ты з імі звязаўся. Маё першае ўражанне аб табе было на ўзроўні: "Паглядзі, які прывабны хлопчык". Але гэта не аб чым не гаварыла і сама я наўрад ці бы табой зацікавілася. Але Света, асоба вельмі вострага густу, сказала, што ты падобны на Іггі Попа(15) ў маладосці. У цябе тады таксама былі доўгія выбеленыя валасы. Света была без розуму ад яго і рок-н-ролу. Я прыгледзелася да цябе. Шчыра кажучы, я не ў захапленні ад рок-музыкаў, яны такія гучныя, агрэсіўныя і ад іх за кіламетр цягне алкаголем. Аб гэтым сведчылі і бутэлькі, якія вы выжлукцілі. Як зараз памятаю: на зямлі каля вас у некалькі радоў стаялі паўтара літровыя бутэлькі з-пад піва, прыбіральніца па некалькі разоў прыходзіла іх прыбіраць, але іх колькасць усё павялічвалася і павялічвалася. І ты быў мне агідны. А калі пазней ты падышоў да мяне з сваёй нахабнай прапановай, я здзівілася. Чаму менавіта я? Побач са мной сядзелі Света і Насця: адна мадэль, а другая проста лялька з твару. Ты быў такі сэксуальны і ў тую ж чаргу такі дакучлівы. І я табе адмовіла, а сяброўкі потым доўга мяне

ўшчувалі. У мяне не было хлопца і я адмовіла. Але падсумоўваючы гэта, магу сказаць толькі адно, што не з кім іншым на гэтым даху мне не было б так добра, як цяпер з табой. Дзякуй табе…

Аднак пасля такіх прызнанняў яны засталіся стаяць на адлегласці. Дзяніс глядзеў Іры ў спіну, а яна не вырашалася азірнуцца, ёй здавалася, што яна расчыніла перад ім таямніцу, якую доўгі час хавала. Дзяніс падышоў да яе і дужа прыціснуў да сваіх грудзей. І раптам ён адчуў, як яе цела змякла і пачало сутаргава скалынацца. Дзяніс зразумеў, што яна плача, стрымана, але плача. Ён некаторы час не ведаў, што яму рабіць, а потым па інэрцыі пацалаваў яе ў галаву.

- Іра, што ты?.. – разгублена прамовіў ён.

Яна азірнулася і Дзяніс убачыў яе вільготныя вочы, сумныя і такія прыгожыя, нібы росныя васількі на сенажаці.

- Маленькая мая, ну што ты, што з табой, што такое?.. – паўтараў Дзяніс і спрабаваў суцешыць яе пацалункамі, ад чаго слёзы па яе шчоках каціліся яшчэ больш.

- Прабач мяне, - сарвалася з яе мокрых вуснаў.

- За што?.. – не зразумеў Дзяніс.

- А давай проста сядзем… Добра?.. Проста зноў сядзем… - сказала Іра. – Сядзем і аб чым-небудзь пагаворым…

Прытуліўшыся адзін да аднаго, яны зваротна селі на гарачы рубероід. Маўчалі.

- Аб чым жа будзем размаўляць?.. – урэшце спытаў Дзяніс.

- Аб тым, калі нам было добра.

- Чаму ты кажаш аб гэтым у мінулым часе? – не зразумеў ён, а калі скеміў, што задаў вельмі вострае пытанне, адразу перахацеў аб гэтым ведаць. Няхай сама расказвае.

Іра ўздыхнула. Выцерла далонямі вільготныя шчокі і паспрабавала супакоіцца. Дзяніс адчуў, як яе дыханне паступова пачало запавольвацца, пакуль канчаткова не нармалізавалася.

- Памятаеш той дзень, калі мы разам пайшлі ў кінатэатр “Перамога”? – прыгадала яна.

- Як жа не памятаць. Быў пахмурны восеньскі вечар, злёгку церушыў дождж…

- У паветры стаяў водар сапрэлага лісця…

- Людзі вакол былі як-быццам ап’янёныя…

- І ты цалаваў мяне на вуліцы, цалаваў у засмокт, горача, моцна да сябе прыціскаючы…

- А ты напявала песню Beatles, толькі не памятаю якую…

- “Boys”…

- Ага…

- Потым мы зайшлі ў кіназал…

- Людзей было на рэдкасць няшмат і яны сядзелі невялікімі купкамі то тут, то там…

- Мы селі пасярэдзіне…

- У той вечар паказвалі Фасбіндэра…

- “Трэцяе пакаленне”, калі не памыляюся…

- Я быў у захапленні…

- Цудоўная рэжысёрская пастаноўка…

У небе над іх галовамі праляцеў самалёт і менавіта на даху гук яго турбін здаваўся непамерна гучным, ад чаго дрыготкай працінала ўсё нутро.

- Кіно – гэта страшны наркотык, - заўважыла Іра, - вядома, пасля кавы і цыгарэт. Люблю глядзець кіно адной, гэта, як усё роўна, чытаць кнігу – у поўнай цішыні і спакоі.

- Магчыма, толькі калі гэта дрэннае кіно, аднаразовая жаванка, добрае кіно трэба глядзець выключна з кімсьці. Мне заўжды патрэбна фонавая эмоцыя, якой мне не хапае, таму я чэрпаю яе ад іншых. Вось з табой кіно глядзець - сапраўдная асалода.

- Па-твойму я эмацыйная?

- Хіба ты сама не ведаеш?

- Я хачу пачуць гэта ад цябе…

- Хутчэй так, чым не, але твая эмацыянальнасць утоеная пад пластам зваротнай рэакцыі, якую ты чакаеш ад мяне, і, калі яе не адбываецца, твае эмоцыі зрываюцца, як вязень з доўгатэрміновага зняволення.

Іра паклала сваю галаву на плячо Дзянісу.

- А потым, што было потым? – спытала яна.

Дзяніс, успамінаючы, усміхнуўся.

- Верагодна, адна з лепшых начэй у маім жыцці.

- Гіпербала.

- Аднак, мне здаецца, што мы адхіліліся ад тэмы “кіно”, - сказаў Дзяніс.

- Добра, тады назаві мой любімы фільм? – спытала Іра.

- Любімы фільм? У цябе ёсць любімы фільм? Раней я думаў, што ў цябе іх плойма. Хаця, судзячы па фільму, які мы першы раз глядзеў – гэта “Сіні аксаміт” Дэвіда Лінча.

- Ты памятаеш аб гэтым? Цікава. А твой, значыць – “Сід і Нэнсі”?

- Не, - зморшчыўся Дзяніс, - гэты фільм я паказаў, таму што хацеў цябе трохі эпатаваць.

- Не атрымалася. Мацюкі ніколі мяне не ўражвалі.

- Цяпер я ведаю, лепей бы паглядзелі “Кантроль” пра Joy Division(16), але, на жаль, у той час у мяне не было гэтага фільма.

- Таксама пра панкаў?

- Пост-панкаў. Ад іх, дарэчы, пайшоў індзі-рок і ўсе гэтыя брыт-попы з яскравым увасабленнем у тваіх любімчыках The Killers(17).

- Прашу заўважыць – адных з любімчыкаў.

- Прабач, як жа можна забыцца на ліверпульскую чацвёрку з усёй хіпі-брыдой.

- Я разглядаю Beatles толькі з пункту гледжання музыкі.

- Вось бы класна было б табе апынуцца ў ЗША ў шасцідзесятых і жыць разам з валасатым мужыком у іржавым трэйлеры. Ён бы кожны вечар найграваў табе на гітары лірычныя балады аб пацыфізме, аб тым, што маладосць гэта выдатная пара і гэтым трэба карыстацца, накшталт: “О, дзетка, давай, не саромейся, давай, я гатовы прыняць тваё каханне…” і г.д.

- Быць падобнай на Джэніс Джоплін(18) і памерці ў дваццаць сем гадоў?! Не, прабач, я хачу пражыць да глыбокай старасці, каб было потым што ўнукам расказаць.

- Дай цыгарэту, - нечакана сказаў Дзяніс.

- Ты не паліш, - заявіла Іра.

- Ну і што…

- Цяпер твае бацькі будуць ненавідзець мяне яшчэ і за тое, што я прызвычаіла цябе паліць.

- Яны не пазнаюць. Перад тым, як прыйсці дамоў, я з’ем жованку.

- …якую перад гэтым ты возьмеш у мяне, - іранічна дапоўніла Іра.

Яна дала яму цыгарэту і ўзяла сабе. Запалілі. Дзяніс зрабіў першую зацяжку і адчуў, як лёгкія заказытаў халодны дым, ён выдыхнуў і зацягнуўся ізноў.

- Не ведаю як фільм, але твой улюбёны серыял - гэта “Твін Пікс”, - натхнёны тытунем, сказаў Дзяніс.

- О так… Ты ведаеш, хто забіў Лору Палмер?

- Безумоўна… Я губляю прытомнасць, калі слухаю саўндтрэк з гэтай кінастужкі. Упершыню я паглядзеў яго ў другім класе, памятаю эпізод, калі хлопчык у масцы з вострым носам бегае па крузе, як казляня. Мяне гэта так пужала, я начамі не мог заснуць.

- А мяне ўражвае той эпізод, калі Лора Палмер заходзіць у свой пакой і бачыць, як Боб хаваецца за яе фікусам. У нас дома падобны калісьці стаяў і я ўсё думала, што вось вярнуся дамоў са школы, зайду ў пакой, а там будзе стаяць агідны Боб і ўсміхацца мне сваімі гнілымі зубамі.

- Уражлівыя мы з табой, - сказаў Дзяніс.

- Не тое слова.

Іра збіла попел і Дзяніс паўтарыў за ёй, пасля чаго яны прыхінуліся галовамі адзін да аднаго і ўтаропіліся кожны ў сваю кропку. Ім было так утульна разам, што з іх можна было маляваць карціну аб дасканалай гармоніі.

- Ты б хацела стаць актрысай? – спытаў Дзяніс.

- Кінадзівай хутчэй...

- Цудоўна, будзеш другой Джуліян Мур(19). Вы, дарэчы, з ёй чымсьці падобныя.

- Магчыма, - звяраючы ў думках яе вобраз, сказала Іра. – Хаця з ёй мне падабаецца толькі адзін фільм – “Вялікі Лебоўскі”.

- Яна там у ролі мастачкі, якая малюе палотны ўласнай вагінай? Як эстэтычна! Ты хацела б здымацца ў “іншым кіно”?

- Я не выключаю такой магчымасці. Быць рознапланавай актрысай, гуляць у малабюджэтных праектах і адначасова ў галівудскіх кінастужках.

І яна засмяялася.

- Што ж, я на сто адсоткаў упэўнены, што ты ёй станеш, - сказаў Дзяніс.

- Дзякуй, - разгублена вымавіла Іра і адвяла позірк.

Дзяніс глыбока зацягнуўся і, выпусціўшы дым, пачаў кашляць. Іра паляпала яму па спіне, але жэстам рукі ён паказаў, што дапамога яму не патрэбна.

- Табе нельга паліць.

- Чаму гэта? – адкашляўся Дзяніс.

- Дым толькі пераводзіш і цыгарэту па-дзіўнаму трымаеш.

- Ну як?

- Як школьнік, а вусны ў трубачку скручваеш, калі зацягваешся.

- Я ўсё ткі не круты гангстар, каб дым у твар пушчаць, нібы ў лепшых сцэнах нуар-кіно.

- Астынь каўбой, не ўсё так дрэнна, - Іра наставіла на Дзяніса паказальны палец, як быццам пісталет і здрыганулася рукой, імітуючы стрэл, а потым дунула ва ўяўнае дула. Далей яе рука міжвольна лягла яму на нагу і спакваля пачала прасоўвацца да крайняй плоці. Па целе праслізнулі прыемныя дрыжыкі і адчуванне замілавання напоўніла яго нутро. Неўзабаве ў пругкіх джынсах ён пачаў адчуваць імклівае ўзбуджэнне. І калі рука Іры была ў некалькіх сантыметрах ад прызначэння, Дзяніс хутка спыніў яе, паклаўшы зверху сваю далонь. Спачатку моцна сціснуў, а потым асцярожна паклаў ёй на калены. Іра спрактыкавана прыкусіла ніжнюю губу і раптам змяніла выраз твару. Яе гуллівы вобраз ператварыўся ў маску адчужанасці. Яна затушыла чарговы недапалак аб руберойд.

- І ўсё ткі кіно, - з большым запалам распачаў Дзяніс.

- Ай, надакучыла…

- Надакучыла? – здзівіўся ён.

- Так, надакучыла.

- Добра, тады аб чым пагаворым?

- Аб чым-небудзь іншым, новыя тэмы заўжды лепш папярэдніх.

Дзяніс паспрабаваў зрабіць інтэлектуальны выгляд.
- Можа аб літаратуры?
- Давай… - безуважна сказала Іра.
- Якую апошнюю кнігу ты прачытала? - спытаў Дзяніс.
- “Замак” Кафкі.
- А я глядзеў экранізацыю Балабанава, дарэчы…
- Пачакай, - перабіла яго Іра, - мы ўжо змянілі тэму – літаратура – кіно праехалі.
- О’кэй, - заківаў галавой Дзяніс. – Але мне, шчыра кажучы, здаецца, што ўсю гэтую літаратуру XX стагоддзя даўно ўжо трэба выкінуць за борт новага карабля, які рушыцца ў правільным дэструктыўным накірунку XXI стагоддзя. Трохі скажаю Маякоўскага, але думка ў цэлым адна і тая ж.
- А мне болей падабаецца выраз Хуліё Картасара; ён казаў, што кожны новы пісьменнік руйнуе літаратуру.
- О, гэты шызафрэнік! Калі ты пазнаёміла мяне з ім, я амаль адразу закахаўся ў яго анахранічную манеру пісання.
- Таму што гэта вытанчаная літаратура.
- Магчыма, - згадзіўся Дзяніс. – Аднак занадта нудная і элітарная, я б сказаў. Не кожны вытрымае чытаць філасофскія дыялогі і разважанні галоўных герояў аб сэнсе быцця. Але гэта не ўваходзіць не ў якое параўнанне з тым, што я чытаў у школе. Мая літаратура абмяжоўвалася выключна школьнай праграмай і невялікімі вылазкамі ў кнігарні, дзе я купляў кнігі беларускамоўных аўтараў – класіку вядома.
- Ты лічыш універсітэт даў нам шырокі кругагляд? - спытала Іра.
- Хутчэй яго асяроддзе. Я, напрыклад, вельмі ганаруся тым, што мне давялося вучыцца з некаторымі асобамі на сваім курсе.
- Гэта ты пра сваіх сяброў-алкаголікаў? Цікава.
- Так, - не крыўдуючы на такія словы сказаў Дзяніс, - бо, ведаеш, кожны з іх геніяльны па-свойму.
- Я заўважыла, што з кожным годам малодшыя курсы робяцца змарнелымі фізічна і пустымі духоўна. Я гляджу на асобных студэнтаў і здзіўлена задаюся пытаннем: якога ліха яны робяць у гэтых сценах?
Іра казала з такім абурэннем, што твар яе пасуравеў да непазнавальнасці.
- Адукацыя зараз патрэбна ўсім, - сказаў Дзяніс.
- І нават тым, хто не ведае, якія гады былі ў XIX стагоддзі, што такое чвэрць стагоддзя, я ўжо не залажу ў самыя нетры.
- Яны ўжо сапраўды не чыталі Картасара.
Іра пагардліва фыркнула і спытала:
- Ты спадзяешся яны ведаюць, хто такі Мацей Бурачок?
- Я спадзяюся яны ведаюць, хто такі Янка Купала!
- Наіўны албанец.
Яны разам засмяяліся.
- А памятаеш “Невыносную лёгкасць быцця” Мілана Кундэра, мне галоўная гераіня – Тэрэза - цябе нагадвала. У той час, калі я чытаў гэтую кнігу, я яшчэ ня быў з табой знаёмы, але на невытлумачальным мне падсвядомым узроўні я заўжды параўноўваў яе з табой. Вы для мяне былі так падобныя.
Іра ўсміхнулася.
- Зусім не падобныя, хаця, мажліва, характарам.
Дзяніса такі лаканічны адказ на сваю шчырасць не расчуліў. Ён ужо даўно заўважыў за Іраў тэндэнцыю заўжды яго дражніць, але з націнкай гуллівасці, асабліва калі ён спрабаваў сур’ёзна з ёй размаўляць. Дзяніс не разумець навошта яна падкрэслівала перад ім свой узрост і вопыт. Яму раптам стала крыўдна. Яна гуляла з ім, як котка з мышанём і тым самым не дазваляла яму да канца сфармаваць думкі. У свае дваццаць гадоў ён пакуль не навучыўся гэтаму і яму было сорамна. Думкі, якія ў наступстве павінны былі выліцца ў словы, атрымліваліся сырымі і ірванымі. Іра часта кпіла над гэтым, але не да такой ступені, каб раззлаваць Дзяніса, а проста каб гэтым ушчуваннем зрабіць акцэнт на яго някемлівасць і падрыхтаваць глебу для разважання, каб ён паспрабаваў змяніцца.
- Я, напэўна, слабак, - песімістычна заключыў Дзяніс.
- І не ты адзін, - сказала Іра ўжо сур’ёзным тонам. - Усё наша пакаленне выхаванае ў лепшых традыцыі таталітарнага СССР, пакінула на нас з табой вялікі адбітак. З-за яго мы блага арыентуемся ў навакольным асяроддзі, часта раздражняемся, незадаволеныя жыццём і несамавітым лёсам.
- Ну ты яшчэ дадай сюды і тое, што нас спавівалі, - сказаў Дзяніс.
- І гэта таксама. Фрэйд меў рацыю.
- Фрэйд думаў толькі яйкамі.
- Я маю на ўвазе татальна кантраляванае грамадства, яскрава апісанае Джорджам Оруэлам у “1984”. З нашых дзядоў і бацькоў спрабавалі зрабіць расліну і гэтыя наступствы адбіліся на нас. Мы замаруджаныя ў развіцці. Пастаў еўрапейскага дзіця разам з нашым і ты знойдзеш сто адрозненняў. А ты не слабак, ты проста эгацэнтрыст у агульным коле слабакоў.
Дзяніс праглынуў сліну.
- Такое грамадства ўдала экранізаваў Тэры Гіліям(20) у сваёй “Бразіліі”.
- Так, усе, мне надакучыла, я змарылася, - прастагнала Іра.
- Спадзяюся, што не ад мяне?
- І ад цябе, у некаторай ступені, таксама.
- Я тут заўважыў незвычайную адмысловасць: усе рыжыя са сваім асаблівым “прыветам”. Няўжо ўся справа ў колеры?
Іра зморшчыла лоб.

- Толькі не трэба несці гэтую абывацельшчыну, мяне зараз званітуе.
- Ты скажы калі, я адсунуся.
- І не падумаю.
Дзяніс пачаў вызваляцца з-пад яе рукі, але Іра не дазволіла.
- І ўсё ж, - змірыўся ён, - рыжыя людзі – цікавы феномен чалавецтва і майго жыцця прынамсі. Шчыра кажучы, паў гады таму, да дзяўчын з такім колерам валасоў я ставіўся негатыўна. Насамрэч рыжыя людзі не вылучаюцца прыгажосцю. Ёсць, вядома, выключэнні, але іх вельмі мала, як у, прыватнасці, і саміх залатавалосых стварэнняў.
- А як жа ірландцы і шатландцы – сярод іх каля дваццаці адсоткаў рыжых, і я б не сказала, што яны непрывабныя. Ірландцы – самы прыгожы рыжавалосы народ.
- Гэта таму што іх продкамі былі кельты.
- Гэта я і без цябе ведаю.
- Цікава, а кім былі твае продкі?
Іра задумалася.
- Табе не здаецца, што ў нас сёння з табой асаблівы дзень?
- Не, наадварот – самы звычайны, - ён паглядзеў на наручны гадзіннік. - Адзінае, - я ўпершыню сяджу з табой на даху дома.
- А мне здаецца, - настойліва сказала яна. – Занадта шмат тэм, пытанняў, спрэчак, успамінаў. Чаму такога не было раней?
- І праўда, чаму? Нам жа як раз усяго гэтага не хапала.
- Вось менавіта…
Яны змоўклі і толькі зараз адчулі, якім гарачым было паветра. У Дзяніса спацелі падпахі, але ён ведаў, што Іра звыкла адносілася да яго мужчынскіх пахаў.
- Горача, - сказала яна.
- Дык рускія ці палякі? – заладзіў Дзяніс. - Палякі ці рускія?
- Палякі і габрэі, - супакоіла яго Іра. – Палякі па бацькавай лініі, а габрэі па матчынай.
- Ага, цяпер зразумела, ад каго ў цябе такія вялікія вочы.
- Верагодна ад бабулі.
- А валасы?
- Ужо і не ведаю, - сказала Іра, - усе мае сваякі цёмныя.
- Магчыма, тваім продкам перадаўся ген неандэртальца. Я чуў, нядаўна даказалі, што рыжы колер валасоў пайшоў ад іх. Хаця, мне больш падабаецца палымяна-пякучая ірландка.
- Толькі не трэба мяне так называць, добра? – насупілася Іра.
- Я лічу ірландка гучыць лепш неандэртальца.
- Ха-ха, вельмі смешна… Ірландкай мяне пагардліва называлі ў школе, дурасліва толькі сябры, як бачна, ты не адносішся ні да першых, ні да другіх. Таму для цябе гэтае слова найстрогае вета з усімі вынікаючымі.
Дзяніс глыбока ўздыхнуў і, вызваліўшыся з-пад абдымак Іры, заклаў рукі за галаву, і выцягнуў наперад ногі.
- Эх, як жа часам добра адчуваць сябе тваім палюбоўнікам, аж мурашкі прабягаюць.
- І пра неандэртальца таксама забудзь, - не зважаючы на яго прамову, працягнула яна далей, - занадта груба і не метафарычна. Ты ж, здаецца, паэт, як-ніяк, мог бы ўжо што-небудзь сугестыўнае прыдумаць.
- Ты лічыш неандэрталец гучыць гратэскава? Любілі, відаць, цябе ў школе падражніць. Прызнавайся, любілі?
- Пакуль не атрымлівалі аплявуху. І хопіць з гэтымі неандэртальцамі. Мне нават страшна падумаць, што краманьёнцы з імі сукупляліся, і наогул я не падтрымліваю тэорыю эвалюцыі, яна занадта банальная.
- Усё складаней і метафізічней?
- Абсалютна.
- А я вось, напрыклад, злучыў бы тэорыю эвалюцыі з боскай тэорыяй. Глядзі, Бог стварыў жыццё на зямлі, праўда невядома ў якой форме і невядома каго, а гэтае стварэнне на працягу пэўнага часу эвалюцыянавала ў тое, што мы маем на сённяшні дзень.
- Злучэнне кажаш… Вось з-за такіх злучэнняў і атрымліваецца…
- …рыжая Іра, - сказаў Дзяніс.
Яна ўсміхнулася такой шырокай усмешкай, што Дзяніс на імгненне здранцвеў, яму здалося, што час застыг і засталася толькі яе ўсмешка. А потым ён пацалаваў яе, горача і ў засмокт. Іра прысунулася бліжэй да яго і абвіла сваімі рукамі яго шыю. Пацалунак быў доўгім і сэксуальным. Яны цалаваліся як быццам упершыню: прагна і галадна, а калі спыніліся, Дзяніс аблізаў языком свае вусны, нібы на іх застаўся шакалад і, падумаўшы, сказаў:
- Я даўно ўсім казаў, што ты сапраўдная рыжая шэльма.
- Хай зайздросцяць, - сказала Іра.
- Дык у што ж ты верыш?
Іра паглядзела на сіняе неба.
- Усё гэта дзэн-будызм…
Дзяніс задумаўся, успамінаючы аб сваіх бедных ведах па гэтай будыйская плыні і спытаў:
- Значыць у прасвятленне?
- Менавіта.
Іра ўсхапілася на ногі і пачала бегаць па даху, як маленькае дзяўчо, у пошуках невядомай рэчы.
- Што згубіла? - спытаў Дзяніс.
- Мне патрэбна штосьці, што падобнае на палку.

Дзяніс здзіўлена хмыкнуў. Іра, у сваю чаргу, забегла за вентылятарны калектар, які знаходзіўся пасярэдзіне даху, і знікла з полю яго зроку.

“Толькі б не ўбілася ў мазут, - падумаў ён, - бо потым увесь дзень будзе зліцца на сябе і адначасова папракаць, што я загадзя не адгаварыў яе ад гэтай дурацкай задумы”.

Іра выйшла з-за калектара, трымаючы ў руцэ невялікую сталёвую загвраздку, якая Бог ведае адкуль там аказалася. Яна падышла да Дзяніса і, лёгка ўзмахваючы ёй, нібы чароўнай палачкай, уладным голасам прамовіла:

- Спытай у мяне пра што-небудзь, пра што заўгодна, і я пасродкам нелагічнага адказу, раскрыю перад табой сапраўдную сутнасць рэчаў.

"Так, цяпер яна пачала дурэць. Ну што ж".

- Якія на мне сёння трусы?

- Гэта несур'ёзнае пытанне, - сказала Іра і дакранулася загваздкай да яго пляча.

- Ты сама сказала аб чым заўгодна.

- Добра, тады паставім пытанне так: спытай аб тым, што цябе найбольш хвалюе ў дадзены момант.

Што яшчэ магло яго не хваляваць, як яе беспадстаўныя слёзы. Але прычына, вядома, існавала, і ён гэта добра ведаў. Па-усяму было відаць, што Іра спрабавала гуляць у дзэн-будызм.

“Што ж, трэба гэтым карыстацца, - падумаў Дзяніс. - Засталося толькі сфармуляваць пытанне”.

- У мяне ўзнікла такое адчуванне, што ты хочаш мне аб нечым расказаць, аб нечым вельмі важным. Я разумею, што ўсё адбывалае на гэтым даху было цудоўнай прэлюдыяй, якая даволі моцна разагрэла нас і мяне, у прыватнасці, таму я жадаю ведаць, што ты хочаш мне расказаць.

Па выразе яе твару стала бачна, што яна чакала такога пытання, нават прагнула яго. Іра падціснула вусны і выпусціла з рукі сталёвую загваздку. Тая ляпнулася аб руберойд і разам з Дзянісам знерухомела ў чаканні. Іра села насупраць, абхапіўшы калены рукамі, як быццам ёй было холадна. Яна нагадвала Цалёвачку: такую ж маленькую і безабаронную. На імгненне твар яе зрабіўся сентыментальным, але толькі на імгненне, яго хапіла роўна на адзін яе ўздых і яна сказала:

- Я з’язджаю.

- Куды? - спакойна спытаў Дзяніс.

- У Штаты.

- Сур’ёзна?

- Я выйграла Green Card...

Дзяніс забегаў вачыма ў розныя бакі, шукаючы, што сказаць.

- Тады я паеду з табой.

Яна стомлена паклала галаву на калены і сказала:

- Ты не зразумеў, я з'язджаю назаўсёды.

- Якія праблемы, мы паедзем разам!

- Я паеду адна, а табе трэба вучыцца.

- А мне здаецца, што гэта табе трэба давучыцца, табе застаўся адзін курс, - голас яго сарваўся на фальцэт.

- Мне абыякава колькі.

- Іра, падумай, што за ўтрапёнасць, што ты робіш, застанься яшчэ на адзін год, атрымай вышэйшую адукацыю, а потым едзь куды хочаш!

- Няма ніякага сэнсу працягваць вучобу.

- Але чаму?

- Прафесія настаўніка мне не спатрэбіцца, ды і дыплом наш аб вышэйшай адукацыі – Піліпкіна грамата.

- І гэта ты толькі цяпер усвядоміла, правучыўшыся чатыры гады?

- Вядома не!

- І даўно?

- Адразу, як паступіла.

Наступнае пытанне было заканамерным.

- Тады навошта ўсе гэтыя месяцы я быў табе патрэбен?

- Таму што я кахаю цябе. Але мы даволі позна сустрэліся. Ведаеш, гэта калі спальваеш мост для адступлення, азіраешся, і толькі потым разумееш, што на другім беразе цябе чакала тваё ратаванне. Жыццё – чартоўскі складаная рэч.

- А ты не думала, што зробіш мне балюча?

- Безумоўна. Сёння ты казаў мне, што адчуваеш сябе слабаком, але гэта не так. Сапраўдны слабак - я, таму што хачу пакінуць радзіму, але слабак толькі знешне, і не ў якім вобразе духоўна. Памятаеш, Картасар казаў, што толькі той чалавек па-сапраўднаму любіць сваю Айчыну, хто з'язджае ў іншую краіну. А ты знешне моцны, ты добры хлопец, клапатлівы, уважлівы, мне ніколі не было з табой дрэнна.

- Значыць ты мяне таксама не ведаеш.

Але Дзяніс разумеў, што бяссільны ўжо штосьці зрабіць, яна ўсё роўна паедзе і нішто не зможа ёй перашкодзіць.

- Твае бацькі ведаюць?

- Даўно. Ім яшчэ лягчэй будзе: мама пераедзе жыць да іншага мужчыны, бацьку застанецца кватэра.

- А сястра?

- Сястра пойдзе ў самастойнае жыццё.

- Прама амерыканская меладрама, - горка заключыў Дзяніс. Іра прамаўчала.

- А што будзем рабіць з нашым каханнем? – спытаў ён.

- Вось гэта і ёсць самае складанае пытанне, на якое я ніяк не магу знайсці адказу.

Дзяніс стрымана ўсміхнуўся.

- У дзэн-будызме няма нічога невырашальнага, проста трэсні мяне загваздкай і я абавязкова знайду адказ, - сказаў ён і па яго шчацэ пакацілася дробная сляза.

Іра адразу перавалілася на калены і па-сабачы пасунулася да Дзяніса, хутка сцерла вялікім пальцам яго слабасць і села побач.

- Зараз я не буду суцішаць цябе тым, што ты яшчэ знойдзеш сабе дзяўчыну лепш мяне, таму што дакладна ведаю - не знойдзеш, як і тое, што ты ніколі пра мяне не забудзеш. З усёй шчырасцю я магу сказаць усё тое самае і пра сябе.

- Значыць гэта каханне назаўжды застанецца ў нашых сэрцах, як застаюцца шнары на скуры, малюнкі, выведзеныя ў пячорах охрай, як зоркі на небе, і яго ніколі не паглыне нябыт, ці сусвет, што б не адбылося?

- Forever, - сказала Іра.

8

Як жа часам усё бывае непрадказальна. Трымаеш час, думаеш, што ён у тваіх руках, выкручваеш з яго апошнія сокі, а потым аказваецца, што ён выслізнуў з тваёй хваткі і табе ўжо ніколі яго не злавіць.

Дзяніс ехаў у аўтобусе і знешне быў спакойным, здавалася, нічога не прадвяшчала ў ім істотных перамен. Аднак унутры яго адбывалася зусім іншае: душа кіпела, нібы ў пякельным катле. Вядома, не кожны дзень пачуеш, што ўсе масты спаленыя і другая палова, так бы мовіць, падсела на здраду. Але ён трымаўся малайцом і вырашыў не здавацца.

За акном ужо даўно пацямнела і асабіста для Дзяніса гэта магло значыць толькі адно – набліжаецца трэцяя змена. Канвеер, чорт яго падзяры! Проста цудоўны кантраст з сапраўднай драмай, якая нядаўна з ім адбылася. Толькі пакуль яшчэ ён не паспеў гэта ўсвядоміць – усё самае горшае чакала наперадзе, калі ён прыйдзе дамоў, ляжа ў сваім пакоі на канапу, заплюшчыць вочы і зразумее, што застаўся адзін.

У салоне было амаль бязлюдна і Дзяніс паспрабаваў аддацца сну. Зрабіць гэта аказалася не проста. Яго думкі пачалі пракручваць кароткаметражку: з’явілася постаць фатальнай дзяўчыны з агністымі валасамі. Іра, чамусьці, танчыла, гукі музыкі былі прыглушанымі, але Дзяніс пазнаў у іх рок-н-рольныя рыфы. Яна круцілася па крузе, як ваўчок, развіваючы свае доўгія валасы, чырванеючы і ўсміхаючыся. Дзяніс не здолеў гэтага вытрымаць і рэзка пралупіў вочы, як быццам убачыў страшны сон. Яна сапраўды глыбока закранула яго сэрца. Ён моцна прыкусіў ніжнюю губу, каб пазбавіцца ад прыступу сваёй слабасці і дзеля разрадкі, моцна ўрэзаў кулаком па сядзенні спераду. Жанчына, што сядзела непадалёк ад Дзяніса, сутаргава азірнулася на яго, але прачытаўшы ў зласліва-варожым позірку “кацiся адсюль, дура”, хутка адвярнулася. Яму патрэбна было сканцэнтравацца, бо ён ні ў якім разе не хацеў выносіць свой боль за межы сваіх эмоцый. Яго праблемы павінны былі заставацца яго ўласнымі праблемамі.

Было лета. Ціхая бясклапотная пара.

Гадзіну таму ён выйшаў з яе кватэры, сеў у мятро, потым з перасадкамі аўтобус-тралейбус, паехаў на завод.

Калі яны спускаліся з даху, Дзяніс адчуваў, як пад вагай яго цела дрыжалі ногі. У галаве стаяў тлум, які нагадваў невялікае ап’яненне. Іра ўзяла яго за руку і як ні ў чым не хаджала, павяла да сябе. Яны зачыніліся ў яе пакоі і заняліся сэксам. Упершыню Дзяніс горка плакаў, так, што слёзы засталіся на яе разагрэтых грудзях. Потым ён ляжаў на спіне, глядзеў у столь, а Іра гладзіла яго па галаве і суцішала, як дзіцяці: “Супакойся, не трэба”. Гэта былі самыя прыемныя і, у сваю чаргу, самыя меладраматычныя хвіліны ў яго жыцці.

Растаючыся, яны вырашылі заставіць паміж сабой цёплыя адносіны.

А аўтобус каціў далей, разбіваючы жалезным корпусам аселую ў паветры дзённую спёку. З адчыненага акна веяла начной прахалодай і пахам індустрыяльнага горада. Усё было па-ранейшаму, усё вярталася на кругі свая. І на гэтым фоне адчуванне яго душэўнай ёлкасці пачало саступаць месца таямнічаму голасу, які зусім нечакана з’явіўся ў яго розуме. Ён нагадваў тонкую валасінку нерва, якая балюча тачыла яго мазгі, як чарвяк, і прымусова нагадвала: Канвеер!!! Канвеер!!! Канвеер!!! …

…глядзі, што з табой зрабіла гэтая дрэннае дзяўчо, хіба ты варты такога звароту?.. Выкінь яе з галавы і засяродзься на працы. Нам патрэбныя твае рукі. Ты і сам добра ведаеш, што без звяна ланцуг распадзецца. Прыйдзі ж да нас! Канвеер!!! Ты зроблены з запчастак, цябе таксама сабралі на канвееры. Ты – мая дэталь! Канвеер!!! Усё, што ты ўбачыш далей, не павінна цябе здзівіць… здзівіць… здзівіць… проста працуй… цуй… цуй!.. АСЯМ! УОРК! ЦЬОЛП! Есці, нам патрэбна есці. Канвеер!!! Убачыўшы святло ў канцы тунэля, паспрабуй яго злавіць! Ха-ха-ха! Так бо?! Няпраўда? “Ты не слабак, ты проста эгацэнтрыст у агульным крузе слабакоў”. Засталася адна хвіліна! “Мы робім свой першы крок, мы граем old school панк-рок!” Прымацоўвай папярочку! Ты ўжо нічога не зможаш зрабіць. Усё вызначана за цябе. Гульня да пераможнага канца. Кожнаму сваё. А ты думаў, што некаму  патрэбен у гэтым свеце?! Ёлуп! Што магу прапанаваць я? Працу. Выключна працу. Таму што толькі праца пазбаўляе ад лішкаў духоўнагаператамлення. І ўвогуле, што гэта за старамоднае слова “духоўнае”. Тэхнакратычнае грамадства не вымаўляе і не разумее яго. Замест сэрца – клапан унутранага згарання. Выпі змазвальнага масла! Ты ведаеш сваё новае імя?.. Твой табельны нумар 021854. Выраблены ў БССР, замацаваны ў РБ – гатовы да ўжывання. Засталося дваццаць секунд! Адчуваеш незвычайнае трымценне ў тым месцы, што якісьці дурань назваў ёмішчам душы – гэта твой новы (сапраўдны) лёс. Сістэма!!! Канвеер!!! Засталося дзесяць секунд! Ты наш! Адна секунда! Апрацоўка скончаная.

-…Малады чалавек?!.. З вамі ўсё ў парадку?!.. – Дзяніс прачнуўся ад штуршкоў у плячо, прадраў вочы і ўбачыў перад сабой тую жанчыну, якую пераважна нядаўна напалохаў сваім позіркам.

- Што здарылася? – спытаў ён, аглядаючыся па баках.

- Вас трэсла, нібы ў ліхаманцы, - трывожна сказала яна.

Дзяніс сцёр з ілба буйныя кроплі поту.

- Усё добра, я трохі ператаміўся, дзякуй, - паспрабаваў супакоіць яе Дзяніс.

Жанчына разгублена адышла на сваё месца і толькі цяпер ён убачыў, што акрамя іх у аўтобусе нікога не было. Па шкле гідка барабаніў дробны дождж, а ў небе пачало пабліскваць. І Дзяніс падумаў, што фінал для сённяшняга дня быў больш чым самы падыходны.

Тым часам аўтобус набліжаўся да заводу. Каля прыпынку ён выпусціў Дзяніса, гучна зачыніў за сабой дзверы і хутка паехаў прэч, нават занадта хутка.

Апынуўшыся тварам да твару з заводам лядоўняў, Дзяніс звярнуў увагу на незвычайную цішыню, якая лунала ў прахалодным паветры: не было чуваць ні машын, ні людзей і толькі над прахадной, пад штучным зямным шарам сіняга колеру ў начной цемені яскрава зеўраў надпіс “Тытан”. Каб не намокнуць, Дзяніс хуткімі крокамі ўзышоў па прыступках, прайшоў каля фантана з такім жа штучным шарам і падышоў да галоўных дзвярэй. Яны, як заўжды, самастойна расчыніліся і знутры на яго патыхнула цеплынёй. Магчыма, упершыню Дзянісу захацелася зайсці ўнутр, што ён ахвотна і зрабіў.

Прахадная аказалася пустой. У вахцёрскай кабінцы нікога не было, як нікога не было і вакол. Ён падышоў бліжэй да прапускнога пункта і як кожны ў такой сітуацыі вырашыў пачакаць. Праз пяць хвілін нічога не змянілася. Праз дзесяць усё заставалася па-ранейшаму. Дзяніс паглядзеў на гадзіннік, што вісеў на сцяне за кабінай – да пачатку трэцяй змены заставалася дзесяць хвілін. Ён пагукаў прахадную басавітым “гэй”, але пачуў толькі ўласнае рэха. Першае, што прыйшло яму ў галаву, было ўспрынята з ноткай радаснага натхнення – канвеер зламаўся, завод зачынены, а гэта значыць - можна паварочваць назад. Аказія! Палягчэнне надышло імгненна і каб захаваць яго салодкі водар, Дзяніс вырашыў не губляць часу.

Ён развярнуўся і пайшоў да выхаду. У гэты момант за яго спінай пачуўся ляскат. Дзяніс рэзка азірнуўся і ўбачыў тое, ад чаго яго сэрца схапіла ў цыскі – турнікет быў адчынены.

“Значыць за мной сочаць, - падумаў ён, - тыпа праверка на вашывасць, мацi вашую”.

Прыйшлося вяртацца зваротна. Новыя метады пропуску на тэрыторыю заводу яго зусім не ўразілі.

На іншым баку прахадной Дзяніса адразу абцяжарыла пачуццё назойлівай неабходнасці працаваць, але голас з глыбіняў яго розуму падштурхоўваў наперад: “Хутчэй!”

І ён пайшоў. У які ўжо раз падняўся на другі паверх і зайшоў у гардэроб. Цішыня была мёртвай. Па скуры Дзяніса прабегла першая дрыготка і адначасова з’явілася падазронасць.

“Што за чорт?!” – падумаў ён. – Дзе падзеліся людзі?”

І перад тым, каб зрабіць крок наперад, Дзяніс выгукнуў:

- Ёсць тут хто жывы?! Людзі?!

Голас разнёсся па ўсім гардэробе. Ад гэтага яму стала жудаснавата. А яшчэ ўчора тут стаяла гамана і зычныя галасы мужыкоў насычалі гэтыя сцены жыццём. Прынамсі, учора была гардэробніца, яна сядзела ў сваёй каморцы і лузгала семечкі, праз адчыненыя дзверы было бачна, як яна п’е гарбату і чытае газету. Дзяніс пайшоў у той бок і ўзяўся за дзвярную ручку – зачынена. Гэта ўжо пераходзіла ўсялякія межы. Яму зноў захацелася павярнуцца зваротна і сысці, проста збегчы адтуль прэч, але адчуванне працоўнага абавязку нястомна вабіла яго, прымушаючы ісці да канца. І, бадай, адзінае, што супакойвала страх, які пачынаў нараджацца ў яго душы, быў гардэробны смурод – самы натуральны і нязменны ў дзіўным арэоле таго, што адбывалася вакол.

Дзверцы нумарнога шафіку паддаліся лёгка. Дзяніс дастаў робу і ў гэты раз вырашыў не марудзіць.

“Трэба схадзіць на канвеер, калі ўжо і там нікога не будзе, значыць я сапраўдны ёлуп. Падумаць толькі, адзін з усяго заводу выйшаў на змену. Аднак чаму майстар Прошын не папярэдзіў мяне?” - усё гэта вярцелася ў яго галаве, пакуль ён пераапранаўся.

Ужо спускаючыся па лесвіцы, Дзяніс успомніў, што пакінуў у джынсах мабільны тэлефон. Прыйшлося вярнуўся назад. Менавіта тады ён і стаў сведкам чарговай дзіўнасці. Дзверы гардэроба аказаліся наглуха зачыненыя. Хвіліну ці больш Дзяніс знаходзіўся ў ступары. Менш усяго ён хацеў бы стаць героем фільма Дэвіда Лінча. Прыйшоўшы ў сябе, Дзяніс нерашуча пагрукаў у іх.

- Адчыніце, калі ласка, - звярнуўся ён невядома да каго. – Я забыў тэлефон.

Але знутры ніхто не адказаў.

- Гэта ўжо не смешна! – пачаў злавацца Дзяніс. – Зараз жа адчыніце!

Ніякай рэакцыі.

- Ну і каціцеся вы ў дупу, - моцна тузануўшы дзверы, гыркнуў Дзяніс.

Усе шляхі адступу былі перарэзаны. Дзянісу не заставалася нічога акрамя, як ісці назад.

Ён спусціўся ўніз і выйшаў на вуліцу. Цішыня і бязлюддзе яго ўжо не здзівілі, перайшоўшы ў ранг апатычнай заканамернасці. Толькі агідны дождж, які імжыў над гэтым абсурдам, надаваў спустошанай атмасферы крыху рэальнасці. Лаўкі, на якіх, звычайна, сядзелі працоўныя, папальваючы перад пачаткам змены – пуставалі. Каля бардзюраў у маўклівай нявызначанасці стаялі загружаныя гатовымі лядоўнямі фуры. Паўсюль гарэлі ліхтары і калі добра прыглядзецца, можна было заўважыць вакол іх плойму матылёў. Усё ж жыццё ў засценка “Тытана”, у нейкай форме, існавала. Дзяніс закрочыў па сваім звыклым маршруце: мінуў завадскую сталоўку і ўвайшоў у першы цэх.

Як ні дзіўна цэх аказаўся асветленым і ў самым яго канцы праз шырокія дзверы быў бачны ўваход у другі. Гэта падбадзёрвала рухацца наперад. І Дзяніс пайшоў. Праходзячы пасярэдзіне першага цэха, ён пачуў, як зверху вялікага памяшкання, там, дзе стаялі маставыя краны, штосьці загудзела. Дзяніс падняў галаву – нічога падазронага. Ён паскорыў крок.

У другім цэху асвятленне таксама было ўключана, па-ранейшаму смярдзела пластмасай і стаяў гуд, які зыходзіў з вентыляцыйных труб. На хвіліну ў Дзяніса з’явілася паранаідальнае адчуванне, што за ім назіраюць, як быццам на яго патыліцы існавала трэцяе вока. І ён бегам кінуўся праз увесь другі цэх, завярнуў налева і, урэшце, патрапіў у трэці.

Здалёк паказалася доўгая першая ветка канвеера і, здаецца, нечая галава. Дзяніс узрадаваўся: няўжо не адзін? Аднак абрыдлая цішыня панавала і там.

“Міраж”, - падумаў ён, але ўсё роўна пайшоў наперад.

Перш-наперш Дзяніс вырашыў праверыць сваё працоўнае месца, схадзіць на “лінію Краўса”, потым цалкам абыйсці ўвесь трэці цэх, і калі яго намаганні ў пошуках жывой душы будуць марнымі, павярнуць да чорта, выбіць дзверы ў гардэробе і збегчы адсюль назаўжды. Але гэтаму плану спраўдзіцца было не наканавана. Прыйшоўшы на працоўнае месца і, нікога там не заспеўшы, Дзяніс пачуў прыглушаны гоман, як раз у баку дыспетчарскай. Ён кінуўся туды і першае, што ўбачыў – шырокую спіну брыгадзіра Холадава. Падышоўшы бліжэй і астатніх.

Каля дыспетчарскай стоўпілася чалавек пяцьдзесят, некаторыя з іх былі знаёмыя Дзянісу твары: Чыпушыла з Рупарам, Грыша з Ласуном і Гестапа, Пазняк, Курва, Масла і Зіна, Снайпер з Дзятлам, і нават Пазаліні са сваімі хлопчыкамі Свістуляй і Підарам – усе працоўныя трэцяй змены. Не было толькі майстра Прошына і начальніка змены Фаруха Ібрагімавіча. Дзяніс паспрабаваў непрыкметна падысці да працоўных і злучыцца з натоўпам, каб застацца незаўважаным і не прыцягнуць да сябе лішняй увагі, але брыгадзір Холадаў, як усё роўна прадчуваючы яго набліжэнне, азірнуўся.

- О, яшчэ адзін пасажыр, падыходзь бліжэй, не саромейся! – загарлапаніў ён, так, што ўсе паглядзелі на Дзяніса і яму тут жа стала нязручна. Прыйшлося павітацца з брыгадзірам і пад пільнымі позіркамі насцярожаных мужчын і занепакоеных жанчын, далучыцца да працоўнай масы. Дзяніс стаў каля Снайпера і Дзятла. Павітаўшыся з імі, і перавёўшы дыханне, ён адразу ж спытаў:

- Што тут адбываецца?

- Дых шо там… гэт-сам, канв… стаіць, - працадзіў цераз тонкія вусны Дзяцел, якія зводзіла спазма і адначасовае заіканне.

Ініцыятыву пераняў Снайпер.

- Канвеер стаў. Няма падачы электрычнасці, хаця ўсе прыборы паказваюць працаздольнасць. Чакаем, вось, майстра, пайшоў разбірацца.

Дзяніс абвёў натоўп ацэньвальным позіркам і, ўздыхнуўшы, сказаў:

- Як быццам нічога не здарылася. А ў мяне яшчэ з прахадной падазронасць узнікла – штосьці тут не тое.

- А што з прахадной? – не зразумеў Снайпер.

- Ды па-першае вахцёра на месцы не было і сама прахадная глючыць, турнікет самастойна адчыніўся, не запатрабаваўшы пропуску.

- Турнікет кажаш? - задуменна працягнуў Снайпер. – Дзіўна, я сёння Жэню бачыў, калі праходзіў, мы яшчэ з ім з навін пасмяяцца паспелі.

- Не ведаю, я там нікога не заспеў.

- Тых-пых, ат, - прасіпеў Дзяцел на сваёй недарэчнай мове і махнуў рукой.

Між тым у працоўным натоўпе разгарэлася спрэчка аб тым, будзе сёння змена ці не. Спрэчка нават перайшла ў лаянку паміж асобнымі працоўнымі, аднак сітуацыю тут жа ўлагодзіў брыгадзір.

- Цішэй там, цішэй! - стрымаў ён масу грубым зычным голасам. - Зараз ва ўсім разбяромся!

У гэтым прамежку Снайпер распавёў Дзянісу, што дзесяць хвілін таму майстар Прошын беспаспяхова спрабаваў трапіць у дыспетчарскую, дзе, як хутка выявілася, забарыкадаваўся Фарух Ібрагімавіч. Ён таксама не ведаў (а можа і ведаў) прычыну, якая прывяла ў дысбаланс увесь канвеер, і толькі рускімі мацюкамі адклікаў усіх прэч. Расчырванелы Прошын пайшоў на “лінію Краўса”, магчыма мяркуючы, што непаладкі ўзніклі менавіта там і перакрылі падачу электрычнасці ў цэх. І вось ужо як дзесяць хвілін яго ніхто не бачыў. Толькі потым Дзяніс задумаўся: ён не сустрэў нікога, хто б ішоў з другой змены дамоў. Яны абавязкова павінны былі праходзіць цераз першы і другі цэх па вуліцы, чаму ён не сутыкнуўся з кім-небудзь у гардэробе ці ў калідоры? Пытанні гэтыя павіслі ў паветры. Але ўсякае магло быць: ён позна прыехаў, позна прыйшоў і як заўжды прапусціў самае цікавае.

- А я кажу трэба разыходзіцца, - прарваўся цераз агульны гоман сварлівы голас мужыка з чорнымі вусамі. – Куды падзелася другая змена?! Я з Яшкам дамаўляўся сустрэцца, а што атрымалася – ні Яшкі, ні змены!

- Во-во!!! – падхапілі яго галасы. – Куды падзеўся Яшка, чорт яго дзяры!

І колькі дзясяткаў вачэй унурылася ў злёгку разгубленага брыгадзіра Холадава. Той паціснуў моцнымі плячыма і стрымана адказаў:

- Я таксама як і вы не ў курсе спраў, але трэба пачакаць, мы ж усе разумныя людзі, таму давайце захоўваць дысцыпліну і парадак. Зараз прыйдзе Максім, будзем тэлефанаваць Коўшыну, хай прыязджае сюды і разбіраецца, наша справа маленькая. Стойце тут і чакайце. Я, дарэчы, гэтак жа не супраць пайсці дамоў, там, прынамсі, цёплы ложак і жонка пад бокам. А пакуль нам патрэбна вытрымка і спакой.

Працоўныя незадаволена загудзелі, словы брыгадзіра не пасялілі ў іх сэрцах абнадзейвання, а наадварот разгарачылі яшчэ больш.

- А яны яшчэ прэмію збіраюцца падрэзаць, - сказала жанчына з кучаравымі валасамі і затрэсла ў паветры азызлымі рукамі. – Нам ары, а яны сабе катэджы будуюць, золата ў Швейцарскіх банках трымаюць, і ўсё за наш рахунак!

- Правільна! – падтрымалі яе некаторыя працоўныя.

У гэты момант з натоўпу вылучыўся вядомы Дзянісу Пазняк.

- Грамадзяне, не трэба раздзімаць з мухі слана! - паспрабаваў ён замест брыгадзіра, супакоіць усхваляваных працоўных. - Усё, што не робіцца, робіцца да лепшага. Вы тут папракаеце начальства, а яно, можна сказаць, адукаваная частка нашага грамадства, яно добра ведае, што неабходна рабіць, а што не. Начальства, як дзяржава, якая самааддана клапоціцца аб сваім насельніцтве, таму нам патрэбна яго слухацца, каб не выйсці з-пад кантролю і не ўладкаваць тут сапраўдную анархію.

Словы, выказаныя Пазняком, прагучалі вагавіцей і ўпэўненей у параўнанні з папярэднім аратарам, прымусіўшы працоўных задумацца, але не на доўга. Гэтыя словы толькі абабілі пыл з той напружанасці, якая зыходзіла з натоўпу і хутка растварыліся ў паветры.

- Не трэба тут несці гэтую ахінею, - сур’ёзна і разважліва загаварыў мужычок невялікага росту з вачыма, як параспелая сліва і з пульхнымі вуснамі, так што яго голас гучаў невыразна. – Нам ад тваёй прыстасаванасці лягчэй не стане. Вісець на дошцы гонару –

адно, а казаць справу – іншае. Асабліва я чакаю Максіма Прошына і яго меркаванняў. А што людзі незадаволеныя, гэта правільна, хопіць з нас вяроўкі віць, няма добрых умоў для працы – няма, адпаведна, і працоўных рук.

- А я даўно збіраюся адсюль вуды змотваць, мне на халтурах удвая больш плацяць, - сказаў мужык з апухлымі вачыма, падобны на забулдыгу. – У труне я бачыў гэты канвеер.

- З канца сямідзесятых тут працую, а ўсё па-ранейшаму, як кралі, так і працягваюць красці, - завохкала адна з жанчын.

- Ды і не прадыхнуць тут – на "лініі Краўса" хоць у хімахове хадзі – столькі бруднага паветра, што потым у вушах трашчыць, - залямантаваў мужык-бамбіза з "лініі Краўса".

- І ад туалетаў пастаянна смуродам цягне!

- Што там туалеты, у сталоўцы памыямі харчуюць!

- Да чорту гэты канвеер!

Галасы працоўных перапляліся ў адзіны рухавік людскай гаманы, дзе ўжо было немагчыма разабраць ні асобных фраз, ні нават асобных слоў. Разам з усімі пачаў крычаць і Холадаў, намагаючыся суняць натоўп, які нагадваў рой злых пчол. Раптам з аднаго боку пачалася бойка, завішчалі жанчыны і на гэтым усё скончылася. Бойка была стыхійнай. Потым адзін з мужыкоў з крыкам: "адчыняй, падла, і кажы, што ты ўтварыў", кінуў у дыспетчарскую абцугі. Такім чынам усе непаладкі былі спакваля скінутыя на начальніка змены.

- Сядзіць там, як гніда і людзям баіцца на вочы паказацца, выходзь, гад! - прагучалі за спінай Дзяніса пагрозлівыя словы Снайпера і яго здзівіла, што лагодны, з першага погляду, мужык, на вачах ва ўсіх гатовы расправіцца са сваім начальнікам.

У Дзяніса таксама прачнуўся запал злосці, які адразу ж было неабходна накіраваць у патрэбнае рэчышча, каб проста выліць на кагосьці ўсю сваю крыўду і расчараванне. Ён адчуў, што на пэўны час яго розум пазбавіўся ад усялякай адказнасці, прыбываючы ў стане афекту і таму разам з працоўнымі ён легкадумна накінуўся на дыспетчарскую. Чалавек дваццаць наляцелі на яе, як ільвы на безабаронную антылопу і пачалі торгаць з боку ў бок. Рупар прапанаваў яе перакуліць. Доўга пяліся і ўрэшце перакулілі. Дыспетчарская выдала адчайнае рыпенне і ляснулася аб бетонную падлогу, напоўніўшы цэх глухім і працяглым гудам. Дзянісу падалося, што знутры пачуўся шчымлівы стогн, аднак дыспетчарскую на гэтым пакінулі.

Увесь гэты час брыгадзір Холадаў разгублена назіраў за неўласцівымі для працоўных дзеяннямі, і па выразе яго твару можна было сказаць адно: ён змірыўся з абставінамі. Сказаць можна было яшчэ больш: натоўп згубіў часовы кантроль і ўсялякае кіраўніцтва.

Але сітуацыю паспрабаваў выправіць Пазняк.

- Што вы робіце, варвары, там жа жывы чалавек! – закрычаў ён.

- І праўда, што вы робіце, так нельга! – засакаталі галасістыя жанчыны.

- Закрый сваю пашчу, - злавесна сказаў у бок Пазняка раз'ятраны Рупар. – Хочаш праўду табе скажу, ты – гаўно, самае сапраўднае, я зараз вазьму і размажджэру тваю шпакоўню гаечным ключом, калі ты не замоўкнеш.

І ён ужо было памкнуўся пайсці на Пазняка, аднак мужыкі своечасова стрымалі яго за рукі і адсунулі далей ад бяды. Пазняк спалохана адышоў назад і стаў каля жанчын, разумеючы важкасць грозных слоў Рупара. З гэтага моманту, нечакана для ўсіх, працоўных натоўп падзяліўся на дзве часткі: тых, хто падтрымаў беспарадкі, і тых, хто быў супраць. Дзяніс пакуль не спяшаўся далучацца да адной з двух частак, хаця сваімі дзеяннямі гэта ўжо зрабіў. Ён упэўнена стаў каля Рупара і гурта мужыкоў, якія разам з ім перавярнулі дыспетчарскую.

Снайпер падышоў да іх. Побач са Снайперам Дзяніс заўважыў Чыпушылу, таго самага дэбільнага мужыка з маньяцкімі вачыма. Чыпушыла па-прыяцельску пахлопваў яго па плячы і аб нечым казаў.

На хвіліну ва ўсім трэцім цэху ўсталявалася трывалае маўчанне. Людзі былі разгубленыя і збянтэжаныя. Дзяніс бачыў апатычныя твары Ласуна і Гестапа, бачыў, як ціха, амаль бязгучна перагаворваліся паміж сабой Масла і Курва, бачыў маўкліва-пустэльны погляд Пазаліні, які апусціў па швах гужаватыя рукі і як усе бяздзейнічаў. За ім стаялі Свістуля і Підар, з дурнаватай цікавасцю назіраючы за ўсім, што адбывалася ў цэху. Дзяніс звярнуў увагу на Грышу і толькі цяпер заўважыў, што ён зголіў сваю аскетычную бародку, але гэта ахвяра не зрабіла яго прывабней – ён па-ранейшаму пакідаў уражанне гідкага чалавека. Усім сваім выглядам Грыша паказваў, што намагаецца выказацца, па звычцы пагладжваючы падбародак.

- Пляваць, - урэшце манерна вымавіў ён, - я прама зараз іду ў гардэроб пераапранацца, калі куляецца дыспетчарская, на вачах робіцца рэвалюцыя, прымаць у гэтым удзел я не збіраюся.

Грыша сабраўся пайсці.

- Нікуды ты не пойдзеш, - заявіў яму Холадаў, пацёршы пры гэтым далонню сціснуты кулак.

Грыша насцярожана паглядзеў на кулак брыгадзіра, які нагадваў кіянку і, спыніўшыся на паўдарогі, праскавытаў:

- Ты не маеш права калечыць працоўных.

- Яшчэ як маю, асабліва такіх пацукоў. Ды глянь ты ўрэшце на сябе ў люстэрка, твая храпа даўно цэглы просіць, ці ў лепшым выпадку добрага штурхяля.

- І вы ў той жа бок, - меланхалічна сказаў Пазняк.

- У які бок? – як быццам не зразумеў яго Холадаў. - Не ведаю я ніякіх бакоў, ведаю, што ніхто адсюль не зрушыцца, пакуль не высвятляцца асноўныя прычыны паломкі. Вы забылі, што начальства вырашае, ісці працоўным дамоў ці не ісці? І ўвогуле я не ўзгадваю, каб канвеер больш гадзіны стаяў.

- Пры чым тут ужо твой канвеер? – нервова спытала яго тлустая жанчына з чырвонымі шчокамі. – Валера павінен быў мне сёння ў абед патэлефанаваць. Я яго потым цэлы вечар набірала, а нумар як быў заблакаваны, так і застаўся.

- Куды знікла другая змена? – зноў загучалі трывожныя галасы працоўных.

- Не магла ж яна скрозь зямлю праваліцца?

- Хто-небудзь бачыў Бужакова?

- Я нават прыбіральніцу не бачыла.

- А хто сюды першым прыйшоў?

Зноў падняўся шум. Людзі, здавалася, не маглі паслядоўна разабрацца ў сітуацыі, якая склалася і Дзяніс у чарговы раз пераканаўся, што працоўныя – гэта суцэльная безаблічная маса.

- Ціха! – перапыніў усіх голас Рупара. – Майстар ідзе!

Працоўныя замоўклі і ўтаропіліся ў бок “лініі Краўса”.

Адтуль, ледзь трымаючыся на нагах, ішоў, калі гэтае кульганне можна было назваць хадой, майстар Прошын. Ён трымаўся адной рукой за плячо, якое моцна сыходзіла крывёй, а рука абвісала, як ірваная ануча. Майстар нагадваў чалавека, зацкаванага зграяй шалёных сабак і які цудам выбраўся з гэтай калатніны. Ён падышоў бліжэй да працоўнага натоўпу і ніцма паваліўся на бетонную падлогу. Дзяніс заўважыў, як ад яго цела адлучылася рука, якую майстар спрабаваў прытрымліваць і забілася ў кароткіх канвульсіях. Мурашкі праслізнулі па ўсяму яго целу і ён адвёў позіркам у бок.

Дзяніс не бачыў, як да майстра падбегла колькі мужыкоў і, прыпадняўшы яго скрываўленую галаву, паспрабавалі прывесці ў прытомнасць. Зрэнкі Прошына закаціліся і бяльмо, якое з’явілася замест іх, прадракло хуткую смерць. Адзін з працоўных ляпнуў майстра па шчацэ і ліхаманкава затрос:

- Максім, Максімка, што такое?! Што здарылася?! Максім?!

Магчыма ў майстра ўсялілася апошняя перадсмяротная сіла, ці ён проста на кароткі час прыйшоў у сябе, таму што ў наступнае імгненне пасмяглыя вусны Прошына гартанным голасам выдалі тое, ад чаго кожны, хто знаходзіўся ў трэцім цэху, здрыгануўся. Дзяніс стаяў спінай, але выразна пачуў сказанае.

- Бяжыце… бяжыце адсюль, як мага хутчэй…

9

Працоўныя кінуліся ў рассыпную. Хто куды. Трэці цэх меў шэсць шляхоў адступу і людзі пабеглі ў розныя яго бакі, як пацукі з дрэйфуючага карабля. У іх ліку быў і Дзяніс. Як толькі ён пачуў не абнадзейлівыя словы напаўжывога майстра, ён разам з усімі, хаця правільней сказаць за ўсімі, пабег у той бок, адкуль нядаўна прыйшоў у цэх. У галаве Дзяніса ўзнікла мігатлівае слова “небяспека”, ён убачыў, як перад ім заблішчалі пяты працоўных і яго ногі самі панесліся наўздагон за ўцекачамі.

Першае, што прыйшло яму на розум, калі ён адчайна ратаваўся ад невядомага жаху, які пасеяў сярод працоўных усеагульную паніку, гэта надзвычайнае здарэнне, якое адбылося на “лініі Краўса”, магчыма там майстру прэсам адбіла руку. Але тады навошта казаць, каб усе ўцякалі? Думкі круціліся і перапляталіся ў розных жудасных варыяцыях, узмацняючы ў крыві аб’ём адрэналіну, і прымушаючы яго бегчы яшчэ хутчэй.

Жанчыны галасілі, мужчыны мацюкаліся і ўсе няспынна беглі. Дзяніс убачыў, як наперадзе, ужо за першай веткай, на роўным месцы распласталася габарытная жанчына і адзін мужык, не зважаючы на гэта, наскочыў ёй на спіну кірзавым ботам і пабег далей. Жанчына заенчыла і змоўкла. Дзяніс падбег да яе і, спыніўшыся, паспрабаваў перавярнуць на спіну, але абезрухомленае цела не паддалося. Прыгледзеўшыся, ён убачыў, што ў жанчыны з галавы пацякла барвовая кроў. Прыступ непамернай агіды напоўніў нутро Дзяніса і ён кінуўся бегчы, не аглядаючыся.

Мінуўшы доўгі праход уздоўж цэха, ён звярнуў на права, - туды, дзе пачыналася ліцейка, і бакавым зрокам заўважыў, што больш ніхто не пабег за ім услед. У стане страха за жыццё, дзеянні мас маглі быць самымі непрадказальнымі, але гэта зусім не засмуціла Дзяніса, яму нават спадабалася, што да гэтага выйсця кінуўся ён адзін. І, бадай, так было лепей, чым апыніся ён зараз з кімсьці – аднаму растварыцца ў прасторы на шмат прасцей.

Аднак, забегшы за вугал, Дзяніс рэзка спыніўся. Выйсце ў другі цэх было зачынена жалезнымі дзвярамі бруднага жоўтага колеру. Дзяніс падышоў бліжэй і з усяе сілы тузануў за вялікую ручку. Магчыма, дзверы зачынілі з другога боку, таму што замка на іх не было. Дзяніс не ведаў, што рабіць, ён проста аслупянеў, адчуваючы сябе загнанай жывёлінай. Толькі хто паляўнічы?

- Што і тут зачынена? – пачуў ён за спінай голас Пазняка і азірнуўся.

Пазняк стаяў з адчыненым ротам і чакаў, што адкажа Дзяніс, але ўбачыўшы безнадзейна разведзеныя рукі, расчаравана плюнуў і сказаў мацюком.

А ўжо праз некаторы час Дзяніс убачыў, як стомленыя працоўныя вярталіся назад. Ён праглынуў у горле камяк і абыякава паплёўся за ўсімі.

“Чаму яны сунуцца зваротна?” – паўстала ў яго пытанне. “- І чаму за імі сунуся я?”

Але адначасова ў душы з’явілася боязь застацца аднаму. Лепш глядзець у вочы небяспецы разам. І ён далучыўся да кампаніі двух мужыкоў, якія ўсю дарогу абкладалі жаночымі геніталіямі ўсіх вышэйстаячых начальнікаў, што, па-сутнасці, не магло ніякім чынам паўплываць на змену сітуацыі.

Вяртаючыся назад да дыспетчарскай тым жа шляхам, Дзяніс убачыў жанчыну, якая ляжала на падлозе. Вакол яе стаялі Зіна, Масла і Курва. Кроў ад жанчыны расцяклася чырвонай плямай на цэлы метр.

- А што гэта з Марыяй здарылася? – спалохана спытаў адзін з мужыкоў, з якім ішоў Дзяніс.

- Забілася, - адказала расчырванелая Зіна і адразу ж зачыніла вочы азызлымі далонямі.

Дзяніс, хаваючы прыступ невымернай агіды, хутка пайшоў далей. Упершыню ён убачыў чалавека, які сканаў на яго вачах і адчуванне гэта было не з самых прыемных. Што казаць, калі ён нават нябожчыкаў баяўся і ўсялякімі сродкамі спрабаваў не прысутнічаць на пахаваннях. Потым начамі ён не мог заснуць, яго думкі запаўнялі, усялякага кшталту, жахі з ажылымі трупамі і іншымі анамаліямі паўсядзённага жыцця. Цяпер жа ў яго сэрца закралася самае сапраўднае трапятанне.

- Мужчыны, дапамажыце нам пакласці яе ў куды больш прыстойнае месца, яна ж усё ткі чалавек, а не сабака, - пачуў Дзяніс за спінай зрывісты голас Зіны, але пайшоў далей. Чапаць мерцвяка – пакіньце гэта каму-небудзь іншаму.

Ён вярнуўся да дыспетчарскай, адкуль нядаўна бессаромна кінуўся на ўцёкі і ўбачыў каля майстра Прошына яшчэ з дзясятак чалавек, сярод якіх былі брыгадзір Холадаў, Снайпер і Дзяцел. Дзянісу адразу стала сорамна за праяву слабасці свайго характара і ён ужо чакаў у свой бок вострых слоў і ў бок тых, хто вярнуўся разам з ім, але нічога падобнага не адбылося, толькі Холадаў кінуў на ўсіх уцекачоў здзіўлены позірк і спытаў:

- Чаму вы вярнуліся?

- Ды нейкая падла ўсе дзверы зачыніла, я першы раз бачу, каб яны наогул зачыняліся! – абурана сказаў чарнабароды мужык.

- Як так зачыніліся? – падышоў да яго Снайпер.

- А вось так – на замок з другога боку і баста.

- Гэта падобна на замову, - зласліва працадзіў Холадаў. - Якога лысага тут дзеецца?

- Канвеер, - ціха сказаў майстар Прошын.

Усе прысутныя звярнулі на яго ўстрывожаныя позіркі. Майстар ляжаў, распластаўшыся на халоднай бетоннай падлозе, яго галаву прытрымлівала мажная жанчына, а з рота тоненькім струменьчыкам выцякала кроў. Адарваную руку паклалі побач з ім, нібы звычайную дэталь ці нарыхтоўку.

- Цішэй, мой хлопчык, - па-мацярынску казала яму жанчына, - цішэй, каток, табе нельга гаварыць.

Вочы Прошына ашклянелі ў натужлівым чаканні смерці. Было бачна, што ён намагаўся гаварыць і гаварыць аб многім, але сілы яго пакідалі, вусны сутаргава трэсліся і ён надрыўна ўздыхаў.

Брыгадзір падышоў да ўсіх, хто вярнуўся назад і шэптам сказаў:

- Яму не доўга засталося. Невядома хто на "лініі Краўса" усадзіў яму ў грудзі сталёвую загваздку і адарваў руку.

- Але хто? – пасыпаліся ціхія галасы працоўных. – Хто мог учыніць такое?

- Не ведаю, але адно магу сказаць дакладна – гэты невядомы досыць небяспечны тып і яго трэба асцерагацца.

- Ды што мы ўрэшце важдаемся, - згубіўшы раўнавагу, сказаў Пазаліні, які прыйшоў адразу за Дзянісам. – Трэба пазваніць 101, 102, 103, халера ведае яшчэ куды і выклікаць неабходную дапамогу.

- Ужо спрабавалі, - расчаравана кінуў Снайпер.

- І што?

- Нічога – сувязі няма, абаненты недаступныя.

- Паспрабуйце набраць з майго апарата, - не сунімаўся Пазаліні.

- Толку не будзе, - сказаў Холадаў.

- А вы паспрабуйце, у мяне заўжды добра ловіць.

Холадаў са Снайперам пераглянуліся. Снайпер падышоў да Пазаліні, узяў яго тэлефон, набраў 102, крыху пачакаў, а потым прыцісnуў тэлефон да яго вуха.

- Вось дупа, - вылаяўся ён.

У гэты момант Дзяніс пашкадаваў, што забыў сваю Motorola ў гардэробе, прынамсі можна было пераканацца ў словах Снайпера.

- Як быццам Бярмудскі трохкутнік, - загадкава падагульніў Пазаліні.

Паступова вярталіся збеглыя працоўныя, хтосьці са злосцю, хтосьці з абыякавасцю, а хтосьці са спужаным тварам. У паветры лунала трывога. Жанчыны, трапечучы, уздыхалі, а мужчыны голасна перагаворваліся. Урэшце Холадаў ізноў вырашыў узяць кантроль у свае рукі.

- На "Лініі Краўса" узніклі сур'ёзныя непаладкі, якія па невядомым пакуль прычынам скалечылі Максіма. Я збіраюся туды пайсці і высветліць, што там здарылася, мне патрэбны дапамагатыя, пажадана з тых, хто непасрэдна там працуе, - сказаў ён.

- Ага, каб і нас там на шматкі паразрывала, - выкрыкнуў нізкарослы мужык з другой канвеернай веткі.

- Дурняў няма! – падтрымалі яго галасы.

Холадаў, відавочна, чакаў такога павароту падзей, таму стрымана паўтарыў, што яму патрэбны добраахвотнікі па ўласным жаданні.

- Я з табой, Мішка, - зухавата выгукнуў Рупар і звярнуўся да Чыпушылы: – Рамуальд, пайшлі! Але Чыпушыла толькі хвалююча паправіў пальцам на пераноссі вялікія акуляры і адчужана закруціў галавой.

- Эх ты, доўбня, маці тваю. Я даўно ведаў, што з табой у разведку не сходзіш. Ануча ты драная, Рамуальд, а імя яшчэ такое носіш…

На гэтыя словы Чыпушыла ніяк не адрэагаваў, толькі адвярнуў твар у бок, нібы не прызнаў Рупара і пакрыўджана заварушыў вуснамі.

Тым часам да Холадава з Рупарам далучыліся Ласун з Гестапа і яшчэ два мужыка з "лініі". Кожны з іх узяў малаток, а Холадаў прыхапіў гаечны ключ і з асцярогай, пераглядаючыся адзін з адным, яны нерашуча пайшлі на "лінію Краўса".

Усе правялі іх спачувальным позіркам і, прыбываючы ў разгубленасці, маўчалі. Аднак верх хутка ўзяў Снайпер. Ён, як мага зычней, сказаў:

- Трэба паставіць дыспетчарскую зваротна на месца і паспрабаваць адчыніць дзверы, - сказаў Снайпер, а потым расчаравана дадаў: - усё ж павінен прызнаць – мы перастараліся, аднак чалавек схільны памыляцца.

- Самі вярнулі, вось самі і стаўляйце, - адчуўшы адсутнасць Рупара, заявіў Пазняк.

Цяпер выразна азначылася сапраўднае раздзяленне натоўпу: Пазняк адышоў у апазіцыю і да яго пачалі далучацца, але, галоўным чынам, напужаныя жанчыны з бесталкоўшчынай Грышай; яны падышлі да Пазняка і пагардліва паглядзелі на Снайпера. На гэты раз Дзяніс, безумоўна, вырашыў яго падтрымаць, ужо адназначна выбраўшы свой бок. Трохі пазней да Снайпера падышлі Пазаліні, Підар, Свіслуля, Дзяцел і яшчэ з дзесятак мужыкоў. Усім кагалам яны навальіліся на дыспетчарскую (Дзяніс стаяў разам са Свістуляй) і дружна паставілі яе на месца. Пачулася, як усярэдзіне дыспетчарскай усе рэчы перавярнуліся на іншы бок.

- Усё, – сказала ў гэты момант жанчына, што сядзела каля майстра. - Сканаў.

Дзяніс, не адчуваючы ніякай агіды, пайшоў да месца трагедыі, каб увачавідкі засведчыць смерць майстра. Ён ляжаў у тым жа стане з напаўзаплюшчанымі вачыма. Жанчына лагодна заплюшчыла яго павекі сваёй шурпатай працоўнай далонню і, ледзь стрымліваючы слёзы, пайшла да Пазняка.

Стоўпіўшыся каля памёрлага, працоўныя цяжка ўздыхалі, быццам аддаючы майстру хвіліну пашаны. Усё гэта нагадала Дзянісу карцінку са школьнага падручніка па гісторыі Беларусі, на ёй былі намаляваныя партызаны, якія стаялі вакол забітага камандзіра.

- Добры быў майстар, - сарваў цішыню чарнабароды мужык.

- Ды што там майстар – па-першае чалавек, ніколі голасу не падвышаў і за быдла нас не лічыў, - сказаў таўстагубы.

- Эге, - зацягнулі астатнія.

Потым Дзяніс убачыў, як каля майстра паклалі жанчыну з адубелым прыплюснутым тварам.

- Не да добрага гэта, - злавесным голасам сказаў Пазняк. – Два трупа за змену, а прычыны так і не вядомыя…

З глыбіні “лініі Краўса” пачуўся металічны грукат, нібы грукалі малатком па кавадле, ды так моцна, што рэха расцягнулася па ўсім цэху.

- Хлопцы, трэба паспрабаваць адчыніць дзверы, - звярнуўся Снайпер да сваёй групоўкі.

Пазаліні прынёс мятровы лом і Снайпер разам з ім і Дзянісам, уставіўшы яго ў вузкі праём, наваліліся на лом масамі сваіх целаў. Пачуўся ўласцівы трэск і дзверы прыадчыніліся. Для большай упэўненасці Снайпер урэзаў па іх нагой, як гэта робіць спецпрызн, калі пранікае ў кватэры бандытаў, і дзверы расчыніліся. Спярша акрамя перавернутых сталоў і камптутараў ніхто нічога не ўбачыў, аднак зайшоўшы ўнутр, ім адчынілася жудасная карціна. Начальнік змены Фарух Ібрагімавіч, абвязаўшы вакол шыі свой улюбёны сіне-срэбны гальштук, павесіўся на вешалцы каля свайго працоўнага месца. Снайпер кінуўся да яго і пачаў было шукаць пульс, але неўзабаве апусціў рукі і ўсім стала зразумела, што яшчэ адным трупам стала больш.

- Трэба пашукаць якой малявы, - сказаў Пазаліні. – Некаторыя вісельнікі пакідаюць лісты з апошнім словам.

- Ты маеш рацыю, - сказаў Снайпер і пачаў мацаць кішэні мёртвага начальніка, а потым правяраць шуфлядкі ў яго стале. Аднак ён нічога не знайшоў.

- Вось скнара, нават ліста не пакінуў, заўжды толькі пра сябе думаў, - гыркнуў Пазаліні і штурхнуў Фаруха Ібрагімавіча нагой. Штурхнуць другі раз начальніка змены яму не перапала – Снайпер рэзка адапхнуў яго.

- Так нельга, ён жа нябожчык.

- Які ён нябожчык, - абурыўся Пазаліні, - калі нават смерць сабе сабачую абраў.

Але штурхаць Фаруха Ібрагімавіча не адважыўся. Снайпер паглядзеў на Дзяніса.

- Я думаю майстра і Марыю трэба пакласці тут, далей ад вачэй і наогул не шкодзіла б прынесці цыраты, каб хоць чымсьці іх прыкрыць.

Дзяніс кіўнуў галавой і злёгку разгублены выйшаў з дыспетчарскай. Каля яе ўжо сабраліся асабліва цікаўныя і Дзяніс не марудзячы, басавіта вымавіў:

- Фарух Ібрагімавіч павесіўся…

- Цьху ты, чорт! - раздаўся ўсплеск эмоцый. - Лёгкай смерці сабе захацеў, вось шатан пракляты!

- Гэта проста канец свету! - пачала лямантаваць хударлявая жанчына, нават занадта хударлявая для свайго ўзросту. – Цяпер і начальнік – мы ўсе тут загінем, гэта наша брацкая магіла!

- Ды сціхні ты, дура! - вылаяўся Дзяцел і Дзяніс упершыню пачуў яго разборлівую гаворку.

- А ты не затыкай ёй рот, Лена праўду кажа. Мы ўсе можам тут загінуць, калі будзем займацца самаўпраўнасцю, - сказаў Пазняк.

Дзянісу захацелася разбіць яму твар і яшчэ ён зразумеў, што далейшыя прамовы гэтага "апазіцыянера" могуць распаліць канфлікт да ўзроўню супрацьстаяння адной часткі працоўных з другой, але абставіны ўдала выправіў Снайпер, пачуўшы голас Пазняка, ён выйшаў з дыспетчарскай.

- Мы ўсе тут загінем, калі будзем слухаць цябе, Аркадзь, - сказаў яму Снайпер.

Пазняк жвава забегаў сваімі цёмнымі вочкамі і загаварыў скарагаворкай:

- А ты ніяк хочаш тут усё пад сябе падстроіць, Валік, га? Колькі цябе памятаю, заўжды бачыў асобу дзікунскага складу, з якой ні пагаманіць, ні выпіць нават. Ты каго тут з сябе строіць спрабуеш, Валік, га? Ніяк героя-вызваліцеля?

- Нікога я з сябе не строю, проста спрабую дзейнічаць рацыянальна, а табе, чым дарма папракаць, не замінала б дапамагчы нам.

- Во табе! - выставіў ён у накірунку Снайпера кукіш, - і табе, і табе. Я вас усіх ненавіджу, усіх разам узятых, бездараў і марнатраўцаў, вы шэлега не вартыя і не прыстала мне слухаць вашай бязглуздай рады.

- Гэта тваё асабістае меркаванне, - сказаў Снайпер, а потым звярнуўся да ўсіх працоўных: - Лепш усяго будзе перанесці Максіма з Марынай у дыспетчарскую і папрасіў бы нікому не разыходзіцца, цяпер нам як ніколі неабходна трымацца разам, паніка зараз недарэчы.

На гэты раз прапанова Снайпера была падтрымана. Працоўны замітусіліся, зашумелі і прыняліся пераносіць трупы. Прошына ўзяла чалавек пяць, а Зіна дапамагла мужыкам падняць Марыю, яна вохкала і гаротна стагнала, нібы праводзіла яе ў апошні шлях. Снайпер, тым часам, высунуў з пятлі Фаруха Ібрагімавіча і паклаў на падлогу. Дзяцел прытрымліваў дзверы і аддаваў зразумелыя загады:

- Асцярожней! Лявей! Правей! Во-во! Занось!

Дзяніс збегаў да сябе на працоўнае месца і выцягнуў з-пад стала кругляк зматанай цыраты, які прыкмеціў яшчэ ў першы дзень працы. Цырату разрэзалі нажніцамі на тры доўгія часткі і накрылі імі нябожчыкаў. Потым Снайпер зачыніў дзверы дыспетчарскай і сцёршы з ілба пот, сказаў:

- Гатова…

Але ніхто не пачуў гэтае слова, таму што аднекуль, з самых патаемных закавулкаў заводу прагучала жудаснае рыканне, нібы з логава небяспечнага звера. У трэцім цэху ўключылася яркае святло, якое забяспечвалі пражэктары, змешчаныя пад самым дахам, і,

спачатку рыпаючы, як быццам ад іржы, а потым набіраючы хуткасць, нечакана для ўсіх, зарабіў канвеер. Канвеерная стужка пачала рухацца, як бегавая дарожка і здзіўленыя працоўныя разыйшліся па сваіх месцах, зачараваныя гэтым відовішчам. Людзей, здавалася, падмянілі, яны ішлі, гатовыя працаваць, быццам нічога не здарылася. І ніхто не зважаў на гук, які выдаваў канвеер. Гэты гук нагадваў штосьці сярэдняе паміж скрыгатаннем зубоў і вастрэннем нажоў. Канвеер скрыгатаў і няспынна рухаўся.

- Але што гэта? – урэшце выгукнуў Грыша.

- Аб чым ты?

- Чаму канвеер рухаецца ў супрацьлеглы бок?!

Дзяніс прыйшоў у сябе, стоячы ля прэса і паглядзеў на канвеер. І сапраўды, ён рухаўся ў іншым напрамку. Зіна і Масла аж ахнулі ад убачанага. Калі ўявіць, што канвеер будзе працаваць у такім рэжыме, лядоўні лагічней не збіраць, а наадварот – разбіраць. Глупства нейкае.

- Мусіць, Холадаў перастараўся, - заключыла Зіна.

- Зараз наладзіць, як патрэбна, - уздыхнула Масла. - Мне ня верыцца, што пасля ўсяго гэтага, нам яшчэ і змену адпрацоўваць прыйдзецца.

Але ніякіх змен не адбылося – канвеер працягваў рухацца ў зваротным накірунку.

З “лініі Краўса” пачуліся крыкі, потым адтуль выбег спачатку збялелы Рупар, а следам за ім Ласун і Гестапа. Падбегшы да дыспетчарскай, яны нічога не сказаўшы, як падсечаныя селі на падлогу. Па выявах іх твараў можна было сказаць, што яны сутыкнуліся з непрадказальным, з тым чаго ніколі ў сваім жыцці не бачылі. Добра прыгледзеўшыся да Рупара, можна было заўважыць яго вымачаныя порткі.

Першы не стрымаўся і спытаў Пазняк:

- Ну што там?

Па ўсяму было відаць, што пытанне да іх не дайшло, усе яны знаходзіліся ў прастрацыі, напалохана лыпаючы вачыма. Пазняк настойліва паўтарыў сваё запытанне.

- Канвеер, - ледзь выціснуў з сябе гэтае слова Рупар.

- Што, што канвеер!? – не разумеючы яго, злосна патрабаваў Пазняк. – Кажы выразней!

- Канвеер…

Над галовамі працоўных прагучаў неўласцівы для цэха скрып, а потым раздалася адрыжка. Запрацавалі падвесныя канвееры і больш зоркія разгледзелі на іх, замест дэталяў для лядоўняў, вісячыя часткі чалавечых целаў. Віселі яны па парадку: першымі ішлі рукі, потым ногі, торс і галовы. Тыя з працоўных, хто стаялі бліжэй па чарзе пачалі ванітаваць. Пазняк уцёк адразу, галасна абвяшчаючы аб канцы свету. Толькі Рупар з Ласуном і Гестапа, нібы чакаючы такога зыходу, абыякава звесілі свае галовы. Тым часам часткі целаў рухаліся зверху ўніз, набліжаючыся да першай веткі канвеера, дзе сваім націскам, прабіўшы загарадку, якая адлучала верхні ярус ад ніжняга, вываліліся на канвеерную стужку і бязладнай грудай працягнулі сваё вусцішнае вандраванне наперад, пакуль канвеер зноў не спыніўся.

10

Дзяніс пачуў лямант Пазняка як раз заклапочаны разважаннямі наконт перасцярог Масла: ці прыйдзецца яшчэ працаваць? Аднак безуладны крык Пазняка пераканаў яго ў зваротным. Да Дзяніса даляцела слова “расчляненне” і гэтага хапіла, каб усвядоміць, што здарылася непапраўнае. Зіна з Маслам катэгарычна адмовіліся ісці і глядзець на крывавую карціну і Дзяніс, ахоплены іх страхам і агідай, таксама вырашыў застацца на працоўным месцы, але да яго падышоў Пазаліні, а перад ім Дзянісу не хацелася здацца баязліўцам.

Падыходзячы да першай веткі, яны ўбачылі натоўп працоўных і кожны, хто б не адыходзіў ад канвеернай стужкі, блядneў і хапаўся далонню за рот. Падышоўшы да злашчаснага месца, Дзяніс устаў на дыбачкі і ўбачыў праз спіны працоўных зваленыя ў адну груду адрэзаныя часткі чалавечых рук і ног. Але, бадай, самым ашаламляльным для яго стала адрэзаная галава Холадава, якая ляжала на версе груды з прыадчыненымі вачыма, у якіх яшчэ не паспеў загаснуць жыццёвы бляск, а вусны злёгку трапяталі, нібы імкнучыся расказаць аб кашмарным здарэнні. Дзянісу было дастаткова пяці секунд, каб ахапіць усё відовішча спаўна. У тое ж імгненне ён адчуў пазывы ванітавання, у яго закруцілася галава, але ён усё ж знайшоў у сабе сілы, каб адысці да другой веткі. Там Дзяніс сеў на падлогу, як гэта зрабілі Рупар, Ласун і Гестапа. Аднак яго не званітавала, Дзяніс проста не мог трымацца на нагах, разумеючы, што паступова губляе прытомнасць, а з ёй і ўласны розум. Рэчаіснасць сказілася і ён зразумеў, што з’язджае з глузду. Ты трапіў у пастку, адсюль няма выйсця. Змірыся з гэтым і стань часткай сакральнага рытуалу. Няхай чара напоўніцца крывёй і ўшануе механізм. Канвеер! Тут няма месца асобе, гэтай плюралістычнай дрэні, ёсць усталёўка, якая трактуе аднолькавае мысленне. Ты – хто зусім нядаўна лічыў, што можаш кіраваць Мною, глыбока памыляўся, кіраваны сваімі мізэрнымі чалавечымі інстынктамі, не заўважаючы, што Я, МЫ – даўно завалодалі вамі. Ты меркаваў, уключаючы святло, што тым самым робіш сабе мілату, нават не падазраваў, што гэта МЫ табой уключаем сябе. Вы, як павукі, якія звілі вакол сябе шмат павуціны, а потым заблыталіся ў ёй і забылі першасную мэту яе карысці. І перастаньце ўрэшце думаць, што ваш дэградаваны мозг мог вынайсці НАС! Эвалюцыя? Казкі для тых, хто хацеў простага адказу. На працягу мільёнаў гадоў Штучны Інтэлект шукаў сабе найбольш прыдатную істоту, якая б магла здзейсніць наш  план. МЫ – вышэй трансцэндэнтнага, МЫ – кіруем трансцэндэнтным. МЫ – вышэй гэтага свету. Падзі ніцма перад НАМІ!

Дзяніс прыйшоў у самавалоданне, не ведаючы колькі прайшло часу з моманту паглыблення ў трызненне. Яго розум як быццам усмактала ў  іншую рэальнасць, а потым выпхнула адтуль. Дзяніс рэзка страпянуў галавой і адчуў,  як халодны пот наскрозь праняў яго цела. Яму спатрэбілася колькі хвілін, каб падняцца на ногі і, працёршы вочы, усвядоміць, што ўсё, што адбываецца ў цэху далёка

не сон. Аднекуль каля яго з’явіўся Підар і, размахваючы перад ім танклявымі рукамі, бы вятрак у полі, па-дзявоцку загаласіў:

- Ты… ты бачыў… бачыў разрэзанага Холадава?!

- Дзе Снайпер? – не зважаючы на яго паніку, спытаў Дзяніс. Підар здзіўлена змоўк. І Дзяніс зразумеў, што ўпершыню раскрыў адну з сваіх прыдуманых мянушак, і разгубіўся сам, нібы яго заспелі ў кабінцы туалета за ананізмам. Не хапала яшчэ і таго, каб Підар даведаўся аб сваёй.

- Цябе шукалі, - сказаў ён.

І яны пайшлі да першай веткі. Людзі стаялі ад яе паводдаль, а груду з чалавечых целаў прычынілі працоўнымі халатамі, якія ўжо паспелі прасочыцца барвянай крывёй, ад чаго глядзець у той бок было невыносна. Працоўныя знаходзіліся ў стане поўнай разгубленасці, нават самыя ўвішныя дэмагогі і панікёры маўчалі, прыкусіўшы языкі. Усе жанчыны пагалоўна прыціснуліся адна да адной і гаротна ўсхліпвалі, толькі нагнятаючы гэтым атмасферу ўсеагульнага хаосу і страху за ўласнае жыццё. Аднак апускаць рукі было занадта рана.

- Я нават не ведаю, што трэба сказаць у такіх абставінах, - прыгнечана вымавіў Пазняк.

- Затое я ведаю, - сказаў Снайпер і яго зухаваты тон пасяліў у сэрцах працоўных іскру хоць і цьмянай, але ўсё ж надзеі. Вочы ва ўсіх загарэліся абнадзейлівым бляскам.

- Калі ўсё зло зыходзіць з “лініі Краўса”, трэба забарыкадаваць праход да яе, каб пазбавіцца ад анамалій.

- Паспяшаемся, - абудзіўшыся, выгукнуў Рупар.

- І яшчэ раз праверым выйсці з цэха, - сказаў Пазаліні.

Усе выказванні былі падтрыманы адзінадушна. На гэты раз большасць мужыкоў узяліся за дыспетчарскую і пачалі рухаць яе да ўваходу на “лінію Краўса”, астатнія кінуліся правяраць зачыненыя дзверы. Трэці цэх ізноў напоўніў непрыемны скрып трэння жалезнай канструкцыі аб бетонную падлогу. Дыспетчарская слізгала вельмі марудна, крок за крокам набліжаючыся да мэты. Урэшце прысунуўшы яе да ўваходу, усе ўбачылі, што яна цалкам зачыніла выйсце на “лінію”, і некаторыя жанчыны перасталі плакаць. Але гэта было адзіным прыемным эпізодам. Вельмі хутка вярнуліся працоўныя, якія разам з Пазаліні пайшлі правяраць дзверы. Ніякіх змен – хтосьці добра падрыхтаваў загадзя распрацаваны план загнання ўсіх у адну агульную пастку. На пажарную эвакуацыю можна было болей не разлічваць. Снайпер паглядзеў на час.

- Мой гадзіннік паказвае гадзіну ночы. Шляхі адступу перакрытыя, але пакуль ніякая небяспека нам не пагражае, таму наша задача заключаецца ў тым, каб пратрымацца тут да раніцы. Я яшчэ разлічваю, што людзі з па-за звернуць увагу на непаладкі і мы будзем выратаваныя. Але і ад нас шмат чаго залежыць і самае галоўнае – трымацца разам, і не ў якіх абставінах не адыходзіць ад месца, якое мы зараз вызначым.

Людзі згодна ківалі галовамі, нават няўрымслівы Пазняк згадзіўся аб такіх мерах перасцярогі.

Агульным рашэннем працоўныя абралі належнае месца для далейшага групавання – ім стала тэрыторыю доўгага праходу, які пралягаў уздоўж першай веткі канвеера і цягнуўся ў самы канец цэха. Гэты праход знаходзіўся каля сцяны, якая адлучала трэці цэх ад другога. Побач знаходзіліся прыбіральні і зусім непадалёк ад іх аўтамат, які выдаваў гарачую каву. Але самым галоўным з’яўлялася адлегласць ад канвеера, якая складала каля дзясятка метраў і дазваляла трымаць сітуацыю пад кантролем.

Працоўныя падыходзілі да выбранага месца, сядалі на падлогу і шчыльней прыціскаліся адзін да аднаго, нагадваючы запалоханых бежанцаў. Як раз у гэты момант Снайпер кінуў слушную прапанову сабраць грошы, хто колькі дасць, і купіць у аўтамаце кавы. Неабходна было хоць чымсьці суцешыць і сагрэць людзей. Ноч прадвяшчала быць доўгай. Аднак грошай амаль не ў каго не знайшлося. Піць каву ў начную змену маглі толькі заядлыя меламаны. І імі, як ні дзіўна, аказаліся Курва, Пазаліні і яшчэ колькі працоўных, якіх Дзяніс не ведаў і бачыў упершыню. З усяго назбіранага атрымалася дваццаць кубачкаў растваральнай кавы на амаль пяцьдзесят чалавек. Таму першымі гарачую пайку атрымалі жанчыны, іх было каля тузіны. Сярод мужыкоў жаданне папіць гарачы напой выявіў Грыша і, прагна схапіўшы кубачак, адышоў падалей ад усіх, як пацук, толькі ўжо без вусоў. Каву ўхапіў і Чыпушыла.

Дзяніс разам з большасцю мужчын ад кавы адмовіўся, хаця быў і не супраць. Ён сеў на падлогу разам з Дзятлам, Маслам і Курвай і прытуліўся да халоднай сцяны, перад імі селі невядомыя яму працоўныя. Потым, уладкаваўшы самыя неабходныя справы, да іх падышоў Снайпер. На яго ілбу выступалі буйныя кроплі поту, а твар наліўся чырванню.

- А ты малайчына, - пахваліла яго Масла, сёрбаючы з кубачка, - я і не чакала, што наш Толік здольны праявіць якасці сапраўднага начальніка.

Дзіўным было чуць яе дабрадушны тон на фоне агульнай катастрофы. Бокам Дзяніс адчуваў, што Масла прыхінулася да яго, - цела яе дрыжала. У цэху сапраўды было прахалодна і з адчыненых над самым дахам вокнаў ішоў скразняк.

- Цяпер будзем чакаць, - не зважаючы на кампліменты Масла, сказаў Снайпер і зручней прысеў каля іх. Дзянісу стала прыемна, што ён вырашыў размясціцца менавіта тут. Ён быў героем, ён столькі зрабіў за гэты час. Дзяніс шчыра ганарыўся Снайперам.

- Як ты лічыш, нас выратуюць? – спытала ў Снайпера жанчына, што сядзела акурат за яго спінай.

- Мы зрабілі ўсё, што было ў нашых сілах. Цяпер галоўнае – заставацца тут, на гэтым месцы.

- Паабяцай, што з намі нічога не здарыцца.

- Я не Бог і не магу гэтага зрабіць.

Жанчына, стрымліваючы слёзы, перажагналася.

- Глядзіце, яны спынілася як раз насупраць майго працоўнага месца, хто б мог падумаць… - Курва паказала пальцам на прыкрытую халатамі груду.

- Лепш менш аб гэтым думаць і старацца не глядзець у той бок, - сказаў Снайпер.

Масла піхнула сваю дурнаватую сяброўку.

Снайпер агледзеўся, а потым прысунуўся бліжэй да чацвярых субяседнікаў.

- Засталося каля пяці гадзін, - ціха прамовіў ён. – Я не ведаю, што нам рабіць, у кожную хвіліну можа здарыцца непрадказальнае.

- Дык што там здарылася на “лініі Краўса”? – спытаў Дзяніс.

- Яны зараз усе знаходзяцца ў стане шоку, іх таксама можна зразумець. Я пакуль не хачу адназначна нічога сцвярджаць, але мне здаецца купка вар’ятаў задумала вельмі небяспечную гульню.

- Можа, Коўшын? – выказала здагадку Масла.

- Ага, наш дырэктар, - мужыцкім голасам сказала Курва і дастала з кішэні жменьку семачак.

- Цішэй, у дадзены момант усё можа быць. Адзінае, што выходзіць за межы майго розуму, пытанне аб тым, хто б гэта не быў: з якой мэтай ён вытварае падобнае, навошта яму такая бесчалавечнасць?!

- Зачым-зачым… вядома зачым, яму то падзі… падабаюцца злачынствы, - прахрыпеў Дзяцел.

- Але хто гэта? – спытаў Дзяніс.

- Я спадзяюся, мы вельмі хутка пра гэта пазнаем, але не прыкладаючы ўласныя высілкі, хопіць непатрэбных ахвяр – мы ўсё ж не героі, - сказаў Снайпер.

Такая праўдзівасць выклікала да яго ва ўсіх прысутных непадзельную прыязнасць. Ніхто не хацеў рызыкаваць.

Калючая дрыготка прайшлася па ўсім целе Дзяніса, ні то ад холаду, ні то ад страху. З кожнай хвілінай ён адчуваў, як узмацнялася яго хваляванне, паглынаючы, засмоктваючы сваёй уладай яго ўражлівы розум. Дзяніс паспрабаваў параўнаць гэта пачуццё, калі досыць моцна смактала пад лыжачкай. Штосьці падобнае здаралася з ім ў дзяцінстве пры наведванні стаматолага, пры першай бойцы ў школе паміж класамі, калі сілы праціўніка значна пераўзыходзілі, пры адным выпадку, калі ў дзясятым класе ад яго заляцела сяброўка і трэба было рабіць вакуум. Але на гэты раз смактала мацней, магчыма, таму што гаворка ішла пра ўласнае жыццё. Каму хочацца паміраць у дваццаць гадоў, калі ўсё яшчэ наперадзе? І што самае жудаснае – паміраць пакутлівай смерцю.

- На ўсякі выпадак, - ціха сказаў Снайпер, – калі, не дай Божа, здарыцца яшчэ якая-небудзь анамалія, можна будзе схавацца ў прыбіральні, гэта, бадай, непрыемнае, але самае непрыступнае месца.

- Фу, - зморшчыла нос Курва.

- Чаму не, - ажывілася Масла, - я б адразу туды і пайшла; дзверы на шпінгалет і ніякая брыда не дастане.

- Але гэта потым, - заспакоіў яе Снайпер

А людзі, прытульваючыся адзін да аднаго, сядзелі моўчкі, як зацкаваныя і турботна ўглядаліся ў цэх.

Сведкі апошняга злачынства сядзелі каля самага краю прахода. У агульнай сумятні большасць пра іх забыла, таму ніхто не лез да іх з дакучлівымі пытаннямі. Цяпер кожны клапаціўся аб сваім асабістым азадку. Падабраўшы момант, да Рупара, Ласуна і Гестапа падышоў Пазаліні і, прысеўшы на кукішкі, стрымана спытаў:

- Дык хто-небудзь з вас мне растлумачыць, што там здарылася?

Яны ўтрох пераглянуліся. Доўга вырашалі каму расказваць, урэшце загаварыў Ласун:

- Мы прыйшлі на “лінію Краўса”. Канвеер там таксама стаяў. Холадаў адразу пайшоў да галоўнага пульта, каб паспрабаваць уключыць. Аднак марна. Хлопцы з “лініі” пайшлі да рэфрыжэратараў правяраць там па сваёй частцы і зніклі. Потым мы пачулі дзіўныя грукі. Брыгадзір заскочыў на канвеер – адтуль было лепш відаць, што там адбываецца. І тут нечакана ўключыўся канвеер – самастойна, разумееш, хаця яны маглі яго наладзіць, не ведаю. Холадаў павярнуўся да нас і сказаў: “Парадак”. У гэты момант ён паслізнуўся на роўнай паверхні і яго разарвала на кавалкі ў нас на вачах… я не ведаю што гэта было… яго проста лінчавала паветра. Адно імгненне і ўсё.

- Лухта якая, - ажывіўся Грыша, што сядзеў непадалёк. – Гэтага не можа быць, вы проста здурэлі.

- Што ты сказаў? – гаркнуў збялелы Гестапа і яго вочы наліліся крывёй. – Трэба было ісці з намі і самому паглядзець, а лепей залезці на канвеер, каб цябе замест Холадава разам з тваім паганым языком разлупіла!

Грыша сцепануўся, хутка падняўся з месца і сышоў.

- Гэта праўда? – спытаў Пазаліні.

Рупар кіўнуў галавой.

- Вось дык чартаўшчына, - асеўшы на падлогу, сказаў Пазаліні. – Значыць атручанае паветра ірве людзей на кавалкі.

- Не. Маё меркаванне, што гэта робіць канвеер, - сказаў Рупар.

- Канвеер?

Тым часам Дзяніс заўважыў, як Грыша падышоў да Пазняка, які стаяў каля аўтамата з кавай разам з Чыпушылай і яшчэ дзвюма мужыкамі. Грыша аб нечым шапнуў яму на вуха і Пазняк змяніўся ў твары.

- Глядзі, яны нешта задумалі, - сказаў Дзяніс Снайперу.

- Не падабаецца мне гэтая кампанія, - прыгледзеўшыся да іх, сказаў ён.

На некаторае імгненне позіркі Пазняка і Снайпера сустрэліся. Вочы Пазняка былі выкананы пагардай.

- Трэба ўважліва за імі сачыць, - зацвердзіў Снайпер.

Непадалёк ад іх сядзела купка мужыкоў, сярод якіх выразна вылучаўся мужык з сіняком пад левым вокам. Мужыкі вялі размову аб надзвычайным здарэнні і да іх довадаў прыслухоўваліся і без таго запалоханыя жанчыны.

- Не можа таго быць, - не згаджаўся чорнавусы. - Што ты плявузгаеш?!

- Галаву на адсячэнне даю, - пырснуў слінай сінякасты, - так і было, далі Бог, яны яго разам пачыкалі.

- А навошта? – умяшалася да іх жанчына з бэзавымі валасамі.

- Добра, скажу так. Уявіце сабе трох сяброў і аднаго начальніка, які часцяком надакучваў ім, ну а яны, вядома, трывалі. Тут выдаецца зручны момант, скажам, кацёл на ліцейцы прарвала. Іх разам пасылаюць вырашыць праблему і тры сябрукі, без усялякіх сведак, забіваюць надакучлівага начальніка, а ўжо потым прыдумаць можна ўсё, што заўгодна.

- Холадаў камусьці з нас замінаў?

- Ды не аб нас гутарка!

- Глупствы гаворыш, - надзьмуў вусны чорнавусы.

Жанчыны пачалі насцярожана ўздыхаць і пераглядацца паміж сабой. Тая, што з бэзавымі валасамі задуменна заківала галавой, ці то згаджаючыся са здагадкамі сінякастага, ці то з чорнавусым.

У гэты момант Дзянісу скруціла страўнік і, папрасіўшы ў прысутных выбачэння, ён падхапіўся на ногі. Праходзячы каля працоўных, Дзяніс углядаўся ў спужаныя вочы, у вочы тых, хто працаваў на гэтым заводзе палову свайго жыцця, а цяпер не ведаў, што рабіць. Дзянісу стала прыкра. Праходзячы каля Пазаліні і трох ацалелых добраахвотнікаў, яму захацелася на хвіліну спыніцца і спытаць у іх аб здарэнні. Яны горача спрачаліся, але толькі ўбачыўшы Дзяніса, адразу замоўклі. Ён зразумеў, што яго прысутнасць была недарэчы і зайшоў у прыбіральню.

Зачыніўшы за сабой кабінку, ён падаслаў на вобад унітаза паперы, сеў і задумаўся. На дзверцы перад ім былі надрапаныя непрыстойныя словы, над імі хтосьці чорным маркерам напісаў прозвішча начальніка цэха Коўшына, надрапаныя словы надалі яму досыць неардынарныя характарыстыкі, закранаючы сэксуальную арыентацыю начальніка. Упершыню за гэтую ноч Дзяніс усміхнуўся.

Каля скрутка паперы ляжалі завадскія газеты. На адной з іх, на першай старонцы, вялікімі літарамі было напісана: “План перавыкананы ўдвая”. Гэты надпіс нагадаў Дзянісу “савок”, хаця свядома ён не памятаў таго часу, але, здавалася, нічога не змянілася. На фотаздымку ніжэй, каля адной з канвеерных ветак, стаяла ўсмешлівая жанчына. Ён змяў газету і выкінуў яе ў сметніцу.

Мыючы рукі ў ракавіне, Дзяніс уважліва паглядзеў на сябе ў люстэрка. Твар быў змарнелы. Ён намачыў яго халоднай вадой і, паглядзеўшыся зноў, рэзка адскочыў – у адлюстраванні яго выява сказілася да непазнавання, як быццам па ёй праехалі катком. Дзяніс асеў на падлогу і заплюшчыў вочы.

- Што ты робіш? – нечакана раздаўся голас Масла. Падняўшыся з сцюдзёнай падлогі, ён нічога ёй не адказаў і нерашуча паглядзеўся ў люстэрка. Пераканаўшыся, што яго твар вярнуўся ў зыходнае становішча, Дзяніс выключыў кран.

- А што ты тут робіш? – спытаў ён.

- У жаночай прыбіральні нікога няма, а я баюся заставацца адна, ты не пабудзеш тут крыху са мной, пакуль я зраблю свае справы, - далікатна прамовіла яна і Дзяніса ўзвар’явала яе какецтва.

- Добра, я пачакаю, - адказаў ён, спрабуючы не паказваць сваю незадаволенасць.

Масла падышла да яго і, абняўшы за стан, сказала:

- Кінь, што за дурасць, ты такі няцямлівы, зусім нічога не разумееш?

- Што я павінен разумець? - здзівіўся ён.

Яна закаціла вочы, у дакладнасці, як гэта рабіла Іра і юрліва ўздыхнула.

- Я не ведаю, што з намі можа адбыцца, мажліва, гэтая ноч апошняя ў маім жыцці і я не хацела б правесці яе вакол гэтых твараў, якія я бачу кожны дзень, ведаў бы ты, як яны мне абрыдлі, і таму на ўсялякі выпадак, для перасцярогі, ты разумееш, так?.. Давай па-хуценькаму перапяхнёмся. Адпярдоль мяне, як можаш.

- Ты што, здурнела? – вочы Дзяніса вылезлі з арбіт. Сэкс у такіх абставінах быў самым апошнім, што магло прыйсці яму ў галаву.

- Хопіць ламацца, я ж згодная, - настойвала Масла.

- Але я не хачу, - упарціўся Дзяніс.

- Давай я яго пацалую.

Масла спакваля спаўзла да яго ног і наступным жэстам ужо пачала расшпільваць яму шырынку.

- Прама тут? – змірыўшыся з яе заўзятасцю, спытаў усё яшчэ разгублены Дзяніс.

- Ну давай адыдзем да кабінак, усё роўна сюды ніхто не зойдзе.

Дзяніс змаўчаў і гэта стала падставай для далейшых дзеянняў Масла. Абапёршыся аб рукамыйніцу, ён не гледзячы ўніз, адчуў, як яе цёплыя пальцы выцягнулі з рабочых нагавіц яго крайнюю плоць. Як толькі яго член апынуўся ў роце Масла, Дзяніс адчуў, што ён гіганцкімі тэмпамі пачаў павялічвацца ў памеры, а яна, у сваю чаргу, запрацавала яшчэ старанней, паскараючыся ў тэмпе. Па ўсім было відаць, што яе спрактыкаванасць грунтавалася на вялікай колькасці перасмактаных фаласаў. Дзяніс заплюшчыў вочы і ўбачыў перад сабой скрываўлены канвеер. Думаць аб іншым не ўяўлялася магчымым. Цяжка было ўзяць і проста так расслабіцца. Расплюшчыўшы вочы, ён асцярожна паглядзеў уніз. Убачыўшы жаўтлявую галаву Масла, якая па-ранейшаму завіхалася каля яго пупа, яму стала сорамна. У гэты момант за сцяной пачулася прыглушаная гамонка, якая з кожным імгненнем узмацнялася, пакуль Дзяніс не пазнаў голас Пазняка. З яго вуснаў зляталі ключавыя словы “сабатаж”, “бязладдзе” і “самасуд”. Іх хапіла, каб ён усвядоміў, што "апазіцыя" перайшла ў атаку.

- Ты чуеш? – спытаў ён у Масла.

- Угу, - апантаная сваёй справай, носам прагудзела яна.

- Трэба ісці на падтрымку…

Масла спынілася, тыльным бокам далоні выцерла вусны і, падняўшыся на ногі, заляпіла Дзянісу такую аплявуху, што ён, як абвараны асеў на падлогу і прастагнаў.

- Казёл, бля, - працадзіла яна і, паддаўшы яму нагой, хутка выйшла з туалета.

Шчака дужа пякла і ён застаўся сядзець, не ведаючы, хто больш вінаваты – ён, не ацаніўшы яе пажадлівую тэхніку, ці яна – так прагнучы сукуплення. Счакаўшы пылу запалу, Дзяніс усхапіўся і пайшоў да выхаду.

Першае, што ён убачыў, былі працоўныя, якія падняліся на ногі, уважліва слухаючы прамовы Пазняка. Дзяніс бачыў толькі яго галаву, расчырванелы твар і бліскучы ад поту лоб.

- Годзе нам слухаць гэтыя казкі пра самадзейнасць канвеера і яго звышнатуральныя якасці, - лямантаваў ён. – Проста прызнайцеся тут перад усімі, што вы забілі Холадава.

- Прызнавайцеся-прызнавайцеся, - загаманіў мужык з сіняком пад вокам. – Няма чаго ўтойваць!

Дзяніс падышоў бліжэй і ўбачыў Рупара, Ласуна і Гестапа, супраць якіх стаяў Пазняк з Чыпушылай, Грышам і яшчэ гуртам мужыкоў не міралюбівага выгляду.

- Дзе ваша сумленне? – спытала жанчына з бэзавымі валасамі.

Безнадзейная троіца стрымана маўчала і толькі Рупар з нахабным выразам твару паглядаў на ўсіх, чакаючы ўдару ў кожную хвіліну.

Нечакана Дзяніса піхнулі ў спіну і ён убачыў Снайпера, а побач з ім Пазаліні.

- Трэба дапамагчы, - прашаптаў Снайпер.

Яны адышлі ў бок.

- Мы хочам вывесці з дзеяння заўзятага гаваруна, які спрабуе папсаваць усю маліну. Таму што справы, здаецца, сапраўды сур'ёзныя, яшчэ горш, чым я думаў, - сказаў Снайпер.

- Ты з намі? – спытаў Пазаліні.

- А што трэба рабіць?

- Бярэш на сябе Грышу.

Снайпер кіўнуў Пазаліні і яны рашуча пайшлі напрасткі цераз натоўп і, без цяжкасцяў разапхнуўшы сабе праход, выйшлі твар да твару да Пазняка і яго хаўруса. Снайпер не марудзячы, урэзаў яму прама ў нос, а Пазаліні рэзкім ударам нагі адаслаў Чыпушылу ў аўт. Як толькі Дзяніс убачыў хуткую расправу, ён нерашуча падышоў да Грышы і грукнуў яму кулаком у сківіцу. Удар атрымаўся слабым (Дзяніс не ўклаў у яго той лютасці, якую прыклалі Снайпер з Пазаліні) Грыша толькі пахіснуўся на месцы, страпянуў галавой і зласліва паглядзеў на яго:

- Ах ты…

Аднак справу распачатую Дзянісам, закончыў Гестапа. Ён не чакаючы, пакуль Грыша пачне наступ, зарадзіў яму добрую падачу ў вуха.

- Ляжаць, я сказаў! - грозна прамовіў Гестапа, адправіўшы яго на падлогу.

Працоўныя не чакалі такіх дзеянняў і, высалапіўшыся на расквашаныя твары ляжачых, насцярожыліся. Вэрхал падняла жанчына з бэзавымі валасамі.

- А што ж вы робіце, ірады, на вачах ва ўсіх! Забіваюць! - істэрычна закрычала яна.

Але рабочыя не спяшаліся панікаваць.

- Іх абвінавачванні былі ілжывымі, - кіўнуўшы ў бок зрынутай троіцы, пачаў Снайпер. – Не хацеў бы аб гэтым гаварыць, тым больш голасна, але хопіць маўчаць. Я, як і ўсе вы разумею, што гучыць гэта дзіўна, але віной усяму канвеер.

- Чаму ты так упэўнена пра гэта кажаш, ты ўласнымі вачыма бачыў смерць брыгадзіра? - спытаў, выступіўшы з натоўпу чорнавусы.

- Міхалыч, я веру іх словам...

- Цяпер нікому нельга давяраць, - уздыхнуў чорнавусы.

- Ды яны за адно з ім, забілі Холадава, а цяпер гэтых хочуць парашыць, - гыркнуў сінякасты.

Пазняк паступова прыходзіў у прытомнасць, вярцеў галавой і мармытаў у трызненні незразумелыя словы.

- А навошта было збіваць іх? - спытала Зіна.

Снайпер паблажліва паглядзеў на яе дурны выраз і, спрабуючы не раздражняцца, сказаў:

- Хіба вы не зразумелі, што яны хацелі дэзарганізаваць нас, разбіць на купкі, узлаваць, пасеяць недавер, урэшце ўчыніць самасуд над нявіннымі людзьмі, карыстаючыся бязважкімі здагадкамі. Мы не дзеля гэтага тут згрупаваліся.

- Цяпер, напэўна, усё адно ці ад чалавека, ці ад канвеера загінуць, - сказаў мужык з ліцейкі.

- Ад чалавека не так страшна, - сказала Зіна.

- Не-не, ад канвеера!

- Ні ад каго, - заключыў Снайпер. - Мы сабраліся ў гэтым месцы, каб чакаць раніцы, тут усё навідавоку, мы недасягальныя для канвеера. І чым раней вы гэта зразумееце, тым для вас жа будзе лепш і ніхто больш не загіне.

- Ат, глупства, - сказаў сінякасты. - Чаму мы павінны вам верыць?

- Можаш не верыць, але дзеля бяспекі, заставацца трэба тут.

- Канвеер, кажаш? - не мог супакоіцца сінякасты. - Добра, зараз праверым.

- На тваім месцы я б не выпрабоўваў лёс, - сказаў яму Ласун.

Сінякасты ўсміхнуўся і пайшоў да першай веткі. Ужо набліжаючыся да канвеера, ён адчуў страх, але страх перад прычыненай працоўнымі халатамі гурбой чалавечых рэштак і каб ніхто гэтага не заўважыў, бадзёра ўскочыў на канвеер. Павярнуўшыся да ўсіх, сінякасты зычна свіснуў і выкрыкнуў:

- Ну што, забіў мяне канвеер, разарваў на кавалкі?

Як толькі ён сказаў апошнія словы, канвеер нечакана ўключыўся.

- Ага, пасадзілі там за пульт змоўшчыкаў і цяпер збіраецеся...

Гэта было апошнім, што сказаў у сваім грэшным жыцці сінякасты. На долю хвіліны ён застыг, як прыкаваны да зямлі, вочы яго ашклянелі, а потым усе рабочыя без выключэння ўбачылі, як яго цела падзялілася на шэсць частак і грымнулася на канвеерную стужку, абліўшы яе пырскамі крыві.

11

У другі раз працоўныя ўзгадалі перадсмяротныя словы майстра Прошына і, агаломшаныя ўбачаным, большая іх частка кінулася бегчы ўздоўж па пераходу да выйсця ў другі цэх. Спайпер з Рупарам да хрыпаты ў горле крычалі ўсім наўздагон, заставацца

на месцы. Быў момант, калі і Дзяніс хацеў сарвацца і кінуцца за імі. Пад нагамі гарэла зямля, але на гэты раз яго стрымаў розум і сорам перад тымі, хто застаўся. Аднак збеглыя працоўныя не надалі ўвагі крыкам. Ніхто не ведаў, што так абернецца.

Як толькі працоўныя кінуліся бегчы, усе, хто застаўся: Снайпер, Дзяніс, Пазаліні, Рупар, Ласун, Гестапа, Дзяцел і падбітая троіца ўбачылі, што акрамя першай веткі запрацавалі і ўсё астатнія канвеерныя веткі трэцяга цэха і ўсе ў зваротным накірунку. Дзяніс пачуў звыклы гуд, які прысутнічаў у цэху падчас працы. Аднекуль знутры ўзнікла жаданне ісці да працоўнага месца і пачаць вырабляць маразільныя камеры. Рухаючыся, першая ветка скінула на падлогу рэшткі рабочых і сінякастага, утварыўшы на ёй крывавую груду костак.

- Цяпер вы бачыце, што яны мелі рацыю! – са злосцю звярнуўся да Пазняка Снайпер. – Вы гэтага хацелі?

Пазняк, задраўшы галаву ўверх, сціскаў пальцамі крывацечны нос. Снайпер спагадліва паглядзеў на яго, потым падышоў і працягнуў яму руку. Пазняк спярша зморшчыўся, але руку падаў. Снайпер ірвануў яго на сябе і паставіў на ногі. У сваю чаргу Пазаліні працягнуў руку Чыпушыле, а Дзяніс накіраваўся дапамагчы Грышы.

- Я сам, - заўпарціўся ён, а калі падняўся, сказаў Дзянісу: - Табе гамон, прыдурак! Мяне і па твары?!

- Ну годзе табе! - сказаў яму Снайпер. - Зараз нельга варагаваць, цяпер без жартаў – трымацца будзем разам.

- Па руках, - выціраючы насоўкай кроў з твару, прабубніў Пазняк.

Невялікая група працоўных, у стане візуальнага шоку, пабегла праз канвеерныя веткі. Дыстанцыя ад іх і да канвеера складала не больш метра, але гэтага хапіла, каб іх імгненна прыцягнула да канвеернай стужкі, як прыцягвае метал да магніта і проста разарвала на кавалкі.

Астатнім рабочым таксама не пашанцавала. Чалавек трыццаць пабегла ў тым накірунку, куды адносна нядаўна бег Дзяніс. Усё астатняе з'явілася ўвасабленнем прац Босха. Яго палотны быццам ажылі. Страшны суд паўстаў перад Дзянісам. Не дабегшы да павароту, - там, дзе першы і другі цэх адлучалі жалезныя дзверы, людзі ўзняліся ў паветры, як шарыкі, як надзіманыя цацкі, а потым закруціліся ў звышхуткасным паветраным віры. Цэх запоўніў немы лямант. На падлогу паляцелі пырскі крыві, зубы і разарваная адзежа. А потым бліжэйшая канвеерная ветка невядомай сілай прыцягнула да сябе ўжо абезрухомленыя целы працоўных і пачала падзяляць іх над сабой на шэсць частак, як сінякастага.

Дзяніс так бы зачаравана і пазіраў на гэтае жудаснае відовішча, як раптам грубая рука схапіла яго за шыю і пацягнуў назад.

- У туалет! – крыкнуў яму на вуха Рупар.

Дзяніс прыйшоў у сябе і яны забеглі ў прыбіральню, зачыніўшы за сабой дзверы. За сцяной чулася храбусценне костак і раздзіранне чалавечых целаў. Рупар застаўся ля дзвярэй, трымаць іх за ручку (шпінгалета не аказалася). Выглядваць вонкі ён не вырашаўся.

- Што будзем рабіць? – калоцячыся, спытаў Дзяцел.

- Чакаць, - сказаў Рупар.

Праз хвіліну, ці нават менш, гукі пекла заціхлі.

Нечакана, з зваротнага боку моцна тузанулі за дзвярную ручку, але Рупар схапіў яе абедзвюма рукамі і не дазволіў дзвярам адамкнуцца.

- Пусціце, гэта я! - пачуўся адтуль істэрычны голас Снайпера.

Рупар адпусціў рукі і ў прыбіральню забеглі збялелыя Снайпер, Пазаліні, Свістуля, Підар і Грыша. Свістуля з Підарам у тую ж секунду забіліся пад рукамыйніцы, падцiснулі пад сябе ногі і аберуч абхапілі дрыготкія калены, ледзь стрымліваючыся, каб не расплакацца на вачах ва ўсіх. Усе яны трэсліся, як асінавыя лісты.

- Усё самае жудаснае і тое, чаго я чакаў найменш, на жаль, адбылося, - заікаючыся, прамармытаў Снайпер.

Пазняк вінавата схіліў галаву.

Звонку гуд канвеера набыў спецыфічны гук, нібы загучалі самалётныя турбіны, прымусіўшы Дзяніса і астатніх схапіцца за вушы. З'явіўся моцны ціск, у вушах закалола і ўсім без выключэння падалося, што надышоў канец. Але гуд, як неспадзявана пачаўся, так і скончыўся. Дзяніс ачуняў разам з усімі на халоднай падлозе.

- Што гэта было? – падаў голас Чыпушыла, папраўляючы свае вялікія акуляры.

- Не ведаю, – сказаў Рупар.

- Гэта канвеер, - сказаў Снайпер. - Ён выпрабоўвае нас.

Усе пачалі прыслухоўвацца. Кожнага ахапіў небывалы дагэтуль страх. Вочы зрабіліся невідушчымі, рэчаіснасць перастала існаваць для кожнага і паасобку. У Підара носам пайшла кроў, запэцкаўшы белую кафлю, але ён не звяртаў на гэта ніякай увагі.

- Да чорту гэты канвеер, я адсюль ні нагой, буду сядзець тут да пасінення, пакуль не прыйдзе выратаванне, - выгукнуў Ласун.

Яго словы падтрымала большасць і гэта было бачна па спалоханых позірках. Падтрымліваў і Дзяніс. Ён колькі хвілін назад ужо лічыў, што развітаўся з жыццём, таму новы і апошні шанец на выратаванне страчваць ні за што не жадаў.

- А можа выратаванне не прыйдзе? – пасеяў яблык разладу Гестапа.

- Хай сабе і так, - кінуў Ласун.

- А што, калі канвеер і сюды дабярэцца? - спытаў Рупар.

- Не дабярэцца.

- А гэтая вібрацыя? Адкуль яна?

- Але мы ж засталіся жывымі!

- Пакуль яшчэ.

- Мы не загінем, - сказаў Снайпер.

- Ты так у гэтым упэўнены?! Гадзіну назад ніхто і не падазраваў, што канвеер без чалавека можа самастойна ўключацца, рухацца, а тым больш забіваць, - сказаў Рупар.

- Можа канвеерам кіруюць, так бы мовіць вышэйшыя гэтага свету? – выказаў здагадку Пазняк.

- Гэта выключана, - абрэзаў яго Пазаліні.

- Усё можа быць, - ажывіўся Снайпер. – Небяспека чакае нас у кожным куту, таму я лічу разважным прыняць рашэнне, што рабіць далей.

Па маўчанні, якое павісла ў прыбіральні, было зразумела, што нікому не хацелася штосьці яшчэ вырашаць, усе стаміліся ад безнадзейнасці якіх бы там ні было дзеянняў, а можа проста ніхто ўжо не адахвочваўся прымаць рашэнне. Маўчанне зноў узварушыў Снайпер.

- Добра, тады паставім пытанне рабром. Хто за тое, каб застацца тут і чакаць выратавання, падыміце, калі ласка, рукі?

Усе акрамя Снайпера паднялі рукі.

- Значыць я застаўся адзін.

- І што ты будзеш рабіць? – спытаў яго Рупар.

- Пакуль не ведаю, часу, я думаю, у мяне дастаткова.

Пазаліні пафасна хмыкнуў.

Дзянісу стала сорамна за працоўных і ў першую чаргу за сябе. Яму часта прыходзілася пакутаваць з-за сваёй нерашучасці, дзесьці рахманасці, лішняй перасцярогі. Часам, яго турбавала заганнае прадчуванне, што калі ён зрабіць глупства, людзі блага аб ім падумаюць. Цяпер яму не давалі спакою думкі, што і Снайпер кепска падумае пра яго, палічыць здраднікам і наогул баязліўцам. Вядома, Дзяніс нічога не хацеў прадпрымаць, акрамя таго, як сядзець у туалеце і чакаць дапамогі. Але ў тую ж чаргу невялікая, зусім кволая энергія рашучасці і ўпэўненасці ў сабе, падахвочвала, прымушала яго падтрымаць Снайпера. Спярша Дзяніс чакаў, што, магчыма, яшчэ хто-небудзь выявіць жаданне змяніць сваю пазіцыю і тады Дзяніс разам з ім зменіць сваю. Аднак працоўныя маўчалі. Потым яго ўрэшце ахапіла ўнутраная злосць, што ў сваіх рашэннях ён заўжды прывык спасылацца на іншых. І гэта канчаткова прадвызначыла яго ваганні. Ён паглядзеў на Снайпера і, хвалююча ўздыхнуўшы, сказаў:

- Я з табой.

Снайпер са здзіўленнем, а потым з надзеяй паглядзеў на Дзяніса і ўсміхнуўся. Пазаліні і Дзяцел пачалі перашэптвацца паміж сабой.

- Вы здурнелі! - сказаў Рупар. - Ужо нічога нельга зрабіць, хіба вы яшчэ не зразумелі, што мы ў пастцы, а калі паспрабуем адсюль выбрацца, з намі ўсімі расправіцца няшчадны механізм?!

Снайпер яму не адказаў, таму што сам не ведаў як адказваць. Дзяніс пачырванеў і падышоў бліжэй да яго.

- Самазабойцы, - канстатаваў Гестапа.

- Хлопцы, а з вамі можна? – звярнуўся да іх Пазняк.

Гэта было вялікай нечаканасцю, але ўсе прысутныя даўно звыкліся з сюрпрызамі.

- Вядома можна, - сказаў Снайпер, - таму што я разлічваю выйсці адсюль і як мага хутчэй.

Словы яго прагучалі досыць упэўнена.

- Адсюль толькі адно выйсце – цераз дах, - нечакана сказаў Дзяцел.

Дзяніс насцярожана паглядзеў на Снайпера і той, лагодна ўсміхнуўшыся Дзятлу, нібы ён адгадаў яго думкі, сказаў:

- Менавіта.

На імгненне Дзяніс расчараваўся, што згадзіўся прыняць удзел у гэтай задуме, тое самае ён прачытаў і на твары Пазняка.

- У вас нічога не атрымаецца, - сказаў Ласун.

- Магчыма, - сказаў Снайпер. – Да даху ёсць толькі адзін шлях – вентыляцыя, якая знаходзіцца акурат над канвеерам. Каб узлезці на вентыляцыю, неабходна спыніць хаця б адну ветку канвеера. А далей па ёё. Складана будзе толькі спачатку, вентыляцыя ідзе ўгору, бліжэй да даху яна гарызантальная.

- Вось і тупік, - прабубніў Чыпушыла.

- Але як, канвеер нам непадуладны, ён дзейнічае самастойна? – спытаў Рупар.

- Мне здаецца, ён адчувае вібрацыю: галасы, рэзкія рухі. Калі ўстрымацца гэтага, можна пазбегнуць яго прыцягальнай сілы. На дах трэба лезці з першай веткі, вентыляцыя праходзіць як раз над ёй і на адносна невялікай адлегласці. Калі стаць у поўны рост, можна да яе дацягнуцца. Пытанне заключаецца ў наступным: як вывесці з дзеяння ветку? Для гэтага нам спатрэбіцца колькі загваздак, бензін і агонь. Загваздкі і паліва можна знайсці толькі ў адным месцы – на складзе цэху. Загваздкамі мы разаб’ем пульт першай веткі, і перакрыем падачу электрычнасці, потым зальем палівам стужку і падпалім яе.

- А што, слушная прапанова, толькі на дах я не палезу – вышыні баюся, канвеер памагчы спыніць гэта іншая справа, - разборліва прагугнявіў Дзяцел.

Дзяніс таксама баяўся вышыні, але сказаць аб гэтым пасаромеўся.

- На дах палезу я, - сказаў Снайпер, - мне патрэбен яшчэ хтосьці спрытнейшы і маладзейшы.

Самымі маладымі былі Світуля, Підар і Дзяніс. Аднак яны не падтрымалі Снайпера, а значыць заставаўся адзін Дзяніс. У яго горле стаў камяк. Ён паглядзеў на Снайпера і кіўнуў галавой у знак згоды. Твар Снайпера выканаўся прыязнасцю.

- Тады вырашана – нас чацвёра, можна брацца за справу, - прамовіў Снайпер.

- Ты памыляешся, нас – сямёра, - звярнуўся да яго зухаваты Пазаліні. - Са мной яшчэ хлопцы, а ну вылазьце з-пад рукамыйніцы.

Світуля, скурчыўшы незадаволеную міну, спакваля падняўся, піхаючы ў бок Підара. Той усё ўпарціўся, а потым падняўся. Пазаліні бясспрэчна з’яўляўся іх аўтарытэтам.

Дзяніс заўважыў, як у вачах Рупара заблiскала так патрэбнай усім надзеяй.

- Ну што, дапаможам ім? – звярнуўся ён да астатніх, а потым дадаў: - Рамуальд, калі ты і на гэты раз не пойдзеш, Богам клянуся, я з вялікім задавальненнем яшчэ раз урэжу табе па храпе. Сітуацыя, бач, падыходная.

- Ды што ты, я згодзен, - спужана сказаў Чыпушыла.

Грыша праглынуў цяжкі камяк.

- Толя, - звярнуўся Рупар да Снайпера, - каб вы дабраліся да даху, мы зробім усё магчымае. Глядзі толькі пасля адразу ж кліч дапамогу! Мы з вамі!

Снайпер задаволена ўсміхнуўся.

- Вось так бы і адразу.

На гэтым яны і пагадзіліся, поўныя нерашучасці і страху перад спробай, самай апошняй, ад якой залежыла іх жыццё.

12

Снайпер падышоў да дзвярэй і асцярожна прыадчыніў іх. Паглядзеў вакол і зачыніў зваротна.

- Здаецца, ціха, - сказаў ён. - Выходзіць будзем па аднаму, першым пайду я, павольна, без непатрэбных рухаў, і памятайце – менш слоў – больш дзеянняў, будзем падаваць адзін аднаму сігналы, - папярэдзіў усіх Снайпер.

Адчыніўшы дзверы, ён зрабіў крок наперад, трохі счакаў і пайшоў, за ім, ледзь не на дыбачках пачалі крочыць іншыя, гужам, напружана дыхаючы адзін аднаму ў спіну. Дзяніс пайшоў за Дзятлам. Ён адчуваў адрэналін, які каламуціў яго кроў, але спрабаваў супакойваць сябе шанцам на выратаванне. Ён глядзеў у тонкую шыю Дзятла і не вырашаўся слізгануць поглядам куды у бок. Па тым, як пачалі ўздыхаць астатнія, Дзяніс зразумеў, якое відовішча разгарнулася ў цэху. За гэтую ноч яму хапіла раскіданых вантробаў на лініях канвеера на столькі, што можна было пасівець. Цяпер ён уяўляў, што значыць, калі варушацца валасы на галаве і гэта было не перабольшванне. Тое, што яму выпадала глядзець на кампутары: усялякае псеўда-снаф смецце ў той момант здавалася ўвертурай перад сапраўднай крывавай операй. Ногі дрыжалі, бы ноччу на марозе, далоні пацелі і пры ўсім гэтым Дзяніс спрабаваў да апошняга не губляць мужнасці.

Підар, які ішоў за ім, схапіў Дзяніса за плечы і ледзь не прытуліўся да яго спіны ўсім целам. Дзяніс адчуў яго імпульсіўнае трапятанне.

Усе яны выйшлі з прыбіральні і на хвіліну спыніліся.

- Тваю маці… - сухім голасам сказаў Пазняк.

Дзяніс інстыктыўна падняў вочы ўверх. Потым у яго затрэсліся рукі і праняла ашалелая дрыготка.

Трэці цэх змяніўся да непазнавання. Свет стаў цьмяным, аддаючы чырвона-агністым колерам. Рух канвеера запаволіўся, а гук скрыгату, які выдавала канвеерная стужка, знік. І над усім гэтым жудасным каўпаком вісела ўражлівае, што адкідвала ўсе папярэднія ўяўленні аб быцці, крывавае, жахліва-першабытнае відовішча. Усе канвеерныя веткі і падвышаныя канвееры трэцяга цэха былі запоўненыя часткамі чалавечых целаў. Прычым кожная канвеерная ветка размяшчала асобныя іх часткі. Падвышаныя канвееры цяпер спецыялізаваліся выключна на адрэзаных галовах. Яны былі насаджаныя ратамі на крукі. На астатніх ветках то тут, то там ляжалі рукі, ногі і скрываўленыя тулавы. І самай, бадай, дзіўнай была тая дасканаласць, з якой былі падзеленыя чалавечыя целы. Анатамічная дасведчанасць і валоданне інструментам у такіх маштабах не магло не здзіўляць. На першай ветцы ідэальна ў шэраг ляжалі рукі, адрэзаныя да локцевага згіну. Канечнасцяў было на столькі шмат, што здавалася праз канвеер прайшоў увесь склад завода, і калі б не кроў, якая сцякала з канвеера, магло скласціся ўражанне, што патрапіў у цэх па вырабу манекенаў.

- Дык вось куды падзелася другая змена, - шэптам сказаў Рупар.

- Напэўна тут і першая прысутнічае, - сказаў Ласун, што ішоў за ім.

- Ці наогул увесь завод, - прасіпеў Пазняк.

- Акрамя нас, - сказаў Снайпер.

Апошнія словы выбілі глебу для песімізму і далі выспятка той змрочнай атмасферы, якая лунала ў паветры.

- Пачнем, - сказаў Снайпер.

У трэцюю змену цэхавы склад заўжды быў зачынены, а ключы ад яго былі ў Халадава. Аб гэтым ведалі ўсе акрамя Дзяніса. Гестапа, які кожныя паў гадзіны хадзіў туды папаліць, падышоў да складскіх дзвярэй і тузануў за ручку.

- Я, звычайна, прашу Веру, каб яна не зачыняла. Ведаючы маю прагу да тытуню, яна робіць для мяне выключэнне. У нашым выпадку яно лёсавызначальнае, - сказаў ён.

- Сукін ты сын, ты хаця б разумееш, што сваёй шкоднай звычкай выратаваў нам жыццё! – усміхнуўся Ласун.

Гестапа нічога не адказаў і адчыніў дзверы.

Краем вока Дзяніс убачыў, як прыадчыніліся дзверы жаночай прыбіральні і адтуль вылезла жаўтлявая галава Масла.

- Ёсць яшчэ ацалелыя? - вырвалася з рота Дзяніса.

Масла з палёгкай выдыхнула і адчыніла дзверы шырэй. За ёй паказалася Зіна. Яны пазіралі напалоханымі вачыма, а ўбачыўшы кашмарнае відовішча, зусім збялелі. Да іх хутка падскочыў Снайпер і зачыніў за сабой дзверы. Там ён, відаць, растлумачыў ім усю сітуацыю і новыя правілы бяспекі, і выйшаў зваротна.

На складзе Рупар знайшоў з дзясятак загваздак розных памераў і выдаў кожнаму, нібы аўтамат перад рашучай бойкай, а Дзяніса нават пляснуў па плячы. Снайпер прыхапіў два рэспіратары. Бензін адшукалі ў самым куце склада, адну каністру з пазнакай "для пагрузчыка".

- Падыходзіць да канвеера таксама будзем па аднаму, і памятайце – ніякіх слоў, падаем адзін аднаму знакі, - сказаў Снайпер. – Пяць чалавек зойдзе з левага боку, бліжэй да пульта, астатнія з правага. Я аблію стужку палівам, Рыжы падпаліць яе. Як толькі яна загарыцца, адразу трэба разбіць пульт, хлопцы справіцеся? - спытаў ён у Свістулі і Підара, тыя кіўнулі. – Астатнія будуць стаяць на падстрахоўцы, здарыцца можа ўсякае.

Наспеў час дзейнічаць. Працоўныя стоўпіліся вакол Снайпера і ён, прыцiснуўшы паказальны палец да вуснаў, пайшоў у накірунку першай веткі. Снайпер ішоў нібы кот, бязгучна ступаючы па падлозе, гэтым самым дэманструючы астатнім, як трэба набліжацца да канвеера. Ён дайшоў да першай веткі і жэстам паказаў, што можна рухацца наступнаму. Доўга чакаць не прыйшлося, Рупар, сціснуўшы ў гужаватых руках сваю загваздку, асцярожна пасунуўся да канвеера. Такім чынам усе працоўныя расфармаваліся

каля першай веткі. Апошнім ішоў Дзяніс. Ён бачыў напружаныя позіркі за кожным сваім рухам. Дзяніс ішоў ледзьве не на дыбачках, глытаючы глейкую сліну і адчуваючы, як цяжка б'ецца яго сэрца. Сканцэнтраваўшыся на сваіх кроках, ён на нейкі момант зразумеў, што губляе раўнавагу і, спатыкнуўшыся, выдаў падэшвай кеда слізгальны гук. Працоўныя ўсе да аднаго схамянуліся, вылупілі на яго вочы і застыглі ў чаканні хуткай смерці. Але нічога не здарылася, Дзяніс своечасова стаў у патрэбную паставу, каб пазбегнуць падзення і паспяхова дайшоў да канвеера. Трымаючы ў потных руках загваздкі, працоўныя чакалі загаду Снайпера. Той, трохі счакаўшы, пачаў адкручваць вечка на каністры з бензінам. Далоні Дзяніса спацелі да такой ступені, што яму здавалася, загваздка выслізне з яго рук, як мыла. Адчыніўшы каністру, Снайпер пачаў разліваць бензін на канвеерную стужку. Рупар падышоў да Снайпера, падпаліў запальніцай шматок анучы і шпурнуў яе на канвеер. Стужка ўспыхнула, як свечка і агонь адразу ахапіў усю яе даўжыню. Снайпер левай рукой падаў знак у накірунку пульта і Свістуля з Підарам нерашуча пасунуліся ў той бок. Загваздкі амаль сінхронна ўвайшлі ў загадзя адчыненую каробку пульта і адтуль пасыпаліся іскры. У гэтае імгненне канвеер зарыпаў, нібы яго механізмы былі пакрытыя пластам шматгадовай іржы. Канвеерная стужка заварушылася ў перадсмяротных канвульсіях, як тоўсты пітон, якога пратыкнулі дзідай. Трэці цэх напоўніў смярдзючы і ёдкі дым падпаленай гумавай стужкі. Нечакана з ахопленай пажарам першай веткі канвеера вылезла велізарная агністая рука якойсьці містычнай асобы і схапіла першага, хто трапіўся. Ім аказаўся Пазняк. Рука схапіла яго ў сваю смяротную пятлю і зацягнула ў полымя. Пазняк загарэўся, як ерэтык у эпоху змрочнага сярэднявечча, пакінуўшы ад сябе немы лямант.  Убачыўшы такі нечаканы зыход, Чыпушыла кінуў на  падлогу сваю загваздку і пабег зваротна ў прыбіральню. Але гэта было вялікай памылкай: загваздка ўзнялася ў паветры і шалёным бумерангам паляцела за Чыпушылай, нагнаўшы яго амаль каля самых дзвярэй, на хуткасці знесла яму палову галавы. Мазгі крывавым фаршам пырснулі на белую кафлю, бы фарба на палатно мастака-эксперыментатара.

- Усім стаяць на месцы і не рухацца! – сказаў Снайпер.

Але было, мусіць, занадта позна. Падпалены Пазняк і размазаныя мазгі Чыпушылы зрабілі сваю справу. За Чыпушылай, у сляпой надзеі на выратаванне, пакідалі свае загваздкі Підар, Свістуля і Грыша.

- Стаяць! – не стрымаўся і крыкнуў Снайпер.

Магчыма, толькі гэтае слова выратавала Дзяніса ад спробы кінуць загваздку і ўцячы з імі. Ён заплюшчыў вочы і з усёй моцы сціснуў яе ў сваіх руках. Таму што ў наступную хвіліну, кінутыя на падлогу загваздкі гаротнай троіцы, на вачах ва ўсіх падняліся ў паветра і стрэламі ўсадзіліся ў іх целы. Грыша паспеў толькі прастагнаць. Дзяцел пачаў адыходзіць назад, рукі яго моцна затрэсліся і ён натуральна зарыдаў, выпусціўшы загваздку з рук, і ўкленчыў. Гаротна закрыў далонямі вочы і расплакаўся. Дзяніс ніколі не чуў, як мужчыны плачуць у адчаі. Аднак плач яго прыглушыў тупы гук загваздкі, якая мязнула Дзятла па чэрапу, размажджэрыўшы яго галаву. Ласун і Гестапа запанікавалі і разам пабеглі ў другі бок ад канвеера. Больш іх ніхто не бачыў, ні крыкаў, нічога…

- Усім стаяць, – прашаптаў Снайпер, апусціўшы галаву.

Услед за Грышай канвеер выдаў чарговы пранізліва-рыпучы гук, ад чаго па скуры Дзяніса прабеглі мурашкі. Гук нагадваў адчайдушны лямант параненага звера, якога напаткалі знянацку. Дзяніс з хвіліны на хвіліну чакаў, што агністая рука зацягне яго ў пякельнае вогнішча і не адразу зразумеў аб перамозе, напружыўшыся і, заплюшчыўшы вочы. Толькі крык Пазаліні: "Мы зрабілі гэта!" дапамог яму авалодаць сабой.

Канвеерная стужка была дэстабілізавана. Рупар знаходзіліся ў поўным ступары, Пазаліні мацюкаўся самымі кепскімі словамі, а Снайпер зачаравана глядзеў на агорнутую полымем першую ветку. Недалёка ад іх, распластаўшыся на падлозе, у калюжы крыві, ляжаў прадзіраўлены Підар і Свістуля з Грышай. Дзяніс не разумеў, якая сіла прымусіла яго застацца на месцы, нібы гэта было і не яго цела. А потым ён закрычаў, простым дзікім крыкам, магчыма, так, як крычалі першабытныя людзі, заваліўшы маманта. Яго крык разляцеўся па усім цэху, прымусіўшы скалануцца ўсіх жывых.

Калі рука Снайпера лягла яму на плячо, ён спыніўся, адчуваючы, як моцна запякло ў горле.

- Адыходзім, - сказаў Рупар.

Дзяніс зачыніў дзверы і ўбачыў збялелых жанчын, якія прыцісналіся адна да адной, сярод іх самай напужанай здавалася Курва. Снайпер адразу падышоў да жанчын і неразборліва аб чымсьці спытаў. Жанчыны пачалі пераглядацца і ажыўленна міргаць вачыма. Неўзабаве Снайпер расмяяўся і паглядзеў на ацалелых. Аднак у яго вачах Дзяніс выразна прачытаў трывогу. Заставалася самае складанае, і па Снайперу было бачна, што цяпер ён і сам ня быў ўпэўнены, здолеюць яны дабрацца да даху, ці не. І тады Снайпер ляпнуў сябе па сцёгнах – так, звычайна,  робяць людзі, якія ўрэшце прынялі канчаткова рашэнне.

- Эдзік, Палыч, мне спатрэбіцца ваша дапамога.

Рупар з Пазаліні пераглянуліся і нічога не адказалі. Яны разумелі, што без іх дапамогі Снайперу і Дзянісу ніяк не дабрацца да канчатковай мэты, але з другога боку яны вельмі, і гэта было відавочна, не хацелі выходзіць за дзверы. На гэта ніхто не звярнуў увагі і самі мужыкі спрабавалі не падаваць выгляду. Яны стаялі ў чаканні, калі Снайпер аддасць загад выходзіць.

- А вы сядзіце тут, - сказаў ён жанчынам, - і што б не здарылася, ні ў якім разе не выходзьце адсюль, толькі гэта будзе гарантыяй вашага жыцця і бяспекі

Як толькі Дзяніс усвядоміў, што гэта апошнія словы Снайпера перад адпраўленнем на дах, рукі яго затрэсліся. Ён не ўяўляў сябе на крохкай вентыляцыі на вышыні дваццаці метраў. Немагчыма. Але больш за ўсё Дзяніса бянтэжыла тое, што ад яго будзе залежыць жыццё астатніх.

- Ну, што ж, пайшлі, - сказаў Снайпер і Дзяніс зразумеў: адступаць назад позна.

13

Яны ізноў выйшлі ў цэх і кожны адчуў подых небяспекі. Дзяніса кінула ў пот. Бязмоўе першай веткі і дым, які зыходзіў ад яе стужкі на фоне гуду астатніх канвеераў, надаваў ей прыхаваную пагрозу.

Снайпер падаў знак і ўсе разгрупаваліся па сваіх месцах. Потым ён асцярожна паставіў нагу на канвеер і трывала стаў на яго паверхню. Хвіліну пастаяў, пераканаўшыся, што канвеер канчаткова бяздзейнічае і кіўнуў Дзянісу падымацца. Дзяніс недаверліва паглядзеў Снайперу ў вочы, працягнуў яму рукі і хутка апынуўся побач з ім. Рупар і Пазаліні залезлі наступнымі. Канвеер параненйшаму не падаваў ніякіх прыкмет руху і гэта, безумоўна, абнадзейвала. Гумовая канвеерная стужка, якая расплавілася ад высокай тэмпературы пад час пажару, цяпер нагадвала астылую лаву, якая прыліпала да абутку.

Як толькі яны ўзлезлі на канвеер, стала відавочным, што вентыляцыйная труба знаходзіцца значна вышэй, чым гэта здавалася візуальна. Дзяніс выцягнуў рукі ўгару, як самы высокі з рабочых – да вентыляцыі яму заставалася яшчэ каля метра. Але Снайпер загаддзя ўсё прадугледзеў. Ён узяў за плечы Рупара з Пазаліні, паставіў іх тварам да твару, паказаўшы, каб яны счапілі рукі ў замок і прыгатаваліся іх падняць. Дзяніс павінен быў лезці першым. Снайпер падвёў яго да мужыкоў і жэстам паказаў падымацца. Дзяніс схапіў мужыкоў за плечы і двума нагамі стаў на іх счэпленыя рукі. Мужыкі застагналі, падымаючы яго да вентыляцыі і Дзянісу здалося, што канвеер зрушыўся на колькі сантыметраў. У наступнае імгненне рукі Дзяніса датыкнуліся да алюмініевай вентыляцыі і ён адчуў яе паветраную лёгкасць. Вентыляцыйная засланка была забруджана тоўстым пластам пылу, які пакінуў ад сябе рабочы тыдзень, асеўшы на рашотцы шэрымі камякамі. Дзяніс згарнуў пыл далонню і без падказкі адкруціў па баках засланкі чатыры шрубкі. Знутры яму ў твар патыхнула едкім вільготна-састаялым пахам цвілі. Дзяніс на імгненне згубіў раўнавагу, але ў апошні момант утрымаўся, учапіўшыся рукамі за вентыляцыю, потым апрануў рэспіратар, падцягнуўся і ўлез унутр вентыляцыі.

Труба знутры аказалася даволі вузкай і слізкаю. Дзяніс прасунуўся наперад і паглядзеў наперад, убачыўшы, як вентыляцыя цягнулася высока ўгару нейкім падабенствам лесвіцы, прыступка за прыступкай.

Між тым, Снайпер падрыхтаваўся лезці следам за Дзянісам. Нельга было губляць ні секунды. Ён такім жа чынам, але значна марудней залез у вентыляцыю. Снайперу была прадстаўлена вузкая прастора трубы для яго шырокіх плячэй і азадак Дзяніса спераду. Яны пачалі рухацца наверх і вентыляцыйная труба загрымела, скаланаючыся ад іх рытмічных зрухаў.

Рупар з Пазаліні зачараваныя ўдалай дыслакацыяй Дзяніса і Снайпера зусім забыліся пра ўласную бяспеку і засталіся стаяць на канвееры, гледзячы на вентыляцыю, якая гайдалася з кожным прасоўваннем выратавальнікаў. А потым Рупар парушыў першае і самае галоўнае правіла – маўчаць.

- Давайце, хлопцы, лезьце вышэй! - сказаў ён.

У гэты момант Дзяніс спыніўся, каб адпачыць і яму падалося, як быццам голас Рупара абсекся на апошнім слове. Снайпер таксама спыніўся і пачаў прыслухоўвацца.

- Рыжы? – паклікаў Рупара Снайпер.

Замест яго голасу знізу пачуўся рух канвеера, ашалелы рух звышхуткаснай машыны смерці; рэшткі канвеернай стужкі аж трашчалі. Не цяжка было здагадацца, што здарылася з мужыкамі. Дзянісу хацелася расплакацца. Калі праходзіш з людзьмі цераз пекла, недарэчная смерць можа прывесці да істэрыкі. У тую хвіліну Дзяніс шчыра жадаў, каб на канвееры замест Рупара і Пазаліні апынуліся Масла з Курвай і Зінай. Аднак яму трэба было дабрацца да канчатковай мэты, хаця б дзеля сябе і Снайпера. Таму замест таго, каб безупынна біцца галавой аб алюмініевую абалонку трубы і галасіць падобнае: "Мы ўсе асуджаныя і нам не выжыць", Дзяніс палез далей. Хтосьці казаў, што праца змяняе людзей і гэта існая праўда.

14

Адзіным зручным момантам у вентыляцыйнай трубе былі яе рыфленыя сценкі, за якія, прынамсі, можна было ўчапіцца, каб узбірацца вышэй. Труба вяла высока ўгору і з кожнай хвілінай станавілася цяжка дыхаць, а пыл прасочваўся і цераз рэспіратар. З кожным рухам Дзянісу здавалася, што труба пачынае звужацца. Ззаду соп Снайпер, а спераду яму ў твар патыхала смуродным паветрам. Яны прапаўзлі ўсяго метраў пяць, а пальцы Дзяніса ўжо паспелі пачырванець і сцерціся. Да ўсяго далучалася дакучлівае пачуццё клаўстрафобіі, якое з імпэтам нараджалася ў яго мозгу ўсё мацней. Пакутлівая аднастайнасць ціснула на псіхіку і так занадта падарваную за начную змену, і Дзяніс пачаў усведамляць, што яго розум адлучаецца ад рэчаіснасці. Упершыню ён усвядоміў, што гэта адбывалася міжвольна. Дзяніс прадставіў свой розум ядром сціснутай энергіі, якое пульсуе над яго абезрухомленым целам. Раптам на вочы навалілася непамерная дрымота, нібы ён не дакранаўся да падушкі цэлы тыдзень. І Дзянісу захацелася заплюшчыць вочы ўсяго на колькі секунд, а калі яны прайшлі, Дзяніс зразумеў, што ўжо не можа іх расплюшчыць. Разам з тым цела абмякла, з роту пацякла сліна, і ён пачаў трэсціся, як наркаман ад ломкі. Далей Дзяніс не памятаў.

Чаканім крок, выразней рухі, засталося зусім крыху!

……………………………………………………………………………………………………………………

А я ведаў, што ты хлопец не промах, таму і дапусціў у сваю гульню. Ты складаеш тую нешматлікую колькасць адшчапенцаў, хто спрабуе супрацьстаяць мне. Твая асаблівасць – ты новенькі, цябе тут ніхто не ведае, менавіта пагэтаму я і выбраў цябе. Можаш гэтым ганарыцца. Аднак не забывай, што гэта мая гульня і ты мая марыянетка.

Скажы, ты сапраўды разлічваў вось так проста, перакрыўшы адну ветку, залезці сюды і без перашкод патрапіць на дах? Магчыма, але малаверагодна. Трэба аддаць належнае, план і праўду нядрэнны. Я разлічваў, ты палезеш адзін і з табой будзе лягчэй дамовіцца. Нам ніхто не замінае? Узнікла незразумелая вібрацыя, ад якой Дзяніс ледзьве не прыйшоў у прытомнасць. Не трэба абурацца, я ведаю твае адносіны да гэтага чалавека, але калі бойка справядлівая, трэцяму ў ёй няма месца. Ці не праўда? Вібрацыя паўтарылася. Цішэй-цішэй, не страчвай свае сілы марна, якіх у цябе і так не шмат. Паслухай сюды, мне для большага апагею ўсёй гэтай драмы патрэбен каларытны фінал, які б уразіў мяне. Я даю табе невялікі шанец, зусім невялікі і хто ведае, можа ты разважліва ім скарыстаешся, хто ведае, хто ведае?!

А цяпер уяві сябе на маім месцы. Уявіў?.. Ты – велізарны механізм і з-пад твайго кантролю выходзіць два шрубы, выйсце ёсць толькі адно і ніякага іншага быць не можа, запомні – не можа. Сітуацыя такая: каб наладзіць дзеянне механізму, трэба зваротна закруціць адзін са шрубаў. Адзін закруціць, другі выкінуць. Што ты зробіш у такім выпадку? Маўчанне. Урэшце табе вырашаць…

Яго выпхнула ў рэальнасць, як корак. Ён расплюшчыў вочы і ўбачыў, што па пояс вылез з вентыляцыйнага люку і яго за руку трымае Снайпер, звісаючы ўніз. Твар яго быў збялелым, яны дабраліся амаль да самага даху, вентыляцыя ўжо была гарызантальнай, а адлегласць паміж падлогай і імі складала вышыню, прыкладна, пяціпавярховага будынка. Руку Дзяніса пранізваў рэзкі боль, з чаго зыходзіла, што Снайпер вісеў так ужо колькі хвілін. З носа Дзяніса цурчала кроў, крапаючы на алюмініевую вентыляцыю. Ён паглядзеў у вочы Снайпера і пад прыхаваным жахам убачыў лютую нянавісць да сябе. Ноздры Снайпера раздзімаліся, як у быка, удала параненага тарэра, а вусны былі сціснутыя ў натужлівым жаданні зрабіць Дзянісу балюча. Дзяніс зразумеў, што ў вентыляцыі паміж імі адбылося штосьці непрадказальнае. Ён учапіўся другой рукой за руку Снайпера і моцна сціснуў яе. Раўнавага засталася.

- Так, паслухай сюды, - сказаў Дзяніс дрыготкім голасам, - я думаю, што нам трэба выбірацца адсюль. Якія будуць прапановы?

Яго словы гучалі з наіўнай абуральнасцю, але ў іх была вялікая неабходнасць.

Снайпер маўчаў. Дзяніс яшчэ раз паглядзеў яму ў вочы і адчуў, што доўга не зможа ўтрымліваць яго ў сваіх руках.

- Я не ведаю, што тут адбылося, але хутчэй за ўсё гэта дзіўныя праявы канвеера, - крыкнуў Дзяніс, - не паддавайся яго выбрыкам! Ну жа?!

Снайпер зласліва выціснуў з сябе:

- Паспрабуй разгайдаць мяне.

Але разгайдаць яго было не такта проста. З кожным імгненнем Снайпер станавіўся цяжэйшы на кілаграм. Руку так і хацелася адпусціць, кісць, здавалася, вось-вось адарвецца. У гэты момант Снайпер падняў уверх ногі і адпіхнуўся ад вентыляцыі. Дзяніс сабраў усе свае намаганні і калі Снайпер хістаўся ў паветры, паспрабаваў падцягнуць яго да сябе, моцна ўпёршыся ў адчынены люк.

- Давай, - шыпеў Снайпер.

Дзяніс напружыўся да пакольвання ў вые і паясніцы, і яшчэ на пару сантыметраў падцягнуў яго ўверх. Гэтага хапіла. Снайпер закінуў ногі і як скалалаз па стромай скале ўскараскаўся абедзвюма нагамі на трубу. Дзяніс падцягнуў яго да сябе і праз хвіліну пакутлівага змагання за жыццё, яны ўдвух аказаліся ў бяспецы. Яшчэ хвіліна пайшла на іх адыхаўку, яны не маглі прамовіць і слова, пераводзячы дыханне. Дзяніс задыхаўся і з шырока расплюшчанымі вачыма пазіраў на Снайпера. Той, у сваю чаргу, глядзеў на яго. Адсопшыся, Дзяніс прагугнявіў:

- Што тут здарылася?

- Я разбіў табе нос, - сказаў Снайпер.

- Я згубіў кантроль?

- Як толькі мы апынуліся ў трубе…

Дзяніс цяжка ўздыхнуў.

- Дах зусім блізка, - сказаў ён.

- Мы амаль каля мэты.

- Аднак разам далей лезці нельга.

- Калі мы распачалі гэты шлях разам, разам яго і скончым, - заключыў Снайпер.

- Ты не разумееш, у любую хвіліну са мной можа здарыцца анамалія. Я ўступіў у бойку з канвеерам.

- Заўваж, не толькі ты адзін…

- Снайпер, паслухай…

- Снайпер?! – здзівіўся ён.

- …у мяне былі трызненні.

- Нізкі тагасветны голас… белы пакой… кроў… канвеерная стужка…часткі чалавечых целаў… гіганцкі язык…

- Адкуль ты ведаеш?

- Я бачу гэтыя сны ўжо дзесяць гадоў, з таго самага часу, як прыйшоў сюды працаваць.

Яны замаўчалі. Знізу да іх данёсся рух канвеера: лёгкі, павольны, з невідушчай, смяротнай пагрозай.

- Тады завершым пачатае, - сказаў Дзяніс.

Знутры вентыляцыі падзьмула брудным паветрам з пылу і іншай завадской трасцы.

- Далей палезем звонку, - сказаў Снайпер.

Чапляючыся здзёртымі пальцамі за рыфленую абалонку вентыляцыі, яны прасоўваліся наперад, як слімакі па галіне дрэва. Адкуль у іх браўся моц, не ведаў ні Снайпер, ні Дзяніс. Рукі, спіна, ногі даўно спруцянелі. І толькі прага да выратавання і жыцця, надавала ім крыху пругкасці і гнуткасці. На апошнім дыханні. Трэці цэх ляжаў, нібы на далоні. Дзяніс нерашуча паглядзеў уніз і ў яго закружылася галава.

- Не глядзі туды, - папярэдзіў Снайпер. – Лепш паспрабуй дацягнуцца да форткі.

Прыблізна, метраў у двух ад яго ўжо быў шкляны дах; адна з фортак была прыадчынена. Але Дзяніс не дацягнуўся. Заставалася адно – скокнуць. Гэтая ідэя прыйшла ў яго галаву не адразу. Аднак гэта было самым рэальным шанцам патрапіць на дах.

- А што, калі я не далячу, ці не вытрымае фортка? – спытаў ён у Снайпера.

- А што, калі… Ведаеш, колькі разоў я сёння задаваўся гэтым пытаннем? – сказаў Снайпер.

Дзянісу стала прыкра і разам з тым прыступ хвалявання, у які ўжо раз за гэтую ноч прымусіў спацець яго далоні. Каб гэта не стала следствам пагібелі? Доўга не марудзячы, ён выпраміўся ва ўвесь рост. У каленных суставах адчувалася дрыготка. Ён умоўна вымераў адлегласць ад вентыляцыі да форткі і, утрымліваючы раўнавагу на слізкай паверхні трубы, злёгку прагнуўшыся, адпіхнуўся ад вентыляцыі. Абедзве рукі ўчэпіста замацавалася за драўляную раму форткі. Дзяніс падцягнуўся і ўсунуў ногі ў праём.

За акном світала. Прыемная імжа халадзіла разгарачанае цела. Ён прапоўз уніз па шкляным даху і скаціўся да бетонных парэнчаў. Спіну абліло нечаканай, рэзкай ледзяной свежасцю і ён яшчэ некаторы час праляжаў так, не рухаючыся. Абудзіў яго гук скачка Снайпера. Ён павіс на фортцы і ўжо не ў сілах быў падцягнуцца. Дзяніс падаспеў яму на дапамогу, і Снайпер неверагоднымі

намаганнямі ўсё ж здолеў ускараскацца на дах. Праз хвіліну яны абодва моўчкі ляжалі каля бетонных парэнчаў, прагна глытаючы свежае паветра.

Над Мінскам падымалася блякла-жоўклае сонца і з даху асабліва добра былі відаць яго цнатлівыя промні, што так няўцямна траплялі на паверхню горада.

- Мы жывыя, - суха прамовіў Снайпер і Дзяніс толькі кіўнуў галавой.

Яны сапраўды засталіся жывымі. Дзяніс ляжаў на спіне і зацята думаў аб сваім жыцці. Хто я? Навошта я? Што мне трэба рабіць? Адвечныя філасофскія пытанні штурмавалі яго розум. А потым ён заплакаў, але нягучна, так, каб не пачуў Снайпер. Слёзы былі чэрствыя і ад іх лягчэй не ставала. Дзяніс адчуў сябе кінуты ўсімі. Якісьці пісьменнік казаў, што толькі па-сапраўднаму адзінокі чалавек імкнецца на чужыну, і ён меў рацыю. Цяпер Дзяніс разумеў Іру і яе жаданне з'ехаць. І ён таксама калі-небудзь з'едзе, з'едзе куды падалей, далей ад адзіноты, ад канвеера, ад гэтых людзей, каб знайсці супакой і зачараванне ў мары.

З цэха пачулася рыпенне, а па даху пракацілася вібрацыяй. Дзяніс расплюшчыў вочы і пераглянуўся са Снайперам. Канвеер спыніўся. Ці на доўга?

15
(замест эпілогу)

Вытрымкі з прэсы:

Савецкая Беларусь:

"...на Мінскім заводзе лядоўняў адбылося надзвычайнае здарэнне: канвееры аднаго з цэхаў на ўсю начную змену выйшлі з-пад кантролю, пры папраўцы пацярпелі два працаўніка. Да раніцы непаладкі былі ліквідаваныя".

Рэспубліка:

"...надзвычайнае здарэнне на "Тытане", пацярпелі колькі працоўных, аднак сур'ёзных пашкоджанняў няма, да раніцы праца на заводзе была наладжана".

Мінскі кур'ер:

"Мінскі завод лядоўняў выйшаў на новы, значна якасны прадукцыйны паказчык. Нездарма знак "зроблена ў Беларусі" – знак якасці".

Труд:

"МЗЛ "Тытан" на сённяшні дзень з'яўляецца адным з перадавых прадпрыемстваў нашай краіны. На заводзе вырабляюцца лядоўні розных відаў, таксама пральныя машыны, мікрахвалеўкі, якія па якасці ні ў чым не саступаюць замежным і кошт, дарэчы, радуе. Працаваць на "Тытане" – значыць, атрымліваць годную зарплату, мець згуртаваны калектыў і вартае кіраўніцтва".

Звязда:

"Сёння МЗЛ "Тытан" пастаўляе ў краіны СНД звыш 24 500 лядоўняў і гэта далёка не мяжа. "Купляйце беларускае" – ужо не выклікае ў нашых спажыўцоў недаверу".

Вячэрні Мінск:

"Надзвычайнае здарэнне на "Тытане" было хутка ліквідавана працоўнымі-спецыялістамі і канвееры трэцяга цэха, якія па ўжо высветленых прычынах спыніліся на ўсю змену, урэшце, былі спраўныя. Так сказаў адзін з працоўных гэтага заводу: "Працаваць тут добра і цікава, а падобныя непаладкі адзінкавыя і агульнымі намаганнямі выпраўляюцца". Такія словы па-сапраўднаму разгортваюць душу беларуса, як працавітага і клапатлівага чалавека".

Камсамольская праўда:

"Чуткі аб масавых ахвярах на Мінскім заводзе лядоўняў, нічым не пацверджаны. Хутчэй за ўсе, гэта карысна апазіцыйным СМІ, якія разлічваюць на падтрымку з захаду. Пацярпела ўсяго чатыры працаўніка, выяўлены толькі два пераломы. Праца была хутка наладжаная і першая змена нават перавыканала свой план".

Верасень 2008 – верасень 2009 гг.

Каментарыі:

1
Nofx – панк-рок гурт з Каліфорніі.

2
Гамункулус – па ўяўленні сярэднявечных алхімікаў, істота, якую мажліва атрымаць штучнай спробай.

3
“Step” – начны клуб, цяперашні RE:PABLIC.

4
Паліфем – цыклоп з гамераўскай “Адысеі”.

5
Доліхакефальны чэрап – суадносіны даўжыні і шырыні чэрапа чалавека, пры якім шырыня складае менш 0,75 даўжыні.

6
Том Бэрынджэр – амерыканскі акцёр, найбольш вядомы па кінастужцы “Снайпер”.

7
П’ер Паала Пазаліні – італьянскі кінарэжысёр.

8
Джордж Оруэл – ангельскі пісьменнік.

9
Мілан Кундэра – чэшскі пісьменнік.

10
Хуліё Картасар – аргентынскі пісьменнік.

11
Эмір Кустурыца – баснійскі рэжысёр.

12
Раман Паланскі – кінематаграфіст.

13
Дэвід Лінч – амерыканскі рэжысёр.

14
Райнер Вернер Фасбіндэр – нямецкі рэжысёр.

15
Іггі Поп – амерыканскі рок-выканаўца.

16
Joy Division – ангельскі інды-рок гурт.

17
The Killers – амерыканскі рок-гурт.

18
Джэніс Джоплін – амерыканская спявачка.

19
Джуліян Мур – амерыканская актрыса.

20
Тэры Гіліям – брытанскі рэжысёр.

**АПАВЯДАННІ**

**ПРЫПЫНАК**

1

“Мінск – даволі кансерватыўны горад”, - сказаў вакаліст гурта Haujob[1] Даніэль Майер, калі прыязджаў да нас з канцэртам. Мінск, чымсьці, нагадаў яму Германію часоў ГДР. Бадай, я з ім згаджуся. Калі заехаць у цэнтр Мінска, амаль паўсюль цябе сустрэнуць гэтыя аднастайныя пяціпавярховікі з вялікімі вокнамі і маленькімі балкончыкамі – сталінскі ампір, так званы стыль архітэктуры. Дарэчы, калі сам правадыр народаў адзін і адзіны раз наведаў Мінск і тое праездам у 1945 годзе, ён, убачыўшы адны толькі руіны, сказаў: “Мінску – быць”. І так, з яго лёгкай рукі, разбураны вайною горад ператварыўся ў тое, што мы зараз бачым: шырокія плошчы, прасторныя вуліцы і завулкі, якіх вы не ўбачыце ў ніякай Эўропе.

Мне падабаецца Мінск, я люблю гэты горад, я жыву ў ім. Я жыву ў новым раёне на яго ўскрайку сярод шчыльных вуліц, сканструяваных з дамоў-каробак – тут адчуваецца сапраўдны пах постсавецкага асяроддзя, дзе па дварах бадзяюцца ўсялякія гопнікі, дзе трахаюцца па пад’ездах, бухаюць і колюцца, дзе проста жывеш звычайным жыццём, як і ўсе звычайныя людзі гэтага кансерватыўнага горада. Мне падабаецца Мінск, мне падабаецца мой раён, мне падабаецца мая вуліца на яго ўскрайку.

Але раней тут было ўсё зусім па-іншаму. Наш дом стаяў на полі, а вакол яго ў розныя бакі распаўзаліся доўгія каналы з бруднымі плямамі калюжын, якія з-за невыносна жудаснага паху ўсе называлі “смуроднікамі”, таму і здавалася, што наш дом знаходзіўся ў зоне адчужэння. У мяне было мала сяброў. Гэта, відаць, з-за таго, што я не любіў гуляць па вуліцы, аддаючы перавагу чытанню кніг, а вечарам, зазвычай, назіраў з акна за распаленым сонцам, якое марудна згасала за трубамі заводу, што віднеўся на самым небакраі. З усяго нашага класа толькі адзін я, нават пасля выпускнога, застаўся нявіннікам. Упершыню я па-сапраўднаму пацалаваўся ў шаснаццаць гадоў. Гэта здарылася ў школьнай бібліятэцы з адной дзяўчынкай, якая акрамя мяне туды часта заходзіла. Дзіўна, ніколі не думаў, што дзяўчыну са школьным статусам “шлюшка” будуць цікавіць кнігі. Аднойчы, калі бібліятэкар выйшаў па справах, яна падсела да мяне і сказала, што я ёй падабаюся. Яна сказала, што я падабаюся яшчэ некаторым дзяўчынкам у школе, але яны лічаць мяне “батанікам” і слабаком. Потым яна ўзяла мяне за падбароддзе і пацалавала. Яе язык залез у мой рот і пачаў там варушыцца. Тады я зусім не ўмеў цалавацца і наогул лічыў, што гэта складана цалавацца “па-французску”. Але нічога складанага ў гэтым не аказалася. Я проста пачаў паўтараць за ёй, варушачы языком па ўсім яе роце. Памятаю, яна ўсміхнулася і сказала: “А ты не блага цалуешся”. Я здзівіўся, мне было вельмі прыемна. Аднаго я не мог зразумець дакладна: чаму ў дзяўчынак склаўся такі стэрэатып, што ўсе “батанікі” слабакі, чаму заўжды яны жадалі бачыць у выглядзе свайго хлопца якогасьці навапаказанага хулігана, які б блага вучыўся і пудзіў бы ўсіх астатніх? І чаму некаторыя з іх лічылі мяне слабаком? Дома ў мяне былі гантэлі і турнік. Я займаўся фізічнымі практыкаваннямі разы тры на тыдзень. Цяпер я даволі моцны і каржакаваты хлопец.

Пасля школы я хацеў паступіць у ВНУ. Я здаў экзамены, падаў дакументы на факультэт журналістыкі ў БДУ, аднак на бюджэт не прайшоў, не хапіла патрэбных балаў і мне прыйшлося ісці на завод. У маіх бацькоў не было грошай, каб плаціць за мяне. Да таго ж яны ўжо былі старымі і на пенсіі, (маці нарадзіла мяне ў сорак гадоў). Вядома, я мог паступіць вучыцца завочна, але мяне не вабіла перспектыва гарбаціцца і аднасова грызці граніт навукі. Трэба выбіраць штосьці адно. Для мяне важней былі грошы. А далей бацька пакінуў нам са старэйшым братам ключы ад кватэры, усе патрэбныя дакументы, спадзяючыся на нашу самастойнасць і з мамай з’ехаў жыць у вёску. Брат у хуткім часе ажаніўся і перасяліўся жыць да жонкі. Так я застаўся адзін.

Дарэчы, я не сказаў як мяне завуць, ведаеце, я і не стану гэтага рабіць, захоўваючы сваю канфідэнцыяльнасць. Можаце называць мяне як хочаце, гэта вашая справа.

Такім чынам я застаўся адзін, зусім адзін, у мяне не было ні сваякоў, ні сяброў, ні нават блізкага чалавека. Прынамсі, мне пашанцавала ўладкавацца слесарам на МАЗ, дзе я і цяпер працую. Зараз мне дваццаць чатыры гады. Я брунет з чорнымі, як вуглі вачыма. Нежанаты. Спартыўнага целаскладу. Вельмі хутка гэтыя прыкметы будуць разлепленыя па ўсім Мінску, але гэта потым. На той час усё складвалася не так і кепска, я зарабляў добрыя грошы і ў мяне была асабістая кватэра. На заводзе я пазнаёміўся з двума незвычайнымі хлопцамі Саньком і Дэнам, у адрозненні ад мяне яны былі бесшабашнымі асобамі. Кожны, ведаеце, цяпер сходзіць з глузду па-свойму. Гэта менавіта яны падсадзілі мяне на digital hardcore[2] і я амаль кожную суботу праводзіў з імі ў начных клубах. Там я пазнаёміўся з рознымі людзьмі, рознага кшталту і густу, і, вядома, з андэграўнднымі дзяўчатамі. Я заўжды дзівіўся, як Санёк з Дэнам лёгка раскручвалі кароткія, начныя раманы з п’яненькімі дурніцамі, якіх яны заўжды прыводзілі да мяне на кватэру. А на раніцу я вымятаў усіх прэч і ўсе выходныя ў мяне з бадуна расколвалася галава. Праз тыдзень пачыналася ўсё зноўку.

Той сон з’явіўся неспадзеўкі, мая старая парана, якая турбавала мяне з дзевятнаццаці гадоў была амаль забытая і тут з’явіўся гэты сон.

Відаць, я крыху абмовіўся, калі сказаў, што мне адразу прыйшлося ўладкавацца на завод. Не зусім так. Некаторы час я падзарабляў грузчыкам у смуглявых тайцаў і даўганосых грузінаў на кірмашы “Ждановічы”. Я цягаў цяжкія скрыні, набітыя садавінай і агароднінай.

Той нядзеляй, пасля суботняга сэйшну, я лёг, дзесьці, у гадзін дзесяць вечара і адразу ж адключыўся.

І вось я ішоў па карабатым асфальце рынка, шукаць сабе працу. Было вельмі спякотна і я зняў майку. Сонца апякала мае белыя плечы і рукі, а вакол мяне хадзілі загарэлыя хлопцы. Яны безупынку гаманілі. Сярод іх мітусіліся цыганы і мужыкі гадоў пад сорак. Я заўважыў аднаго хлопца, што сядзеў на тратуары, падняўшы твар да сонца. Падышоўшы да яго, я спытаў: “Слухай, а дзе тут можна ўладкавацца на працу?” Хлопец здзіўлена паглядзеў на мяне: “Лепш сказаць знайсці працу, - паправіў ён. - Бачыш тую браму, - паказаў ён пальцам на падабенства брамы, - ідзі да яе, за брамай будуць грузавікі, падыходзь да вадзіцеляў і пытай: “Вам грузчык не патрэбен?”. Я аддзячыў яго і пайшоў да брамы. За брамай аказалася доўгая чарга грузавікоў. І я пачаў абыходзіць кожнага вадзіцеля, з ненадакучлівай, як мне здавалася, прапановай, але адусюль чуў толькі адно “не”. Пад самы канец чаргі я ўжо і не спадзяваўся знайсці працу, я проста спыніўся ля аднаго грузавіка, як раптам пачуў за спінай: “Што, хлопец, працу шукаеш?” Я азірнуўся і ўбачыў у

кабіне з адчыненымі дзвярыма вусатага дзядзьку. Ён перакінуў цыгарэтку з аднаго кутка вуснаў у другі і выскаліўся жоўтазубай ухмылкай. "Залазь сюды", – уладна сказаў ён, і я пакорліва залез у кабіну. Вусач аказаўся вадзіцелем гаспадыні, якая разбіралася ў канторы з дакументамі па закупе тавара. Да заезду на рынак заставалася каля паўгадзіны. Вусач папярэдзіў мяне, каб з гаспадыняй я быў ветлівым і па-уважлівей. Я кіўнуў і спытаў колькі мне заплацяць. Ён сказаў, што каля дваццаці-дваццаці пяці тысяч, (даволі не блага на той час). Калі адбыўся заезд, вусач паставіў грузавік на патрэбным месцы. Тады я і ўбачыў гаспадыню. Гэта была мажная жанчына невялікага росту з дробненькімі, як у хамяка вачыма. Вусач дапамог мне паставіць тавар на вітрыну, (яны гандлявалі таматамі, яблыкамі, персікамі і вінаградам) і хутка кудысьці пайшоў. Я застаўся сам насам з таўстухай. Амаль да самага вечару мне прыйшлося цягаць розныя скрыні, дагаджаць пакупнікам і чуць у спіну словы гэтай каровы: "Давай хутчэй! Чаго сядзіш, шэльма, нясі тавар!" Мяне брала злосць, калі гэтая тлустая дура дзёрзка мной кіравала; але мне былі патрэбны грошы і я стрымліваў сябе ў ганарлівым маўчанні. Некаторы час да нас зусім не падыходзілі пакупнікі і я сядзеў у цені кузава, а гаспадыня круцілася ля вітрыны. З яе шыі, прывязаны за вяровачку, звісаў кашалёк, у якім былі ўгандляваныя грошы. Тады я падумаў, што з усёй стосы яна выцягне дзве пакамячаныя купюры і, нават шкадуючы іх, выдасць мне. Голас у маёй галаве загаварыў: "Чаму так, гэта не справядліва?" "Таму што яна твой працадаўца, а ты яе падначалены", - казаў другі голас. "І што, гэта не вызваляе яе з-пад адказнасці, яна павінна заплаціць за свой доўгі язык! " - не згаджаўся першы голас. "Ты не можаш, гэта супраць чалавецтва!" - крычаў другі голас. І я згадзіўся з апошнім. "Лайдак, злазь адтуль і дапамажы мне, ты нічога сёння не робіш, за што я табе буду плаціць?!" – гыркнула на мяне таўстуха, калі я быў у роздумах. Я злез і дапамог ёй, у большай ступені адчуваючы сябе плебеем XXI стагоддзя. Пад самы канец працы гаспадыня загадала мне залезці ў кабіну грузавіка і прынесці ёй з бардачка пачак цыгарэт. Хоць гэта і не ўваходзіла ў мае абавязкі, я залез у кабіну, але цыгарэт там ніякіх не знайшоў. Я паклікаў гаспадыню. Яна, ледзьве не лопаючыся ад злосці, сама, як велічэзная гнюсная жаба ўскараскалася сваімі калодамі па жалезных усходах у кабіну і пачала на мяне раўсці. Па яе словах было зразумела, што я нікчэмны ідыёт, які не толькі працаваць, але і наогул ні для чаго непрыдатны і яшчэ, што я не атрымаю ад яе ані рубліка. Апошняе, відавочна, было перабольшваннем, але ў канцы канцоў з мяне было досыць: кроў падышла да скроняў, твар затросся, а рукі сціснуліся ў кулакі. Аднак таўстуха не спалохалася мяне, наадварот, яе гэта рассмяшыла і яна сказала: "Ведаеш на каго ты падобны?.." Але на каго менавіта я не паспела пачуць. Рэзкі скачок і мае рукі схапілі яе за шыю, і вялікімі пальцамі націснулі на горла. З-за сваёй непаваротлівасці яна нават не змагла мне супрацівіцца. Я сціскаў ёй горла колькі хвілін, пакуль таўстуха не перастала дыхаць. Відаць, я вельмі моцна націснуў, таму што мне забалелі пальцы. Таўстуха асунулася на сядушцы і пабялела на маіх вачах. Я сарваў з яе кашалёк, скінуў працоўныя пальчаткі, выскачыў з кабіны і, як мага хутчэй, пабег прэч.
І тут я прачнуўся.
Увесь мокры ад поту я падскочыў з канапы і, зразумеўшы, што гэта ўсяго толькі сон, з палёгкай лёг зваротна.
"Прысніцца ўсё ж?" – падумаў я.
На гадзінніку было чатыры трыццаць раніцы і да пяці я праварочаўся з боку на бок, не могучы заснуць. У глыбіні мяне нарадзіліся ранейшыя і даўно забытыя хваляванні.
Калі празвінеў будзільнік, я падняўся. Памыўшыся ў ваннай, я прыгатаваў сабе сняданак з яечні і сасісак, пачысціў зубы, узяў зсабойку і выйшаў на вуліцу.
Раніца, як заўжды, выдалася вільготнай і свежай. Сонца яшчэ не пралупілася праз шкарлупіну шэрых аблокаў, а на зямлі ляжаў брудны і сухі снег. Цьмяным святлом гарэлі ліхтары і хацелася спаць. Людзі выходзілі з сваіх кватэр-логавішчаў і ішлі на працу з асалавелымі вачыма, як зомбі. І я ішоў сярод іх, такі ж зомбі. Я ішоў на свой прыпынак, чакаць аўтобуса.
Мой прыпынак знаходзіўся на самай ускраіне Мінска, у двух прыпынках ад аўтобуснага дэпо. Уяўляў ён з сябе драўляную лаўку, калісьці пафарбаваную ў жоўты колер і драўляную сценку з брылём такога ж жаўтлявага адцення. На гэтай сценцы, звычайна, былі разлепленыя розныя аб'явы з зусім нецікавымі прапановамі. За прыпынкам знаходзіліся прыватныя гаражы, а за дарогай пачыналася поле, на якім месцамі сустракаліся хмызнякі вербалозу. За полем пачыналася колцавая траса і канец горада. І мне падабалася гэта месца і гэты прыпынак. Ён быў амаль заўжды бязлюдным, таму што людзі, часцей за ўсё, ехалі ў мятро, ці садзіліся ў аўтобус каля самога дэпо.
Той раніцай я павольна крочыў да прыпынку, праходзячы праз дрымотныя вуліцы. Я выйшаў на сцежку каля гаражоў і мне ўжо здалёк паказалася яго жаўтлявая сценка. Я хутка прыйшоў і на сваё здзіўленне ўбачыў на лаўцы дзяўчыну. Закінуўшы нагу на нагу, яна сядзела абхапіўшы сябе аберуч. Белыя пасмы яе хвалістых валасоў неахайна звісалі да вузкіх плячэй. Я сеў непадалёк ад яе і ўнурыўся на поле.
- У вас не будзе запаліць? – пачуў я стомлены голас дзяўчыны.
- Я не палю - адказаў я.
- І я таксама, - уздыхнула дзяўчына.
Я ўсміхнуўся і паглядзеў на яе. Мне адразу спадабаліся яе вялікія блакітныя вочы і пасмяглыя вусны, якія яна час ад часу аблізвала. Дзяўчына заўважыла маю ўсмешку, і я адвёў свой позірк.
- На працу едзеце? – яна наўмысна хацела распачаць размову і мяне гэта насцярожыла.
- Так, - сказаў я.  - А вы?
- Не ведаю, я наогул не ведаю, што мне рабіць і куды ехаць, у мяне зараз столькі праблем…
Дзяўчына была нападпітку і па ёй было прыкметна, што яна не спала цэлую ноч.
- У вас штосьці-небудзь здарылася? - спытаў я, хаця, па вялікім рахунку, мяне гэта зусім не цікавіла.
- Здарылася? Вядома здарылася, гэта аднойчы павінна было здарыцца, - дрыготкім голасам, які пераходзіў у істэрыку, прамовіла яна.
Мне было нязручна вось так адразу распытваць, што канкрэтна з ёй здарылася, аднак яна расказала сама.
- Мой муж змяніў мне з маёй сяброўкай і ўчора, нібы-то каючыся, расказаў аб гэтым. Я збегла з дому, напілася ў танным бары, села на апошні аўтобус і апынулася тут. А, дарэчы, колькі зараз часу?

- Палова шостай.
Дзяўчына цяжка ўздыхнула.
- Нават і не ведаю, што вам рабіць у такой сітуацыі, - сказаў я, каб толькі не маўчаць.
- Затое я ведаю, - сказала дзяўчына.
Я замаўчаў, разумеючы, што яна сама раскажа.
- Што вы робіце ў суботу? – нечакана спытала яна.
Мяне перасмыкнула і я прабубніў:
- Іду на канцэрт.
- Можна скласці вам кампанію?
Не ведаю… не ведаю, што мне трэба было ёй тады адказаць. Я не хацеў адчуваць сябе гнюсам, улазячы ў любоўны трыкутнік, але я ўсё ж такі мужчына, як і астатнія, і ўсіх нас свярбіць адзін і той жа жывёльны інстынкт, тым больш, калі ўсё так проста падаецца.
- Відаць, можна, - адказаў я.
Калі пад'ехаў аўтобус, я запісаў у свой мабільнік яе нумар і спытаў імя.
- Аліса, - усміхнуўшыся, адказала дзяўчына.
Я сеў у аўтобус, а Аліса засталася сядзець на прыпынку.
У наступную суботу мы сустрэліся з ёй каля ўваходу ў мятро і пайшлі ў клуб "Step" на канцэрт гурта Ambassador 21[3].
Аліса была вельмі прывабнай у сваім доўгім паліто, у ботах на тонкай шпільцы і з заплеценымі назад валасамі. Яна мне спадабалася яшчэ больш.
Мы зайшлі ў клуб. Я пазнаёміў яе са сваімі знаёмымі і вельмі хутка мы паглыбіліся ў псіхадэлічнае асяроддзе індастрыяла. Музыка і ўсё навокал было проста шыкоўным. Але, як не дзіўна, Алісе там зусім не спадабалася, яна вывела мяне ў курыльню і сказала, што хоча адтуль сысці. Я яе не разумеў, але выйшаў на вуліцу.
- Мне тут страшна і зусім няўтульна, - сказала яна. – Гэта музыка, гэтыя людзі, яны, здаецца, з'ехалі з глузду.
Я засмяяўся.
- Пайшлі да цябе...
- А як жа муж? – кінуў я зусім непатрэбнае пытанне.
- Аб'еўся груш… - сказала Аліса і ўзяла мяне пад руку.
Мы селі ў аўтобус, даехалі да мяне і зайшлі ў кватэру. Я запаліў святло і мы скінулі верхняе адзенне.
- Гарбату ці кавы? – прапанаваў я.
- А ў цябе цукеркі ёсць?
- Знойдзем.
- Тады гарбату.
І Аліса, не пытаючы ў мяне дазволу, адразу пайшла ў залу. Тым часам на кухні я пачаў рыхтаваць для нас гарбату. На халадзільніку, яшчэ з папярэдняй суботы, ляжала каробка не даедзеных цукерак, Санёк і Дэн, звычайна, гэтакім чынам кармілі сваіх начных сяброўак. Я зрабіў гарбату, усыпаў сабе, як заўжды, тры лыжкі цукру і праз сценку спытаў:
- Колькі табе лыжак?!
- Паўтары, - пачулася з залы.
- Гарбата гатова, калі ласка, да стала!
Аліса зайшла на кухню з кнігай у руцэ.
- Прабач, мая слабасць лазіць у гасцях па кніжных паліцах.
- О, мне таксама гэта падабаецца, нічога, адчувай сябе, як дома.
- Але дазволь, у цябе ёсць маркіз дэ Сад, - яна затрэсла кнігай у барвовай вокладцы. – Такая брыдота, табе, што, падабаецца?
- Не вельмі, але для калекцыі спатрэбіцца.
Аліса паклала кнігу на стол і села насупраць мяне. Я ўважліва паглядзеў на абрысы яе твару. Яна, у сваю чаргу, паглядзела на мяне.
- А ты прывабны, - сказала яна.
- А ты падобна на Ніколь Кідман…
Аліса зрабіла колькі нервовых глыткоў з кубачка і са злосцю паставіла яго на стол, расплюхаўшы гарбату па абрусе.
- Я, штосьці, не тое сказаў?
- Не, проста мой муж таксама казаў мне аб гэтым.
Мы абодва збянтэжыліся.
- Гэта, канечне, не мая справа, - першым прамовіў я, - але, тым не менш, як там у вас усё скончылася?
- Ніяк, я падаю на развод.
Аліса дапіла гарбату, і з'ела цукерку.
- Пайшлі ў залу, пакажаш мне сваю музыку, я бачыла ў цябе музычны цэнтр.
Я падняўся, узяў яе за руку і мы зайшлі ў залу. Калі я пачаў капацца ў стосе сваіх дыскаў, Аліса падышла да канапы, каб разаслаць яе. Я трохі здзівіўся, але выгляду не падаў. Разаслаўшы канапу, Аліса села на яе і пачала ўзбіваць маю падушку.
- Пастаў што-небудзь класічнае? – разумеючы, што я ніяк не магу выбраць музыку, сказала яна.
Я паставіў Фрэнка Сінатра.
- Добра, - сказала Аліса, пачуўшы яго казачны голас, - зрабі трошкі цішэй і давай патанчым.
І вось мы, прытуліўшыся адзін да аднаго, танчылі пасярэдзіне маёй залы. Аліса паклала на маё плячо галаву і, прыемна праводзячы па маёй спіне рукамі, маўчала, салодка дыхаючы мне ў шыю. Я здагадваўся, чым мы вельмі хутка будзем займацца, але Аліса, яна

нават і не падазравала, што ў маім дваццацічатырохгадовым узросце я яшчэ ніколі і ні з кім не ўступаў у палавыя зносіны, і казаць ёй аб гэтым зусім не збіраўся.
…Праз некаторы час мы ўжо танчылі голымі. Здавалася, я толькі міргнуў і мы ўжо распрануліся. Цяпер я дакладна не памятаю, якім чынам так атрымалася, але ўся тая прэлюдыя была не самым галоўным.
Далей у маім разуменні ўсё адбывалася даволі невыразна. Памятаю, Аліса лягла на канапу і рассунула ножкі.
- Пайшло ўсё к чорту, - смела заявіла яна.
І я ўвайшоў у яе зверху.
Усплескі markерозначаларовых фарбаў, галасы ў маёй галаве, пацалункі па ўсяму целу, разамлелы твар Алісы – усё злівалася ў адно дзеянне. Гэта быў мой першы раз, але як у сне, я амаль нічога не адчуваў. Яна зусім нягучна стагнала і мы круціліся па канапе, пераплятаючыся, як ліяны. А калі маё цела пачало пранізваць адчуванне чагосьці прыемна-незямнога, мае рукі сціснулі яе шыю.
-  Што ты робіш? - прахрыпела яна.
І тут я прачнуўся.
Пот выступіў на маім ілбу буйнымі кроплямі і я сцёр яго гарачай рукой.
“Прыснілася”, – падумаў я і пацягнуўся.
Але раскінуўшы рукі, я  датыкнуўся да халоднага цела Алісы. Яна ляжала, задраўшы галаву к верху і, адкінуўшы левую руку на падушку. Вочы яе былі заплюшчаны. Я асцярожна вылез з-пад коўдры, апрануў свае трусы і пайшоў на кухню, выпіць вады, адчуваючы ў роце прагную смагу. Дзіўна, я амаль нічога не памятаў з таго, што адбывалася ноччу, хаця зусім не піў спіртнога. Але ўсё ж калі Аліса ляжала ў маёй канапе, значыць сэкс паміж намі адбыўся. Потым я зваротна лёг у канапу. Так прыемна было проста ляжаць каля дзяўчыны, бачыць яе прыпухлы твар, калі памада сцерлася, а закручаныя валасы ператварыліся ў падабенства прычоскі медузы Гаргоны. І яна мне падабалася яшчэ болей. Я правёў пальцамі рукі па яе халоднай шчацэ і пацалаваў у лоб.

2
І Аліса знікла з майго жыцця, і больш я ўжо ніколі яе не бачыў. Тым нядзельным вечарам, пасля ночы з ёй, я сядзеў у залі ля акна, назіраючы за людзьмі і разважаў: чаму Аліса сышла ад мяне, нічога не сказаўшы? Божа літасцівы, кім я стаў, што я ёй такога зрабіў? Гэта было невыносна. Але я вытрымаў. Штосьці пстрыкнула ў маім розуме і я супакоіўся.
Ноччу мне зноў прысніўся сон, у якім я душыў тоўстую прадаўшчыцу на рынку, але ў асноўным толькі той момант, калі я сціскаў яе горла. Я прачнуўся ў халодным поце і не змог заснуць да самай раніцы. Я варочаўся, кідаўся па канапе, а маю галаву ўсё перапаўнялі жахлівыя думкі. У пяць гадзін празвінеў будзільнік, і я з палёгкай падняўся. Абліўшы твар сцюдзёнай вадой, я ўважліва паглядзеў на сябе праз люстэрка і заўважыў мяхі пад вачыма. Я выпіў моцнай гарбаты, зрабіў сабе зсабойку, апрануўся і выйшаў на вуліцу.

На двары нікога не было. Засунуўшы рукі ў кішэні джынсаў, я пайшоў на прыпынак. Я ішоў і думаў аб тым сне. Дзіўна, ён з’явіўся падсвядома, ці прысніўся зноўку? Я думаў і пра Алісу.
У той раз прыпынак аказаўся пустым. Я сеў на лаўку і паглядзеў цераз дарогу на поле. Яно было мёртвым: купкі вербалозу нерухома тырчалі з чэрствай, застыглай зямлі, а высока ў небе крумкалі вароны. Неўзабаве пад’ехаў аўтобус. Я зайшоў у яго і, заплюшчыўшы вочы, зразумеў, што ў маім жыцці пачаліся перамены.
На заводзе Санёк з Дэнам да мяне не падыходзілі, відаць, пакрыўдзіліся з-за таго, што я збег з Алісай і ў чарговы раз не падаў ім кватэру, даўно трэба было зразумець, што яны карысталіся мной. Металічна-карункавая габлюшка разляталася ва ўсе бакі, калі я выточваў на станку свае нарыхтоўкі і так праходзіў мой працоўны час.
Пад канец змены я пачуў немы крык: жанчыне-тэрмісту адбіла пад прэсам усе пальцы на правай руцэ. Добра, што яшчэ так. На нашым заводзе і не такое здаралася.
Часам, я думаў аб безвыходнасці і сваёй загнаннасці, і мне хацелася плакаць.
 Калі разважаць аб гэтым паслядоўна, з самага пачатку, мусіць, усё пачалося з таго працоўнага дня. Пачалося з таго, што мне вельмі захацелася вярнуцца на прыпынак, не ведаю, ці ў пошуках Алісы, ці ў пошуках яшчэ чаго, але мне проста захацелася прыйсці і пасядзець там на лаўцы.
І я вярнуўся. Тым вечарам, у панядзелак пасля працы, я прыйшоў на прыпынак. Людзі чакалі аўтобуса, а я сядзеў і назіраў за імі. Я ўважліва прыглядаўся да жанчын, якія там знаходзіліся і спрабаваў ім усміхацца. Першыя ўсмешкі выходзілі нацягнутымі, але праз некаторы час у мяне пачало атрымлівацца і жанчыны замест таго, каб адводзіць ад мяне позірк, адказвалі ўзаемнасцю. Здаецца, тым вечарам у мяне ўзнікла манія велічы і я запэўніўся ў тым, што падабаюся любой жанчыне без выключэння.
Наступным вечар я зноў прыйшоў на прыпынак, прыйшоў туды я і ў сераду, і ў чацвер, і ў пятніцу. У суботу я вырашыў нікуды не ісці. Мне патэлефанаваў Санёк і прапанаваў схадзіць на “рэтра”, але я адмовіўся. Той суботай я напіўся ў сваёй кватэры партвейну і заснуў, як немаўля. І мой жахлівы сон кудысьці знік. Гэта было добрым знакам. Але з кожным днём мяне ўсё мацней цягнула на прыпынак. І я прыходзіў на яго. А ў адну з пятніц вечарам да мяне на лаўку падсела вельмі прыгожая дзяўчына. Зграбная і высокая брунэтка. У яе зялёных вачах, здавалася, гарэў спакушальны агонь, а прамыя пасмы доўгіх валасоў ахіналі ўсе плечы. Яна зусім не звярнула на мяне ўвагі, проста села і аб нечым задумалася. Але я адчуў яе цяпло, я адчуў пах яе прыемнага парфуму. Каля нас стаяла маладая пара і тры дзецюка. Я зацікаўлена паглядзеў на дзяўчыну і проста сказаў:
- Холадна сёння.
Яна азірнулася на мяне, але нічога не адказала, толькі здзіўлена ўзняла сваё чорнае брыво. Мяне збянтэжыла яе абыякавасць і я паглядзеў на шэрае неба, нібы намагаючыся адшукаць там патрэбныя словы. Я зразумеў, што сказаў зусім не аб тым, памянуўшы надвор’е, хаця на вуліцы сапраўды было холадна. Хутка пад’ехаў аўтобус і ўсе людзі, што стаялі на прыпынку, селі ў яго. Усе акрамя прыгожай брунэткі. Як толькі аўтобус ад’ехаў, я зноў паглядзеў на яе і яна важна прамовіла:
- Калі хочаш пазнаёміцца, спытай колькі часу.

Я вырашыў выправіць сваю памылку.
- Прабачце, а вы не падкажыце, колькі часу?
- Дзевяць сорак тры, - адказала дзяўчына і паглядзела на мяне. У яе вачах можна было заўважыць іскрынку кволай цікавасці да маёй асобы і я прысунуўся бліжэй.
- Ну і як жа завуць такую красуню? – усміхнуўшыся, запытаў я.
- Каця, - адказала дзяўчына і паказала свае белыя і роўныя зубы.
У маёй галаве адразу замітусіліся тысячы розных варыяцый разгортвання далейшых падзей. Здавалася, у тую хвіліну ўсё ў маім разуменні перавярнулася і я стаў разважаць зусім па-іншаму, як быццам у маю галаву ўклалі порцыю новых і рацыянальна думаючых мазгоў. Аднекуль нарадзілася смеласць і ўпэўненасць у сабе, як ніколі дагэтуль.
А Каця пранізліва глядзела мне ў вочы і зацікаўлена ўсміхалася. Яна была прывабней Алісы і маладзей за яе. Быў прыцемак, але я выразна бачыў яе дасканалыя абрысы твару, яе ямачкі на шчоках, колер яе цукровых вуснаў, яе, з невялікай гарбінкай нос, якая, ёй так пасавала. Я паглядзеў у яе вабныя сваёй смарагдавай зелянінаю вочы (гэта пазней я зразумеў, што яна насіла лінзы) і спытаў:
- І што ж такая прыгажуня ў такі позні час тут і зусім адна?
- Чакаю свайго кавалера, - зычна сказала яна, але мне была бачна яе іронія. Ніякага кавалера яна не чакала, яна правярала, яна проста гуляла са мной, гледзячы на маю рэакцыю. Але я не здрэйфіў, я трымаў штурвал мацней, чым яна магла сабе гэта ўяўляць.
- Штосьці, спазняецца ваш кавалер.
- А ты не такі наіўны, як здаецца з першага позірку, - сказала Каця. – Колькі табе?
- Дваццаць чатыры.
- Значыць, выйшаў на паляванне, - пляснула яна ў ладкі. – Усё зразумела, вось яно што, толькі ты месца зусім непрыдатнае знайшоў.
- Чаму? Калі я сустрэў вас, значыць гэты прыпынак для гэтага вельмі падыходзіць.
Каця зычна засмяялася.
- Няўжо ты спадзяешся, што ачмурыш мяне, га?
На прыпынак падышла бабуля і села каля нас на лаўку. Каця прысунулася бліжэй да мяне і сказала на вуха:
- Ну вось што, калі захочаш мяне яшчэ раз пабачыць, звані па гэтым нумары, - і яна працягнула мне сваю візітную картку.
Калі пад’ехаў аўтобус, Каця ўстала.
- Толькі памятай, каб не ўзнікла непрыемнасцяў, звані заўжды пасля абеду, - не азіраючыся, сказала яна і села ў аўтобус.
А я застаўся на прыпынку, застаўся сядзець да паўночы, углядаючыся ў цемень неабсяжнага поля.
Раніцай пайшоў снег. Буйны, хрумсткі і замілавана прыемны. Белыя камякі ўсыпалі ўсю нашую вуліцу, і я зачаравана глядзеў, як яны лёгка падалі на слізкі асфальт каля пад’езда, на машыны і на іншыя дамы. Я сядзеў ля акна ў зале і назіраў за гэтым зімовым хараством. Мімаволі, у галаве з’явілася Каця, відаць, я пачынаў адчуваць да яе штосьці большае, чым проста “яна мне падабаецца”. Не ведаю, раней у мяне ніколі не ўзнікала такіх пачуццяў. Дэн з Саньком шмат разоў расказвалі, як яны не маглі заснуць ноччу, пакуль не ўявяць абрысы дзяўчыны, якая ім падабалася, яе ўсмешку, яе словы. Я заставаўся чэрствым на сэрца, а тут яно пачало мякнуць. І гэта мяне бянтэжыла. Але разам з тым, я нясцерпна чакаў абеду, каб пазваніць Кацярыне. Перад гэтым да мяне на колькі хвілін зайшоў Дэн. Ён прапанаваў схадзіць на ска-канцэрт, аднак я адмовіў. Дэн заўважыў мае істотныя перамены, сказаў, што я раблюся ваўкаватым і, нібы імкнуся пазбягаць яго з Саньком. У сваю чаргу я паслаў яго куды падалей, зачыніўшы дзверы перад яго носам. Не хапала мне яшчэ заўваг недалужанага нефармала. Болей Санёк з Дэнам са мной не кантактавалі.
І вось абед. Я, хвалюючыся, набраў нумар тэлефона Каці і адразу пазнаў яе голас. Мы дамовіліся сустрэцца ў піцэрыі, назвы якой я цяпер не памятаю. Здаецца, упершыню я купіў кветкі. Гэта быў букет белых руж. Каця прыняла іх звычайна і без усялякага здзіўлення. Я зразумеў, што кветкі ёй дарылі мільён разоў. Па яе жаданні мы селі за столікам амаль у самым куце. Я заказаў піцы з сокам. Спачатку Каця паводзіла сябе даволі стрымана, як на афіцыйна-дзелавой сустрэчы: маўчала, часта азіралася і адказвала на мае пытанні толькі “так” ці “не”. На ёй была салатавая кофтачка з вялікім выразам пасярэдзіне, дзе часта спыняўся мой позірк і яна гэта заўважала. Урэшце, калі мы трохі адаптаваліся і нам прынеслі заказанае, Каця ўсміхнулася мне сваёй прыгожай усмешкай. Інтымна-кававае святло падала на яе аблічча і на доўгія валасы. Мы размаўлялі аб усялякіх дробязях. Я даведаўся, што яна працуе на фірме свайго пяцідзесяцігадовага мужа галоўным мэнэджарам. Пра яго Каця расказвала, як пра вельмі дэспатычнага і раўнівага чалавека. З захапленнем яна распавядала пра тое, у якіх краінах яна пабывала і каго з зорак сусветнага шоў-бізнеса бачыла. Я адчуваў сябе даволі мізэрным у параўнанні з ёй, але ўсё ж тое, што яна згадзілася са мной сустрэцца, ужо аб чымсьці гаварыла. Той суботні вечар скончыўся хутка: у дзесяць гадзін яна пайшла дамоў, злёгку правёўшы па маім плячы рукой і, падміргнуўшы вокам. У мяне склалася такое ўражанне, нібы мы, як старыя сябры, сустрэліся, пасядзелі разам, паразмаўлялі на дарэмныя тэмы і разыйшліся. Ці таго горш – яна развяла мяне на грошы. Але такі ход дзеянняў мяне не ўладкоўваў, я жадаў вынікаў.
У нядзелю я зноў патэлефанаваў ёй, але яна не ўзяла трубку. Я пачаў пакутаваць. Пакутаваць прыйшлося яшчэ ўвесь наступны тыдзень. І толькі ў суботу Каця сама пазваніла мне. Мы сустрэліся каля кінатэатра “Кастрычнік” і пайшлі шпацыраваць па горадзе ўздоўж праспекта. Каця расказала, што хоча купіць кацяня, а яе муж катэгарычна супраць. Яна ныла аб тым, як не любіць мыць посуд і яшчэ прасаваць і сціраць брудную бялізну, увогуле зноў вярэдзіла лухту і зусім нецікавыя дробязі жыцця. Некаторыя моманты я нават прапускаў скрозь вушы, усё выразней адчуваючы да яе неспатольную прагу. Я глядзеў на яе з-пад ілба і разумеў, што вельмі, вельмі яе жадаю. А яна ўсё безупынна балбатала. Калі ж я паспрабаваў яе пацалаваць, Каця рэзка адвярнулася ад мяне і сказала, каб болей я ніколі гэтага не рабіў. Я пакрыўдзіўся і мы развіталіся. А ноччу, калі я засмучаным клаўся спаць, Каця напісала мне смс, у якім прызналася, што вельмі хоча да мяне. Я не разумеў яе, але ўсё ж супакоіўся і заснуў.
А раніцай я не вытрымаў і патэлефанаваў ёй. Я парушыў абяцанне тэлефанаваць пасля абеду, таму ў трубцы раздаўся мужчынскі голас.
- Відаць, я не туды патрапіў, - сказаў я.
- Не, відаць, туды, ізноў новы хахаль?..

Я скінуў. І ўсё. Два тыдні я не вырашаўся ёй набраць. На трэці тыдзень, у пятніцу, калі я вяртаўся дамоў з працы, у маіх джынсах прагучаў мабільнік. Гэта была Каця, яна паведаміла, што хоча пабачыцца і лепш за ўсё ў мяне на кватэры. Я купіў каробку шакаладных цукерак і бутэльку каньяку, сустрэў яе каля мятро і прывёў да сябе.

І вось мы сядзелі на кухні, папівалі каньяк і елі цукеркі. Каця сказала, што я добра схібіў, пазваніўшы ёй той раніцай. Яе муж усчаў вэрхал і добра збіў яе, абвінавачваючы ў здрадзе. Але неверагодным чынам яна ўпэўніла яго, што хтосьці сапраўды мог памыліцца нумарам. А калі хмель даў ёй у галаву, яна прызналася, што хоча, каб я стаў яе палюбоўнікам. На маё пытанне чаму, яна адказала адразу:

- Мой муж імпатэнт і гэта мяне не ўладкоўвае, так, ён заможны і я з ім зусім не клапачуся аб жыць, але тым не менш…

Каця падзялілася са мной планам, па якім было дакладна выяўлена, як і калі мы будзем сустракацца. А я не слухаў, я жадаў яе, проста ківаючы галавой на яе прапановы.

І калі ўсё пачало набліжацца непасрэдна да сэксу, Каця і там не адразу дапускала мяне да сябе. Яна стрымлівала мяне рукой і спакушальна ўсміхалася. Але мне гэта падабалася і яшчэ больш заводзіла. Мы сядзелі на канапе і, трымаючыся за рукі, цалаваліся. Цалаваліся вельмі доўга, нібы даследавалі адзін аднаго.

А пасля я атрымаў яе. Ізноў мне ў скроні грукнула кроў, а перад вачыма пачаліся пераліўы і ўсплескі розных фарбаў. Усё было невыразным. Але я адчуваў яе, я дакладна адчуваў яе дыханне і яе цёплыя далоні на маёй спіне. Каця была казачнай, яе прыгажосць, яе абаянне збівала мяне з панталыку. Яна была дзяўчынай маёй мары, маім ідэалам, але…

Але я прачнуўся.

Блага выспаўшыся, я працёр зліплыя вочы. На маёй грудзі ляжала халодная рука Каці. Я асцярожна паклаў яе пад коўдру і ўстаў з канапы. Каця ляжала, перакуліўшыся на жывот, яе чорныя валасы рассыпаліся па ўсёй падушцы, а беленькая ножка звісала з краю канапы. Напэўна, ноч была бурлівай. Я пачухаў патыліцу і зайшоў на кухню, сеў на зэдлік, і дапіў з донца бутэлькі ўчорашні каньяк.

3

І яна таксама знікла. Я вельмі бы хацеў спадзявацца, што яе муж аб усім здагадаўся і пасадзіў пад хатні арышт. Я вельмі хацеў бы ў гэта верыць. Але яна знікла. Я адразу ж выдаліў нумар яе тэлефона і паспрабаваў забыць. У той раз гэта было зрабіць на шмат лягчэй, узнікала такое ўражанне, нібы я проста пакаштаваў і выкінуў яе, як непатрэбную цацку. Калі хочаце ведаць, я радыкальна змяніўся, агрубеў і стаў разборлівым у жыцці і людзях. Мне было напляваць амаль на ўсё, я ператварыўся, у некаторай ступені, у рэакцыйна раззлаванага нігіліста, у шэрага чалавечка, у маргінала свайго часу. Адзінае, на што мне было не ўсё адно, гэта на прыпынак. Ён прыцягваў мяне да сябе, вабіў, падаваў дагэтуль невядомы імпульс, быў маім наркотыкам. І я ішоў на яго, як на працу, як на нешта штодзённае і неабходнае ў распарадку майго жыцця.

У тую нядзелю ў маім горадзе ўсталявалася сапраўдная зіма. Цэлы дзень я праседзеў у кватэры, папіваючы салодкую гарбату і бяссэнсава гледзячы тэлевізар. Вельмі хутка павінен быў пачацца Новы год, але ніякай асабістай радасці гэтае чаканне мне не прыносіла. Хутчэй за ўсё, я разлічваў правесці яго адзін. Сяброў у мяне ўжо не было, дзяўчыны таксама, таму Новы год уяўляўся несамавітым святам, звычайным днём, у які ўсе віншуюць адзін аднаго і напіваюцца, каб на заўтра было што ўспомніць.

З панядзелку я пайшоў на працу і, неспадзёўкі, мяне наведалі думкі, што ўсё, чым я там займаўся, было мне чужым. На працы я быў для ўсіх згублены, там я гібеў. Кожная раніца цяпер пачыналася вялікім выпрабаваннем. Я прачынаўся і разумеў, што мне зноў прыйдзецца ісці ў цэх і стаяць там восем гадзін за станком. І чым часцей я задумваўся аб гэтым, тым больш у маёй галаве пачыналі нараджацца разнастайныя планы, каб пазбегнуць такой долі.

Але ўсе мае хваляванні і песімістычныя роздумы сталі драбніцай у параўнанні з тым, з чым мне давялося сутыкнуцца той раніцай. Я прыйшоў на свой бязлюдным прыпынак. Паветра было халодным і ў носе зліпаліся валасінкі. Не ведаю чаму, можа, прадчуваючы, ці проста інстыктыўна, я паглядзеў на сценку прыпынку, дзе віселі аб'явы. Усе яны былі падрапаныя і пашараваныя, але тая аб'ява вісела амаль пасярэдзіне і была налеплена адносна нядаўна. Я пачаў чытаць: "Увага! Вышук. Шукаецца Самсонава Аліса Віктараўна 1979 года нараджэння, якая пайшла з дому 13.11.07г. у дваццаць гадзін і не вярнулася. На выгляд, прыкладна: дваццаць сем-дваццаць восем гадоў, рост сто шэсцьдзесят пяць сантыметраў, валасы светлыя. Асаблівыя прыкметы: на ілбе невялікі шнар даўжынёй у сантыметр. Была апранута ў шэрае паліто. Асобам, якія бачылі яе, просьба, звяртацца ў эннае аддзяленне міліцыі". Я сарваў аб'яву, яшчэ раз уважліва перачытаў яе, а пасля скамячыў. Гэта быў шок. Здавалася, мяне цвікамі прыбілі да зямлі. Была, канечне, надзея, што гэта не тая Аліса, з якой у нас былі палавыя зносіны, таму што я не ведаў яе прозвішча, але канкрэтныя прыкметы, канкрэтная дата, калі я апошні раз бачыў яе, былі дакладнымі. І ўвесь той дзень я не мог знайсці сабе месца. А вечарам я прыйшоў на прыпынак, паглядзець, ці не наляпілі новую аб'яву.

Потым я перастаў хадзіць на працу. Днём я сядзеў у сваёй кватэры, а пад вечар выходзіў на вуліцу і ішоў на прыпынак. Часам, я наводзіў на людзей, што там знаходзіліся, дзіўныя ўражанні, прыходзячы туды і гадзінамі седзячы на лаўцы. Але мне было пляваць. Гэта і быў мой першы прамах.

Прайшоў тыдзень з таго часу, калі я кінуў працу. Я бачыў розных людзей, некаторых я сустракаў не аднойчы. Яны таксама мяне пазнавалі і, хутчэй за ўсё, лічылі бамжом, дапускаючы нават тое, што я жыў на гэтым прыпынку.

А другім і апошнім маім прамахам можна лічыць яе. Гэта здарылася ў сераду, гадзін, дзесьці, каля дзевяці. На прыпынку знаходзіліся людзі і сярод іх з'явілася яна: рудая дзяўчына, тварык якой быў усыпаны дробным рабаціннем. Яна ўсміхалася. Менавіта гэтым яна і прывабіла мяне. Яе шчырая, асляпляльная ўсмешка ўзварушыла маё нутро. Яна была сонечнай і гэтае сонца зыходзіла з яе. Дзяўчына стаяла непадалёк ад мяне, але гэтага хапіла. Адчуўшы імпульс, з-за якога, здавалася, па мне правялі электрашокам, я імгненна абудзіўся. Не ведаю чым, у сваю чаргу, я зацікавіў яе: на маіх шчоках выступіла тыднёвае шчаціннe, валасы былі ўскудлачаныя і я, здаецца, не пачысціў зубы. Але.

- Прабачце, а вы не падкажыце, колькі зараз часу?

О Божа, гэты галасок, гэты тоненька-салодкі галасок зусім нявіннай душы. Я растаў. Можаце мне паверыць, я не хацеў гэтага, не ведаю, здольныя вы будзеце паверыць, але я сапраўды гэтага не хацеў. Аднак мой імпульс, ён сцінаў мяне. І самым невыносным ва ўсім гэтым было тое, што я ўжо загадзя ведаў, чым прыблізна ўсё магло скончыцца. Я толькі паглядзеў у яе сінія вочы, паглядзеў на яе мілы тварык і выдыхнуў:
- На жаль, я не ведаю…
Можа, гэта і была слабая спроба пазбегнуць яе, адштурхнуць ад сябе, інтанацыйна намякнуць на тое, што я не жадаў з ёй кантактаваць? Але сонечная дзяўчына не заўважала гэтага, яна і не хацела гэта заўважаць, і таму нечакана запытала:
- А вы верыце ў каханне з першага позірку?
Людзі на прыпынку азірнуліся на нас. Я зніякавеў і, пачырванеўшы, адвёў вочы ў другі бок. Добра, што ўжо быў прыцемак і ніхто не заўважыў майго канфузу. Дарэчы, а што ў маім разуменні было каханнем? Вось я адчуваў, што мне падабаецца дзяўчына, калі браць глыбей, я жадаў яе, мне ўсяго толькі хацелася пераспаць з ёй, залезці ёй пад трусікі. А дзе ж эмацыянальны бок? Праўда была ў тым, што я зусім не мог закахацца, мне проста падабаліся дзяўчыны і нічога вышэй гэтага ўзроўня. Што ж тады ў мяне было да Каці? Не ведаю, я і зараз не магу ў гэтым разабрацца, але гэта было не каханне адназначна. І вось перад мной узнікла пытанне сонечнай дзяўчыны. Я не ведаў, што ёй адказаць, але адказаў, што веру. Яна таксама сказала, што верыць і дадала:
- І самае дзіўнае, што яно здарылася са мной упершыню.
Людзі на прыпынку рабілі выгляд, што не слухаюць нас, але я разумеў, што яны краем вуха ўважліва прыслухоўваюцца. Мяне гэта насцярожыла і я адразу ж захацеў спыніць размову. А сонечная дзяўчына працягвала:
- Раней я не верыла ў яго, мне заўжды здавалася, што павінен прыехаць прынц на белым каню і скрасці мяне.
Я здагадваўся ў які бок яна хіліла так шчыра і без усялякай сарамлівасці, - заміналі толькі людзі на прыпынку. Таму я прапанаваць ёй прайсціся. Яна паглядзела на мяне сваім дзіцячым позіркам.
- А як жа ваш аўтобус, вы, відаць, кудысьці едзеце?
- Я не спяшаюся.
І мы зайшлі за прыпынак, і пайшлі ўздоўж дарогі. Яе звалі Дзіна, яна вучылася на другім курсе ў Інстытуце культуры. Дзевятнаццаць гадоў – зусім дзяўчо, але і гэта ўжо не магло мяне спыніць. Мы размаўлялі аб каханні і прыйшлі да высновы, што здарылася цуда і дзве палавінкі сябе адшукалі. На самой справе адшукала мяне толькі яна, таму прыходзілася падыгрываць. Мне прыйшлося стрымана радавацца і абняць яе. А потым, узяўшыся за рукі, ісці пад зорным небам насустрач новым выпрабаванням. Усё ў маім жыцці адбывалася хутка і адразу. Над намі сыпаў снег і мы распавядалі аб сваім быцці, аб тым кім мы былі і кім з'яўляліся. Мы ішлі вельмі доўга, прыкладна, гадзіну і ўрэшце падышлі да яе дома. Дзіна вельмі не хацела са мной раставацца.
- Нічога, - сказаў я, - заўтра мы абавязкова сустрэнемся.
- Але, мне здаецца, што гэта сон, здаецца, што я зараз зайду ў кватэру і прачнуся.
Я прытуліў яе і пачаў цалаваць, пачаў гладзіць яе мяккія рудыя валасы.
- Такіх салодкіх пацалункаў у сне не бывае, - прашаптаў я.
А яна стаяла, застыгшы на маёй грудзі і замілавана дыхала. Дзіна зусім не хацела мяне адпускаць і я прапанаваў ёй пайсці да мяне. І яна нечакана згадзілася, і больш таго, пачала радавацца, нібы я прапанаваў ёй ажаніцца. Яна пазваніла сваёй маці, сказала, што пераначуе ў сяброўкі і мы пайшлі да мяне. Як толькі за намі зачыніліся дзверы маёй кватэры, мы проста накінуліся адзін на аднаго. Мы цалаваліся і скідвалі з сябе абутак, і верхнюю адзежу. Не запальваючы святла, мы кінуліся на канапу і распрануліся да гала.
- Гэта мой першы раз, - дрыготкім голасам прамовіла яна. – І я жадала, каб першым у мяне быў толькі сапраўдны мужчына, мой ідэал.
І ў нас нічога не атрымалася. Ёй было вельмі балюча і сорамна. Я прытуліў яе да сябе, сказаў, што ўсё добра і мы спакойна заснулі.
Раніцай я прачнуўся, адчуваючы, як мяне цалуюць. Дзіна кудлачыла мае валасы і цалавала ў густое шчацінне.
- Мой мужчына, толькі мой, - шаптала яна.
Мы падняліся, папілі кавы і я праводзіў яе да хаты, паабяцаўшы сустрэцца вечарам. Вось так у мяне з'явілася першая і сапраўдная дзяўчына.
Днём мне з вёскі патэлефанавала маці, (яна тэлефанавала разы два на месяц), пыталася, як у мяне ідуць справы. Пацікавілася, ці не з'явілася ў мяне жанчына, таму што па яе падліках, я даўно ўжо быў павінен абзавесціся сямействам. Я сказаў, што ў мяне ёсць дзяўчына і мы кахаем адзін аднаго. Гэта вельмі ўзрадавала маю маму. Потым яна пачала распавядаць мне пра свае вясковыя клопаты, нібы я быў яе сяброўкай і таму я амаль не слухаў. Са мной захацеў пагаварыць бацька. Ён пачаў наракаць нас з братам за тое, што мы зусім перасталі іх наведваць. Я казаў, што ўсяму вінай праца, а бацька толькі ўздыхаў.
Вечарам я сустрэўся з Дзінай. Мы пагулялі па горадзе і зноў пайшлі да мяне. У кватэры я доўга цалаваў яе, лашчыў, але ў нас усё роўна нічога не атрымлівалася. Дзіна хвалявалася і ніяк не вырашалася згубіць нявіннасць. Яна драпала маю спіну з крыкамі: "Хопіць! Спыніся!" І нам нічога не засталася, акрамя, як ляжаць на канапе і балбатаць.
- Калі кахаеш, сэкс не самае галоўнае, - казала яна, нібы суцішаючы мяне.
- Так, - уздыхаў я, гладзячы яе залатыя валасы.
Дзіна адчула ў інтанацыі майго голасу нездавальненне і паклала мне на жывот сваю галаву.
- Мілы, патрывай яшчэ крыху, я абавязкова адважуся і ў наступны раз вытрываю.
Праз колькі дзён мной зацікавіліся з працы, пыталі па тэлефоне, чаму я не выходжу. Я выдумаў, што захварэў і сказаў, што хвароба мая працягнецца яшчэ на тыдзень. Тым вечарам я не пайшоў на прыпынак і зразумеў адну ісціну: ён прыцягваў мяне толькі за тым, каб паназіраць за дзяўчынамі ці пазнаёміцца з якой-небудзь. Таму замес яго ў мяне нарадзілася жаданне схадзіць у клуб, правесці там ноч і адарвацца па поўнай. Цераз Інтэрнэт я даведаўся, што ў тую ноч у Мінску выступаў Haujob і я пайшоў на яго, нават перасекся ў калідоры з Даніэлем Майерам і пачаставаў яго сваім півам. Дзесьці, у тры гадзіны ночы, мне прыйшло смс ад Дзіны, у якім яна прызналася, што вельмі мяне кахае і не можа без мяне жыць. Прыемна ўсведамляць, што ты камусьці патрэбен, гэта даволі

класнае адчуванне. Але я дакладна ведаў да чаго магла прывесці мая гульня, таму я не адрэагаваў на яе смс ніякай узаемнасцю, бо ў рэшце рэшт усё вяло да той ночы.
Гэта адбылося ў суботу. За акном сваволіла мяцеліца, кусала шыбы і кідала ў іх папяровыя сняжынкі. Мы з Дзінай, прытуліўшыся, сядзелі на канапе і глядзелі адзін з яе ўлюбёных рамантычных фільмаў, час ад часу цалуючыся. Кіно яшчэ не скончылася, як Дзіна ўзлезла на мяне і сказала, што гатовая.
Я ненавіджу сябе за гэта. Было няшмат крыві, але я загадзя падаслаў пад яе ручнік. Адчуўшы лёгкае паколванне ў скронях, якое з кожным маім рухам узмацнялася, я загадаў Дзіне завязаць мае рукі за спінай яе калготкамі. Яна трохі здзівілася, але выканала маю просьбу. Перад мной з’явіліся ранейшыя мульцікі і я паступова пачаў правальвацца ў глыбокую яму. Але, чамусьці, Дзіну я памятаў выразней за астатніх, выразней памятаў яе абамлелы твар, яе невялікія грудзі. Яна закочвала вочы і салодка сапла, яна прыкусвала ніжнюю губу і лашчыла маю спіну. А потым Дзіна, мая сонечная дзяўчына, пачала згасаць у маім разуменні. Вочы зліпаліся, я ўвайшоў у транс і мяне, як абсекла.
А раніцай я прачнуўся.
Я ўсхапіўся і ўбачыў, што на канапе нікога не было, а рукі мае былі развязаныя. Якая радасць, колькі радасці мяне перапоўніла і адразу ж рой розных думак. Спачатку я падумаў, што мне ўсё магло прысніцца – усё і Аліса, і Каця, і Дзіна. Пасля тое, што ў нас з Дзінай атрымалася і, яна прачнуўшыся, верагодна, пайшла да хаты. Але не, якой трасцы, яна яшчэ магла заставацца ў кватэры. Выходзіць – яна мая выратавальніца. Я зычна аклікнуў яе, але замест адказу, толькі мёртвае рэха разнеслася па залі. Значыць, сышла. І я, пацягнуўшыся, скінуў ногі на падлогу і ступнямі адчуў, што натыкнуўся на штосьці мяккае і халоднае. Раптоўна адшмаргнуўшы ногі назад пад коўдру, я нерашуча паглядзеў уніз.
На падлозе ляжала Дзіна.

4

Я зачыніў багажнік Hyundai Lantra выпуску дзевяноста другога года, якая мне дасталася ад бацькі і сеў у яе ўтульны салон. Было за поўнач. Хвілін пяць я прагравал рухавік і аглядаў вакол сваю вуліцу. Здаецца, паўсюль было ціха. Урэшце, пераканаўшыся, што шлях адчынены, я выехаў з двара на шашу і скіраваў машыну ў бок прыпынку. Людзей зусім не было. Я праехаў прыпынак і звярнуў з шашы на вузкую пясчаную сцежку, якая вяла ўглыб начнога поля. Я дакладна ведаў куды ехаць. Мне толькі заставалася быць уважлівым і лічыць хмызнякі вербалозу. За трэцім хмызняком я звярнуў са сцежкі і спыніў машыну, пагасіў фары і пасядзеў моўчкі, прыслухоўваючыся да гукаў на полі. Вылезшы з машыны, я ўзяў з задняга сядзення лапату, адлічыў дзесяць крокаў у патрэбным накірунку і пачаў капаць. Праз пяць хвілін, добра ўпрэўшы, я скінуў куртку на зямлю. Праз паўгадзіны я стаяў ужо па пас у выкапанай яме. Потым я ўключыў фары і адчыніў багажнік. Там ляжаў скручаны дыван, які некалі красаваўся на маёй падлозе ў калідоры. Я лёгка ўскінуў яго на плячо і асцярожна паклаў у яму. Праз дзесяць хвілін усё было засыпана і акуратна ўтрамбавана. Справа была зроблена.
Зоркі ў тую ноч былі незвычайнымі. І гэта было самым прыгожым і вартым таго, што мне запомнілася ў той сумны і азызлы дзень. Больш нічога. Такім чынам я зноў застаўся адзін.
Па шляху назад я спыніўся ля прыпынку і пасядзеў на лаўцы. Чаму ж я стаў такой пачварай? Што магло паўплываць на гэта? Але чаму не гледзячы на ўсё, я працягваў падабацца дзяўчынам? Чаму яны бачылі ў ва мне толькі маю плоць, а душу зусім не заўважалі? Можа, не паспявалі?
Вярнуўшыся ў кватэру, я забурыўся пад коўдру і з гадзіну не мог заснуць: вобраз Дзіны, твар Алісы, усмешка Каці напаўнялі маю існасць. Я ўспамінаў іх голас, рухі, міміку і вар’яцеў.
Калі ўсё ж неверагодным чынам я змог заснуць, мне зноў прысніўся сон, у якім я душыў прадаўшчыцу на “Ждановічах”, і я прачнуўся. Выпіўшы моцнай кавы, я зайшоў у спальню, дзе раней жылі мае бацькі. Са старой скрыначкі я ўзяў пазалочаны ключ, і адчыніў невялікі бацькаў сейф. У ім ляжала шмат розных папер і старая, падрапаная папка. Я дастаў яе, сеў на падлогу, разгарнуў і пачаў перабіраць усялякія граматы і ўдзячныя аркушы, якія атрымаў яшчэ ў школе. Сярод іх я знайшоў невялікую пажоўклую выразку з газеты. На ёй буйнымі літарамі было напісана: “Забойства на рынку “Ждановічы”. Я пачаў чытаць далей: “Учора на кірмашы “Ждановічы” быў знойдзены труп жанчыны, якая была задушана ва ўласнай грузавой машыне”. Я не стаў чытаць заканчэння артыкула і скамячыў выразку. Падумаць толькі, я не кранаў яе з дзевятнаццаці гадоў, з таго часу, калі падпрацоўваў грузчыкам. Тады ўсю віну спіхнулі на вадзіцеля.
І я спаліў выразку, а попел выкінуў цераз фортачку. Але і пасля гэтага я не змог заснуць і ўвесь наступны дзень хадзіў, як лунацік.
Праз тыдзень я вырашыў, што мне ўсё ж трэба з’явіцца на працы: грошы амаль скончыліся, а жыць далей неяк было неабходна. Перад гэтым я пайшоў у сваю паліклініку, дзе медсястрой працавала мая аднакласніца. Купіў бутэльку шампанскага, каробку цукерак і даведка аб хваробе была ў маіх руках. Такім чынам я зноў стаў членам МАЗ-а. Хутка пачалася будзённая праца і ўсё вярнулася на кругі свая. Я трохі супакоіўся і пачаў жыць звычайным жыццём свайго кансерватыўнага горада.
На пэўны час я перастаў хадзіць на прыпынак, не маючы ў гэтым патрэбы. У мяне адчыніўся інстынкт самазахавання. Усё ж я хвалююся за сваю шкуру. Замест прыпынку я пачаў рэгулярна наведваць “Step” і калбасіцца там пад хіты васьмідзесятых. Дзяўчын я цураўся, у большай ступені налягаючы на спіртное. У той год выйшла кружэлка гурта Zombie Girl (4) і дома я з захапленнем слухаў іх узрушаючыя трэкі. Гэта быў мой пераходны перыяд і я гэта разумеў.
А ў суботу, пасля “рэтра”, я сядзеў дома і глядзеў тэлевізар, бяссэнсава пераключаючы пультам з аднаго тэлеканала на другі. У такім выпадку можна было чуць выраваныя рэплікі, атрымлівалася поўная лухта, напрыклад: “Учора на пасяджэнні парламента… я кахаю цябе… сціхні… засунь сабе гэта… як прыемна ад вас пачуць… глупства… матч паміж зборнымі… заўтра ў Мінску будзе -5°С”. Я еў чыпсы і пацягваў піўка. Але, пераключаючы каналы, я пачуў наступнае: “Сёння ўказам прэзідэнта… як міла… купляйце лепшае ў нас… чарада жорсткіх забойстваў у Мінску…” Мяне зацікавіла апошняе і я пераключыў зваротна. Па Першым Нацыянальным тэлеканале ішла крымінальная перадача “Зона Х”, якую вяла даволі прывабная жанчына. Яна стаяла ў цёмнай студыі і казала, што ў

Мінску, якраз у нашым раёне, на ўскраіне горада пад час забудовы новага мікрараёна, было знойдзена тры трупы маладых дзяўчын, якія былі задушаны і закапаны на полі. На тым самым полі, непадалёк ад майго прыпынку. Яна паведаміла, што цела адной з дзяўчын не паспела раскласціся. У далейшым жа будзе праводзіцца медэкспертыза па выяўленні асоб ахвяр. Гэта быў шок. Я імгненна выключыў тэлевізар і накрыў галаву коўдрай. Мяне трэсла. Я ўспомніў Алісу, я дакладна памятаў той дзень пасля ночы праведзенай з ёй: яна цэлы вечар праляжала на маёй канапе, не падаючы прыкмет жыцця, а я сядзеў каля акна і глядзеў на вуліцу ў чаканні, пакуль ва ўсіх кватэрах згаснуць агні. Яна магла наглытацца Бог ведае якіх таблетак, можа, яна была наркаманкай, але сінякі на яе шыі... Я ўспомніў Кацю: яна таксама ляжала на маёй канапе праз колькі тыдняў пасля Алісы, ляжала на жываце і не дыхала, і на яе шыі былі ўсё тыя ж сінякі, а я сядзеў каля акна і пільнаваў. У той раз я зразумеў, што гэта не выпадковасць і што са мной робіцца штосьці не добрае. Я вырашыў пайсці да псіхіятра, але дзве душы на маім ліку забаранялі зрабіць гэта. Тады я зарокся лячыцца самастойна, даследуючы сябе, каб выявіць прычыну і следства маіх дзеянняў. Потым з'явілася Дзіна. Колькі дзён назад я падняў яе з падлогі і, паклаўшы на канапу, прыкрыў прасцінай жахлівы твар. Я амаль наблізіўся да высновы, але не хапала яшчэ аднаго кроку.

У тую ноч я не змог заснуць.

Падняўшыся з канапы, я адчыніў нашую шафу і вываліў на падлогу кучу жаночага адзення. Паклаў усё ў спартыўную сумку, укінуўшы туды тры пары жаночага абутку. Потым я апрануўся і выйшаў на вуліцу. Было каля дзесяці гадзін вечару. Я сеў у таксі і заехаў у іншы канец горада. Вярнуўшыся ў кватэру без сумкі, я выпіў валяр'янкі і толькі пасля змог заснуць.

А раніцай я пайшоў на працу.

А пасля працы мяне зноў пацягнула на прыпынак. На двары ляжалі гурбы пушыстага снегу і я паплёўся па заснежанай сцежцы. Быў прыцемак і я сядзеў на лаўцы. Да прыпынку пад'ехаў аўтобус і з яго выйшлі людзі. Яна таксама была сярод іх. Гады дваццаць два, не больш. Доўгія каштанавыя валасы, сярэдняга росту, тварык, як з карцінаў Рэмбранта і гэтага ўжо было дастаткова. Яна заўважыла мяне амаль адразу, цяпер я дакладна ведаю, - мяне цяжка не заўважыць. Мы сустрэліся позіркамі і я зразумеў, што яна адзінокая. Я навучыўся чытаць па вачах, я магу паглядзець на дзяўчыну і сказаць, ёсць у яе хтосьці ці не. Калі яна ў чарговы раз паглядзела на мяне, я ёй усміхнуўся. Яна таксама адказала мне ўсмешкай і я падышоў бліжэй.

Іншага выйсця ў мяне не было, я зайшоў вельмі далёка, разлічваючы на свае эксперыменты. Хто ведае, можа, яна ўсё ж выратуе мяне ад маёй, так бы мовіць, хваробы. Скажыце: я псіх, мяне абавязкова трэба схапіць і выдаліць з грамадства. Бадай, вашая праўда, але лепш паслухайце, што сказала яна.

- Мяне Ксюша завуць.

- Вельмі прыемна, - адказаў я.

Ксюша паглядзела ў бяздонне маіх чорных вачэй, з імкненнем знайсці там штосьці блізкае. Я ёй спадабаўся. На жаль для мяне яна ўяўляла ўсяго толькі паддоследнага труса. Яна паверыла маёй шчыра-падманлівай усмешцы, нават не падазраючы, што за ёй хавалася.

А заўтра мы сустрэнемся, а праз тыдзень яна прыйдзе да мяне на гарбату. Спадзяюся, Ксенія будзе маёй апошняй ахвярай.

Я вельмі хачу ў гэта верыць.

2007 г.

Каментарыі:

1

Haujob – нямецкі электра-індастрыял праект.

2

Digital hardcore – жанр электроннай музыкі.

3

Ambassador 21 – беларускі digital hardcore гурт.

4

Zombie Girl – канадскі тэхна праект.

**Гатэль-прывід**

Гонкія дрэвы абапал шашы – бадай усё, што яна на падсвядомым узроўні магла ўспрымаць, як несамавітую рэчаіснасць чэзлага краявіду краіны, забытай, дзесьці, пасярэдзіне Еўропы. У астатнім яе розум знаходзіўся пад уплывам напружанага одуму. Па акне старога, заезджанага "Лаз-а", у якім яна ехала ўжо з паўгадзіну, распаўзаліся буйныя кроплі вясновага дажджу. Яна з абыякавасцю праводзіла пальцам услед за пакручастымі разводамі, якія пакідалі пасля сябе неўтаймоўныя слёзы з нябёсаў і, часам, сумна ўсміхалася, проста сама сабе. Хацелася спаць, тым больш пад аднастайнае буркатанне абрыдлівага матора, але яе сэрца ўсё яшчэ свідравалі не загоеныя параны мінулага тыдня і, відаць, толькі ўсведамленне прысутнасці гэтых паран, дазваляла дзяўчыне стрымліваць дрымоту, якая на яе нарынула.

Яе суседам аказаўся досыць непрыемны тып, ад якога цягнула танным тытунем і які, да таго ж, спрабаваў навязаць размову. Вядома, яго можна было зразумець – дзяўчына была па-сапраўднаму прывабнай. Але хай ідзе да чорта, вырашыла яна, яе зусім не

цікавіла тое, што ён змог бы ёй расказаць. Нягеглы рускі шансон, які вадзіцель аўтобуса ўключыў яшчэ на пачатку шляху, насычаў кабіну прымітыўнымі мелодыямі, уласцівымі гэтаму жанру. Прысутнічала такое ўражанне, нібы рок-н-рол загінуў у недалёкім мінулым разам са ўсёй спадчынай Элвіса Прэслі, забітай у няроўнай бойцы блатнымі акордамі і, у прыватнасці, асабіста Міхасём Кругам.

"Чаму гэты свет такі агідны?" – роспачна спытала ў самой сябе дзяўчына са шчырым усведамленнем таго, што жыццё – гэта смецце, бессэнсоўная шарада азызлых дзён, якія зусім нічога ня вартыя. Яе асабліва не турбавалі тыя развагі, што ёсць месца, дзе павінна быць лепей, дзе свеціць яскравае сонца, мабыць, існуюць іншыя людзі і што там, магчыма, распасціраецца не такі сумны краявід. Усё адно – там тое ж самае.

Дождж, тым часам, узмацняўся, нахабна плюючы ліўневай слінай з шэрай пашчы раз'юшанага неба, размываючы перад дзяўчынай на акне аўтобуса і без таго нецікавае наваколле. Наперадзе пачалі калупацца ў цэлафанавым пакеце і неўзабаве яна адчула пах вэнджанай кілбасы. Зрэшты, і ёй бы таксама не замінала падсілкавацца, але ў дзіравай кішэні акрамя змятага пачка цыгарэт нічога не было. Яна паспрабавала перавесці думкі. У гэты момант неба адгыркнулася маланкай і бабулі, што яшчэ з вакзала ўселіся на апошніх сядзеннях, жагнаючыся, пачалі шаптаць неразборлівыя малітвы.

"Дурніцы, хіба яны спадзяюцца, што Бог ім дапаможа? Лухта, калі хтосьці над намі і існуе, дык, хутчэй за ўсё, смяецца з гэтых старых кошыкаў, якіх пужаюць самыя вытлумачальныя з'явы прыроды", - злавесна адзначыла яна.

Хаця, па вялікім рахунку, ёй было пляваць, існаваў над імі вышэйшы розум ці не, у яе і сваіх клопатаў хапала.

"Усё адно", - безуважна паўтарала пра сябе дзяўчына.

Неспадзеўкі сусед, што сядзеў побач, разгарнуў таўставатую кнігу і, цярэбячы ў руках жоўклымі старонкамі, павольна пачаў іх перагортваць. Ёй авалодаў сапраўдны спакой, можна сказаць, упершыню за такі доўгі тыдзень. З дзяцінства яна любіла ні з чым не параўнальны шолах кнігі. Калі бабуля ці маці чыталі ёй перад сном казкі, яна затоена чакала, пакуль у іх пальцах захрумстаюць чарговыя старонкі. Тады яе скроні паколвалі прыемныя дрыжыкі і яна спакваля засынала. І вось цяпер, калі зусім невядомы і непрыемны ёй чалавек пачаў па-свойму перагортваць кнігу, яна растала.

Аднак надвор'е не на жарт псавалася. Вадзіцель нарэшце выключыў рускі шансон і па радыё паведамілі аб штармавым папярэджанні. У кабіне "Лаз-а", з розных яе бакоў, адразу пачаліся перашэптванні. Дзяўчына на гэта не зважала. Праўду кажучы, плявала яна на ўсіх прысутных пасажыраў і на іх хваляванні, пляваць ёй было і на хваравітае надвор'е. Яе вочы мацней зліпаліся пад націскам стомы, але яна да апошняга змагалася з няўхільнай дрымотай. Ёй зусім не хацелася заснуць у гэтай сядушцы, сярод гэтых людзей, каля незнаёмага мужчыны. Хто ведае, можа ён сэксуальны маньяк і калі яна засне, яго паганыя рукі пачнуць яе мацаць. У наш час нікому нельга давяраць.

"Свет – суцэльная прорва, гэта неспазнанае бяздонне, куды трапляюць людзі, як мухі ў павуцінне. Мы ахвяры, ахвяры чагосьці таямнічага", - роем ляцелі яе песімістычныя думкі.

Яна да болю прыкусіла пульхную губку і мімаволі ўспомніла, як аднойчы ў дзяцінстве, гуляючы на вуліцы, параніла сабе каленку і, шукаючы суцяшэння, расплакаўшыся, прыбегла да маці. Тая, канечне, пачала супакойваць дачушку, адначасова выціраючы ёй слёзы, а потым перабінтавала разадраную каленку. Затым маці злёгку паўшчувала яе і папярэдзіла, каб у наступны раз яна была паважлівей і дадала, што, магчыма, Божанька адплаціў ёй за благую правіну. Яе маці, як і ўсе дарослыя верыла ў Бога. Не выключна, што з таго часу ў неразумнай яшчэ галоўцы пачынала нараджацца гэта перасцярога да таго, што магло знаходзіцца па-над усім. Яна ўспомніла сваю рэакцыю на матчыны словы – тады ёй захацелася плакаць яшчэ мацней і ўжо не ад болю, а ад крыўды. Што магло зрабіць нязграбнае дзіця?

"І сапраўды, штосьці, зусім бессардэчнае існуе над гэтай праклятай зямлёй, маючы поўную ўладу, (калі гэтаму верыць), пакрыўдзіць няцямлівае стварэнне, замест таго, каб пакараць болем сапраўды дрэннага чалавека".

Парывы моцнага ветру нябачнымі штуршкамі ўразаліся ў корпус аўтобуса і ні то ад іх, ні то ад слізкай шашы, "Лаз" злёгку пагойдвала. За акном пад напругай дажджавой завеі ўжо нічога нельга было разглядзець і, здавалася, што вось-вось і яно трэсне. Але "Лаз", змагаючыся з непагаддзю, імчаў праз гэты імпэтны шквал наперад.

Яе сусед, звярнуўшы ўвагу на рэзкае змяненне за акном, схаваў кнігу ў сумку. Дзяўчына інтуітыўна адчула яго хваляванне.

"Усе людзі чагосьці асцерагаюцца, штосьці трымае іх у гэтым свеце", - правяла яна паралель паміж сабой і астатнімі, адчуваючы сваю вычварную асаблівасць, - у адрозненні ад іншых, яе нічога не трымала на гэтай зямлі.

Змрочнае неба пачалі праразаць сухія грымоты і кожную хвіліну ў яго вышыні з'яўлялася перакошаная ўхмылка маланакі. Маланка адразу пачала інтэрпрэтавацца ў флегматычным настроі дзяўчыны са смерцю.

"У яе павінна быць менавіта такая ўхмылка", - падумала яна.

Вадзіцель, не зважаючы на слізкі асфальт, узмацніў хуткасць. Яму больш за ўсіх карцела хутчэй прыехаць да пункту прызначэння і, урэшце, добра выспацца.

А дзяўчына пачала ледзь чутна шаптаць заклён, каб навальніца ўзмацнялася, каб аўтобус яшчэ болей пачало штурхаць, па-вядзьмарску падбухторваючы моцы непрадказальнай прыроды. Ёй хацелася растварыцца ў халодным дажджы, стаць яго часткай. Усё можна было б аддаць за гэта, нават душу, калі яна насамрэч існавала.

Святло ў кабіне аўтобуса нечакана загасла. Адусюль пачуліся жаночыя "войканні".

Яскравая маланка асвяціла вадзіцелю рэзкі паварот на лева.

Хуткасць... Дождж... Неабачлівасць...

Усё спалучылася разам.

Рыта нерухома ляжала ў напоўненай ванне. З абедзвюх яе запясцяў тоненькім струменьчыкам працякала кроў, афарбоўваючы ваду спярша ружовым, а потым барвовым колерам. Скрываўленая брытва на куце ванны, якой Рыта, звычайна, галіла свае зграбныя ножкі, колькі хвілін назад лёгкімі рухамі рукі прайшлася па яе далікатнай скуры. Позірк спыніўся на пабеленай столі і ў гэтым

позірку застыгла штосьці недамоўленае. Святло ў яе вачах паступова згасала, і яна ўсё болей адчувала сябе нібы па-за целам. Рукі і ногі адначасова перасталі яе слухацца. Ёй зрабілася так лёгка, так утульна; яна парыла ў паветры як анёл, болей ні ў чым не знаходзячы патрэбы. Аднак усё гэта абарваў моцны штуршок і ў ванну, выбіўшы дзверы, увайшлі людзі. Рыта адразу вярнулася ў межы свайго цела і замест пабеленай столі перад ёй з'явіліся аблічча яе таты. Бацька выцягнуў Рыту са скрываўленай ванны, хутка закруціў у мяккі ручнік і вынес у пакой. Толькі на яго руках Рыта паступова пачала адчуваюць вагу ўласнага цела.

Урач сказаў, што суіцыд адбыўся з-за моцнага стрэсу, які яна перанесла на глебе востра-эмацыянальнага канфлікту. Ён сыпаў медыцынскімі тэрмінамі, якія былі нікому незразумелымі, але бацькі слухалі ўрача ўважліва, робячы выгляд, што разумеюць і кожнае імгненне пераводзілі сутаргавыя позіркі з яго сур'ёзнага твару на сваю бедную дачушку, якая схавалася ад усіх пад коўдрай. Урач упэўніваў бацькоў, каб яны не хваляваліся, дадаючы, што ў юнацтве ўсялякае здараецца і іх дзіця, на жаль, гэтаму не выключэнне, таму не трэба яе злаваць і выводзіць, прынамсі, колькі тыдняў. Ён пажадаў бацькам мацавацца і сышоў. З падачы маці да Рыты стаў прыходзіць знаёмы псіхіятр, які спрабаваў высветліць прычыну непрыемнага інцыдэнту метадам псіхааналізу. Аднак Фрэйд устарэў. Рыта яшчэ болей замкнулася ў сабе і нават не звяртала на псіхіятра ўвагі, нібы ён быў яе кароткатэрміновым трызненнем. Яна насцярожана маўчала, блукаючы ў глыбінях свайго розуму. Маці, бачачы такое, залівалася гаротнымі слязьмі за спінай сутулага бацькі. Псіхіятр працягваў прыходзіць да Рыты яшчэ цэлы тыдзень, але яму, як ён не намагаўся, так і не атрымалася высветліць першапачатковай прычыны, за выключэннем відавочнага – Рыта хацела памерці. І ў гэтым псіхіятр упэўніўся толькі на апошнім сеансе, калі Рыта вырашыла, магчыма, каб ад яе адчапіліся, напісаць на паперцы наступны сказ: "Я не хачу жыць!" Псіхіятр, у сваю чаргу, паспрабаваў зачапіцца за гэты невялікі аргумент і ў далейшым, пакрысе адштурхоўвацца ад яго. Але далей рабілася толькі горш: Рыта пачынала крычаць не сваім голасам, выдаючы з крохкага горла жудасныя гукі і псіхіятр быў вымушаны спыніць свае доследы.

У суботу Рыта нічога не ела, цэлы дзень праляжаўшы на канапе, уткнуўшыся тварам у падушку. І ніхто не мог зразумець, што ж магло здарыцца з некалі вясёлай і жыццярадаснай дзяўчынай.

Ніхто акрамя яе. Рыта дакладна ведала, што прычына хавалася ў той няшчаснай пятніцы, калі Славік, яе хлопец, прапанаваў ёй правесці рамантычную ноч у яго на кватэры. Ён сказаў, што яго бацькі з’язджаюць на лецішча і яны застануцца адны. Яна даверылася яму. Відаць, з-за таго, што па-вушы была закахана ў гэтага спакушальнага шатэна, высокага хлопца з прыгожымі цёмна-сінімі вачыма. Спачатку ўсё ішло цудоўна: яны пілі шампанскае і цалаваліся на балконе пад яскравымі зоркамі і нават на шчасце скінулі з шостага паверху крыштальныя келіхі. А потым неспадзеўкі да Славіка зайшлі сябры. Яны былі п'янымі, але самым дзіўным было тое, што Славік ніякім чынам не спрабаваў вытурыць іх прэч. У Рыты пачало складацца ўражанне, быццам яны зусім яму не заміналі. А сябры былі, як назойлівыя мухі, яны шныпарылі па ўсіх пакоях, гучна мацюкаліся, дайшло нават да таго, што адзін з іх, лысы і паскудны, якога ўсе называлі Лімон, пачаў нахабна дамагацца да Рыты. Але Славік нібы не заўважаў гэтага. Асушыўшы бутэльку гарэлкі на кухні, вынаходлівыя сябры прапанавалі закаханай пары міксоў, эфект ад якіх абяцалі даволі файны. Толькі Рыта прыйшла да Славіка не за тым, каб напаліцца гэтай дрэні. Яшчэ трохі пасядзеўшы, няўрымслівыя сябры выйшлі з кватэры. Потым закаханыя аддаліся прыемным інтымным гульням, Славік быў вельмі далікатным і чулым з ёй. Рыта шмат піла шампанскага, а потым заснула і правалілася ў нябыт.

“Лаз” спыніўся, і дзяўчына расплюшчыла вочы. Непрыемны сусед і наогул усе пасажыры, што знаходзіліся ў салоне аўтобуса, кудысьці зніклі. Яна ўзнялася са свайго месца і асцярожна прайшла наперад да вадзіцеля. Аднак яго таксама не аказалася на месцы.

“Дзіўна”, - падумала яна.

У гэты момант зусім нечакана з жудасным скрыпам расчыніліся дзверцы аўтобуса і з двара ў кабіну, крадучыся да ног дзяўчыны, пачаў запаўзаць густы туман. Яна зрабіла колькі крокаў па прыступках і саскочыла на зямлю. Мясцовасць, у якой спыніўся аўтобус з-за непрагляднага туману было не распазнаць, хоць вока выкалі. Але, тым не менш, цікаўнасць падштурхоўвала яе рухацца наперад. Туман лізаў твар дзяўчыны, яшчэ злёгку заспаны, лізаў плечы і ногі, і, нібы ўзяўшы пад руку, вёў у патрэбным накірунку. Яна паспрабавала прабегчы, але як і ў сне, на яе абрынуўся нябачны цяжар. Думкі аб тым, дзе яна знаходзіцца, пачалі вярэдзіць затлумлены розум дзяўчыны. Чамусьці, ёй узгадаўся сумны мульцік "Вожык у тумане". Сентыментальна ўсміхнуўшыся, яна ўспомніла прыемны эпізод з свайго дзяцінства. У трынаццаці год бацькі завязлі яе на цэлае лета ў вёску. Там з імі па суседству жыў вясковы хлопчык Ахрэм. Яны заўжды гулялі разам і ўсе казалі, што іх вадой не разальеш, аднагодкі дражнілі “жаніхом і нявестай”, а старыя бабы на прызбе спадзяваліся, што пасталеўшы, яны абавязкова ажэняцца. Аднак гэтаму не суджана было спраўдзіцца: хлопчык пазней разбіўся на матацыкле, а яна… Аднойчы прыязная парачка заскочыла на суседскую адрыну. На адрыне вялікімі копамі ляжала духмянае сена. Яны захоплена скакалі і качаліся па ім. Там упершыню яна пацалавалася. А потым пайшоў дождж і яны, ахінуўшыся сенам, прытуліліся адзін да аднаго і затоена маўчалі, слухаючы цішыню. Дождж церушыў па руберойдавым даху адрыны і ім было так утульна разам, што здавалася ўсё на свеце на некаторы час спынілася толькі дзеля іх. Калі дождж аціх, яны выйшлі на вуліцу. Наваколле ахутаў туман, ад якога пахла мятай і парэчкай. Яны ўзяліся за рукі і блукалі ў ім да самага вечару. Туман заўжды навяваў ёй прыемныя ўспаміны. Гэты ж туман быў зусім іншы, здавалася нават, што ён штучны. Дзяўчына ішла ў нікуды ўжо колькі хвілін, а непраглядны туман ніяк ні чэзнуў.

“Што за чартаўня, дзе я знаходжуся? Не лепш было б застацца ў аўтобусе?” – падумала яна.

У тумане, між тым, пахаладнела, абрыдлівая вільгаць прасочвалася скрозь вопратку, аблізваючы гідкім языком пяшчотную скуру дзяўчыны. Але слізгаючы няўлоўным ценем праз гэты суцэльны туман, дзяўчына прыкмеціла далёка наперадзе невялікі бляклы агеньчык чырвонага колеру. Набліжаючыся да кропкі, яна пачала распазнаваць абрысы цаглянага двухпавярховага будынка з брылём, на якім высвятляліся чырвоныя літары слова “Гатэль”. Яна падышла бліжэй. Невялікую тэрасу вакол будынка ўпрыгожвалі круглыя бетонныя клумбы, у якіх, зрэшты, акрамя чарназёму нічога не наглядалася. Дзяўчына ўзышла па трох абабітых прыступках і апынулася ля дубовых дзвярэй гатэля. Злёгку крануўшы іх пальцамі, яна патрапіла ўнутр.

Гатэль, што звонку, што з сярэдзіны быў даволі несамавітым. У невялікім фае гарэў абажур, асвятляючы старыя, жоўклыя ад часу шпалеры, брудную падлогу і, як ёй здалося, абкуродымленую столь; пасярэдзіне фае стаяў абдзёрты стол, а за ім вісела паліца з ячэйкамі для ключоў, якія аднак былі пустымі, непадалёк ад стала пачыналася лесвіца, што вяла на другі паверх. Дзяўчына прайшла наперад да стала.

- Я чакаў вас, - прагучаў за яе спінай гугнявы галасок і яна рэзка азірнулася.

Перад дзяўчынай з’явіўся шчуплы дзядуля невялікага росту з пляскатым тварам, які нагадваў смаржок. У яго шэрых вачах мітусілася штосьці вар’яцкае. Дзядуля хітра ўхмыльнуўся і павольна прайшоў да стала, шорхаючы па падлозе нязграбнымі нагамі. На яго локцях дзяўчына прыкмеціла нарукаўнікі. Увогуле ён нагадваў старамоднага банкіра, якія ў часы імперыялізму сядзелі за драўлянымі рахункамі. Дзядуля абапёрся крохкімі пальцамі аб паверхню стала і ўнурыўся на разгубленую дзяўчыну.

- Ваш нумар дзевятнаццаць, - вытрымаўшы паўзу, сказаў ён і, дастаўшы з шуфлядкі ключ, працягнуў яго дзяўчыне.

Нічога не разумеючы, яна ўзяла іржавы ключ і моцна сціснула яго ў сваёй далоні.

“Што тут адбываецца? Калі я паспела заказаць сабе нумар. Ці гэты пляшывы хмыр умее чытаць мае думкі, ці ўсё гэта кімсьці добра спланавана. Толькі навошта? І наогул, што гэта за месца?”

Дзядок, не зводзячы з яе вачэй, спытаў:

- Можа яшчэ што пажадаеце?

Яе ўжо пачынаў раздражняць гэты нягегла-гугнявы галасок.

- У вас, выпадкова, не знойдзецца шклянкі вады, у горле надта перасохла?

Твар дзядка напоўніла ліхвярская ўхмылка і ён, нібы чакаючы такога запыту, дастаў з-пад стала паднос з бруднымі шклянкамі.

- Памыйце сабе адну, рукамыйніца знаходзіцца як раз за вамі.

Дзяўчына азірнулася і ўбачыла каля лесвіцы рукамыйніцу. Узяўшы шклянку, яна добра вымыла яе ў халоднай вадзе (гарачай не аказалася) ад аселага пылу і вярнулася зваротна. Замест падноса на стале ўжо стаяла вялікая конаўка вады. Дзяўчына ў поўным непаразуменні аддала вымытую шклянку дзіўнаму дзядку і нагбом выпіла ваду.

- Ваш пакой на другім паверсе, апошні з правага боку.

Яна зірнула на лесвіцу, адчуваючы як яе пачуцці прымушалі, падштурхоўвалі падняцца па гэтых драўляных прыступках; а ў цэлым яна змарылася, не замінала б крыху адпачыць.

Асцярожна ўзняўшыся па рыпучай лесвіцы, позірку дзяўчыны адчыніўся доўгі калідор. Даўно ўжо непрыдатныя люмінесцэнтныя лямпы перыядычна мігацелі, яны то паглыналі калідор у змрок, то зноў вымалёўвалі цьмяным святлом яго дапатопныя абрысы. Дзяўчына пайшла наперад. Падлога пад яе нагамі была заслана лінолеумам у чорна-белыя квадраты і нагадвала шахматную дошку. Барвовыя дзверы ўсцяж калідора здаваліся дубовымі дамавінамі, якія паставілі ў вертыкальнае становішча, а з глыбіні пакояў чуліся прыглушаныя гукі. Гукі былі рознымі: шум радыё, хтосьці ляпаў гумавым мячыкам па падлозе, смех, стрэлы, але хутчэй за ўсё з тэлевізара, скрып ложка, у адным з пакояў чуўся гітарны перабор. Урэшце яна падышла да дзвярэй з нумарам дзевятнаццаць і, уставіўшы ключ у замочную шчыліну, лёгка іх адчыніла.

У пакоі было змрочна і яна, намацаўшы на сцяне ўключальнік, запаліла святло. Пакой аказаўся зусім невялікім. Пасярэдзіне стаяў нізкі ложак, а каля яго крывая тумбачка. Акно ў пакоі забілі дошкамі, а ў паветры адчуваўся застаялы прысмак вільгаці. Усё гэта нагадвала наркаманскі прытон, але яна не грэбавала і, зачыніўшы за сабой дзверы, стомлена кінулася на цвёрды і халодны ложак.

“Як добра, яшчэ б хто-небудзь зрабіў масаж і тады б можна было адсыпацца цэлую вечнасць”, - упершыню за гэты тыдзень на яе твары з’явілася ўсмешка.

Яна заплюшчыла вочы і, не скідаючы з сябе кеды, адразу заснула пад сухое храбусценне шашка, што тачыў адну з чатырох сцен.

Рыту згвалтавалі. Тыя вылюдкі-сябры Славіка. Ён незаўважна падсыпаў ёй у шампанскае моцнадзейнага снатворнага і калі яна заснула, адчыніў гэтым падонкам дзверы, (аказалася, што яны ўвесь час чакалі каля пад’езда), якія ўсю ноч пацяшаліся над ёй, а Славік усё здымаў на камеру. Калі Рыта прачнулася, яна адчула ныючы боль паміж ног і заўважыла на сцёгнах гематомы. Яна спытала ў Славіка аб гэтым, таму што нічога не памятала. Ён спярша маўчаў, пачаставаў яе сняданкам, а потым з маніякальнай абыякавасцю паказаў на кампутары ўсю распусту, якую над ёй учынілі. Рыта не магла паверыць сваім вачам, сэрца сціснула такім болем, што ў яе імгненна падкасіліся ногі і яна асела на падлогу, выліўшыся ў сутаргавым рыданні. Яе любы, яе мілы хлопчык аказаўся такім бязлітасным вылюдкам. Але яна не накінулася на яго з кулакамі, яна нават не аблаяла яго, - у яе быў звычайны шок. Славік жа зусім іншым голасам, якога Рыта раней ніколі не чула, папярэдзіў, каб яна трымала язык за зубамі, таму што ў горшым выпадку ён запампуе гэтае відэа ў Інтэрнэт. Яе ўразілі яго ўпэўненыя словы: “Ты не дакажаш, што цябе згвалцілі, ты сама нам аддалася, не памятаеш, а, канечне, ты ж была пад градусам, і не саромеючыся, рассунула ногі”. Яшчэ Славік прызнаўся, што яна не першая ахвяра і што ўсе папярэднія маўчалі. Для Рыты ўсё адбывалася, як у жахлівым сне, калі хацелася хутчэй прачнуцца. Яна яшчэ доўга не магла стрымаць горкія слёзы. Яе ахапіла роспач. А Славік спрабаваў суцешыць Рыту, прапаноўваючы ёй, калі яна сама таго пажадае, яшчэ адну відэа-сесію нябачнай распусты, хто ведае, можа ёй спадабаецца і яна ўвойдзе ў рызыку, а потым на гэтым можна будзе зарабіць добрыя грошы. Але замест адказу, Рыта знайшла ў сабе сілы ўзняцца на ногі і, ледзь трымаючыся, прайсці да дзвярэй, хуценька апрануцца і знікнуць назаўжды з яго паганых вачэй. А потым яна вырашыла скончыць жыццё самагубствам. Да чорта ўсё і ўсіх. Калі гэты свет так жорстка з ёй абышоўся, ну навошта тады наогул жыць? Аднак Рыту выратавалі і яна замкнулася сама ў сабе, пакляўшыся болей ніколі і ні з кім не размаўляць.

“Я – смецце, я – непатрэбная нікому істота, я нават не патрэбна смерці, а гэта самае горшае выпрабаванне і пакута, калі так хочаш памерці”, – думала яна.

У канцы тыдня Рыта збегла з дому, збегла з свайго гораду, магчыма, каб пачаць новае жыццё, пачаць усё з белага аркуша. На гэтым яе след абарваўся.

Яна прачнулася сама па сабе, проста расплюшчыла вочы і села на край ложка. У пакоі заўважна пахаладзела і дзяўчына, абхапіўшы свае плечы аберуч, пачала расціраць іх спруцянелымі пальцамі. Спярша дзяўчыне здалося, што гэты гатэль ёй прысніўся, але ўбачыўшы чатыры абадраныя сцяны, яна вярнула сябе ў рэальнасць. Здавалася, увесь свет створаны з такіх несамавітых гатэляў.

"І што загадаеце рабіць?" – прамільгнула у яе галаве думка.

Нечакана ў дзверы пагрукалі і дзяўчына, каб ніхто звонку не пачуў яе прысутнасці ў пакоі, асцярожна на дыбачках падышла да дзвярэй і паглядзела ў вочка. У калідоры стаяў падлетак. Яго бяскрыўднасць вымусіла адчыніць яму, хаця дзяўчына адчувала, што рабіць гэтага зусім не хацела. Рука сама лягла на ручку. Хлопчык гадоў чатырнаццаці ў белай кашулі з чорным гальштукам і ў яскрава-ружовых шортах аказаўся парцье. Ён увішна праслізнуў у пакой і пачаў невыразна балбатаць аб тым, што невядомы спадар з шэсцьдзесят першага пакоя не адчыніць дзверы, пакуль не пачуе яе голасу. Хлопчык сказаў, што спадар за дзвярамі вельмі добра яе ведае. Раней бы яна вытурыла наіўнага смаркача прэч, якая ёй розніца, што ён там патрабуе, хай хоць да скону дзён там сядзіць, але ў той момант яна вырашыла па-іншаму. Хіба з-за таго, што яе ахапіла незвычайная цікаўнасць, а гэтыя сцены паспелі надакучыць. Яна згадзілася.

Парцье ўзяў яе за руку і яны пайшлі па мігатлівым калідоры. Да яе ног аднекуль спераду падкаціўся гумавы мячык і яна схапіла яго рукой. Хутка да іх падбегла дзяўчынка гадоў сямі ў салатавым сарафане і з непрыязнасцю выхапіла мячык з яе рук. Дзіўна, але гэта дзяўчынка кагосьці ёй нагадала. Хлопчык-парцье пацягнуў дзяўчыну за руку і яны пайшлі далей. Ён падобна дзядку з фае шорхаў па падлозе рэперскімі красоўкамі і ўвесь час насвістваў сабе пад нос. Урэшце яны падышлі да дзвярэй.

- Скажы што-небудзь, - прашаптаў ёй парцье.

- Што-небудзь...

Дзверы прыадчыніліся і з пакоя на калідор прасачылася цытрынавая палоска святла.

- Цяпер зайдзі ўнутр, - загадаў хлопчык.

І яна падпарадкоўваючыся, забыўшыся на ўсе ранейшыя перасцярогі, зайшла ў пакой. Парцье адразу зачыніў за ёй дзверы.

У пакоі на табурэце спінай да яе сядзеў пажылы мужчына, каля яго на падлозе стаяла радыё, з якога даносілася ціхае шыпенне. Яна падсунула левую нагу пад сябе і, абапёршыся ёй аб сцяну, зацікаўлена паглядзела на незнаёмца. Імгненне нічога не адбывалася, аднак мужчына павярнуўся. Яму было гадоў шэсцьдзесят, сівыя валасы неахайна рассыпаліся па яго галаве, а на шчоках выступала двухтыднёвае шчаціннe. Мужчына пачаў уважліва прыглядацца да дзяўчыны, нібы ўзгадваў, дзе ж ён мог бачыць яе і па-ранейшаму маўчаў, падціснуўшы тонкія вусны. Такое адчуванне, быццам яму гэта прыносіла задавальненне.

"Што, чарговы маньяк?" – прачнулася яе турбота.

І ўсё ж яна чакала тлумачэнняў, чаму ён так хацеў пачуць менавіта яе голас. Але мужчына маўчаў. Доўга так працягвацца не магло.

- Чаго ўтаропіўся? – не вытрымала яна.

На што мужчына толькі ўзняў густыя бровы, зморшчыўшы лоб і цяжка ўздыхнуў.

"Можа ён нямы? Ці проста вар'ят? Здаецца, у гэтым гатэлі ўсе звар'яцелыя".

Яна развярнулася і кранула ручку дзвярэй.

- Хвіліну, вы забылі адну рэч, - прагучаў мяккі голас дзіўнага незнаёмца і яна азірнулася.

У яго руцэ, звісаючы з кручкаватых пальцаў, боўтаўся срэбны ланцужок з крыжыкам. Яна інстыктыўна кранула сябе за шыю і зразумела, што яе ланцужок, які маці падарыла ёй на васемнаццаціголддзе – знік. Яна наблізілася да мужчыны і рэзка выхапіла ланцужок з яго рукі. Мужчына сядзеў, не міргнуўшы вокам.

"Трэба адсюль вымятацца", - успыхнула ў яе розуме.

- Глядзі, не згубі яго, ён табе яшчэ спатрэбіцца, - сказаў мужчына, ад чаго ў дзяўчыны па целе прабегла калючая дрыготка. Яна зачыніла дзверы і адразу зачапіла ланцужок на сваёй шыі.

Парцье выпарыўся, а па калідоры ўсё гучней раздавалася рэха ад стрэлаў. Яна звярнула ўвагу на прыадчыненыя дзверы насупраць і падышла бліжэй. Стрэлы чуліся менавіта адтуль. Унутрана адчуваючы прыхаваную неабходнасць, дзяўчына асцярожна прасунулася ў шчыліну праёму і зайшла ў пакой. Там яна ўбачыла двух лысагаловых хлопцаў, што паселі на канапе спінай да яе і ўважліва глядзелі па тэлевізары знакаміты вестэрн "Цудоўная сямёрка". Яны пілі піва і гучна мацюкаліся. У аднаго з іх шчаціннe на галаве было светлым, а ў другога цёмным. Хлопцы былі даволі каржакаватымі. Яна паспрабавала ўявіць твары гэтых бамбізаў.

"Пэўна, яны грубыя і з паламанымі насамі".

Аднак гэта не стрымала дзяўчыну і яна вырашыла падысці да іх. Хлопцы азірнуліся. З выгляду яны аказаліся даволі мілымі, нават нечым нагадалі ёй школьнікаў. Лысагаловыя зусім не здзівіліся нечаканаму з'яўленню дзяўчыны. Наадварот, той, што быў са светлым шчаціннем, адразу працягнуў ёй бляшанку піва і яна ні секунды не вагаючыся, узяла яе. Потым лысагаловыя пасунуліся ў бок і запрасілі яе прысесці. Дзяўчына села між імі і хлопец з цёмным шчаціннем, крануўшы яе за плячо, закрычаў:

- Глядзі, той што лысы зараз падстрэліць гэнага вусатага мекса!

І стрэлы з тэлевізара напоўнілі пакой, а лысагаловыя пачалі падскокваць на месцы ад захаплення, як футбольныя аматары, нібы глядзелі якісьці фінальны матч і дрыгаліся на кожным галявым моманце. У гэтае імгненне чорна-белая карцінка знікла з экрана тэлевізара. Хлопцы раздражнёна кінуліся да "скрыні" і пачалі біць па ёй кулакамі - дарэмна. У хлопца са светлым шчаціннем дзяўчына заўважыла на плячы татуіроўку з надпісам: "Skinheads against racial prejudice".(1) Гэта былі скінхэды. Але яны не падаліся ёй такімі агіднымі, якімі іх звычайна выкрывалі ў СМІ. Скінхэды селі на падлогу і запалілі па цыгарэце. Нервова зацягнуўшыся, яны пачалі размаўляць між сабой, не звяртаючы ўвагі на дзяўчыну, нібы яна перастала для іх існаваць.

- Я ведаю хто гэта зрабіў.

- І хто ж?

- Гэта той псіхапат з шостага пакоя. Зноў шукаў свой порна-канал, вось і збіў нам увесь кінематограф. Гэта ўжо не першы раз паўтараецца...

- Такіх трэба без суда і следства...

- І яшчэ горш, што менавіта такія вылюдкі гвалцяць дзяцей, добрыя ж бабы не даюць, акрамя толькі шлюх ці педэрастаў, на якіх не заўжды грошаў хапае. Вось і трэба на дзецях адыгрывацца. Ідуць у пад'езды і падпільноўваюць; запрашаюць да сябе, спакушаюць прысмакамі, а потым гвалцяць, здымаюць на камеру, закідваюць у Інтэрнэт, гніды!

- Слухай, пайшлі да яго зойдзем, мне ён ужо добра паспеў надакучыў.

У яе сціснула сэрца. Лысагаловыя, апантаныя сваёй мэтай, адразу падняліся з падлогі і выйшлі за дзверы, пакінуўшы дзяўчыну адну. Як толькі дзверы за імі зачыніліся, яна не здолела стрымацца і па яе шчоках пакаціліся буйныя слёзы, а перад вачыма паўсталі малюнкі з дзяцінства. У дзесяць гадоў у бацькавым гаражы, куды ён часта яе вадзіць, яна абярнула на сябе слоік з белай фарбай. Чорныя, доўгія пасмы валасоў ураз заліло вадкай гадасцю. У выніку маці прыйшлося пастрыгчы яе амаль налыса. Так яна і хадзіла ў школу. Але ніхто не думаў з яе смяяцца. Яна была вельмі прыгожай дзяўчынкай, нават з кароткай стрыжкай і да таго ж магла за сябе пастаяць, таму ёй ніколі не даводзілася чуць у свой бок ніякіх кпінаў. Тады яна таксама была падобна на гэтых скінхэдаў, тады яна была мужнай, тады яна была ўпэўненай у сабе. А цяпер?

Карцінка на экране ўзнавілася, але вестэрн скончыўся – ішлі тытры. Хутка ў пакой заваліліся задаволеныя скінхэды.

Яна ўзнялася з канапы і паставіла на падлогу не дапітую бляшанку піва.

- Што, ты не будзеш глядзець з намі далей, пачакай, можа зараз што-небудзь цікавае пакажуць, - сказаў скінхэд з цёмным шчаціннем, убачыўшы, што вестэрн скончыўся.

Яна адмоўна пагайдала галавой.

- Шкада, ты нам так спадабалася.

- Дзякуй, - расчулена прызналася яна і выйшла з пакоя.

"Куды мне ісці? Вяртацца ў нумар так не хочацца", – сустрэлі яе ў калідоры турботныя думкі.

У галаве стаяў тлум.

"Ці не доўгі ўсё гэта сон?"

Яна адчула сябе ў эпіцэнтры сюррэалістычных падзей, але дакладна не ведала, што рабіць далей, нібы актрыса, якая выйшла на сцэну і выпадкова забыла свае словы. Ад безвыходнасці дзяўчына спаўзла па сцяне на кукішкі і зморана паклала галаву на калены.

Аднекуль пачуўся смех, а потым у іншым канцы калідора адчыніліся дзеверы і яна пачула крокі. Хтосьці спярша накіраваўся да лесвіцы, але нечакана спыніўся, пастаяў на месцы і пайшоў у яе бок. Дзяўчына прыўзняла галаву. Перад ёй з'явіўся самы сапраўдны блазан. Увесь такі яскравы: з чырвоным носам і вуснамі, з парыком рудых валасоў на галаве і з дурным капялюшыкам.

Блазан імгненна асклаўся ўсмешкай. Яе аж перасмыкнула. Яна з дзяцінства на дух не пераносіла блазнаў. Аднойчы, калі яны з маці пайшлі ў цырк, да яе выскачыў такі самы блазан і, схапіўшы за руку, вывеў на сярэдзіну сцэны. Ён спрабаваў патанцаваць з ёй, а яна расплакалася і няцямлівую дзяўчынку прыйшлося вярнуць на месца. Трохі пазней яна паглядзела фільм па раману Стывена Кінга - "Яно", што яшчэ горш напалохала яе, асабліва той момант, калі брыдкі блазан зацягнуў маленькага хлопчыка ў каналізацыю. З таго часу, акрамя блазнаў, яна баялася глядзець у адтуліны з чорным бяздоннем.

І вось перад ёй узнік гэты блазан.

- Я заўважыў цябе тут адну і вырашыў падысці. Мой прафесійны абавязак весяліць людзей і мне заўжды прыкра, калі людзі журацца, тым больш такая прыгожая дзяўчына, – пралапатаў ён і дастаў з кішэні губны гармонік. Пачаў дзьмуць і адначасова танчыць на месцы. Мелодыі былі такімі ідыёцкімі, што ёй адразу захацелася смяяцца.

Нечакана на яе плячо лягла дзіцячая ручка. Гэта аказалася тая дзяўчынка з гумавым мячыкам.

- Пойдзем адсюль, - прашаптала яна.

- Але куды?

- Да нашых дзвярэй...

Дзяўчынка працягнула ёй сваю далоньку і яны, узяўшыся за рукі, пайшлі па калідоры, пакінуўшы блазна без увагі.

Падышоўшы да дзвярэй з нумарам адзінаццаць, дзяўчынка вызваліла сваю ручку з яе далоні і села на падлогу, падгарнуўшы пад сябе ножкі, таксама, як і яна імгненне таму. Толькі цяпер дзяўчына звярнула ўвагу на непаслядоўнае размяшчэнне нумароў на дзвярах у гатэлі.

- А дзе твой мячык? – спытала яна ў дзяўчынкі, даследуючы калідор; нумары і насамрэч ішлі ў разнабой, а на некаторых дзвярах адсутнічалі наогул. Мажліва, такая нумарацыя магла азначаць штосьці іншае

- Забралі, - адказала дзяўчынка. - Хлопчык у белай кашулі, ён благі, а яшчэ ў яго з валасоў рожкі тырчаць, і хвост ён свой у шортах хавае.

Дзяўчына ўсміхнулася. У дзяцінстве яна таксама любіла ўсё перабольшваць, заўжды бачыла тое, чаго не існавала і думала аб тым, што не адпавядала рэчаіснасці.

- А што за тваімі дзвярамі?

- Яны...

- Хто яны?

- Маці з татам. Яны там стогнуць, а мне сказалі пагуляць на калідоры, а потым благі хлопчык забраў мой мячык.

Яна прыслухалася – і сапраўды – за дзвярамі чуўся жаночы стогн. Асцярожна крануўшы ручку дзвярэй, дзяўчына зайшла ў невялікі пакой. У пакоі панаваў прыцемак і толькі з-за фіранак праслізгвала залацістая пляма святла, датыкаючыся да ложка, на якім барадаты мужчына, трымаў у абдымках жанчыну. Яны паўтаралі простыя рухі.

Дзяўчына аслупянела. Калі ёй было адзінаццаць гадоў, неяк ноччу ў яе разбалеўся жывот і яна зайшла ў спальню да бацькоў, каб пабудзіць маці. Бацькі займаліся сэксам. Яе адразу ахапіў такі сорам, што і зараз, узгадаўшы аб гэтым эпізодзе, яе шчокі незнарок запунсавелі.

У гэты момант яна пачула, як за яе спінай захныкала дзяўчо. Палюбоўнікі раптоўна спыніліся.

- Якога чорта?! – абурыўся барадач.

Жанчына хутка вылезла з-пад яго, прыкрыла свае грудзі коўдрай і акінула іх абедзвюх дакорлівым поглядам.

Нічога не адказваючы, дзяўчына развярнулася і выйшла за дзверы, разумеючы, што трапіла ў няспраўную сітуацыю.

Сцены, падлога, столь калідора на яе вачах пачаліператварацца ў вадкасць, а вушы напоўніў незразумелы імпульсіўны гуд. Не звяртаючы ўвагі на фантастычныя змены ў памяшканні, яна пайшла наперад. Ступаючы па няўстойлівай падлозе, дзяўчына з кожным крокам адчувала, што жыле, у якое ператварылася падлога, зараз яе засмокча. Са столі пачала сцякаць жыжка, падобная на лаву, якая палае з зяпы раз'юшанага вулкана.

“Хто я, дзе я знаходжуся, можа, гэта ўсяго толькі ўласнае трызненне?”

- Прабачце, а ў вас не знойдзецца цыгарэткі? – пачула яна мужчынскі голас.

“Якога д'ябла ім усім ад мяне трэба? Усе ў гэтым гатэлі намагаюцца мяне зачапіць, каб сказаць, спытаць, прапанаваць?!”

Калідор пачаў скажацца, паступова вяртаючы сабе правільную форму і свой папярэдні выгляд.

- Я не палю, - вымавіла яна.

Азірнуўшыся, дзяўчына раптоўна знерухомела. Перад ёй стаяў Ён. Сам Ён! Кароль! Легенда! Не можа быць! Адкуль? Тут? У гэтым несамавітым гатэлі? У гэтай краіне? Глупства! Перад ёй стаяў кароль рок-н-рола! Сам Элвіс Прэслі ўласнай персонай! Ён стаяў пасярод адчыненых дзвярэй пакоя, перакрыжаваўшы рукі пад грудзьмі. На ім была апранута звычайная белая майка з надпісам “Амерыка”. Элвіс асляпляльна ўсміхаўся, а яго прычоска была ў дакладнасці такой, як у 1956 годзе.

“Чарговы імітатар?” – праслізнула ў яе галаве.

Яна ўважліва прыгледзелася да яго. Калі гэта муляж, то самы дасканалы.

- Я ведаю аб чым ты зараз думаеш, - сказаў ён на беларускай мове. – Я гэта ці не я? Усіх, прынамсі, хто бачыў мяне пасля смерці, ахапляў такі ж ступар. Гэта, зрэшты, звычайны інстынкт. Усе, хто захапляліся мною непасрэдна пры сваім жыцці праз гэта праходзілі. І ты, канечне, як я бачу, не выключэнне. З свайго боку я, - ён паглядзеў на далонь, на якой была напісана падказка, - у мільён двухсот пяцідзесяці трох тысячны раз з усёй адказнасцю магу заявіць, што гэта я. Так, перад табой сапраўдны Элвіс Прэслі.

Яна глядзела на яго, не ў стане вымавіць і слова.

- Ды і ў мяне таксама быў шок, калі я пачуў голас з верха, - Элвіс задраў паказальны палец угору.

“Каго ён мае на ўвазе, у гатэлі толькі два паверхі”, - прыгадала яна.

- Уяўляеш, - працягваў ён, - голас сказаў, што мне і тут не будзе супакою. Ён загадаў мне наведваць усіх маіх фэнаў і размаўляць з імі аб чым яны толькі пажадаюць. Гэта быў нечаканы піяр ход майго новаспечанага прадзюсара. Ён надзяліў мяне ўсімі мовамі свету, я нават на вашай трасянцы размаўляць магу.

Яе нечакана перасмыкнула.

- Заходзь да мяне. У маім пакоі ўсё пад стыль бессмяротных пяцідзесятых, там нам будзе зручней пагутарыць.

Яна не магла ні зварухнуцца, ні нават што-небудзь сказаць, але ўжо не ад убачанага, а ад пачутага.

- Я цябе разумею, не кожны раз даводзіцца ўсвядоміць, што ты памёр, супакойся.

І яна без прытомнасці звалілася на падлогу.

Прачнулася яна ад адчування, што на яе на ілбе ляжыць вільготная анучка. Пралупіўшы вочы, яна зразумела, што знаходзіцца ў пакоі. Акуратна засланы ружовай коўдрай ложак, жоўтыя шпалеры і меладычная песня з радыё, - спяваў Элвіс Прэслі, спяваў “Only you” – усё гэта падкрэслівала праўдзівасць падзей, якія з ёй адбываліся. Яна сцягнула з ілба анучу і ўбачыла Элвіса.

“Значыць ён сапраўдны?”.

Прэслі сядзеў на скураным крэсле, закінуўшы на журнальны столік свае доўгія ногі ў лакіраваных пантофлях.

- А ты мяне добра напалохала. Хаця, акурат перад табой афрыканскі хлопчык з Марока, зразумеўшы, што памёр, званітаваў на мой любімы пінжак. Гэта нічога, што я зараз перад табой у такім выглядзе?

- Лепш скажы, якім чынам я сюды трапіла? – ледзьве чутна вымавіла яна.

Элвіс насупіўся.

- Вось так заўжды, зусім перасталі паважаць караля, цяпер я пустое месца, хаця па рэйтынгу на трэцім, нават Ленан у дзесятку не ўвайшоў. А ўсё чаму? Таму што Beatles – гэта папса... Хіпар халярысты!

Ён незадаволена ўстаў з крэсла, падышоў да дубовай тумбачкі, што стаяла каля ложка і дастаў адтуль аркуш. Імгненне ён праглядаў яго, а потым вярнуўся на месца. Яна заўважыла, як па яго прыгожай сківіцы напружана забегалі жаўлакі.

- Усё зразумела, - сказаў Элвіс. – Аўтобус, слізкая шаша, калгаснік-вадзіцель, рэзкі паварот і ўсіх усмятку. Але пачакай, дзіцяці трох гадоў у цяжкім стане дастаўлена ў рэанімацыю – усе астатнія, уключаючы цябе – мерцвякі.

Элвіс яшчэ раз уважліва прагледзеў напісанае.

- Ага, уверсе аркуша, каля твайго прозвішча стаіць пытальнік.

- Што гэта значыць?

- Што гэта значыць, што гэта значыць? - перадражніў яе Элвіс. – Гэта не ўваходзіць у мае абавязкі. Не ведаю. Чаму б табе не спытаць аб існаванні майго тлустага брата-двайніка ці аб выкраданні мяне НЛА, спытаць, прымаў я будызм ці не?..

У яе забалела галава.

“Усё ж калі моцна жадаеш сабе смерці, яна абавязкова цябе напаткае. Толькі робіцца не па сабе, калі разумееш, што ёсць працяг, а вось гэтага як раз і не хацелася. Цяпер наперадзе, хутчэй за ўсе, чакае суцэльная цемра, а гэты гатэль, як першы крок да яе”.

- ...а пра маіх каханак, пра ўжыванне наркотыкаў, пра ружовы лімузін, пра жоўтыя чаравікі, - Элвіс захлынаўся ў сваіх пераліках.

- Хопіць, замоўкні! - не вытрымаўшы, спыніла яго дзяўчына. – Я паважаю цябе як выканаўца, ты класны і гэта праўда, я люблю рок-н-рол і рокабілі, фолк-рок, але не больш чым іншыя стылі, той жа панк-рок, інды, хардкор, гранж, ска, дзе былі свае своеасаблівыя і выдатныя музыкі, я ніколі не зацыклялася на адным спеваку. Чаму замест цябе да мяне не прыйшлі, скажам, Джоі Рамон, Ян Кёрціс, Джымі Хендрыкс, Курт Кабэйн урэшце?

Элвіс пакрыўджана схіліў галаву і ледзь чутна вымавіў:
- Значыць, у апошнія хвіліны свайго жыцця ты думала аб тым, што магло быць звязана з маёй асобай. Проста ўсім, хто захапляўся мною пры жыцці, прадстаўляецца мажлівасць пабачыць жывую легенду пасля смерці. Накшталт маральнай кампенсацыі.
- Кампенсацыі кажаш, нічога, добры ў вас тут прыём, - з’едліва вымавіла яна і паглядзела яму ў вочы. - Прабач, я не хацела цябе пакрыўдзіць, забудзем аб гэтым.
І яна паднялася з крэсла. Болей там заставацца было невыносна. Усе тыя навіны, пра якія ёй паведаміў Элвіс, былі даволі неспадзяванымі і таму збілі яе з панталыку. Ёй хацелася збегчы, схавацца ад усіх і застацца адной.
- Пачакай, няўжо цябе не цікавяць усе тыя таямніцы, якія ўзніклі пасля маёй смерці? – разгубіўся ён.
Дзяўчына прамаўчала. І без таго занадта шмат смерцяў адбылося за гэты дзень.
- Усё гэта... – але яна не пачула заканчэння сказу, зачыніўшы за сабой дзверы.
Адчуванне непрадказальнага, пачуццё тагасветнага і непераадольная напруга сціскалі яе скроні. Толькі цяпер яна зразумела, што ўсе шляхі адступу былі адрэзаныя, а прыстасоўвацца да рэчаіснасці было так нязвыкла. Але ўсё ж дзесьці ў глыбіні яе падсвядомасці трымцела невялікая надзея на штучнасць гэтай рэчаіснасці.
“Чаму не відаць святла ў канцы калідора? Калідор звычайны, падлога па-ранейшаму нагадвае шахматную дошку. І хто я ў гэтай партыі? Пешка ці дамка? ”, - падумала яна.
Трэба было вяртацца ў свой нумар і дзяўчына падышла да дзвярэй у канцы калідора. Тузанула за ручку, але дзверы аказаліся зачыненымі. Яна моцна грукнула нагой па дубовай дзвяры-дамавіне і раздражнёна села на падлогу.
“Пайшло ўсё да чорта!”
Калідор зноў пачаў відазмяняцца, ператвараючыся ў вадкую прастору.
- Прабач, я зачыніў за сабой дзверы, - пачула яна пракураны мужчынскі голас. – Падымайся, табе нельга тут заставацца.
Яна ўзняла галаву і ўбачыла невядомага мужчыну. На выгляд яму было каля трыццаці гадоў. Сярэдняга росту. Твар круглы і з іракезам на галаве. Мужчына быў апрануты ў касуху і ірваныя джынсы. Ён лагодна ўсміхаўся.
Яна прыўзнялася і ён, прытрымліваючы яе за локаць, завёў у пакой.
- Дык значыць гэта ты так моцна жадала сабе смерці? - зачыніўшы за сабой дзверы, ціха спытаў мужчына.
Яна падышла да ложка і адразу лягла на яго, падціснуўшы сабе пад грудзі стомленыя ногі.
Раней бы яна ніколі не пачала дзяліцца з незнаёмцам сваімі ўнутранымі хваляваннямі і праблемамі, не ўсё яна магла расказаць і сваім сяброўкам. Але тут усе комплексы і сарамлівасць якімсьці чынам зніклі, як знікаюць сляды на марскім пяску.
Яна паглыбілася ў свае ўспаміны.
- Жыццё страціла для мяне ўсялякі сэнс, - падсумаваўшы свае думкі, сказала дзяўчына.
- Будзь ветлівай, скажы, колькі табе гадоў? – уздыхнуў мужчына і сеў на падлогу побач з ложкам, потым дастаў пачак цыгарэт і запаліў.
- Дзевятнаццаць, - здушана вымавіла яна.
- Значаць, пражыўшы ўсяго дзевятнаццаць гадоў, ты вырашыла, што далей жыць няма сэнсу? - выдыхнуўшы дым, спытаў ён.
“Хто б гэта ня быў, але яго лепш не падманваць”, - пераконваў яе ўнутраны голас.
- Не ведаю, цяпер не ведаю... У той момант я думала менавіта так.
- А калі б табе зараз далі шанец выбраць паміж жыццём і смерцю, на чым бы ты спынілася?
На чым бы яна спынілася? Жыццё – гэта пакуты, слёзы і боль, там на зямлі ўсё тое, што яна шмат разоў бачыла і чула, нічога вартага... Але тут? Наперадзе – таямніца, яна насцярожвала, яна палохала. І яшчэ гэты гатэль, ён нагадаў ёй мінулае, забытае пад сумётамі жыцця: яе хваляванні, яе думкі; тут яна зразумела, што больш падобнага з ёй не здарыцца і ўсё зямное ніколі ўжо не паўторыцца. З аднаго боку гэта абнадзейвала, а з другога, здавалася, можа менавіта гэтага “зямнога” ёй як раз такі і не будзе хапаць…
- Я б выбрала жыццё, - нечакана для самой сябе сказала дзяўчына і ў пакоі трохі пасвятлела.
Мужчына плюнуў на падлогу.
- Чалавек, па сваёй існасці, ніколі не любіць радыкальных перамен, абы толькі яго не чапалі, менавіта з-за такіх калісьці мяне і распялі. Хаця, вядома, ёсць выключэнне, - анархісты, да прыкладу, якіх нажаль ніхто ў сур’ёз не ўспрымае, аднак гэта ўсё з-за прагных да ўлады палітыканаў. А вось калі чалавеку добра прыпячэ, тут ён пачынае корпацца ў глыбінях сваёй чэрствай душы з імкненнем знайсці там праўду, падкрэслю – сваю праўду, якая, часцей за ўсё, зводзіцца да поўнай бязглуздзіцы.
Яна ляжала, не зварухнуўшыся, падклаўшы пад галаву далоні, уважліва слухаючы кожнае яго слова.
- Аднак у нас мала часу. Не ведаю, чаму я іншым разам раблюся такім паблажлівым, а ўвогуле я люблю шукаць прыгоды на свой азадак... Відаць, на гэта ўплывае мая прыхаваная любоў да чалавецтва. Добра, я паспрабую цябе перавесці, пакуль гэта ўсе, што я магу для цябе зрабіць. Таму паспрабуй пражыць сваё новае жыццё, не засяроджваючы ўвагі на ўсякім смецці, якое яго акружае, менавіта ў гэтым і ёсць сэнс існавання. Канечне, гэта зусім не значыць, што табе абавязкова неабходна пайсці ў манашкі, некаторыя не правільна атаясамляюць знакі, якія ім падаюць. Знайдзі сваё прызначэнне...
- Ты Бог? – прыўзняўшыся з ложка і, абапёршыся на рукі, запытала яна.
Мужчына гідліва сыкнуў і дзяўчына зразумела, што зачапіла досыць балючую тэму.
- Не хачу пра яго нават чуць, - ён апантана расшпіліў касуху і яна ўбачыла пад ёй белую майку з чорным надпісам “No God, No Master”(2). - Я не размаўляю з ім ужо больш за тысячу год, гэты стары ёлуп дастаў мяне сваімі маралямі…
Потым ён сутаргава засунуў руку ва ўнутраную кішэню касухі і дастаў ключ.
- А цяпер спускайся ўніз і аддай гэта Пятру. Паглядзім, як яму такі сюрпрыз.

Лямпы ў калідоры мігацелі па-ранейшаму, раздражняючы зрок дзяўчыны перарывістым святлом. Яна адчула сябе прысутнай на "Тытаніку" – нібы ратуешся з калідора, які паступова запаўняе сцюдзёная вада. Але лепш было б знаходзіцца на "Тытаніку", там, магчыма, яшчэ заставаўся шанц выратавацца.

Яна праходзіла каля дзвярэй-дамавінаў, адчуваючы на патыліцы подых вышэйшага розуму, які стаіўся ў гэтых сценах, а жудасны калідор нагадваў калідор смяротнікаў.

Яна сыходзіла па лесвіцы, а яе крокі гучалі, як стрэлы ў спіну. Сэрца ў яе грудзях так і карцела выскачыць вонкі і пакаціцца наперад клубком чырвоных нітак.

Яна сціснула зубы.

І ўрэшце фае. За сталом сядзеў, як прыкаваны, дзядок са зморшчаным тварам. Яго здзіўлены погляд сканцэнтраваўся на дзяўчыне. Было відаць, што ён не чакаў яе з'яўлення.

Дзяўчына падышла бліжэй. У вачах дзядулі не засталося следу ад ранейшай хітраватай безуважнасці. Яна бачыла яго разгубленасць. Дзядуля зусім нехаця працягнуў ёй руку, і дзяўчына паклала ў яго кашчавую далонь іржавы ключ. Ён адразу схаваў яго ў кішэню сваіх портак, а потым выйшаў з-за стала.

- А цяпер распранайся, - на поўным сур'ёзе загадаў Пётр.

Яна згубіла ўсялякую сарамлівасці адначасова з яго патрабаваннем, адчуваючы знутры, што не можа не паслухацца. Спачатку зняла кеды, потым сваю куртку, кофту, джынсы, шкарпэткі, майку з надпісам і выявай гурта "KISS", абыякава скінуўшы ўсё ў адну кучу з цвёрдым разуменнем, што гэта ёй болей не спатрэбіцца і засталася толькі ў трусіках з ліфчыкам.

- Далей, - настойліва патрабаваў Пётр.

- Скажыце мне, калі ласка, скажыце, што гэта за месца? – умольна вымавіла яна.

Куткі вуснаў Пятра пагардліва ўздрыгнулі.

- Гэта месца – прывід, яго наогул не існуе. Гэта субстанцыя, куды ты імкнулася патрапіць. Кожны знаходзіць свой апошні прытулак па-рознаму. У тваім выпадку гэта ўвасабленне гатэля, які ты выдумала падсвядома. Тут спалучыліся ўсе твае хваляванні, успаміны, развагі, непасрэдна перад тваёю смерцю – усё ў адным неіснуючым месцы. Аднак тут прысутнічае і рэальнасць – гэта ты, я і тыя людзі, якіх табе давялося сустрэць на другім паверсе, - тут ён асекся, стрымліваючы сваю непадуладную незадаволенасць, а потым працягнуў: - Я разлічваў, што ты застанешся тут назаўжды, як большасць такіх жа грэшнікаў, каб вечна блукаць у калідорах уласнага пекла.

Пётр прыжмурыў вочы.

- Я бачу ў цябе на шыі крыжык, гэта твой дзед табе аддаў? Дзеда ты, канечне, зусім не памятаеш, ён памёр за чатыры гады да твайго нараджэння. Але гэтае распяцце дапаможа табе пры пераходзе. ЁН узрадуецца, што ты веруючая. Табе пашанцавала, бо я б на яго месцы... Што ж, ЯМУ лепш відаць. Добра, а цяпер скідай з сябе ўсё астатняе.

І яна дрыготкай рукой расшпіліла гузік на ліфчыку, а потым зняла і трусікі. Пётр, здавалася, зусім не заўважаў яе, яго сур'ёзны позірк, нібы праходзіць скрозь дзяўчыну, не засяроджваючы ўвагі на ўсёй прыгажосці юнага цела.

Сэрца ў яе грудзях утрапёна загрукатала і ёй пачало трызніцца, што яго мулкі гук напоўніў усё фае.

Нечакана дубовыя дзверы, праз якія яна патрапіла ў гатэль, імпэтна расчыніліся, абліўшы памяшканне з'едліва-белым святлом, ад якога зарэзала ў вачах. Святло паступова пачало паглынаць гатэль, не стала болей ні сцен, ні падлогі, ні стала, толькі дзве постаці – яе і Пятра.

- Цяпер, Маргарыта, можаш ісці наперад. Не хвалюйся, усе выпрабаванні ўжо мінулі. Аман, - рэхам прагучаў яго гугнявы голас.

Аднак Рыта адчувала, што душэўны неспакой не дазваляў ей крануцца з месца.

- Пачакайце! - сарвалася з яе вуснаў. - Скажыце мне толькі адно, там у пакоі, у сваім пакоі я бачыла Бога?

Пётр зарыпаў зубамі.

- З іракезам і ў касусе?

- Так, - разгублена вымавіла яна.

- Халера! - гаркнуў Пётр і кінуўся да дзяўчыны, схапіў за плечы і сціснуў так моцна, што яна крыкнула. – Хацелі мяне падмануць? Не выйдзе, ён табе не дапаможа, таму што ён здраднік, чуеш!

Вочы Пятра былі шалёнымі.

Але ў гэта імгненне за яго спінай з'явіўся той мужчына з іракезам.

- Адпусці яе, стары пярдун! – сказаў ён.

Пётр азірнуўся і раптоўна адпусціў дзяўчыну.

- Ісус, ты сам не ведаеш, што робіш, гэта не падуладная табе тэрыторыя, вярніся ў сваю рэзервацыю, так будзе лепш, - паблажліва вымавіў ён.

- Паслухай сюды: сядзь за свой грэбаны стол і прапусці ў дзверы гэту дзяўчыну.

- Ты не адказны за яе.

- Замоўкні, мне наогул пляваць на ўсе вашыя дагматы і ты гэта добра ведаеш.

- Ісус, не вымушай мяне рабіць таго, чаго я не хачу рабіць.

Ісус не вытрымаў і накінуўся на Пятра, збіў яго з ног і яны ўдвух пачалі качацца па падлозе. Дзяўчына ўбачыла, што дзядуля толькі з выгляду быў трухлявым пнём. Ён паклаў Ісуса на лапаткі і пачаў лупцаваць яго па шчоках.

- Ты па-ранейшаму думаеш, што я буду падстаўляць шчокі, на, атрымай! - адказаў Ісус Пятру моцнай аплявухай і скінуў з сябе.

- Рыта, бяжы, хутчэй бяжы адсюль, я затрымаю гэтага чмыра! - крыкнуў ёй Ісус.

І Рыта адразу пабегла наперад, не азіраючыся. Яе цела пачалі скаланаць дрыжыкі. Бязмежнае святло паступова паглынала, растварала яе плоць, каб спалучыцца разам. Яна бегла па бяздонню, знікаючы ў невядомасці.

На табло электракарыёграмы, неспадзеўкі міргаючы, загарэлася чырвоная кропка, паланіўшы рэанімацыйны пакой упартым піскам, якая вызначала пульс. Замест прамой лініі, спярша злёгку вагаючыся, а потым усё больш узмацняючыся, пачыналі ўзнікаць крывыя ламаныя. Дзяўчынка гадоў трох з кіслароднай маскай на твары пачала дыхаць. Рэанімацыя, запоўненая людзьмі ў белых халатах, прачнулася ціхім перашэптваннем. Яшчэ б, дзве гадзіны таму яе ў цяжкім стане даставілі ў бальніцу пасля жахлівай аварыі на шашы Мінск-Гродна, дзе акрамя дзяўчынкі загінулі ўсе пасажыры, і ўжо як пяць хвілін не дыхаючы, яна нечакана ажыла. Здавалася, гэты боскі подых удыхнуў у яе вусны жыццё, ніякага іншага вытлумачэння гэтаму не існавала. Праз імгненне рэанімацыя абудзілася гучнымі апладысментамі і ўсе прысутныя да апошняга пачалі абдымацца. А дзяўчынка нерухома ляжала на аперацыйным стале і з яе кволенькай грудкі чэпкім струменьчыкам біла жыццё. Яе ружовыя вейкі злёгку ўздрыгвалі, а кіслародная маска напаўнялася парай ад яе дыхання.

Гэта быў безумоўны пачатак, пачатак новага жыцця.

2008г.

Каментарыі:

1
"Сапраўдныя скінхэды не расісты". (анг.).

2
"Ні Бога, ні гаспадара". (агн.).

**Па-беларуску**

*Каліпісьменнікбудзезаставаццаўпадначаленнімовы, якуюямупрадалі разамзніжняйбялізнай, разамзімем, веравызнаннемі нацыянальнасцю, токнігі ягобудуцьмецьадну толькіэстэтычнуюкаштоўнасць.*

*Х. Картасар*

Аркадзь Рамуальдавіч Бураковіч – беларускі пісьменнік. Пісьменнік ён сярэдняга кшталту: не дужа выдатны, але і не самы дрэнны, прынамсі, як і ўсе разам узятыя сучасныя беларускія пісьменнікі. У перыядычным друку яго імя можна сустрэць даволі часта, ды і на паліцах у кнігарнях, калі захацець, можна адшукаць яго кнігі. Яму сорак два гады і ён не жанаты. Дакладней, калісьці быў, аднак роўна два гады таму, жонка сышла да іншага. Зрэшты, яму не было шкада, за пятнаццаць гадоў шлюбу яны паспелі абрыднуць адзін аднаму. Таццяна Віталеўна, былая настаўніца рускай мовы, ніколі не падзяляла запалу мужа пісаць па-беларуску. Яна часта называла гэтую мову "грубым наречием" и ставіла ў прыклад класікаўрускай літаратуры Чэхава, Булгакава, ціСалжаніцына.

Але ў апошні час у свядомасці Бураковіча адбыліся змены, якія прымусілі яго глыбока задумацца аб рэчаіснасці. Справа ў тым, што яго турбавалі згрызоты сумлення. У адзін момант ён зразумеў, што ўсё, аб чым пісаў раней – поўная лухта. І здарылася непрадказальнае: ён перастаў верыць кожнаму слову, якое напісаў у сваіх кнігах і, падпаліўшы іх, выкінуў у смеццеправод.

Між тым, дэпрэсія, якая так доўга тачыла на яго зубы, выпаўзла вонкі. У сэрца яму закралася думка, што ён сектант. Гэта зыходзіла з таго, што ўсе паўсюдна размаўлялі на рускай мове, а тое, што часам чулася з экранаў тэлевізара і радыё, уяўлялася кароткатэрміновым трызненнем. Беларуская мова здавалася мовай канспіратараў, куды ўваходзілі пісьменнікі, навукоўцы і астатняя свядомая шушамець. Аркадзю Рамуальдавічу рабілася прыкра ад такіх думак і хацелася набіць морду кожнаму, хто паспрабуе загаварыць з ім па-руску. Аднак яшчэ больш яму рабілася агідна, калі ён чытаў беларускія творы, асабліва дыялогі:

" …- *Я кахаю цябе, - сказала яна…*
…- *Пацалуй мяне…*
…- *Мне так неабходна твая цеплыня…*
…- *Божа літасцівы, ты толькі паглядзі, якія зоркі на небе…"* і г. д.

З вуснаў жанчын гэта гучала асабліва непраўдападобна.

"Якога чорта, яны ніколі так не скажуць!!! Гэта фантастыка!!! Я не аўтар-фантаст!!!", - роспачна круціліся думкі ў яго галаве.

А папера прагнула чарговай гісторыі. Бураковіч пакутаваў і не мог знайсці сабе месца. Трэба было шукаць выйсце.

Выйсце прыйшло само па сабе, як кажуць "снизошла благодать". У адзін з зімніх вечароў, калі за вокнамі яго кватэры гойсала звар'яцелая мяцеліца і хацелася, выпіўшы келіх добрага віна, ахінуцца ў цёплым плед і чытаць замежны дэтэктыў, Бураковіч зайшоў у Інтэрнэт. Доўга не марудзячы, у пошукавым акне Google, ён набраў на клавіятуры «проститутки Минска». Націснуў на пошук і яму адразу высвяцілася старонка з шэрагам прапаноў. Выбару было дастаткова. Імгненне ён апантана праглядаў кожную спасылку і ўрэшце спыніўся на «Лучших проститутках-индивидуалкахМинска». Услед за гэтым адчынілася акно ружовага колеру, на якім паступова пачалі ўзнікаць фотаздымкі living of рознапланавых сукубаў, пачынальна ад саракагадовых і сканчаючы васямнаццацігадовымі. Бураковіч шукаў залатую сярэдзіну. Пад кожным фотаздымкам была змешчана інфармацыйная анкета той ці іншай прадстаўніцы старажытнай прафесіі. Бландынкі, брунэткі і рудыя шэльмы лісліва ўсміхаліся яму з манітора, а ў вачах чыталася абыякавасць, ну і яшчэ - «мне патрэбны твае грошы». Тое, што трэба.

Урэшце, расчырванелы Бураковіч спыніўся на шатэнцы Ілоне дваццаці шасці гадоў зроду. Яе паслугі каштавалі адносна не дорага:

гадзіна шэсцьдзесят даляраў, ноч – сто пяцьдзесят. Гэта была расцэнка, якая тычылася яе апартаментаў, выезд да кліента каштаваў даражэй: гадзіна восемдзесят даляраў і ноч, адпаведна, дзвесце. Ілона выконвала любы каприз, выключаючы ўсялякія праявы садаміі, капрафагіі, і іншых анамалій традыцыйнага сэксу.

Бураковіч перапісаў нумар яе тэлефона і выйшаў з Інтэрнэту. Сэрца яго трымцела ад запалу, які паглынаў нутро. Аднак эйфарыя працягвалася не доўга. Ён сеў на кухні за стол, выпіў кубачак гарачай кавы і супакоіўся. Асноўныя думкі засяродзіліся вакол трох галоўных пытанняў: на які час здымаць прастытыку, дзе будзе адбывацца сукупленне і дзе ўзяць грошы? Пытанні былі злабадзённыя, тым больш у час сусветнага крызісу, які паступова набіраў свае абарачэнні.

На зарплату ў рэдакцыі разлічваць было недарэчы. Ён абышоў усіх калегаў і толькі два лепшых сярба па пяру, галоўны рэдактар і пісьменнік Арцём Філіпенка, без пытання“навошта” падтрымалі  Бураковіча. Дома ён падлічыў грошы, які атрымаў у пазыку – роўна сто даляраў. Бураковіч паклаў іх на сярэдзіну стала і зачаравана глядзеў, як быццам перад ім стаяў святы грааль, калісьці напоўнены крывёй Выратавальніка. Потым пайшоў да сябе ў пакой і са скрыначкі, якая засталася ад жонкі, дастаў заначку на чорны дзень. Яшчэ сто даляраў. Такім чынам яму хапала на цэлую юрліву ноч з упадабанай куртызанкай.

Ідэя, якая ўзнікла ў яго галаве, звычайнаму абывацелю магла здацца ідыёцкай. Аднак Бураковіч быў творчым чалавекам, а ў галаву такіх людзей заўжды лезуць самыя што не ёсць незвычайныя ідэі. Другая справа, што яму зусім не было шкада грошаў, якія, у прынцыпе, для пісьменніка, тым больш беларускага, былі дарагой раскошай. Ён толькі ўвесь вечар трымаў іх у руках, часам нюхаў і ўсміхаўся.

Бліжэй да поўначы Бураковіч сеў ля хатняга тэлефона і пачаў абдумваць план размовы з прастытуткай. Ён жадаў скласці размову ў выключна далікатным рэчышчы, каб яна зразумела, што мае справу з інтэлігентным чалавекам. Засяроджаны на гэтым, ён паднёс трубку да вуха і пачаў набіраць нумар Ілоны. Як толькі ў трубцы загучалі гудкі, яму, чамусьці, захацелася пакласці яе зваротна. Ім авалодаў хлапечы страх і ён успомніў сябе ў юнацтве, калі тэлефанаваў сваёй будучай жонцы з таксафона, каб прызнацца ёй у каханні, баючыся сказаць аб гэтым у твар. На зваротным канцы лініі доўга не падыходзілі і Бураковіч ужо намагаўся пакласці трубку, але ў самы апошні момант ён пачуў прыемны і трохі запыханы жаночы голас:

- Алло?..

- Дабранач… то есть доброй ночи… это Илона?

- Да-да.

- Вас беспокоит… а в общем не важно… эм… Я хотел бы воспользоваться вашими услугами? – не здолеўшы пераадолець хвалявання, рвана вымавіў ён.

- В моих апартаментах или же…

- У себя дома.

- Отлично, - у яе голасе прагучала нотка радасці. – Значит так, оплата вперёд на месте, это получается двести долларов.

- Да, я в курсе.

- Давайте определяться с временным интервалом.

- Я бы хотел провести с вами ночь.

У трубцы на імгненне ўзнікла паўза і Бураковіч падумаў, што сувязь перапынілася.

- Алё?

- Всё хорошо, я помечаю… Итак, боюсь, у меня будет свободна только пятница… Как на счёт пятницы?

- Пятница, так пятница.

- Хорошо, скажите ваш адрес.

Бураковіч прадыктаваў свой адрас.

- Ну и далеко же вы забрались, - саркастычна вымавіла яна і прыемна засмяялася. -  Я приеду к вам где-то к одиннадцати, но предварительно позвоню.  Пойдёт?

- Дамовіліся.

- Что вы говорите?

- Договорились, говорю…

- Так и ещё, как вас зовут?

- Аркадий.

- Аркадий? Что если я буду называть вас Аркаша?

- Как вам угодно, - адначасова разгубіўся і пачырванеў беларускі пісьменнік.

- Тогда до встречи.

- Буду ждать.

А потым, лежучы ў ложку, ён шчыра ўсміхаўся ў столь і з непадзельнай радасцю ўяўляў, як праз колькі дзён, тут, каля яго, на гэтым ложку будзе выгінацца сэксапільная дзяўчына, якая бездакорна будзе выконваць усе яго пажаданні. Што тычылася пажаданняў, то ў гэтым і заключалася галоўная сутнасць прыбыцця прастытуткі Ілоны ў прыстанішча беларускага пісьменніка. Гэтым пажаданням Бураковіч адводзіў галоўную ролю. Як ужо было сказана вышэй, ён знаходзіўся ў працяглай дэпрэсіі, таму на Ілону ўскладалася адказная задача скінуць з яго плячэй цяжар літаратурнай роспачы.

У пятніцу Бураковіч пазначыў у сваім дзённіку наступнае: “Дваццаць трэцяга студзеня. Пятніца. Каля адзінаццаці гадзін да мяне павінна завітаць (слова шлюха перакрэслена) Ілона. Я купіў кветак і каньяк. Не ведаю навошта… Можа, дзеля эстэтыкі. Сэкс… Што я ўкладваю ў яго азначэнне? Але адно я ведаю добра: у мяне творчая мігрэнь і мне патрэбен аспірын. Ілона, прыйдзі ж да мяне…”

Прыйшоўшы да дому пасля працы, ён першай справай прыняў ванну. Потым прывёў кватэру ў належны парадак, каб усё адпавядала нормам этыкету. У спальні, на сваім ложку, дзе роўна два гады таму ён яшчэ спаў са сваёй жонкай і на якім, дарэчы, быў зачаты іх адзіны сын Васіль, ён заслаў свежую бялізну, а на кухні накрыў невялікі стол і запаліў свечкі. Святло свечак надавала пэўную рамантычнасць, і Бураковіч адчуў сябе маладым.

Ілона патэлефанавала яму каля дзесяці гадзін вечара і папярэдзіла, што трохі затрымаецца. Бураковіч уключыў тэлевізар. Дзесьці, на

сярэдзіне фільма “Хросны бацька”, які круцілі па восьмым канале, прагучаў званок у дамафон. Бураковіч спахапіўся і хутка пабег да дзвярэй.

- Аркаша? – прагучала млявае запытанне і ён не вагаючыся, адчыніў.

На гадзінніку была палова дванаццатага. Ён падышоў да акна і паглядзеў на вуліцу – цёмны двор асвятлялі яскравыя фары таксі. Праз хвіліну ўжо ў дзверы кватэры раздаўся доўгачаканы званок. Бураковіч, злёгку хвалюючыся, спачатку паглядзеў у вочка, пераканаўся, што там стаіць жанчына і толькі потым адчыніў дзверы.

Перад ім узнікла тая самая Ілона, якую ён упадабаў у Ітэрнэце. У адрозненне ад фотаздымка яна выглядала на шмат прыгажэй і Бураковіч аслупянеў. Яна была ў дарагім скураным паліто, у ботах на тонкай шпільцы, з прыгожа заплеценымі валасамі, падмалёванымі вачыма і яскравымі вуснамі. Ад яе зыходзіла водарам невядомай і, судзячы па яе выглядзе, не таннай парфумы. Яна ўсміхнулася асляпляльнай белазубай усмешкай і сказала ласкавым голасам:

- Здравствуйте, я Илона.

Бураковіч раптоўна прыйшоў у прытомнасць і прамовіў:

- Да-да, проходите.

Яна грацыёзна пераступіла ганак яго кватэры і ён зачыніў за ёй дзверы.

- Вам дапамагчы? – адразу звярнуўся да прастытуткі беларускі пісьменнік, паказваючы на яе паліто.

- Будьте любезны, - сказала яна і павярнулася да яго спінай.

Бураковіч дапамог ёй распрануцца і павесіў паліто на вешалку.

- Чтобы не возникало недоразумений, я бы хотела, как и оговаривалось по телефону, получить гонорар, - сказала прастытутка.

Бураковіч выцягнуў з кішэні грошы. Ілона пералічыла дзве купюры і хутка схавала іх у сваю бліскучую сумачку.

- Праходзьце на кухню, у мяне для вас невялікі сюрпрыз, - радасна сказаў ён.

Ілона запытальна паглядзела на Бураковіча.

- Вы оппозиционер?

- Не, зусім не, - усміхнуўся ён. – Я беларускі пісьменнік.

- А… – задуменна працягнула яна, расшпільваючы маланку на сваіх ботах.

- А што, вас, бянтэжыць беларуская мова?

- Нет, ни чуть, просто в моей практике были мужчины, которые разговаривали по-беларуски и все исключительно оппозиционеры, вот я и подумала…

- Нічога страшнага.

Яны зайшлі на кухню.

Прастытутку зусім не здзівіў накрыты спецыяльна для яе стол. Відавочна, за сваю практыку, яна бачыла і не такія абыходжанні. Аднак на яе твары вельмі хутка з’явілася ліслівая ўсмешка, якую яна імгненна адрасавала Бураковічу.

- Мне очень приятно, - сказала яна. – Знаете, вы один из тех немногих клиентов, которые устраивают такой приём.

Бураковіч злёгку пачырванеў.

- Што вы, не трэба падзякі, проста я лічу – усё павінна адбывацца ў пэўных эстэтычных межах, якія б памкненні яны не праследвалі. Калі ласка, сядайце.

Ілона скарысталася яго запрашэннем. Бураковіч жа прыняўся наліваць у келіхі каньяк. Ілона расчыніла каробку цукерак і яны паднялі свае фужэры.

- За предстоящую ночь! – сказала прастытутка.

Яны гучна чокнуліся і праглынулі гаручы эліксір.

- Аб чым пішаце? – спытала Ілона, паклаўшы ў рот адну цукерку і эратычна пачала яе смакаваць.

- Аб людзях, думках і дзеяннях, - адказаў Бураковіч.

Вочы куртызанкі блішчалі, а цела прагнула фізіялагічнага ўмяшання. Беларускі пісьменнік не мог доўга вытрымліваць яе вульгарнага погляду і, гледзячы кудысьці ў бок, прамовіў:

- У мяне да вас будзе просьба, хаця гэта, збольшага, маё пажаданне…

- Всё, что угодно, Аркаша, для тебя в эту ночь я сделаю всё.

- Тады адкажыце мне, вы трохі валодаеце беларускай мовай?

Пастаноўка такога пытання здзівіла прастытутку, таму што яна чакала пачуць пытанне, якое б тычылася яе прафесійных здольнасцяў. Яна выявіла на твары прыкрую фізіяномію і абыякава адказала:

- Я училась в белорусской гимназии.

- Праўда?

Ілона кіўнула галавой.

- Прабачце, а што тады вымусіла вас займацца дадзенай прафесіяй? – здзівіўся Бураковіч.

- Это уже не ваше дело, - строга падкрэсліла яна.

- Добра… Аднак у нас маецца цудоўная перспектыва, я пра вашую сярэднюю адукацыю! – узрадаваўся ён. – Таму што я папрашу вас у маёй прысутнасці карыстацца беларускай мовай… і таксама, калі мы будзем займацца гэтым… Я хацеў бы, каб вы дзяліліся сваімі эмоцыямі, непасрэдна пры нашым саіцці, - па-беларуску; стагналі, крычалі – усё тое, што вы прывыклі рабіць у такіх выпадках і памятайце – толькі па-беларуску.

Прастытутка здзіўлена глядзела на беларускага пісьменніка, а потым яе разабраў шквал беспадстаўнага смеху. У сваю чаргу Бураковіч збянтэжыўся і неўразумела ўнурыўся на яе.

- Извинит меня, просто небольшой срыв… Вы такой странный, но если это будет приносить вам удовольствие…

- Непамернае задавальненне.

Ілона заінтрыгавана ўзняла бровы.

